Уладзімір
Мархель

# Крыніцы памяці

СТАРОНКІ БЕЛАРУСКА-
ПОЛЬСКАГА
ЛІТАРАТУРНАГА СУМЕЖЖА

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ
ЛІТАРАТУРА»
1990

ББК 83.3Бел7
М 25

Рэцэнзент
кандыдат гістарычных навук
Г. В. КІСЯЛЕЎ

Автор, кандидат филологических наук, предлагает путешествие по литературному материку Белоруссии, раскинувшемуся от XVI века до наших дней. В поле зрения читателя оказываются малоизученные страницы жизни и творчества популярнейшего в белорусском крае поэта середины прошлого века В. Сырокомли. Рассказывается о поисках белорусских материалов в старой периодике, о подвижнической деятельности зачинателей новой белорусской литературы Я. Чечота, В. Коротынского, А. Ельского, Я. Лучины. Состоится также новая встреча со старыми знакомыми — историко-литературоведческими книгами Г. Киселева, А. Мальдиса и др., внимательно прочитанными автором.

М $\frac{4603020102-040}{М 302(03)-90}$ 82—90

ISBN 5-340-00491-0

# ПАЧАТАК І ПРАЦЯГ

Пачатак паклала гісторыя, якую Уладзіслаў Сыракомля (тады яшчэ толькі Людвік Кандратовіч) пачуў у адзін кірмашовы дзень у мірскай карчме. Яна моцна ўсхвалявала паэта. Вярнуўшыся з Міра ў фальварак Залуча, які нядаўна ўзяў у арэнду, ён пераказаў гісторыю жонцы — і зразумеў: гэтым не адбудзе. У той вечар адно аконца ў хаце залучанскага арандатара свяцілася даўжэй. Кандратовіч пісаў з узрушэннем. Натуральна, як быццам мімаволі клаліся на паперу вершаваныя радкі. Ён нібы зноў чуў глухі голас старога...

У маладыя гады служыў ён фурманам на пошце ў Міры. У адной вёсцы, непадалёку, жыла яго каханая. Неяк сярод ночы разбудзіў яго пісар і загадаў тэрмінова везці лісты, а мяцеліца круціла лютая. Дарогаю пачулася яму, што ў полі «хтось клікаў, прасіў дапамогі». І ён быў падаўся на голас, але перадумаў... Кандратовіч адарваўся ад паперы і ўгледзеўся ў аняменую за акном ноч, нібыта адтуль, як тады, у завею, мог данесціся голас дзяўчыны, якую кахаў фурман... Свечка паціху згасала, паэт узяўся за пяро і дапісаў сумную споведзь няшчаснага старога:

Я еду дадому, за трое гадзін
Вяртаецца страх непазбыты,
А сэрца ўсё шэпча крадком, як раней,
Бразджыць, як званочак разбіты.
Конь чмыхнуў пры слупе, спыніўся наўзбоч:
У снезе, пад плахтаю белай,
Жанчыну я згледзеў, яна ўжо за ноч,
Як дрэва, уся скасцянела.

Я снежную намець абтрос з яе шат
І труп падцягнуў да дарогі...
Абцёр ёй аблічча... Была гэта, брат...
Дай чарку... Не маю больш змогі!

*(Пераклад М. Лужаніна)*

Уранку Кандратовіч усё перапісаў начыста. Цвёрдай упэўненасці, што зрабіў гэта дзеля таго, каб паслаць у друк, не было. Перш-наперш карцела пабачыць плён бяссоннай ночы ў завершаным стане. А думка, што верш трэба было б пусціць у свет, нараджалася спакваля. Колькі дзён даймалі сумненні: куды пасылаць? Ці надрукуюць? Хіба каго з чытачоў-арыстакратаў усхвалюе трагедыя фурмана-паштальёна? Але ж віленскі «Атэнэум» друкаваў два гады назад аповесць аб лёсе прыгоннага селяніна — «Гісторыя Саўкі». Аўтар яе — сам рэдактар часопіса Юзаф Ігнацы Крашэўскі. Яму, мусіць, і трэба паслаць «Паштальёна». Прынамсі, ёсць нейкая надзея, што зразумеюць. Прыйшоўшы да такога рашэння, на выпадак, калі верш усё ж прымуць, Кандратовіч паставіў пад рукапісам не сваё прозвішча, а літары NN. На гэта была свая прычына. Не хацелася, каб яго захапленне набыло вядомасць у асяроддзі, дзе процілеглыя дробязным, меркантыльным інтарэсам парыванні ганіліся ў плётках, дзе даводзілася сутыкацца з людзьмі, сам выгляд якіх, паводле слоў Кандратовіча, «спанеў да такой ступені, што нават там, дзе яны хацелі б быць найбольш шчырымі і зразумелымі, не ўмеюць паказацца інакш, як толькі з пачцівасцю замест душэўнасці, толькі з пратэкцыяй замест дружбы: яны не ведаюць іншых таварыскіх класіфікацый, як толькі маёмасныя, для іх галава ці сэрца, адасобленыя ад кішэні, нічога не значаць...». А верш жа пісаўся не для іх!

Склаўшы рукапіс, Кандратовіч склеіў пакет і памчаўся з ім у Мір, каб паспець да адпраўкі пошты.

У наступныя месяцы залучанскі арандатар вёў для сябе адлік ад той маёвай паездкі 1844 года. Чакаў адказу з Вільні. Урэшце праз колькі здоўжаных месяцаў атрымаў ад рэдактара свежы нумар «Атэнэума». Што гэта азначала — ён здагадаўся адразу. Усхваляваны, разрэзаў старонкі — убачыў свайго «Паштальёна», пачаў чытаць і не змог: у вачах стаялі слёзы...

Да другога жыццёвага працягу гэтага друкаванага першынца Сыракомлі было яшчэ шмат часу — чвэрць стагоддзя.

Кнігі Уладзіслава Сыракомлі, самага папулярнага ў Беларусі паэта, які памёр за некалькі месяцаў да студзеньскага паўстання 1863 года, везлі і неслі з сабой разам з творамі Міцкевіча, Пушкіна, Шылера, Гётэ ў далёкую ссылку былыя паўстанцы. Выданні яго «Гутарак» мелі пры сабе і тыя, хто быў сасланы за ўдзел у паўстанні ў Яраслаўль. Зразумела, што «палітычна ненадзейны» служачы губеранскага праўлення Леанід Трэфалеў, які пачынаў ужо друкаваць свае творы ў маскоўскіх і пецярбургскіх часопісах і газетах, даволі блізка сышоўся са ссыльнымі. У зносінах з імі лёгка засвоілася польская мова, і неўзабаве паэт «някрасаўскай школы» перакладаў ужо блізкага сабе па духу Сыракомлю. Шмат яго твораў Трэфалеў пераклаў на рускую мову ў 1868 годзе. Сярод іх — народная гутарка «Паштальён» (у перакладзе «Ямщик»). Неўзабаве з'явілася песенная перапрацоўка гэтага тэксту. Яна была пакладзена невядомым кампазітарам на музыку — і разляцелася песня «Когда я на почте служил ямщиком» па ўсёй Расіі, і спяваюць яе сыны прынёманскай зямлі, якая дала калісьці аднаму арандатару не абы-якую моц натхнення.

Прыгадаю, што трэфалеўскі «Ямщик» не быў адзіным рускім перакладам «Паштальёна». Яшчэ пры жыцці Сыракомлі, у 1857 годзе, «Газэта Варшавска» (№ 95) паведамляла, што у апошні час прафесар Віленскага шляхецкага інстытута М. Міхайлоўскі пераклаў на рускую мову некалькі буйных твораў паэта і гутарку «Паштальён». А ў першым выданні па-руску выбраных твораў Сыракомлі (1879) быў надрукаваны трэці рускі варыянт гэтага верша, узноўленага Ліадорам Пальміным пад назвай «Почтарь». З такім жа загалоўкам з'явіўся ў 1882 годзе ў львоўскім часопісе «Зоря» (№ 23) і ўкраінскі пераклад, зроблены Міхайлам Старыцкім.

Крыху пазней руская паэзія зноў звярнулася да Сыракомлевага твора, засвоіўшы яго яшчэ ў чатырох варыянтах — І. Талмачова (1895), нашага земляка Д. Бохана (1900), невядомага перакладчыка, які падпісаўся крыптанімам С. (1903), і А. Карынфскага (1912).

Беларускі пераклад «Паштальёна» ўпершыню быў таленавіта здзейснены Янкам Лучынам і надрукаваны ў 1890 годзе ў газеце «Минский листок» (№ 19). Нанава гэты папулярны верш вясковага лірніка быў пераствораны па-беларуску ў наш час Максімам Лужаніным.

Зайздросны лёс напаткаў «Паштальёна» — першы друкаваны твор Уладзіслава Сыракомлі. Верш, перакладзены на рускую мову, стаў народнаю песняй і знайшоў свой жыццёвы працяг ва ўсіх усходнеславянскіх літаратурах.

# СЫРАКОМЛЕЎ КНІГАЗБОР



Бібліятэка Уладзіслава Сыракомлі фармавалася ў залежнасці ад яго чытацкіх і творчых інтарэсаў. Не маючы магчымасці пасля заканчэння пяці класаў павятовай школы працягваць вучобу ў сталічных універсітэтах, паэт шмат увагі надаваў самаадукацыі. Яго цікавасць да кнігі спатольвалася напачатку выпадковымі выданнямі, тымі, якія можна было напаткаць у бацькавых суседзяў па Мархачоўскаму фальварку. Пазней, пад час працы ў Нясвіжскай канцылярыі кіраўніцтва парадзівілаўскімі маёнткамі (1841—1844), адкрылася магчымасць больш-менш рэгулярна сачыць за перыёдыкай (пераважна польскай), паглыбляць знаёмства з асветніцкімі і рамантычнымі творамі.

З кніг, якія закладвалі аснову ўласнага збору Сыракомлі, пэўна можна назваць тры першыя тамы «Гісторыі польскай літаратуры» Міхала Вішнеўскага. Іх падараваў Аляксандр Дабравольскі, дзядзька Паўліны Мітрашэўскай, з якою ў красавіку 1844 года паэт ажаніўся і пераехаў на сталае жыхарства ў арандаваны пад Мірам фальварак Залуча [1]. Тут яго кнігазбор пастунова разрастаўся. У вершы «Пра маю старую хатку» паэт упамінаў пра паліцы кніг.

Блізкі прыяцель Сыракомлі, пісьменнік Адам Плуг, згадваў, што з кожнай паездкі ў Нясвіж на святаміхальскі кірмаш ці ў Мінск на кантракты, а таксама ў Вільню па літаратурных справах паэт абавязкова прывозіў у Залуча якую-небудзь новую кні-

[1] Syrokomla W. Wybór poezyj. Wilno, 1923. T. 3. S. 283.

гу [1]. Але не заўсёды Сыракомля мог прыдбаць тое, што хацеў. Некаторы час ён не меў нават сваёй падпіскі на папулярны часопіс «Бібліотэка Варшавска». У кастрычніку 1846 года ён пісаў Адаму Плугу, тады студэнту Кіеўскага універсітэта, што на святаміхальскім кірмашы ў Нясвіжы ён бачыў мноства кніжак паэтаў-лаціністаў, якія цалкам захапілі яго, і скардзіўся, што не купіў чацвёрты том «Гісторыі» Вішнеўскага [2]. У сувязі з гэтым Плуг заўважыў: «І колькі ж разоў такія нydзейсненыя жаданні ў сэрцы беднага літаратара абуджаліся. Бо хоць яго вясковая бібліятэка і павялічвалася, доўга трываў ён недахоп кніжак з-за недахопу грошай» [3].

Паводле сведчання беларуска-польскага паэта і публіцыста Вінцэся Каратынскага, які з лета 1850 года жыў у доме Сыракомлі, залучанская бібліятэка вясковага лірніка змяшчалася ў двух невялікіх шафах і налічвала трыста — чатырыста кніг. «Галоўнае месца,— згадвае Каратынскі,— займала «Біблія» Вуйка ў палепшаным вроцлаўскім выданні, настолькі каштоўным, што калі пазней знакаміты знаўца кніг біскуп Красіньскі даваў дазвол на перадрук, то агаварыў яго выкананне менавіта з гэтага выдання. Паблізу ад «Бібліі» знаходзіўся вялізны Кромер кёльнскі ў старадаўнім пергаментным пераплёце з цісненнем, а за ім эльзевіраўская «Палонія» таго ж Кромера, падарунак Ю. І. Крашэўскага, з якой Кандратовіч пераклаў апісанне Польшчы вармінскага біскупа. Далей ішлі пісьмовыя копіі польска-лацінскіх паэтаў, бо старыя друкі лацінскіх твораў Яніцкіх, Бельскіх, Каханоўскіх, Кляновічаў немагчыма было знайсці на вёсцы, а ў горадзе яны былі надта

[1] Pług A. Władysław Syrokomla: Wspomnienie pośmiertne // Biblioteka Warszawska. 1862. T. 4. S. 478.
[2] Biblioteka Warszawska. 1862. T. 4. S. 478.
[3] Тамсама.

дарагія, каб іх набыць. Выключэнне складаў толькі шматразова перадрукаваны Сарбеўскі, і гэтага яго перакладчык меў у нейкім навейшым выданні. Поруч з урачыста настроеным Сарбеўскім па-панібрацку месціўся малюсенькі Беранжэ — сапраўдная цацка друкарскай працы; яго Кандратовічу прывёз з Парыжа Юліян Гарайн... У далейшым падарожжы па паліцах вока бачыла найбольш кніг па гісторыі літаратуры, а таксама большых і меншых храністаў польскіх; паэт працаваў у абодвух гэтых кірунках: пісаў для Тэафіля Глюксберга ў Вільні «Гісторыю літаратуры Польшчы» і перакладаў для Баляслава Маўрыцыя Вольфа ў Пецярбургу краёвых храністаў Салікоўскага, Сабескага, Фрэдру, Гарэцкага і Ласіцкага. Кніг з галіны мастацкай літаратуры было ў Кандратовіча не шмат, бо ён імкнуўся чытаць пазычаную, а грошы, прызначаныя для куплі кніг, траціў на рэчы, якімі мог карыстацца ў далейшай працы. Самае ганаровае месца, «бібліятэчны покуць», займаў тут польскі Ян Кахаўскі ажно ў двух езуіцкіх выданнях: варшаўскім і полацкім... Іншых класічных польскіх паэтаў прадставіла класічнае ў адносінах колькасці памылак лейпцыгскае калектыўнае выданне»[1]. Акрамя таго, аўтар падкрэсліў, што ў Залучы ў паэта не было прыродазнаўчых кніг, а таксама філасофскіх прац, за выключэннем першага тома «Лістоў з Кракава» Юзафа Крэмера. Нататкі Каратынскага даюць не толькі агульнае ўяўленне пра Сыракомлеў кнігазбор залучанскага перыяду (1844—1852). У іх раскрываецца характар камплектавання бібліятэкі, прыводзяцца некаторыя звесткі пра тое, з якіх крыніц яна папаўнялася.

За час жыцця ў падвіленскім фальварку Барэй-

---

[1] Korotyński W. Obrazy z pobrzeży Niemna // Tygodnik Powszechny. 1884. № 19. S. 292—293.

каўшчына, куды паэт перабраўся з сям'ёй вясною 1853 года на новую арэнду, кнігазбор яго значна павялічыўся. Гэта адзначае ў сваіх успамінах Адам Плуг, які наведаў паэта ў 1856 годзе, якраз напярэдадні яго першай паездкі ў Варшаву.

Немалую паслугу ў здабыцці старадрукаў мог аказаць віленскі кнігапрадавец Шэвель Кінкулькін, які разам з ім двойчы ездзіў у Варшаву і якому паэт прысвяціў верш «Вулічны кнігар».

Вунь, прыгледзьцеся добра: яўрэй абшарпаны,
Дзень у дзень ён стаіць пры сцяне мураванай.
Твар згрыбеў і крывавыя вочы не бачаць,
Найстарэйшы кнігар, але з лёсам жабрачым.
Не мінайце, стыдацца не трэба нікому:
Шэсць дзесяткаў гадоў ён не ведае стомы,
Прапануе прахожым шмаццё, рарытэты,
За мядзяныя грошы — ўсе скарбы асветы.

*(Пераклад М. Лужаніна)*

Трывалыя бібліяфільскія сувязі былі, відаць, у Сыракомлі з настаяцелем Невадніцкага прыходу на Гродзеншчыне, ксяндзом Юліянам Малышэвічам. Ад яго паэт атрымаў у лістападзе 1856 года рукапісныя копіі «Успамінаў» і Цадроўскага, і Аскеркі [1].

Біёграф вясковага лірніка Фелікс Фарнальчык згадвае пра паездкі паэта ў Трокі, пра яго сустрэчы з караімам Абрамам Фірковічам, вядомым гісторыкам і ўладальнікам антыкварыяту [2]. Не выключана, што бібліяфільскія інтарэсы паэта мелі падтрымку і тут.

Папаўненне бібліятэкі вясковага лірніка рэдкімі выданнямі не абышлося, відаць, і без абмену кніг. Так, А. Ігнатовіч, які меў у Гарадку «ўласную біблія-

---

[1] ЦДАЛіМ ЛітССР (г. Вільнюс), ф. 96, воп. 1, адз. зах. 88, арк. 1.

[2] Fornalczyk F. Hardy lirnik wioskowy. Poznań, 1972, S. 293.

тэчку», прапаноўваў Сыракомлю ў сакавіку 1862 года для абмену на навейшыя выданні чатырнаццаць кніг «рознага зместу», надрукаваных у XVIII стагоддзі [1]. Не выключаў Ігнатовіч і мажлівасці насрэдніцтва паэта ў гэтай справе, гэта значыць разлічваў на яго як на прызнанага ў краі бібліяфіла.

Пад той час бібліятэка вясковага лірніка налічвала ўжо 2500 экземпляраў [2]. Кожнае выданне займала сваё месца ў тым ці іншым аддзеле кнігазбору і было пазначана адпаведным каталожным нумарам, які, як і «папярэджанне» аб беражлівых адносінах да кнігі, з'яўляўся абавязковым элементам сыракомлеўскага экслібрыса. Іншымі словамі, кнігі тут браліся на ўлік і праходзілі пэўную бібліяфільскую апрацоўку. Праз усё жыццё паэта яны заставаліся прадметам яго асаблівай увагі і клопату. Пад час знаходжання ў 1858 годзе ў Вялікапольшчы Сыракомля цікавіўся прыватнымі зборамі, наведаў бібліятэку ў Курніку, што ў дваццаці вярстах ад Познані, быў запрошаны на пасяджэнне таварыства сяброў навукі ў бібліятэцы Рачынскіх. З Познані ён выслаў на адрас віленскага кнігара Альберта Сыркіна кіпу кніг і прасіў Каратынскага паехаць у Барэйкаўшчыну і ўпарадкаваць там бібліятэку [3].

Як сапраўдны сябра кнігі і яе папулярызатар, як асветнік вясковы лірнік імкнуўся, каб сабраныя ім выданні служылі не толькі яму. Невыпадкова, відаць, у сыракомлеўскі экслібрыс было ўведзена «папярэджанне», звернутае да тых, хто пазычае літаратуру для чытання. У 1856 годзе Сыракомля падараваў Віленскаму музею старажытнасцяў дзесяцітомны «Гер-

---

[1] ЦДАЛіМ ЛітССР, ф. 96, воп. 1, адз. зах. 61. арк. 1—2.

[2] F.P.B. Biblioteka Wł. Syrokomli // Silva Rerum. 1925. Z. 6. S. 120.

[3] Tomkiewicz S. Przyczynek do biografii Władysława Syrokomli // Tygodnik Ilustrowany. 1882. № 318. S. 60.

боўнік» К. Нясецкага[1]. Часам паэт расказваў пра свае кніжныя набыткі ў друку. Яго бібліяграфічная нататка аб прыдбанай брашуры «Астралогія», апублікаваная ў 1861 годзе ў газеце «Кур'ер Віленьскі», не страціла пазнаваўчай цікавасці і сёння: па-першае, Сыракомля гаворыць, што брашура не зафіксавана ніводным бібліёграфам і што трапіла яна да яго без тытульнага ліста, з адным толькі загалоўкам «Перасцярога»; па-другое, паэт выказвае здагадку, што аўтарам гэтай працы быў, верагодна, вядомы польскі матэматык XVI стагоддзя Ян Лятас.

У верасні 1862 года, пасля смерці Сыракомлі, вопіс яго бібліятэкі зрабіў Аніцэт Рэніер, медык па адукацыі, сябар беларускага паэта-рэвалюцыянера Францішка Савіча. У віленскім культурным асяроддзі не было сакрэтам, што яшчэ ў саракавыя гады Рэніер стварыў тайную бібліятэку, за што адбываў ссылку ў Сібіры. Таму зусім натуральна, што менавіта яму камітэт апекі над сям'ёй нябожчыка даручыў апісаць Сыракомлеў кнігазбор. Каталог яго асабістай бібліятэкі, састаўленне якога Рэніер завяршыў 25 верасня 1862 года, захоўваецца сёння ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве ў Вільнюсе[2]. Гэта адзінае бібліяграфічнае апісанне кнігазбору паэта. І хоць сабраныя Сыракомлем кнігі адлюстраваны ў ім без уліку тых выданняў, што знаходзіліся ў чытачоў, ён, тым не менш, дае параўнальна неблагое ўяўленне пра літаратуру, якая была ў цэнтры ўвагі паэта і так ці інакш уплывала на яго творчасць.

Вопісам Рэніера пацвярджаецца назіранне Каратынскага, што ў падборы кніг для ўласнай бібліятэкі Сыракомля кіраваўся перш за ўсё сваімі пісь-

---

[1] ЦБ АН ЛітССР. Аддзел рукапісаў, ф. 385—386, XIII, арк. 51.

[2] ЦДГА ЛітССР (г. Вільнюс), ф. 1135, воп. 3, адз. зах. 32, арк. 19—38.

менніцкімі мэтамі. Краязнаўчая праца, напрыклад, вымагала грунтоўнага знаёмства з гістарычнымі даследаваннямі — і яны ў кнігазборы паэта даволі шырока былі прадстаўлены такімі імёнамі, як М. Балінькі, І. Даніловіч, Я. Длугаш, Ю. Ярашэвіч, А. Ёхэр, Ю. Лукашэвіч, Т. Нарбут, Ю. Нямцэвіч, М. Стрыйкоўскі, Я. Тышкевіч і іншыя. Неадлучнай ад краязнаўства лакальнай цікавасцю паэта да культуры і побыту беларускага народа тлумачыцца наяўнасць у ягонай бібліятэцы фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў Яна Чачота, Антона Глінскага, Рамуальда Зяньковіча, а таксама кніг Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, з якім вясковы лірнік сябраваў і беларускую творчасць якога горача падтрымліваў. «Гісторыю літаратуры Польшчы» Сыракомля пісаў, апіраючыся на літаратуразнаўчыя працы М. Вішнеўскага, К. Вуйціцкага, В. Мацяёўскага і на свае пераклады тых польскіх хронік і твораў паэтаў-лацiністаў, якія былі ім прыдбаны.

У асобную групу вылучалася даведачная літаратура. Яна была прадстаўлена ў зборы дзвюма энцыклапедыямі — Усеагульнай, у чатырох тамах (Вільня, 1836—1839), і Малой польскай (Лешна, 1841—1847), а таксама каталогамі з віленскіх кнігарняў Завадскага, Аргельбранда, Рафаловіча і такімі даследаваннямі, як «Гісторыя польскай літаратуры, пададзеная ў вопісе надрукаваных прац» Ф. Бянткоўскага, «Слоўнік польскіх паэтаў» М. Юшынькага, «Агляд бібліяграфічна-гістарычнай літаратуры і навук у Польшчы» А. Ёхэра, «Бібліяграфічныя звесткі аб рукапісах...» А. Пшэздзецкага і іншыя.

Аднак бібліятэка Сыракомлі камплектавалася не толькі з кніг тэрміновай інфармацыйна-творчай аддачы. Паводле каталога Рэніера, у яе ўваходзілі таксама выданні, якія мелі значэнне канкрэтнай інтэлектуальнай крыніцы або гісторыка-культурнай каштоў-

насці. Гэта старадрукі, лацінская класіка, творы сучаснікаў паэта і кнігі аўтараў папярэдніх стагоддзяў (у арыгінале ці ў перакладзе на польскую мову). Сярод іх — творы землякоў: Юзафа Ігнацыя Крашэўскага, Вінцэся Каратынскага, Адама Міцкевіча, Антона Эдуарда Адынца, Аляксандра і Ігнацыя Ходзькаў, Адама Плуга, старажытных паэтаў — Гамера, Гарацыя, Авідзія, Віргілія, рускіх пісьменнікаў — Карамзіна, Крылова, Пушкіна, Гогаля, а таксама такіх еўрапейскіх аўтараў, як Шатабрыян, Дзікенс, Гётэ, Мальер, Русо, Вальтэр.

Прыкметнае месца ў Сыракомлевай бібліятэцы займалі перыядычныя выданні. Акрамя камплектаў і разрозненых нумароў віленскіх і варшаўскіх газет, часопісаў тут меліся альманах Яна Баршчэўскага «Незабудка», «Рочнік Літэрацкі» Рамуальда Падбярэскага, «Отечественные записки» за 1852 год, «Библиотека для чтения» за 1835 і 1851 гады.

Цікава адзначыць, што кнігазбор Сыракомлі быў шматмоўны. Найбольш у ім было сабрана кніг на польскай мове, значнае месца займалі выданні лацінскія, французскія, рускія, меліся кнігі на нямецкай, італьянскай, чэшскай, беларускай мовах. Тут пераважалі віленскія выданні, затым ішлі (у адпаведнасці з колькасцю) варшаўскія, парыжскія, пецярбургскія, кракаўскія, познаньскія, маскоўскія, львоўскія, мінскія і гэтак далей. Заходнееўрапейскую кнігу прадстаўлялі галоўным чынам выданні XVI і XVII стагоддзяў. Напрыклад, сем старадрукаў, якія зафіксаваны ў каталогу, выйшлі ў Парыжы, Кёльне, Кракаве, Базелі, Лугдуне.

Каталог, састаўлены Аніцэтам Рэнiерам у верасні 1862 года, сведчыць пра тое, што большая частка кнігазбору паэта была ў той час на руках. З 2500 кніг і часопісаў на месцы заставалася 1056. Менавіта гэтая акалічнасць вымусіла камітэт апекі над сям'ёй

Сыракомлі публічна, праз газету «Кур'ер Віленьскі» аб'явіць, каб асобы, у якіх знаходзяцца «працы навуковага і белетрыстычнага зместу» з бібліятэкі нябожчыка, неадкладна пастараліся вярнуць іх. Наколькі зварот камітэта быў дзейсны, ніякіх звестак не захавалася. Вядома толькі, што кнігазбор склаў пазней у бібліятэцы Віленскага таварыства сяброў навукі асобную калекцыю, якая налічвала ўсяго 475 выданняў (пераважна па гісторыі) [1]. Калекцыя была, па сутнасці, рэшткай Сыракомлевага збору, адзінкавыя экземпляры якога паступова распрадаваліся спадчыннікамі паэта [2]. Гэта зацерушыла сляды многіх кніг з колішняй бібліятэкі Сыракомлі, і натрапіць на іх цяпер няпроста. А пошукі маглі б парадаваць нечаканымі адкрыццямі цікавых для гісторыкаў беларускай літаратуры аўтографаў, дарчых надпісаў Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Вінцэся Каратынскага ці каго іншага.

Нейкая частка Сыракомлевага кнігазбору, відаць, асела ў прыватных бібліятэках, тое-сёе, думаецца, можна знайсці ў кнігасховішчах Літвы, а штосьці і ў Беларусі. У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук БССР адшукалася апісаная ў каталогу Рэніера кніга польскага аўтара Аляксандра Варановіча «Сучасныя малюнкі» (Вільня, 1857) з суперэкслібрысам Сыракомлі. Тут жа была выяўлена яшчэ адна кніга са збору паэта, падпісаная яго рукой. Гэта падрыхтаваны і выдадзены ў Мінску ў 1848 годзе «Збор старажытных грамат і актаў Мінскай губерні», пра які Вінцэсь Каратынскі ў свой час пісаў: «Зыходзячы з невядомых па ін-

[1] Chwalewik E. Zbiory polskie: Archiwa, biblioteki, gabinety, galerje, muzea i inne źbiory pamiątek przeszłości w ojczyźnie i na obczyźnie. Warszawa; Kraków, 1927. T. 2. S. 487.

[2] F.P.B. Biblioteka Wł. Syrokomli. S. 120.

шых крыніцах прозвішчаў асоб, што складалі камісію, якая займалася гэтым выданнем, можна заключыць, што ўсю вартасць гэтай кнігі як неапрацаванага гістарычнага матэрыялу, які больш за ўсё паслужыў пазней Кандратовічу ў напісанні хронікі Мінска, належыць прыпісаць удзелу Тышкевіча» [1]. Менавіта гэтую кнігу ў жніўні 1855 года адзін з братоў Бейліных, мінскіх выдаўцоў, прынёс мастаку Адаму Шэмешу, каб той пераслаў яе Сыракомлю «як магчыма патрэбную» яму да напісання гісторыка-краязнаўчага нарыса «Мінск» [2]. Саслужыўшы сваю службу паэту, кніга праз многа гадоў вярнулася невядомымі шляхамі ў Мінск. А які лёс астатніх?

---

[1] Каратынскі В. Творы. Мн., 1981. С. 133.
[2] ЦДАЛіМ ЛітССР, ф. 96, воп. 1, адз. зах. 113, арк. 1—4.

# РАРЫТЭТ ЦІ ПЕРАВЫДАННЕ...



Сыракомля быў блізкі да таго, каб адкрыць для сябе творчасць выдатнага паэта-лацініста Міколы Гусоўскага, пра беларускае паходжанне якога ў сярэдзіне XIX стагоддзя яшчэ не было гаворкі. У захаваных чарнавых запісах для «Слоўніка знакамітых пісьменнікаў у Польшчы» Сыракомля пакінуў наступную заўвагу: «Гусавіянус Мікалай паляк, паэт-лацініст. Памёр у 1525» [1]. Пры гэтым вясковы лірнік пералічыў ягоныя творы. Віктар Дарашкевіч дапускае, што «У. Сыракомля, страсны збіральнік, прапагандыст і перакладчык лацінскай паэзіі, быў знаёмы з творчасцю Гусоўскага і, магчыма, трымаў у руках «Песню пра зубра» [2].

Гэтае меркаванне, аднак, патрабуе каментарыя. У двухтомнай «Гісторыі літаратуры Польшчы», напісанай Кандратовічам яшчэ ў Залучы, Гусоўскі не згадваецца, хоць пра яго існаванне залучанскі паэт-арандатар не мог не ведаць; адной з аспоўных падмог у сваёй працы ён лічыў «Гісторыю польскай літаратуры» Міхала Вішнеўскага [3], дзе аўтар «Паэмы пра зубра» характарызаваўся як высокаадукаваны чалавек і здольны паэт [4]. Тое, што Гусоўскі не ўвай-

---

[1] ЦДАЛіМ ЛітССР, ф. 96, воп. 1, адз. зах. 20, арк. 7.

[2] Дорошкевич В. И. Ян Вислицкий и Николай Гусовский в литературоведческой науке // Книговедение в Белоруссии Мн., 1977. С. 43.

[3] Kondratowicz L. Dzieje literatury w Polsce. Wilno, 1850. T. 1. S. 3.

[4] Wiszniewski M. Historia literatury polskiej. Kraków, 1844. T. 6. S. 229.

шоў у Сыракомлеву «Гісторыю», можна вытлумачыць толькі адным: аўтар, які ставіў перад сабой мэту папулярызаваць гісторыка-літаратурныя звесткі, а таму імкнуўся як мага шырэй цытаваць вядомыя яму творы паэтаў-лацiністаў у сваім перакладзе, проста не быў тады знаёмы з самой творчасцю Гусоўскага. Інакш цяжка сабе ўявіць, каб вясковы лірнік, які нястомна і паспяхова перакладаў у залучанскі перыяд лацінскамоўных паэтаў, пакінуў без увагі сярэдневяковую паэму пра беларускую зямлю.

З «Песняй пра зубра», дакладней, з яе кракаўскім выданнем 1523 года, Сыракомля, відаць, змог пазнаёміцца пазней, пасля пераезду ў Вільню (канец 1852 года). Справа ў тым, што да XIX стагоддзя дайшлі лічаныя экземпляры гэтай кнігі. Адзін з іх меўся ў Невадніцкага ксяндза Юліяна Малышэвіча, члена-карэспандэнта навуковых таварыстваў. Ён якраз і мог даць паэту кнігу. Праўда, для гэтага ўладальнік першага выдання «Песні пра зубра» і прызнаны ў краі перакладчык паэтаў-лацiністаў павінны былі неяк наладзіць кантакт яшчэ да 1853 года, г. зн. да таго, як Малышэвіч «свой рарытэт... падараваў Публічнай бібліятэцы ў Пецярбургу» [1]. Адзінае ж вядомае сведчанне іх сувязяў — гэта ліст Малышэвіча ад 14 лістапада 1856 года, з якога вынікае, што адрасант, «спяшаючыся здзейсніць жаданне даследчыка гісторыі і вялікага паэта», пераслаў Сыракомлю («як дарунак») копіі ўспамінаў і Цадроўскага і Аскеркі [2]. Таму ёсць падставы думаць, што кракаўскае выданне «Песні пра зубра» Сыракомля наўрад ці «трымаў у руках», затое дзякуючы Малышэвічу

---

[1] Дорошкевич В. И. Ян Вислицкий и Николай Гусовский в литературоведческой науке. С. 45.

[2] ЦДАЛіМ ЛітССР, ф. 96, воп. 1, адз. зах. 88, арк. 1.

ён мог пазнаёміцца з першым перавыданнем паэмы, якое было ажыццёўлена Пецярбургскай імператарскай бібліятэкай у 1855 годзе паводле экземпляра, падараванага ёй жыхаром Гродзеншчыны. Але пад той час перакладчыцкае захапленне лацінскамоўнымі аўтарамі саступіла ўжо месца іншым творчым інтарэсам паэта.

# НЕЗАЛЕЖНА АД АЎТАРЫТЭТАЎ



Уладзіслаў Сыракомля двойчы звяртаўся да «Слова аб палку Ігаравым». Параўнальна вялікае месца ён адвёў высокамастацкаму твору старажытнай Русі ў гісторыка-краязнаўчым нарысе «Мінск», які быў змешчаны ў першым і другім нумарах часопіса «Тэка Віленьска» за 1857 год. Адзін абзац прысвяціў паэт старажытнаму помніку ўсходнеславянскага пісьменства ў «Гісторыі літаратуры Польшчы» (1850), дзе пісаў: «Як выказваецца Леслаў Лукашэвіч, ускоснай[1] нашай уласнасцю з'яўляецца песня, або «Слова аб палку Ігаравым», напісанае на беларускай мове невядомым аўтарам у канцы XII ст. Яно стала нашай нацыянальнай [польскай] уласнасцю дзякуючы цудоўнаму перакладу Аўг. Бялёўскага. Гэтая паэма расказвае аб паходзе Ігара Святаславіча, Ноўгарад-Северскага князя, на палавецкіх татар у 1185 г., яго перамозе, потым паражэнні, нарэшце ўцёках з палону. Наколькі моцна, усхвалявана і непасрэдна невядомы пясняр выліў свае рапсодыі, цяжка акрэсліць без параўнання іх з натхнёнымі сказамі боскага прасцяка Гамера»[2].

Працуючы над «Гісторыяй літаратуры Польшчы», Сыракомля не меў пад рукамі неабходных крыніц і толькі папулярна пераказваў матэрыял паводле да-

---

[1] С. К. Майхровіч у цытаце з У. Сыракомлі пераклаў гэтае слова як «непасрэднай», надаўшы тым самым выразу неадпаведны, процілеглы сэнс (гл.: Майхровіч С. Слова аб палку Ігаравым. Мн., 1968. С. 182).

[2] Kondratowicz L. Dzieje literatury w Polsce. S. 74.

следаванняў М. Вішнеўскага, К. Вуйціцкага і Л. Лукашэвіча. У вызначэнні ж мовы «Слова...» ён праявіў зайздросную незалежнасць ад прызнаных аўтарытэтаў польскай навукі, сцвярджэнням якіх наконт мовы старажытнарускага твора (напрыклад, што «Слова...» напісана на польска-рускай мове [1]) уласцівы празмернасці нацыянальна-палітычнага характару.

Адметнасць пазіцыі Сыракомлі відавочная. Праўда, сказаўшы, што мова «Песні аб Ігары» беларуская, ён толькі часткова меў рацыю. І, мусіць, неістотна, што ён яшчэ далёкі ад таго, каб аднесці «Слова...» да культур усіх трох народаў: рускага, украінскага, беларускага. Галоўнае — паэт не заўторыў хору польскіх літаратараў, а ўзяў, дакладней, узвысіў ноту, на якой гучала ліра яго любасці да роднага краю і беларускага люду. А тое, што «Слова...» вырасла з агульнага моўнага кораня рускіх, украінцаў, беларусаў, зразумелі значна пазней.

«Слова...» узнікла ў тую пару, калі старажытнаруская мова склалася і служыла ўсходняму славянству, якое захоўвала ў розных мясцовасцях свае дыялекты. Гэта садзейнічала пастаяннаму пранікненню ў старажытнарускую мову некаторых асаблівасцяў мясцовых гаворак, якія ў сваю чаргу таксама ўзбагачаліся дзякуючы ёй. Тады, адзначаюць даследчыкі, «разам з працэсам інтэграцыі дзейнічаў і працэс дыферэнцыяцыі, які ў рэшце рэшт прывёў да распаду адзінай мовы ўсходніх славян — старажытарускай мовы» [2]. Адсюль натуральна, што тым ці іншым выразам агульнага помніка літаратуры знаходзілі адпаведнасці то ў адной, то ў другой усходнеславян-

[1] Wiszniewski M. Historia literatury Polskiej. Kraków, 1840. T. 1. S. 224.

[2] Филин Ф. П. Образование языка восточных славян. М.; Л., 1962. С. 292.

скай мове. Прытым і самі пошукі адпаведнасцяў, і вызначэнне належнасці «Слова...» (толькі да адной з усходнеславянскіх культур) вельмі яскрава ілюструюць патрыятычныя настроі аўтараў.

У беларускай мове паралелі асобным формам слоў старажытнарускага помніка спрабаваў адшукаць Сыракомля. Гэта ён зрабіў у гісторыка-краязнаўчым нарысе «Мінск», у вынесенай пад тэкст заўвазе наконт памылкі Карамзіна, які ў «Гісторыі дзяржавы Расійскай» паведамляў, што ў 1067 годзе «Усяслаў сышоўся з ворагам на берагах Нёмана...» [1].

Сыракомлева ўдакладненне, што бітва 1067 года адбылася не на Нёмане, а на Нямізе, «бо Нёман, які сама бліжэй за 12 міль ад Мінска працякае, зусім не быў на дарозе Усяслава...», само па сабе мае цікавасць, ды і з яго, па сутнасці, выцякаюць назіранні над мовай «Слова...». Звернемся да іх. «У песні аб палку Ігаравым,— піша паэт,— стаіць: на Немизѣ, хоць у рускай мове трэці (маецца на ўвазе давальны) склон павінен быць на Немигѣ; але заўважым, што ўся гэтая песня складзена на царкоўнабеларускай мове, дзе назоўнікі жаночага роду, што канчаюцца на -га (сермяга, прысяга, Неміга, адвага), маюць трэці склон на -зе». І далей, ад апраўдання рускага гісторыка да знамянальнага прызнання: «Карамзін, як вялікарасіянін, мог не ведаць старой беларускай гаворкі так, як мы, што вывучылі яе ў штодзённых узаемаадносінах з народам» [2].

Як бачым, успрыняцце мовы «Слова аб палку Ігаравым» у Сыракомлі некалькі змянілася: яна раз-

[1] Паказальна, што рэакцыйны часопіс К. Гаворскага «Вестник Западной России», на старонках якога бессаромна праводзілася русіфікатарская палітыка царызму, перадрукаваў (1869. № 8. С. 153—161) «Хроніку горада Мінска» ў перакладзе А. Чарнышова без гэтай заўвагі.

[2] Teka Wileńska. 1857. № 1. S. 204—205.

глядаецца ўжо як царкоўнабеларуская. Разам з тым не магло не паглыбіцца і ўсведамленне неабходнасці далучыць «Слова...» да беларускай гісторыі. Нездарма паэт уключаецца ў «спрэчку» пра «салаўя старых часаў» Баяна, вобраз якога, выведзены ў «Слове аб палку Ігаравым», прыцягваў да сябе ўвагу пісьменнікаў і даследчыкаў і настолькі заварожваў загадкавасцю, абуджаў фантазію, што натхніў на прачулыя паэтычныя радкі шмат каго з рускіх паэтаў першай паловы XIX стагоддзя, увайшоў у тагачасную польскую паэзію так званай украінскай школы (Багдан Залескі, напрыклад, называў сябе ў вершы «Гуслям» сынам Баяна).

Асоба Баяна абрастала легендамі. Старажытнага песняра-«бая» ўяўлялі хавальнікам славянскіх паданняў, параўноўвалі з кельцкімі бардамі, супастаўлялі то з Асіянам, то з Гамерам. Узнікалі розныя здагадкі, дзе Баян паўставаў або як сучаснік князя Уладзіміра (Карамзін), або ўяўляўся песняром часоў Ігара ці Святаслава (Языкаў) і г. д. У выніку быў напісаны артыкул з красамоўнай назвай «Спрэчка аб вешчым Баяне» [1]. Аўтар яго — М. А. Максімовіч, вядомы ўкраінскі паэт і фалькларыст, разглядзеўшы на гістарычным фоне ўпамінанні «Слова...» пра Баяна, дапускае, што той «мог пець аб Алегу і Усяславу як аб сучасніках», і прыходзіць да вываду: Баян «быў сучаснік прападобнага летапісца Пячэрскага Нестара» [2].

Да тых жа часоў адносіць Баяна і Сыракомля. Толькі ён схільны лічыць, што «вялікі пясняр славяншчыны» быў блізкай асобай полацка-мінскага

[1] Артыкул прызначаўся для аднаго з нумароў «Русского вестника» за 1856 г., але там змешчаны не быў; з'явіўся ён у друку толькі ў 1898 г. у «Киевской старине» (Т. XIII. № 11. С. 222—253).

[2] Киевская старина. 1898. Т. XIII. № 11. С. 227.

князя Усяслава, які «рэдка калі выкручваўся ад скрухі, хоць багатырскую душу яго сагравала песня паэта». Адзначаючы, што гэта можа выклікаць нараканні газетнай крытыкі, Сыракомля тым не менш заяўляе: «Баян жыў у Мінску восемсот гадоў назад», бо, на яго думку, ёсць «на гэта сведчанне ў старой беларускай песні з вядомага «Слова аб палку Ігаравым». Яна бачыцца паэту ў сказанні пра полацкага князя і пра бітву на Нямізе, у гэтым, як ён падкрэслівае, «выразным цытаванні Баянавай песні», дзе нават «і не ўпамінаецца назва Мінска». Паэт гаворыць, што «Баян спяваў Усяславу, які княжыў у Мінску: «Ні хітраму, ні быстраму, ні шпаркаму птаху не мінуці божага суда» (Баянава прыпеўка, якой карыстаецца аўтар «Слова...») — і што старажытны пясняр «успамінае мінскую раку Нямігу, таму што быў добра дасведчаны ў мясцовасці і баях Усяслава з Ізяславам» [1].

У гіпатэтычных выказваннях Сыракомлі пра Баяна адчуваецца і глыбокае знаёмства са зместам «Слова...», і магутны зарад мастакоўскай інтуіцыі. Сапраўды, невядомы аўтар «Слова...» пры асуджэнні колішніх братазабойчых міжусобіц не застаецца абыякавы да твораў свайго геніяльнага папярэдніка, сучасніка тых падзей вешчуна Баяна. Ён, адзначаюць сёння даследчыкі, добра «памятае і іх змест, і іх паэтычную манеру, ладзіць прыкладныя запевы ў гэтай манеры» [2] і ўмела выкарыстоўвае ў «Слове...» Баянаву песню пра Усяслава-Чарадзея, якую, хутчэй за ўсё, пераказвае не даслоўна, а падае ў сваёй інтэрпрэтацыі [3].

Урывак пра Усяслава і бітву на Нямізе Сыраком-

---

[1] Teka Wileńska. 1857. № 1. S. 208.

[2] «Слово о полку Игореве» и памятники Куликовского цикла. М.; Л., 1966. С. 20.

[3] Майхровіч С. Слова аб палку Ігаравым. С. 112—113.

ля ўспрымаў як запазычанне (цытаванне) аўтарам «Слова...» песні мінчука Баяна. Менавіта іх мае на ўвазе паэт, калі піша ў нарысе, што «Мінск раней за іншыя славянскія гарады павінен узяць даніну са старажытнай паэзіі, мясцовай песні, на той самай мове, на якой спяваюцца песні нашага народа ў жніво, толькі шырэйшага палёту, бо ў тыя гераічныя часы прастарнейшае было поле для песняра» [1].

Потым ужо, крыху больш як праз паўстагоддзе, на тых жа ўрыўках затрымае ўвагу і Максім Багдановіч. Не звязваючы «песню-казку» пра князя Усяслава з Баянам і нават не згадваючы пра старажытнага песняра славяншчыны, папярэдніка невядомага аўтара «Слова...», беларускі паэт гаворыць, што яна «проста перапоўнена вобразамі і сраўненнямі, каторыя ўсе — з пачатку да канца — узяты з мужыцкай глебы, з быту народа-земляроба, пракладваючага свае баразны сярод бяскрайных лясоў...» [2]. М. Багдановіч паглыбляецца ў вобразную сістэму ўрыўка пра Усяслава і «песні пра князя Ізяслава». Ён бачыць у іх «два заходнерускія каштоўныя каменьчыкі-самародкі, устаўленыя ў штучную аправу «Слова...» [3], захапляецца іх натуральнай мастацкасцю і ўспрымае як узор паэзіі, створанай беларускім народам. У гэтым ён надзвычай блізкі да вясковага лірніка.

Вылучэнне Сыракомлем сказання пра Усяслава і апісання бітвы на Нямізе (песні Баяна) тлумачыцца тым, што паэт разумеў, як неабходна, каб з песняй жняі суседнічала песня «шырэйшага палёту», якая будзіла б у народзе ўсведамленне сваёй гістарычнай годнасці. У старажытным помніку Сыракомля бачыў «гістарычна-паэтычныя» (В. Бялінскі)

---

[1] Teka Wileńska. 1857. № 1. S. 208.
[2] Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. Мн., 1968. Т. 2. С. 108.
[3] Тамсама.

вартасці гераічнага эпасу беларусаў і, звяртаючы на іх увагу сваіх землякоў, не мог застацца абыякавым да захадаў «вучонай крытыкі», якая, як ён гаворыць, «рада заўсёды здзіраць чары са старых часоў».

Такія захады ў першай палове мінулага стагоддзя рабіліся М. Качаноўскім, які сумняваўся ў аўтэнтычнасці «Слова...» і лічыў яго падробкай XVIII ст. Яго думку падзялялі журналісты М. Катхоў і В. Сянкоўскі. Апошні на старонках даволі папулярнага тады часопіса «Библиотека для чтения» свае скептычныя адносіны да верагоднасці «Слова аб палку Ігаравым» выказваў неаднойчы[1]. Між іншым, гадоў сорак назад была зроблена спроба адрадзіць скептыцызм у адносінах да «Слова...» вядомым французскім славістам Андрэ Мазонам, але яго канцэпцыя не знайшла шырокай падтрымкі сярод вучоных-славістаў[2].

У процівагу ж скептыкам, зборна ахрышчаным «вучонай крытыкай», Сыракомля даводзіў, што ён прастадушна верыць у сапраўднасць «каштоўных помнікаў даўніны, грунтуючыся таксама на прастадушным разуменні, што чалавек, які быў бы здольны стварыць такія шэдэўры, як песні аб Фінгалі[3], Ігары або «Успаміны» Пасэка[4], не меў бы патрэбы выдаваць іх за чужыя старасвецкія творы. Само прасякненне духам мінулых часаў,— працягвае паэт,—

---

[1] Библиотека для чтения. 1834. Кн. 4. Ч. 2. С. 5—7; 1837. Т. 24. С. 149.

[2] Вопр. истории. 1964. № 9. С. 123.

[3] Сваю гераічную паэму «Фінгал» (1762) шатландскі паэт Джэймс Макферсон (1736—1796) сумеў выдаць за перакладзены ім з кельцкай мовы твор легендарнага Асіяна. Аднак у 1840 г. сталі падазраваць, што паэма падроблена. Пазней містыфікацыя Дж. Макферсона была даказана.

[4] Ян Хрызастом Пасэк (каля 1636—1701) — польскі мемуарыст. Яго «Успамінамі», выдадзенымі ў 1836 г. паводле копіі XVIII ст., захапляліся А. Міцкевіч і Ю. Славацкі.

і невыказнае майстэрства выканання зрабілі б яго імя больш несмяротным, чым імя звычайнага знаходніка каштоўных рэчаў. Выдаваць уласны, вечнай вартасці твор за чужую рэч было б непатрэбным падлогам, а таксама найвышэйшай ступенню самаахвярнасці, на якую чалавечая фанабэрыя не адважыцца»[1].

У «Гісторыі літаратуры Польшчы» Сыракомля абмежаваўся агульнымі заўвагамі пра «Слова...» і сцвярджэннем яго беларускасці. У гісторыка-краязнаўчым нарысе «Мінск» ён закрануў ужо праблему верагоднасці «Слова...» і праблему Баяна і спыніўся на разглядзе мовы помніка, выявіўшы пры гэтым пэўную эвалюцыю ў сваіх поглядах, што сведчыць пра паглыбленне цікавасці паэта да «Слова...» за час, які ўкладваецца паміж напісаннем «Гісторыі літаратуры Польшчы» і нарыса «Мінск». Гэтая цікавасць паэта была абумоўлена пільнай увагай да гісторыі культуры Беларусі, да якой ён далучаў і «Слова аб палку Ігаравым», замацоўваючыся тым самым у сваіх патрыятычных настроях.

---

[1] Teka Wileńska. 1857. № 1. S. 208—209.

# КАЛЕКТЫЎНЫ АЎТОГРАФ



Экземпляр зборніка Станіслава Манюшкі, пра які хачу расказаць, захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі АН БССР [1]. Ён мае цікавасць і як першае выданне песні «Вясковы лірнік», створанай кампазітарам на словы Уладзіслава Сыракомлі, і як дакумент, у якім зафіксаваны калектыўны аўтограф: на адваротным баку вокладкі зборніка ёсць напісаны рукой Сыракомлі верш-прысвячэнне, а пад ім стаяць подпісы паэта і яшчэ васьмі асоб.

Але перш чым паспрабаваць высветліць акалічнасці ўзнікнення запісу і расшыфраваць прозвішчы тых, хто меў да яго непасрэднае дачыненне, звернемся да самой кнігі і яе перадгісторыі.

Верш «Вясковы лірнік» быў напісаны Сыракомлем у Залучы 18 студзеня 1852 года. У ім аўтар уявіў сябе песняром, што ходзіць па вёсках, ад хаты да хаты. Звяртаючыся да сваёй ліры «з чарадзейнага дрэва», паэт гаварыў, што ніколі з ёю не расстанецца, будзе граць «добрым людзям» да скону, «граць ад сэрца, граць многа» і ні перад кім не схіліць галавы, не дасць зняважыць песню. Нялёгкая доля ў лірніка: не ўсе разумеюць яго («адзін хваліць, другі ганіць»), мала каго турбуе, што творыцца ў яго душы, ён трывае крыўду сам і бачыць, як крыўдзяць іншых («Людзі слязьмі мяне пояць»). Адно толькі суцяшае лірніка: яго песня не памрэ

[1] Moniuszko S. Lirnik wioskowy: Idylia Władysława Syrokomli. Wilno [б. г.].

разам з ім. Рэха ўзмоцніць і панясе словы ягонай песні «З краю да краю, да самага Дунаю, да самага Кіева». Ён верыць, што прыйдуць калі-небудзь пакланіцца яго магіле людзі здалёку, а землякі «будуць гадаць», як гэта сталася, што песні іх вёскі разышліся па свеце, і ўцямяць нарэшце, што ў гэтым заслуга лірніка, «які спяваў і жыў з імі». Тады павядуць яны падарожнікаў на ціхі цвінтар і, паказаўшы на курганок ля сасны, з гонарам скажуць: «Тут наш вясковы лірнік, памёр ён, граючы на ліры». Рамантычная ўзнёсласць, дэмакратычная накіраванасць верша не маглі не захапіць Станіслава Манюшку, які, як і Сыракомля, звяртаўся ў сваёй творчасці да беларускага фальклору, выступаў за дэмакратычнасць мастацтва.

З вершам «Вясковы лірнік» кампазітар мог пазнаёміцца яшчэ вясною 1852 года, калі Сыракомля прыязджаў з арандаванага ім прынёманскага фальварка Залуча ў Вільню і спыняўся ў доме Мілера, цесця Манюшкі, каб працягваць працу над тэкстам кантаты «Год у песні», верш і музыка якой ствараліся па ўзору народна-песеннай творчасці і выяўлялі агульнасць поглядаў паэта і кампазітара на мастацтва і тагачасныя грамадскія пытанні. Час магчымага напісання музыкі да «Вясковага лірніка» польскі музыказнаўца Эрвін Навачык абазначае межамі ад узнікнення верша (1852 год) да першага выканання песні (1857 год) [1]. Аднак ёсць падстава сцвярджаць, што песню «Вясковы лірнік» Манюшка напісаў менавіта ў 1857 годзе. Сучаснік кампазітара Ежы Ляскарыс у сваіх нататках, змешчаных у «Тэцэ Віленьскей» [2], прыгадвае, што Манюшка ў

[1] Nowaczyk E. Pieśni solowe S. Moniuszki: Katalog tematyczny . Kraków, 1954. S. 100.

[2] Laskarys J. Wspomnienie z dziedziny sztuk pięknych na Litwie w roku 1857 // Teka Wileńska. 1858. № 4. S. 306.

1857 годзе шмат увагі надаў пераробцы оперы «Галька» і, акрамя таго, напісаў яшчэ некалькі твораў. Першым з іх названы «Лірнік» — «песня большых памераў, да слоў Сыракомлі».

Упершыню песня выконвалася 2 красавіка 1857 года на дабрачынным канцэрце Ігнатам Залескім, вучнем Манюшкі, спеваком і кампазітарам, які, дарэчы, паклаў на музыку два творы Сыракомлі — «Кракавяк на Літве» і «Кара́лі». Захаваліся звесткі, што песня вельмі горача ўспрымалася слухачамі на музычным вечары Манюшкі, які адбыўся 4 мая таго ж года ў зале дома Мілера. Газета «Кур'ер Віленьскі» ў сувязі з гэтым пісала: «Гучныя, усеагульныя, працяглыя воплескі пасля кожнай п'есы і шматразовыя пакліканні аўтара і выканаўцаў былі выяўленнем глыбокага ўражання і захаплення слухачоў і разам яскрава перадавалі тое сардэчнае ўспрыманне публікай аўтара і яго памочнікаў-артыстаў, для якога недастаткова адной дасканаласці мастацтва, а патрэбна яшчэ ўсведамленне яго высокага маральнага прызначэння...» [1]

«Вясковы лірнік» быў уключаны таксама ў праграму канцэрта, арганізаванага віленскімі аматарамі музыкі ў гонар кампазітара напярэдадні яго пераезду ў Варшаву. Песню выконваў тады Ахілес Банoccasionalьдзі [2], вакальную культуру якога кампазітар ставіў вельмі высока. Яшчэ ў лютым 1849 года, даючы аўтарскія канцэрты ў Пецярбургу, Манюшка звязваў свае надзеі на поспех з выканаўчай манерай Банольдзі. І поспех прыйшоў, нягледзячы на тое, што імя віленскага кампазітара ў Пецярбургу ведалі толькі лічаныя аматары музыкі. Манюшка дзякаваў лёсу, які звёў яго з Банольдзі.

[1] Kurjer Wileński. 1857. № 35. S. 301.

[2] Dobaczewska W. Dzieje kultury Wileńskiej pomiędzy dwoma powstaniami. Wilno, 1957. S. 51.

Калі Ахілес Банольдзі пакінуў Італію і прыехаў у Вільню, ён, дваццацігадовы юнак, не падазраваў, што асядзе тут надоўга. Ён хутка засвоіў тутэйшую мову, стаў выхавацелем у Шляхецкім інстытуце, выкладаў спевы. А праз год-другі культурнае жыццё горада было для яго натуральнай стыхіяй, у якую ён акунуўся з усім тэмпераментам італьянца. Неўзабаве Банольдзі стаў гарачым прыхільнікам таленту Манюшкі і нястомна папулярызаваў яго музыку і песні. Спявак і кампазітар моцна пасябравалі. Чуццём артыста Банольдзі ўлоўліваў у творах сябра тое, што многія пачалі разумець і цаніць праз некалькі гадоў. Невыпадкова Манюшка прысвяціў спеваку двухактовы варыянт оперы «Галька» і песню «Папрадуха».

Напярэдадні паўстання 1863 года Банольдзі, які ўсёй душою ўспрымаў ідэі вызваленчай барацьбы, стаў членам Камітэта руху і дзеля наладжвання падпольнага друку адкрыў у Вільні фотамайстэрню з літаграфіяй. На пачатку лютага ён быў высланы як іншаземны падданы за межы Расіі. Гэта ў нейкай ступені дапамагло яму арганізаваць закупліванне зброі для паўстанцкіх атрадаў Літвы і Беларусі. Але агентам Трэцяга аддзялення ўдалося натрапіць на след Банольдзі. Яго схапілі. Прыгавораны да пакарання смерцю, ён здолеў уцячы... У дні Парыжскай камуны Ахілес Банольдзі змагаўся на барыкадах. Песні Станіслава Манюшкі былі з ім. Паранены, не ў стане трымаць зброю ў руках, ён спяваў перад смерцю, як і герой Манюшкавай песні, «памёр, граючы на ліры».

Што тычыцца года выдання зборніка Манюшкі «Вясковы лірнік», то гэтай «дэталі» выдавец Завадскі не надаў паводле традыцыі належнай увагі. Таму час надрукавання зборніка патрабуе свайго высвятлення. Дзеля гэтага варта яшчэ раз звярнуцца да нататак Ляскарыса. Перад тым як пералічыць тво-

ры, якія Манюшка напісаў у 1857 годзе, ён зазначыў, што некаторыя з іх «з'явіліся, другія не з'явіліся ў друку». Калі ж улічыць, што частка прац кампазітара, названых Ляскарысам, не была, як вядома, выдадзена пад час публікацыі нататак, то можна дапусціць, што «Вясковы лірнік» ужо выйшаў тады з друку. На карысць таго, што асобнае выданне песні ўбачыла свет не пазней, чым у 1858 годзе, сведчыць таксама і рэцэнзія Юзафа Сікорскага, апублікаваная ў часопісе «Рух Музычны» — у 1858 годзе [1].

Разглядаючы «Вясковага лірніка» як выдадзены ўжо твор, рэцэнзент даволі падрабязна спыніўся на характарыстыцы мелодыкі кожнага з чатырох фрагментаў песні-цыкла, якая, паводле яго слоў, «хутчэй элегіяй з'яўляецца, чым ідыліяй». Сікорскі піша: «Верш Сыракомлі напоўнены суцэльным лірызмам ці, дакладней, пачуццёвасцю, а чатыры яго часткі, апрацаваныя кампазітарам у гэтулькі ж песень, адлюстроўваюць розныя ўражанні з жыцця паэта... Каларыт тэксту не толькі з-за падабенства адценняў эмоцый, але і з прычыны агульнага журботнага спакою выразаў амаль увесь час аднолькавы; таму кампазітару не было на чым узмацніць сваёй фантазіі, і яго думкі маюць роўнасць, у якую дэкламацыі часам уносяць разнастайнасць... З чатырох песень лірніка,— працягвае аўтар рэцэнзіі,— трэцяя самая цудоўная: струна спачування людзям наймацней гучала ў душы кампазітара» [2].

Аналіз музычных вартасцяў песні, праведзены Сікорскім, паказвае, наколькі Манюшка ўнікаў у змест твора, у яго інтанацыйна-рытмічную арганізацыю, каб сродкамі музыкі выявіць адэкватнае аўта-

---

[1] Sikorski J. Przegląd kompozycyj // Ruch Muzyczny. 1858. № 37. S. 289—291.
[2] Тамсама. S. 290.

ру верша разумение той песняровай праўды, якую нясе ідэалізаваны герой — вандроўны вясковы лірнік. Несумненна, узнікненню гэтай песні спрыялі агульныя ідэйныя пераконанні паэта і кампазітара, іх папярэдняе супрацоўніцтва. Сярод твораў Сыракомлі кампазітар неаднойчы знаходзіў тэксты, якія адпавядалі яго творчым задумам. На словы паэта Манюшка напісаў каля дваццаці песень. Самай даўгавечнай з іх аказалася «Вячорная». Яе і сёння спяваюць у Польшчы, у некаторых мясцінах Беларусі, Літвы. Аднак трэба сказаць, што супрацоўніцтва кампазітара з Сыракомлем магло быць больш плённым. Кантата «Год у песні», напрыклад, засталася незавершанай, некаторыя творы так і не ўзніклі, хоць пра іх напісанне між паэтам і кампазітарам, напэўна, існавала папярэдняя дамоўленасць. Водгалас яе выразна чуваць у лісце Сыракомлі да Манюшкавай жонкі Аляксандры: «Пані! — піша Сыракомля.— Не словам паэта (бо гэта адназначна з хлуснёй, бог бачыць, як несправядліва), але словам гонару чалавека сумленнага запэўніваю, што я хачу, што я буду пісаць для Станіслава, што праз некалькі дзён ён атрымае доказ маёй аб ім памяці... Першую хвіліну свабоднай думкі я прысвячу Станіславу — можа, не далей, як сёння» [1].

Звернемся цяпер да запісу ў зборніку «Вясковы лірнік». Дванаццацірадковы верш-прысвячэнне Сыракомля напісаў, відаць, экспромтам у час адной з літаратурна-музычных вечарынак. На гэта паказваюць адна папраўка і непасрэднасць зместу твора. Верш адрасаваны аднаму з прысутных на вечарынцы — «добраму Фаўстыну» з просьбай прыняць сціплы падарунак ад прыхільнікаў ягонага таленту і памятаць

[1] Simon L. Syrokomla i Moniuszko // Kurjer Warszawski. 1937, 4 lip.

пра сваё прызванне — іграць на віяланчэлі. Твор гэты змешчаны ў сёмым томе збору паэзіі Сыракомлі як прысвячэнне Фаустыну Лапатынскаму. Над дванаццацірадкоўем пазначаны дата і месца яго напісання — «1858. Вільня». У каментарыях да выдання ўкладальнік Вінцэсь Каратынскі паведамляе, што верш гэты апублікаваны «паводле копіі, атрыманай ад п[ана] Лапатынскага». Заўважу толькі, што друкаваны тэкст першых чатырох радкоў твора адрозніваецца ад аўтографа нязначнымі змяненнямі сінтаксічнага і лексічнага характару. Праўкі, верагодна, унёс Вінцэсь Каратынскі: ён, як вядома, рыхтуючы да друку дзесяцітомнік Сыракомлевай паэзіі, зрэдку «падгладжваў» паэта. Не выключана таксама, што да тэкстуальных змен прычыніўся і Лапатынскі — верны (паводле Уладзіслава Каратынскага) «ажно да скону прыхільнік Сыракомлі, крыху музыка, крыху паэт, крыху мастак, натура наскрозь артыстычная, але не надзеленая выключным талентам і зламаная жыццём» [1].

Пра блізкія стасункі Сыракомлі з «музыкам і гумарыстам Лапатынскім» згадвае віленскі журналіст і калекцыянер канца XIX — пачатку XX стагоддзяў Люцыян Узембла [2]. Пра гэтае сяброўства ўпамінаецца, як правіла, ва ўсіх матэрыялах пра Лапатынскага. Прызначаны ж яму ў падарунак экземпляр зборніка Станіслава Манюшкі «Вясковы лірнік» з Сыракомлевым вершам-прысвячэннем і калектыўным подпісам з'яўляецца бадай ці не адзіным дакументальным сведчаннем цёплых таварыскіх узаемаадносін Сыракомлі і Лапатынскага.

Прыкладна тады, у 1858 годзе, і зарадзілася ў іх

---

[1] Korotyński W. Syrokomla o sobie. Warszawa, 1896. S. 69.

[2] Uzięblo L. Z humorystyki Syrokomlowej // Litwa i Ruś. 1912. T. 3. Z. 2. S. 197.

ідэя стварыць оперу. Частка лібрэта да яе была напісана Сыракомлем у 1858—1859 гадах і ўвайшла пад назваю «Багдан» у дзесяцітомны збор твораў паэта (1872). У каментарыях да яго Вінцэсь Каратынскі паведаміў, што рукапіс урыўка «Багдан» быў атрыманы ад Лапатынскага, які меўся пісаць музыку да сыракомлеўскага лібрэта. «Акалічнасці,— зазначае Каратынскі,— раз'яднаўшы аўтара з кампазітарам, паклалі канец намеру. Музычныя каноны, відочна, абмяжоўвалі Кандратовіча ў напісанні гэтага твора. Першапачаткова быў намер скласці лібрэта на беларускай мове, але задуму гэтую потым закінулі» [1].

Такім чынам, падараванае кампазітару асобнае выданне песні С. Манюшкі «Вясковы лірнік» з Сыракомлевым аўтографам і подпісамі блізкіх паэту і Лапатынскаму людзей трэба расцэньваць не як прыватны выпадак у біяграфіі тых, хто меў да гэтага дачыненне, а як з'яву культурнага жыцця.

Пад вершам-прысвячэннем услед за Сыракомлем падпісаўся Баляслаў Навінскі, акцёр Віленскага тэатра, першы выканаўца галоўнай ролі ў вершаванай драме паэта «Каспар Карлінскі». Пазней, у 1859 годзе, Сыракомля прысвяціў яму жартоўны верш у сувязі з яго ігрой у п'есе Антона Адынца «Барбара Радзівіл».

Наступны подпіс — Мікалай Акялевіч — належыць вядомаму літоўскаму пісьменніку, публіцысту, грамадскаму дзеячу Мікалоюсу Акялайцісу, які актыўна супрацоўнічаў у польскіх перыядычных выданнях пад псеўданімам «Мужык з Марыямпольскага павета», пераклаў на літоўскую мову беларускі агітацыйны твор антыцарскага зместу «Гутарка ста-

---

[1] Kondratowicz L. Poezje. Wyd. zupełne. Warszawa, 1872. T. 5. S. 317.

рога дзеда», імкнуўся арганізаваць народную бібліятэку, для якой кнігі на літоўскай мове планаваў пісаць сам, а выданне беларускіх прапаноўваў рыхтаваць Вінцэсю Каратынскаму і Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу. Дарэчы, 19 лістапада 1859 года Акялайціс звяртаўся да Сыракомлі з пісьмовай просьбаю напісаць паэму пра слынную і складаную асобу XIII стагоддзя — князя Міндоўга [1]. Наколькі гэта адпавядала творчым задумам паэта, цяжка сёння сказаць, але ніводнага твора пра Міндоўга ў яго не з'явілася.

Чацвёртым паставіў свой подпіс Эміль Дэрынг — акцёр, які выступаў у 1844—1864 гадах на сцэне Віленскага тэатра, аўтар некалькіх драматычных твораў, аповесцяў і дапаможнікаў для аматарскіх тэатраў.

Затым ідуць Антон Бандзкевіч, Антон Раецкі, Вінцэнт Жураўскі, Эміля і Філамена Сыртаўт. Антон Бандзкевіч, ураджэнец Міншчыны, быў тады настаўнікам Віленскай гімназіі, друкаваўся ў польскай перыёдыцы. Нічога акрэсленага нельга сказаць пра Эмілю і Філамену Сыртаўт. У невялікім допісе Люцыяна Узембла з 1921 года мімаходзь упамінаецца якісьці Вацлаў Сыртаўт, дзед якога быў знаёмы з Сыракомлем і ў якога маецца некалькі рукапісаў паэта [2]. Ці існавала якая-небудзь сувязь паміж дзедам Вацлава Сыртаўта і Эміляй і Філаменай Сыртаўт, невядома. Больш пэўныя звесткі захаваліся пра Антона Раецкага. Ён быў жанаты з Сыракомлевай сястрою Елізаветаю і, як відаць з дакументаў 1867 года, лічыўся віленскім мешчанінам [3].

---

[1] ЦДАЛіМ ЛітССР, ф. 96, воп. 1, адз. зах. 40, арк. 2.

[2] Uzięblo L. U mogiły Syrokomli // Gazeta Wileńska. 1921, 17 wrześ.

[3] ЦДАЛіМ ЛітССР, ф. 96, воп. 1, адз. зах. 202, арк. 1.

Што тычыцца Вінцэнта Жураўскага, то некаторыя звесткі пра яго можна пачэрпнуць з матэрыялаў віленскай следчай камісіі [1]. Так, мы даведваемся, што Жураўскі быў вольным слухачом Пецярбургскага універсітэта, што ў 1860 годзе ён з друкарняй прыехаў у Вільню і знаходзіўся тут доўгі час, меў зносіны з тутэйшымі «палітычна ненадзейнымі» людзьмі і як быццам ездзіў адсюль у Фінляндыю і кудысьці за Маскву. У лістападзе ён быў ужо ў Пецярбургу. Пра гэта сведчыць яго ліст да Сыракомлі, у якім ён гаворыць, што перапісваецца з Акялевічам (Акялайцісам) [2]. Стрыманыя паказанні Жураўскага, арыштаванага ў лістападзе 1861 года, дазваляюць меркаваць, што ён меў нейкае дачыненне да нелегальных агітацыйных выданняў.

Калектыўны подпіс пад вершам-прысвячэннем Сыракомлі ў зборніку Манюшкі замыкае Паўліна Кандратовіч, жонка паэта.

Пра Баляслава Навінскага, Мікалая Акялевіча, Антона Бандзкевіча, Вінцэнта Жураўскага і Паўліну Кандратовіч (у дзявоцтве Мітрашэўскую) можна было б расказаць куды болей. Іх жыццёвы лёс склаўся па-рознаму, але тое, што яны сабраліся ў якісьці дзень ці вечар 1858 года за бяседным сталом і дружна паставілі свае подпісы пад вершаваным экспромтам любімага краёвага паэта, не было выпадковасцю. Іх, натхнёных мастацтвам, аб'ядноўваў пярэдадзень паўстання 1863 года.

---

[1] Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861—1862 гг.: Материалы и документы. М., 1964. С. 94—96.

[2] ЦДАЛіМ ЛітССР, ф. 96, воп. 1, адз. зах. 65, арк. 1.

# МАЙСТАР ПЯРА І МАЙСТАР ПЭНДЗЛЯ

Снежаньскім вечарам 1848 года Уладзіслаў Сыракомля прыехаў у Вільню і адразу ж, пасля ўдакладнення адраса, накіраваўся ў рэдакцыю альманаха «Рочнік Літэрацкі». Там ён пазнаёміўся з рэдактарам-выдаўцом штогодніка Рамуальдам Падбярэскім, з якім перапісваўся, калі «Рочнік» выходзіў яшчэ ў Пецярбургу, і з двума мастакамі. «Адзін з іх, зграбны, з тонкімі рысамі твару светлы бландзін,— гэта Дмахоўскі (вядомы пейзажыст)»,— паведамляў Сыракомля пра сваю першую сустрэчу з мастаком прыяцелю-паэту ў лісце, напісаным пасля вяртання з Вільні ў фальварак Залуча.

Далейшыя сустрэчы паэта і мастака колькі гадоў залежалі ад паездак Сыракомлі ў няблізкую па тым часе сталіцу так званага Паўночна-Заходняга краю. Тым не менш у кожнага з іх цікавасць да творчасці другога паступова ўзрастала. Талент Дмахоўскага-пейзажыста быў агульнапрызнаны, мастака называлі «Клодам Ларэнам віленскіх ваколіц», Сыракомля станавіўся адным з найпапулярнейшых паэтаў Беларусі і Літвы. Творчасць абодвух была сагрэта патрыятычнымі пачуццямі, і прадметам іх увагі часта станавіліся вельмі падобныя, блізкія з'явы. Вінцэнт Дмахоўскі адлюстроўваў на палотнах зацішныя і гістарычныя мясціны Беларусі, убогія хаты сялян. Некаторыя карціны мастака маглі быць мімавольнай ілюстрацыяй да асобных твораў Сыракомлі ці наадварот — натхнёныя сыракомлеўскія радкі служылі б красамоўным каментарыем прац Дмахоўскага. Словам, агульнасць інтарэсаў паэта і жывапісца

ва ўмовах інтэнсіўнасці грамадска-культурнага жыцця ўсяго краю спараджала ўзаемазацікаўленасць, якая прыносіла свой плён.

27 красавіка 1852 года ў лісце да вядомага польскага пісьменніка Ю.-І. Крашэўскага Сыракомля прызнаваўся: «Я не мастак і не ведаю, што думаюць пра яго [Дмахоўскага] прыцягальнае і нярэдка надзвычай дасканалае выкананне, але, калі я гляджу на яго пейзажы, у маіх грудзях уздрыгвае той нерв, пад акампанемент якога я напісаў некалькі гутарак, мяне ахоплівае хваляванне, і я неяк сэрцам разумею думку і пачуццё мастака» [1].

Як ніводзін з тагачасных знаўцаў мастацтва паэт угадаў натуральную прастату прац мастака. Вось што ён гаварыў пра творчасць Дмахоўскага ў тым жа лісце да Крашэўскага: «Цудоўная яго новая карціна «Пушча» паводле паэмы «Пан Тадэвуш», без чалавечых постацяў, але ў яго дрэвы — постаці: чытаеш іх думкі, чуеш гутарку... і дрэвы яго не проста дрэвы, якімі ўпрыгожваюць пейзаж, а быццам перасаджаныя з лесу на палатно хвоі, вербы, бярозы, якія ўзнаўляюць дзівосныя ліцвінскія абрысы» (удакладняю, што слова «ліцвінскі» тут ужыта не ў этнаграфічным, а ў гістарычным сэнсе). Сыракомля захапляўся ўменнем жывапісца «наблізіцца, так сказаць, да ідэалу простай рэчаіснасці, зусім не ганяючыся за эфектамі і эфекцікамі, да якіх, як вядома, сумленны мастак неахвотна абніжаецца».

Несумненна, што пераход Дмахоўскага ад класіцызму да рамантызму быў выкліканы грамадскай атмасферай, насычанай у 50-я гады мінулага стагоддзя нацыянальна-вызваленчымі ідэаламі, і ў сцвярджэнні Дмахоўскага на рамантычных пазіцыях паэ-

[1] Kraszewski J.-I. Władysław Syrokomla // Przegląd Europejski, naukowy, literacki i artystyczny. 1862. Z. 4. S. 310.

зія Сыракомлі была тою спадарожніцаю, з якою адчуваеш сябе больш упэўнена. Як і Сыракомлевы вершы, пейзажныя мініяцюры Дмахоўскага прывязаны да пэўнага месца роднай зямлі, яны простыя і глыбока эмацыянальныя (напрыклад, «На начлезе»).

З пераездам Сыракомлі ў падвіленскі фальварак Барэйкаўшчына (вясною 1853 года) яны асабліва зблізіліся. Таварышаванне майстра слова і майстра пэндзля ад таго часу не насіла ўжо характара выпадковасці: Сыракомля і Дмахоўскі бывалі на літаратурных вечарынках у беларуска-польскага этнографа Адама Кіркора, без лішняй цырымоніі заходзілі адзін да аднаго, разам лячыліся на мінеральных водах у Біршганах і Стаклішках.

Калі пад вясну 1855 года Дмахоўскі перасяліўся з сям'ёю ў вёску Брыцянка пад Наваградак, яны на працягу трох гадоў (пакуль мастак не вярнуўся ў Вільню) вялі ажыўленую перапіску. У Цэнтральным дзяржаўным архіве літаратуры і мастацтва ў Вільнюсе зберагаецца ліст Дмахоўскага, адрасаваны Сыракомлю [1]. Ён напісаны ў Брыцянцы 2 красавіка 1856 года, прытым — у вершаванай форме. Вершы, зразумела, слабыя, але змест не можа не выклікаць цікавасці. Ліст уяўляе сабою своеасаблівую справаздачу мастака аб працы над карцінаю «Крыжакі пры асадзе крэпасці Пуні». Аўтар апісвае дэталі, постаці, вобразы гэтага палатна, раскрывае кампазіцыю і запэўнівае Сыракомлю, што неўзабаве яна можа быць выстаўлена ў Вільні. Сюжэт «Крыжакоў пад Пунямі» быў навеяны Сыракомлевай паэмаю «Маргер», прысвечанай змаганню літоўскага народа з ордэнам крыжакоў, і паэт, натуральна, цікавіўся ходам працы над карцінаю, завяршэнне якой, як мы даведваемся з ліста, зацягвалася.

---

[1] ЦДАЛіМ ЛітССР, ф. 96, воп. 1, адз. зах. 49, арк. 1—2.

Цікавы і той факт, што ў 20-я гады нашага стагоддзя сярод папер Дмахоўскага была адшукана невядомая да таго часу алегарычная паэма Сыракомлі «Чорная кошка ў Барэйкаўшчыне» [1], якая носіць выразную антычыноўніцкую накіраванасць. Гэтую паэму Сыракомля, зразумела, не мог апублікаваць з-за цэнзурных меркаванняў і празмернай увагі да свае асобы з боку III аддзялення. Кола чытачоў заставалася абмежаваць самымі блізкімі сябрамі, на чыё ўзаемаразуменне можна было разлічваць. Дарэчы сказаць, у адрозненне ад такога антыцарскага верша паэта, як «Сахар-мароз», што нелегальна перадаваўся з рук у рукі, паэма «Чорная кошка ў Барэйкаўшчыне» была, відаць, набыткам аднаго Дмахоўскага, ва ўсякім выпадку, ніякіх сведчанняў пра яе распаўсюджанне ў рукапісных спісах знайсці не ўдалося. Дмахоўскі, удзельнік паўстання 1831 года, умеў захоўваць тайну.

Можа, акрамя гэтай паэмы Сыракомля даверыў прыяцелю яшчэ які-небудзь твор, непажаданы ўладам? Гэтага мы не ведаем, як не ведаем таго, калі і пры якіх абставінах Дмахоўскі падараваў паэту некаторыя свае карціны. Вядома толькі, што ва ўласным зборы карцін Сыракомлі найбольшая колькасць прац належала пэндзлю Дмахоўскага. Іх было шэсць. Адна прысвечана беларускаму вясковаму пейзажу: сялянская сядзіба ахінута вячэрнім змрокам, здаецца, вось-вось знікнуць абрысы ўбогіх будынкаў, і толькі самотныя сілуэты дрэваў у чаканні начной таемнасці будуць заставацца на фоне прыгаслага небасхілу... Другая, пейзажная мініяцюра «Палац каля возера», выканана на дубовай дошцы. Абедзве карціны гэтыя знаходзяцца ў Дзяржаўным гісторы-

---

[1] Słowo. 1923, 8 grudz.

ка-краязнаўчым музеі ў Вільнюсе. Лёс астатніх невядомы. Уяўленне ж пра іх можна скласці паводле Сыракомлевага апісання ўласнага збору карцін, у якім дадзена надзвычай трапная, хоць і агульная характарыстыка мастакоўскай манеры «Клода Ларэна Віленскіх ваколіц». «Дмахоўскі,— піша Сыракомля,— выхаваны ў Віленскім універсітэце, на адзяленні мастацтваў пад кіраўніцтвам Рустэма, навучыўся пэндзлем перадаваць тую вялікую і сапраўдную паэтычную замілаванасць да ліцвінскай натуры, якая жыве ў яго грудзях... Бяроза і дуб гутараць лістотай, сосны і яліны шэпчуць сваю адвечную элегію. Надзелены назіральнасцю і вялікай мастацкай памяццю, ён ловіць моманты ліцвінскай прыроды і ўзнімае яе да ідэалу. Меней шчаслівы ён у перадачы начнога ці пахмурнага неба (гэта ўжо заўважыў Крашэўскі), але незраўнаны, калі на празрысты блакіт, на лёгкія хмурынкі, на шырокую ваду кіне сонечную ўсмешку» [1].

Колькі разоў Сыракомля браўся за пяро, каб напісаць нарыс пра Дмахоўскага-мастака, і заўсёды кідаў пачатае: лічыў сябе недастаткова падрыхтаваным. Артыкул жа, напісаны для часопіса «Атэнэум» яшчэ на пачатку 1852 года, ён «схаваў у шафу на вечнае забыццё». Толькі пасля смерці Дмахоўскага (памёр 22 лютага 1862 года) паэт апублікаваў у газеце «Кур'ер Віленьскі» (№ 18) матэрыял пра свайго сябра, але гэта быў ужо артыкул-некралог, які «вырас пад рукою», г. зн. памер яго разросся непасрэдна ў час напісання, бо «нельга было,— тлумачыў Сыракомля рэдактару «Кур'ера...» Адаму Кіркору,— абысціся халоднай нататкаю пра чалавека нашага

---

[1] Syrokomla W. Zbiorek obrazków // Kurjer Wileński. 1861, № 90. S. 870.

краю, чалавека, з якім мы з'елі пуд солі і ў якога не было іншых недахопаў — толькі недахоп грошай»[1].

Асвятляючы ў артыкуле жыццёвы шлях мастака, Сыракомля піша, што Вінцэнт Дмахоўскі нарадзіўся ў 1807 годзе на Ашмяншчыне, у вёсцы Самішчы. Асновы адукацыі Вінцэнт атрымаў у школе піяраў у Шчучыне. Пасля смерці бацькі ён два гады жыў у Мінску, у свайго дзядзькі па мацеры Дэспата-Зяновіча, мясцовага маршалка шляхты, потым паступіў у Віленскі універсітэт, на аддзяленне літаратуры і мастацтва, якое скончыў у 1829 годзе. Удзельнічаў у паўстанні. Пазбягаючы праследу з боку царскіх уладаў, Дмахоўскі эмігрыраваў у Прусію. Пасля амністыі, у 1837 годзе, ён вярнуўся на радзіму, якую, як паведамляе Сыракомля, «ужо да канца жыцця не пакінуў».

Сыракомлеў артыкул чамусьці застаўся па-за ўвагаю гісторыкаў мастацтва, як польскіх, так і беларускіх. Між тым ён можа быць добрай падмогаю тым, хто звернецца да непасрэднага вывучэння творчасці жывапісца, асабліва пры высвятленні гісторыі ўзнікнення і, магчыма, лёсу некаторых карцін мастака, а таксама пры ўдакладненні маштабаў яго творчай спадчыны. Сыракомля быў адным з тых нямногіх, хто трымаў у руках дзённік Дмахоўскага, які рэгулярна запаўняўся мастаком ад часу вяртання на радзіму з шасцігадовай эміграцыі. Спасылаючыся на гэты дзённік, Сыракомля згадвае болей чым пра шэсцьдзесят прац жывапісца. Сярод іх пейзажныя акварэлі і карціны алеем, звязаныя з ваколіцамі і асобнымі куткамі Вільні, Нясвіжа, Наваградка, Міра, Ліды, Ашмян, Слоніма, Гальшан, Пінска. У простых матывах пейзажаў Дмахоўскага, дзе хоць і няма чалавека, але яго прысутнасць адчуваецца, паэт-

---

[1] ЦБ АН ЛітССР. Аддзел рукапісаў, ф. 273—1252, арк. 1.

дэмакрат бачыў і шчырую адданасць мастака роднай зямлі, прыродзе і дэмакратычную накіраванасць яго творчасці. «Ліцвінская вясковая хата атрымлівалася пад яго пэндзлем так па-свойму, так жыва,— пісаў Сыракомля пра Дмахоўскага,— што лёгка было адгадаць тую любасць да вясковага люду, якая перапаўняла яго сэрца: вецер у лісцях, ручай пры дарозе, здаецца, напявалі родную ліцвінскую песню, а паглыбленне ў таямніцы лясных галін, балотных траў і кветак пераканаўча даказваюць, што на ўсё гэта глядзелі вочы не абыякавыя, а поўныя любасці».

# ПАД САКРЭТНЫМ НАГЛЯДАМ



Кульмінацыя канфлікту Сыракомлі з бачнымі і нябачнымі «арганізатарамі» сацыяльнага і проста чалавечага жыцця, пазбаўленага справядлівых узаемаадносін, наступіла не раней і не пазней, а менавіта ў сярэдзіне 1858 года. Шмат што тут залежала ад запознена-пакутлівага кахання, якое ўзнікла паміж паэтам і Геленай Маеўскай, жонкай Адама Кіркора.

Пакінуўшы мужа, Гелена вырашыла вярнуцца на сцэну, але не на віленскую, а дзе-небудзь у Польшчы, і выехала за межы царскай Расіі. Было дамоўлена, што ўслед за ёю ў замежную вандроўку неўзабаве рушыць і Сыракомля.

30 мая 1858 года ён быў ужо ў Варшаве, а вечарам 2 чэрвеня — у Познані, куды мелася прыехаць на гастролі разам з тэатрам і Гелена Маеўская. Разгорнутыя эпісталярныя і мемуарныя матэрыялы, якія непасрэдна ці ўскосна закранаюць перыяд знаходжання знакамітага песняра беларускага краю ў Познані, больш уважлівыя, можна сказаць, да з'яў інтымнага парадку. Паралельна яны, вядома, праліваюць святло на людзей, якія ўступалі з ім у кантакт, наладжвалі сустрэчы і паездкі. Некаторыя з іх так ці інакш былі звязаны з нацыянальна-вызваленчым рухам. Таму няма сумнення (хоць гэта не раскрываецца ні ў мемуарах, ні ў дакументах), што Сыракомля, які ўсю сваю творчасць прысвяціў служэнню справе вызвалення роднага краю з-пад палітычнай залежнасці, ідэі свабоды кожнага чалавека, знайшоў з імі (ці яны з ім) агульную мову.

У Вільні Сыракомля быў у самых прыязных стасунках з Яўстафам Урублеўскім, доктарам, адным з першых у краі гамеапатам, звязаным з колішнім Кірыла-Мяфодзеўскім брацтвам і ўвогуле неардынарнай асобай. Дзверы яго дома заўсёды былі адчынены для пляменніка Валерыя Урублеўскага, а з ім і для Кастуся Каліноўскага, Зыгмунта Серакоўскага, Яраслава Дамброўскага, Людвіка Звяждоўскага.

Сённяшнія даследчыкі сцвярджаюць, што мэтай Сыракомлевай вандроўкі па Вялікапольшчы было вывучэнне становішча сялянства і ўстанаўленне культурных і палітычных кантактаў дзеля наладжвання каналаў перасылкі эмігранцкіх выданняў (у тым ліку «Колокола» А. Герцэна) на беларуска-літоўскую тэрыторыю. Невыпадкова, відаць, пасля ад'езду Сыракомлі з Познані тут у хуткім часе з'яўляюцца Серакоўскі і Звяждоўскі і сустракаюцца мелявіта з тымі, з кім кантактаваў паэт у чэрвені — ліпені 1858 года: з Аляксандрам Гутрым, Лібельтам, Уладзіславам Негалеўскім, Бабіянай Марачэўскай і Паўлінай Вільконскай [1]. «Гурток Я. Урублеўскага, да якога былі блізкія З. Серакоўскі, К. Каліноўскі, Я. Дамброўскі,— адзначаюць гісторыкі,— доўга яшчэ карыстаўся тымі сувязямі, якія наладзіў Сыракомля» [2].

Прыехаўшы ў Познань, Сыракомля спыніўся ў гасцініцы «Берлінская». Назаўтра ён запісаў у сваім нататніку: «Мне ўдалося дапытацца, дзе спыніліся прыезджыя, з якімі я меўся з'ехацца ў Познані». Хто тыя прыезджыя? Гелена Маеўская? Невядомыя дзеячы канспірацыі? Запіс не раскрывае. Але падзеі,

---

[1] Knapowska W. Lud Polski — gromada rewolucyjna Londyn // Kwartalnik Historyczny. 1955. № 2. S. 92.

[2] Bikulicz W., Sobis J. Syrokomla nieznany // Czerwony Sztandar. 1969, 13 wrześ.

якія разгарнуліся пазней, сведчаць, што інтымнае цесна перапляталася з грамадска-палітычным.

Праз колькі дзён, каб заставацца інкогніта, паэт пераехаў з гасцініцы на прыватную кватэру ў доме Бішора. Аднак 10 чэрвеня ў гонар «дэканспіраванага» паэта ўжо даваўся ўрачысты абед. Вершаваны патрыятычны тост, прамоўлены Сыракомлем, супаў з узвышаным настроем прысутных, якія гарачымі воплескамі выражалі і ўдзячнасць прыезджаму паэту, і сваю гатоўнасць да рашучых дзеянняў. Увечары, калі ў тэатры ішла Сыракомлева п'еса «Хатка ў лесе», усхваляваная публіка выклікала паэта на сцэну і літаральна засыпала яго кветкамі, хтосьці, звярнуўшыся да аркестра, запатрабаваў: «Мазурку Дамброўскага!» — і аркестр выканаў польскі нацыянальны гімн, які даўно не чуўся ў публічных месцах. Шанаванне аўтара п'есы ператварылася ў бурлівае выяўленне патрыятычных пачуццяў гледачоў.

Пра ўсё гэта пруская паліцыя пастаралася неадкладна паведаміць у Пецярбург. Рапарт падпісаў тайны саветнік Недарштотэр, які прысутнічаў на абедзе ў гонар Сыракомлі і ў тэатры пад час пастаноўкі «Хаткі ў лесе».

Пакуль рапарт дастаўляўся па прызначэнню, Сыракомля працягваў сустракацца з Геленай Маеўскай, якая, каб даўжэй пабыць з каханым, наўмысна параніла сябе пад час сцэнічнага «самагубства», рабіў падарожжы вакол Познані, наведаў Курнік, дзе знаходзіліся старадаўнія кніжныя і рукапісныя зборы, удзельнічаў у пасяджэннях Таварыства сяброў навукі, пабываў у Крушвіцы, Інаўроцлаве, на возеры Гопла, у якім, купаючыся, траха не ўтапіўся.

17 ліпеня дарога Сыракомлі кіравалася ўжо на Кракаў, а адтуль праз нейкі час (пасля 30 ліпеня) — на Львоў. Але маршрут неўзабаве змяніўся: з Вільні прыйшла вестка пра хваробу бацькі. 15 і 16 жніўня

паэт знаходзіўся ў Пятркове. Там зноў сустрэўся з Геленай Маеўскай. Яна праводзіла яго да Варшавы. Больш ім не суджана было ўбачыцца.

Калі гаворацц пра познаньскія і іншыя спатканні Сыракомлі летам 1858 года ў Вялікапольшчы, звычайна не надаюць ніякай увагі таму, што дзейсным пасрэднікам у наладжванні канспіратыўных кантактаў паэта (як магчымага прадстаўніка віленскага гуртка Яўстафа Урублеўскага) з дзеячамі нацыянальна-вызваленчага руху, звязанымі з эміграцыяй, магла быць рашучая, рамантычна-рызыкоўная і камунікабельная Гелена Маеўская. Прыгадаю, што яна ў сакавіку 1864 года хавала на сваёй варшаўскай кватэры аднаго з кіраўнікоў студзеньскага паўстання, яго апошняга дыктатара Рамуальда Траўгута. За гэта ёй давялося адбываць працяглую ссылку ў Сібіры. Ці не была яна далучана да таямніц прыхільнікаў паўстання яшчэ тады, у чэрвені — жніўні 1858 года?

У арандаваны фальварак Барэйкаўшчына пад Вільняю Сыракомля прыехаў пад канец жніўня. Бацькі ўжо не было ў жывых. Стомлены дарогаю і нервовым напружаннем, засмучаны жалобаю па бацьку, няпэўнасцю ўзаемаадносін з Геленай Маеўскай, паэт упаў у дэпрэсію.

Між тым віленскія літаратары чакалі прыезду ў Вільню цара Аляксандра II, рыхтавалі да гэтай падзеі альбом-адрас. Матэрыялы для альбома напісалі Антон Адынец, Ігнат Ходзька, Адам Кіркор, Мікалай Маліноўскі, Вінцэсь Каратынскі і Мікалоюс Акялайціс. Сыракомля да іх не далучыўся, сядзеў у Барэйкаўшчыне і не паказваўся ў віленскім свеце. Калі ж, нарэшце, 6 верасня, манарх прыбыў са світаю ў Вільню, сярод тых, хто вітаў яго, Сыракомлі не было. На пытанне, чаму ён не прымае ўдзелу ва ўрачыстасцях, паэт адказаў: «Не лічу сябе вартым».

Дзіўныя, на погляд абываценя, паводзіны самага папулярнага ў краі паэта не засталіся незаўважанымі. Тым болей што была прыведзена ў рух чыноўніцкая машына, якая забяспечвала спакой і непахіснасць расійскага трона: рапарт пруская паліцыі паклаў пачатак зацікаўленай перапісцы віленскага і пецярбургскага начальства. У студзені 1859 года віленскі генерал-губернатар, дакладваючы ў вышэйшыя інстанцыі пра вынікі расследавання абставін, звязаных з паездкай Сыракомлі ў Познань і яго вершам «шкоднага кірунку», прачытаным на ўрачыстым абедзе, пісаў: «Аднак, прымаючы пад увагу, што Кандратовіч... пахіснуў давер начальства, не дапушчу яго на будучы час да такіх адлучак і зраблю належнае распараджэнне па ўстанаўленню за ім з перасцярогі зусім сакрэтнага нагляду, калі па абставінах гэтай справы вы будзеце мець ласку прызнаць гэта адпаведным» [1]. 13 лютага 1859 года з Пецярбурга прыйшоў адказ, падпісаны генерал-ад'ютантам князем Далгаруканым: «Маю гонар паведаміць, што выкананне прапанаваных вамі мер адносна дваraніна Уладзіслава Кандратовіча я прызнаю неабходным» [2].

Сыракомля хутчэй за ўсё і адчуваў, і заўважаў, што за ім устаноўлены сакрэтны нагляд, ва ўсякім разе ён вымушаны быў канстатаваць перамену адносін не так да сябе, як да сваёй творчасці з боку звышпільнага мясцовага начальства: кожны радок паэта, прызначаны для друку, цэнзура перачытвала цяпер больш прыдзірліва і не тое каб забараняла канчаткова, а затрымлівала ўсе яго матэрыялы.

Жыццё, вядома, ускладнілася. Але было і суцяшэнне: Трэцяму аддзяленню так і не ўдалося высвет-

---

[1] ЦДГА ЛітССР, ф. 378, паліт. аддз. 1858 г., с. 78, арк. 8.
[2] Тамсама. Арк. 9.

ліць многія падрабязнасці і задачы яго замежнай паездкі.

Паводзіны ўлад у гэтым зацяжным канфлікце лішні раз пацвярджалі, што скептычнае стаўленне Сыракомлі да Аляксандра II, які выдаваў сябе за вялікага ліберала-рэфарматара, мела пад сабой рэальную глебу. Надзвычайная грамадская чуйнасць вясковага лірніка прадвызначыла самастойнасць яго думкі ў дачыненні да абяцанняў імператара ўсерасійскага. Прыгадаю, што нават Герцэн не ўтрымаўся тады, каб не прынесці пэўную даніну ліберальным ілюзіям і не напісаць да манарха ліст.

І хоць Сыракомля не падзяляў агульнага захаплення абяцаннямі Аляксандра II, ён, тым не менш, не спяшаўся папракаць сваіх віленскіх калег за тое, што яны выдалі і ўручылі цару альбом-адрас. У іх учынку ён бачыў штосьці іншае, чым элементарнае ўгодніцтва. Пра гэта сведчыць яго верш «Сахар-мароз», які шырока хадзіў па руках у 1859 годзе. Выкарыстаўшы рускі выраз «сахарное мороженое», дакладней, яго агульнавядомы тады варыянт «сахар-мороз», што выкрыкваўся на вуліцах прадаўцамі-разносчыкамі, паэт вельмі дакладна параўнаў пачатак царавання Аляксандра II, яго паказную ліберальнасць з зацукраваным лёдам, з марожаным. «Прастадушным» жа, тым, хто спадзяваўся дачакацца ад манарха вясны пераўтварэнняў, Сыракомля адкрываў — у алегарычнай форме — вочы на тое, што пісьменнікі, якія «сыпанулі ў свае выданні стос вясновых слоў», не былі шчырыя ў сваім выяўленні вернападданніцкіх пачуццяў.

На паездку ў Польшчу Сыракомля болей не мог разлічваць. Тым не менш, ён яе ажыццявіў. Праўда, без дазволу віленскіх улад. Гадавы пашпарт, які адкрываў дарогу за межы імперыі, паэту удалося нейкім чынам раздабыць у ковенскага губернатара пад

час знаходжання ў Коўне. 7 красавіка 1861 года паэт выступіў у мясцовым клубе з патрыятычнай імправізацыяй «У Коўне, дзе Адам спяваў вешчую песню...», 8 красавіка прачытаў на адкрыцці Таварыства аграрнікаў антыцарскі верш «Нас усіх, сабраных разам, цар не хоча бачыць...», а ў наступны дзень атрымаў пашпарт і тут жа выехаў з Коўны на Варшаву. Запісы, зробленыя ў пасведчанні асобы паэта, дазваляюць узнавіць увесь маршрут гэтай яго апошняй паездкі ў Польшчу. 13 красавіка ён знаходзіўся ў Сувалках, 22 — у Ломжы, 26 — у Варшаве, а 30 красавіка, на зваротным шляху, у Сувалках, яго арыштавалі [1].

Сыракомля быў арыштаваны паводле загаду намесніка Польскага каралеўства, дадзенага на падставе рапарта ковенскага генерал-губернатара, у якім паведамлялася пра зламысныя, антыўрадавыя выступленні паэта ў Коўне. Пратакол аб арышце Сыракомлі, складзены паручнікам варшаўскага дывізіёна жандараў Акуловічам, сведчыць, што паэт быў затрыманы ў губеранскім горадзе Сувалкі, у доме пад нумарам 26 па вуліцы Пецярбургскай, і што з ім знаходзіўся старазаконнік Шэвель Кінкулькін. 2 мая (20 красавіка па старым стылі) яны былі ў суправаджэнні Акуловіча і двух жандараў дастаўлены ў Вільню [2].

На допыце паэту было пастаўлена пытанне (па-руску): «У мінулым сакавіку месяцы (па старым стылі) вы ездзілі ў Варшаву. Растлумачце, ці мелі вы на гэта дазвол або пашпарт і ад каго менавіта такі атрымалі, а таксама на падставе якіх пададзеных вамі дакументаў аб паходжанні; з кім вы на пра-

---

[1] ЦДГА ЛітССР, ф. 378, паліт. аддз. 1858 г., с. 78, арк. 16—17.

[2] Тамсама, арк. 14—15.

цягу дарогі бачыліся, дзе спыняліся і дзеля чаго; ці доўга прабылі ў Варшаве, хто былі там вашы знаёмыя, ці наведвалі вы іх, чым займаліся і ўвогуле з якою мэтаю зроблена была ваша гэта паездка?»

На гэта Сыракомля адказаў (па-польску): «Едучы ў Варшаву, я ўзяў пашпарт у яснавяльможнага ковенскага губернатара пры запаручэнні ковенскага губеранскага маршалка. На працягу дарогі мне таварышаваў яўрэй Кінкулькін, кнігар з Вільні, які хоць і не меў свайго інтарэсу ў Варшаве, але, ведаючы, што я хворы, выказаў гатоўнасць таварышаваць мне да Варшавы, каб дапамагаць мне, хвораму. На працягу дарогі я пазнаёміўся ў Сувалках (дзе затрымаўся з-за хваробы) з некаторымі настаўнікамі і чыноўнікамі, але, будучы схварэлым, прозвішчаў іх у тлуме не запомніў. Быў я ў маіх знаёмых з Вільні: Доўнар-Запольскага, а таксама ў тамашняга інспектара лячэбнага кіраўніцтва, які мяне лячыў. У Ломжы з прычыны недамагання і шабасу яўрэя, які ехаў са мною, я затрымаўся зноў... У Варшаве я знаходзіўся тры дні, чуўся хворым, не выходзіў з кватэры і нікога не адведваў. Так як мэтай майго падарожжа былі стасункі з рэдактарамі перыядычных выданняў, з якімі я супрацоўнічаю, і атрыманне ад іх належных мне грошай, то прымаў я ў сябе Ю.-І. Крашэўскага, рэдактара «Газэты Польскей», Грыгаровіча, рэд. «Дзенніка Мод», Еніке і Анчыца, рэдактараў «Тыгодніка Ілюстрованэго», а таксама майго даўняга знаёмага Я. Хэнцінскага і доктара Штумера, які мяне лячыў».

Наступнае пытанне не было нечаканасцю: «Пры праездзе вашым праз Коўну вам дадзены быў там абед у Дваранскім клубе, на якім вы чыталі ўласны ваш верш. Прад'яўляючы вам яго, патрабуем тлумачэння: ці вамі напісаны гэтыя вершы і з якою мэтаю вы прамовілі іх у публічнай зборні?»

Тлумачэнне паэта, як і пытанне, было кароткім: «Вершы, якія былі паказаны мне, сапраўды мае, я пісаў іх пад час абеду алоўкам, спяшаючыся, так што не ў стане быў скласці дастаткова лагічнае ўяўленне пра тое, што пісаў. Іншай мэты я не меў, як падзякаваць тым, хто ўзнімаў за мяне тосты» [1].

На допыце Сыракомля не сказаў, што разам з ім у Варшаву ехаў і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Дзіўна, чаму гэтым не зацікавілася паліцыя? Сярод папер паэта, канфіскаваных пры арышце, быў ліст ад акцёра Баляслава Навінскага, у якім згадвалася прозвішча беларускага пісьменніка. І як яно засталося па-за ўвагаю следчага, уявіць цяжка. «Калі мы абодва выехалі з Коўны,— паведамляў Навінскі,— паліцыя шукала мяне, бо мяне даўно абвінавацііў п. Шлягер, які ў нядзелю загадаў аб'явіць са сцэны, што «невядома куды дзяваўся п. Навінскі, і таму дэкламацыі не будзе». Натуральна, Васільеў тут жа зрабіў распараджэнне. Месца ў тэатры я страціў, але гэта дробязь; я падумаў сам і параіўся з добрымі людзьмі, што ў такіх абставінах, як цяперашнія, краіне не акцёры патрэбны; я шукаю сабе якога-небудзь прыватнага абавязку на той час, пакуль, з божай волі, яшчэ буду пакутаваць, каб здабыць прахарчунак для сваёй сям'і. А ў той час, калі будзе трэба, я вярнуся са сцягам, як Карлінскі, і стрэлю з гарматы; калі ты, шаноўны пане, вернешся ў Вільню, можа стацца, мяне ўжо не будзе, таму прымі мае сардэчныя братнія абдымкі... У Вільні ўсё горш і горш: арышты, чуткі, што будуць адбіраць зброю, праглядаць паперы. Пані Кандратовіч не можа пісаць, бо ў гэты час у яе госці... Зрабі ласку, пане Людвік, не стаў сябе пад небяспеку такі-

---

[1] ЦДГА ЛітССР, ф. 378, паліт. аддз. 1858 г., с. 78, арк. 25—26.

мі лістамі, у якіх могуць што-небудзь знайсці; лісты цяпер на пошце без цырымоній распячатваюць і зноў запячатваюць сваёй пячаткаю, як, напрыклад, апошні твой ліст да жонкі. За вершы, прысланыя мне, сардэчна дзякую. Я і ўсе артысты з Варшавы пад наглядам паліцыі...» Далей, пасля подпісу «Баляслаў» і даты «3 красавіка 1861 г.» (паводле старога стылю), зроблена прыпіска: «Прабач, што я кепска пісаў, але п. Марцінкевіч спяшаецца...» [1]

Ліст Навінскі пісаў паспешліва, можа, нават у прысутнасці Дуніна-Марцінкевіча, які, як сведчыць аўтар, вельмі спяшаўся. І сапраўды, Сыракомля пакінуў Коўну 9 красавіка, а Дунін-Марцінкевіч выехаў з Вільні ажно 15 красавіка. Але калі паміж імі была папярэдняя дамоўленасць пра сумесную паездку ў Варшаву, то затрымкі Сыракомлі ў Сувалках і Ломжы былі звязаны не так з хваробамі, як з чаканнем аўтара «Халімона на каранацыі». Сыракомлю і на гэты раз было што ўтойваць ад паліцыі...

Хворага на сухоты паэта амаль месяц трымалі ў Віленскай турме. Пасля — на тэрмін, пакуль не скончыцца следства,— яму было дазволена жыць пад наглядам паліцыі ў Барэйкаўшчыне. 15 верасня 1862 года трапяткое, няскоранае сэрца вясковага лірніка перастала біцца. Але нагляд за паэтам быў спынены не з яго смерцю, а з яго пахаваннем. Апошні запіс у справе Сыракомлі, заведзенай Трэцім аддзяленнем у Петярбургу,— гэта паведамленне штабафіцэра жандарскага корпуса па справах Віленскай губерні, палкоўніка Лосева: «6 верасня (па новым стылі 18 верасня) у Вільні адбылося ўрачыстае пахаванне знакамітага польскага паэта Кандратовіча, вядомага ў літаратурным свеце пад псеўданімам

---

[1] ЦДГА ЛітССР, ф. 378, паліт. аддз. 1858 г., с. 78, арк. 21—23.

Сыракомля. Людзей сабралася вельмі многа, да 10 тысяч, нават з суседніх губерняў прыехала шмат асоб, каб аддаць апошнюю пашану яго таленту...» [1] У жандарскім запісе не было аднаго: калі пахавальная працэсія рушыла па вуліцах Вільні ў бок могілак Роса, у небе высока ляцеў у вырай жураўліны ключ, развітваючыся з радзімай і яе песняром жалобным курлыканнем.

---

[1] Stiekłowa F. Ostatnie lata Władysława Syrokomli // Życie i Myśl. 1967. № 10. S. 104.

# НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА СПРОБЫ



Рукапісная спадчына Сыракомлі, з якой звязаны лёс беларускіх твораў паэта, на пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя была сканцэнтравана пераважна ў руках Вінцэся Каратынскага і Аляксандра Валіцкага. Сляды калекцыі Валіцкага згубіліся. А вось зборы Вінцэся Каратынскага пасля яго смерці (1891), як вядома, заставаліся ў сыноў. Таму ёсць патрэба высветліць, да каго з іх перайшоў архіў Сыракомлі, захаваны бацькам. Ад гэтага залежыць адказ на пытанне: чаму, нягледзячы на некаторыя спробы «Нашай нівы» наладзіць кантакты з магчымым спадчыннікам папер В. Каратынскага, беларускамоўныя творы вясковага лірніка не трапілі на старонкі беларускай штотыднёвай газеты і ўвогуле не былі выдадзены?

Напярэдадні пяцідзесяцігоддзя з дня смерці Сыракомлі, у чэрвені 1912 года, рэдакцыя «Нашай нівы» адправіла ў Варшаву, на імя Бруна Каратынскага (малодшага сына Вінцэся Каратынскага) ліст, у якім, спасылаючыся на чыёсьці паведамленне, быццам у адрасата ёсць беларускія творы яго бацькі і Сыракомлі, прасіла перасланць «гэтыя матэрыялы» ў сувязі з задумай выдаць «паэтаў, якія пісалі па-беларуску ў палове XIX стагоддзя» [1]. Як адгукнуўся на гэтую просьбу Бруна Каратынскі, невядома: ва ўцалелай частцы архіва «Нашай нівы» яго адказу няма. Аднак, відаць, невыпадкова інфармаванасць рэдак-

---

[1] Кападацкі М. Над мемуарамі Бруна Каратынскага // Ніва. 1961, 8 кастрыч.

цыі «Нашай нівы» наконт беларускай творчасці вясковага лірніка ў верасні 1912 года была ўжо большая, чым раней. У артыкуле, прысвечаным памяці паэта, газета пісала: «Часць рукапісаў беларускіх твораў Кандратовіча мае п[ан] Каратынскі ў Варшаве, і кажуць, быццам гэтыя вершы маніцца выдаць адна з варшаўскіх кнігарань» [1]. Роўна праз год, заклікаючы сваіх чытачоў да дзейснай дапамогі ў пошуках беларускага набытку XIX стагоддзя, «Наша ніва» зноў зазначыла: «Рукапісы Сыракомлі мелiся быць выдадзены ў Варшаве, але нет ведама, чаму дагэтуль яшчэ не выйшлі» [2]. Як бачым, штотыднёвік настойліва паўтараў звестку пра падрыхтоўку да выдання ў Варшаве беларускіх твораў паэта. Яна, трэба думаць, паступіла ў рэдакцыю газеты не з другіх рук і адпавядала сапраўднаму стану рэчаў. Штосьці, зразумела, павінен быў паведаміць Бруна Каратынскі. І не адзін ён. У рэштках архіва газеты захаваліся тры лісты яго брата, Людвіка Каратынскага: адно ад 5 лютага 1913 года, астатнія — ад 8 красавіка і 7 мая 1914 года [3]. Яны тычацца галоўным чынам падпіскі на «Нашу ніву» і пасрэдніцтва рэдакцыі ў набыцці беларускіх кніг, брашур і паштовак і, па ўсім відаць, з'яўляюцца толькі фрагментам перапіскі. Гэта паказвае на развітыя сувязі беларускага штотыднёвіка са старэйшым сынам Вінцэся Каратынскага. Таму натуральна дапусціць, што ў іх перапісцы былі пісьмы, якія закраналі надзённую для газеты праблему выдання беларускіх твораў Сыракомлі.

Матэрыялаў, якія сведчылі б пра кантакты рэдакцыі «Нашай нівы» з сярэднім сынам Вінцэся Кара-

---

[1] Наша ніва. 1912, 6/19 верас.
[2] Тамсама. 1913, 19 верас.
[3] ЦДАЛіМ БССР (г. Мінск), ф. 3, воп. 1, адз. зах. 40, арк. 18; адз. зах. 43, арк. 93; адз. зах. 44, арк. 46.

тынскага — Уладзіславам Каратынскім, няма. Між тым не хто іншы, а менавіта ён займаўся ў той час складаннем збору нявыдадзенай паэзіі вясковага лірніка, куды ўваходзілі і беларускія вершы паэта. У гэтым пераконвае публікацыя адной беларускай («Ужо птушкі пяюць ўсюды») і дзвюх польскіх мініяцюр Сыракомлі, выбраных для «Кур'ера Літэвскего» Уладзіславам Каратынскім «з падрыхтаванага да друку збору твораў, што былі прапушчаны ў выданні 1872 года»[1]. Аднак па нейкіх прычынах гэты збор твораў усё-такі не трапіў тады ў друк. Пазней, у 1922 годзе, яго сляды з'явіліся зноў. У адным з артыкулаў да шасцідзесяцігоддзя з дня смерці паэта паведамлялася, што «Уладзіслаў Каратынскі, аўтар кнігі «Сыракомля пра сябе», сабраў «на працягу 20 з лішнім гадоў, здаецца, усе творы Кандратовіча з катэгорыі забароненых і дапоўніў гэтую паэзію, пару яе тамоў (якія дагэтуль застаюцца ў рукапісе) усімі вершаванымі творамі, прысвечанымі памяці знакамітага лірніка»[2]. Не ў прыклад гэтаму двухтомніку, іншыя працы Уладзіслава Каратынскага, звязаныя з Сыракомлем, былі надрукаваны. Калі ж узяць пад увагу, што Уладзіслаў Каратынскі прысвяціў паэту не менее за дзесяць публікацый і што амаль усе яны заснаваны на архіўных дадзеных і невядомых матэрыялах, у той час як Людвік Каратынскі напісаў толькі невялікі біяграфічны артыкул пра Сыракомлю і прадмову да варшаўскага выдання паэмы «Улас», а Бруна Каратынскі ўвогуле не апублікаваў ніякіх сыракомлезнаўчых прац, то ёсць падставы меркаваць, што непасрэдны доступ да збораў бацькі, прынамсі да той іх часткі, у якую ўваходзілі рукапісы Сыракомлі, меў адзін Уладзіслаў Кара-

[1] Kurjer Litewski. 1912, 15 wrześ.
[2] Sulimczyk. Poezje Syrokomli // Słowo. 1922, 15 wrześ.

тынскі. Значыць, беларускія вершы Сыракомлі наўрад ці захоўваліся ў Бруна Каратынскага, да якога рэдакцыя «Нашай нівы» звярталася з просьбай прыслаць творы паэта, напісаныя па-беларуску. Напэўна, не было іх і ў Людвіка Каратынскага, з якім, па ўсёй верагоднасці, таксама вяліся аналагічныя перагаворы. Рукапісы паэта знаходзіліся ва Уладзіслава Каратынскага, а ён пад час актывізацыі арганізацыйнай дзейнасці газеты па збіранні беларускамоўных твораў XIX стагоддзя меў якраз намер выдаць неапублікаваныя вершы Сыракомлі, у тым ліку беларускія, і нават падрыхтаваў іх да друку. Больш таго, «Нявыдадзеная паэзія» Сыракомлі, як паведаміў сам У. Каратынскі, у 1914 годзе была здадзена ў набор [1]. Менавіта ў гэты час Максім Багдановіч заўважаў, што «ўсе яго [Сыракомлі] беларускія рукапісы і дасюль чакаюць свайго выдаўца» [2]. Спроба «Нашай нівы» набыць рукапісы беларускіх твораў Сыракомлі ўступіла, такім чынам, у супярэчнасць з планамі ўладальніка гэтых рукапісаў і таму не прынесла станоўчых вынікаў.

Што тычыцца ўкладзенага Уладзіславам Каратынскім двухтомніка забароненых і невядомых твораў паэта-дэмакрата, дык тут ёсць свае загадкі. Па-першае, мы не ведаем, што перашкодзіла яго выданню. Па-другое, яго лёс пасля смерці ўкладальніка (у 1924 годзе) уяўляецца вельмі прыблізна. Няма, напрыклад, упэўненасці, што зборы Уладзіслава Каратынскага перайшлі да малодшага брата поўнасцю. Дакладна вядома толькі, што Бруна Каратынскі стаў уладальнікам назапашаных братам матэрыялаў па гісторыі польскай сталіцы, якія, дарэчы, разам з не-

---

[1] Kondratowicz L. Podróż swojaka po swojszczyźnie. Warszawa, 1914. S. XXX.

[2] Багдановіч М. Зб. тв. Т. 2. С. 226.

каторымі дакументамі сям'і Каратынскіх захоўваюцца ў дзяржаўным архіве Варшавы і Варшаўскага ваяводства. Ці трапілі да Б. Каратынскага паперы Сыракомлі і рукапісны двухтомнік невядомых твораў паэта — гэта застаецца пад пытаннем. Невыпадкова, відаць, у 1935 годзе ў перыёдыцы прамільгнула паведамленне, што «клапатліва захаваныя лісты і рукапісы вершаў Сыракомлі... у цэласці (да пяцісот дакументаў) перададзены ўжо трэцяму пакаленню Каратынскіх...» [1], г. зн. унукам былога сакратара Сыракомлі. Ды і сам Бруна Каратынскі ў сваіх успамінах, напісаных пасля другой сусветнай вайны, не пакінуў ніякіх згадак пра аўтографы вершаў паэта і пра ўкладзены Уладзіславам Каратынскім двухтомнік. Таму, не маючы пэўных звестак пра спадчынную міграцыю гэтых матэрыялаў, нельга ні прыняць, ні абвергнуць агульнапрынятую версію, быццам яны загінулі ў полымі варшаўскага паўстання 1944 г. [2]. Зразумела адно: пошукі архіва Сыракомлі трэба працягваць, тым болей што вершаваныя творы паэта, аўтографы і спісы якіх зберагалі Каратынскія, у нейкай сваёй частцы дубліраваліся ў падрыхтаваным да друку двухтомніку забароненай і невядомай яго паэзіі. У 1973 годзе ў польскім друку прамільгнула паведамленне Ф. Германа, што пісьменніца Моніка Варнэньская пад час свайго знаходжання ў Вільнюсе бачыла беларускія вершы Сыракомлі сярод папераў паэта, што захоўваліся ў яго ўнучкі Людвікі Былінскай [3]. Звестка, прызнацца, сенсацыйная, але не пацверджаная абнародаваннем тэкстаў ці хоць бы асобных вершаваных радкоў. Пошукі ж

---

[1] Gembarzewski M. Sekretarz Syrokomli // Prosto z mostu. 1935. № 6. S. 9.

[2] Korotyński H. Różnie bywało. Warszawa, 1972. S. 22—23.

[3] German F. Jeszcze o pieśni polsko-białoruskiej // Opole. 1973. № 3. S. 30.

беларускамоўнай спадчыны вясковага лірніка ў фондах Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва Літоўскай ССР, куды пасля смерці Л. Былінскай (1969) паступілі матэрыялы яе славутага дзеда, да суцяшальных вынікаў не прывялі: беларускіх вершаў паэта тут няма. Значыць, або яны не дайшлі да архіва, або ў інфармацыю Ф. Германа закралася нейкая недакладнасць.

Спробы выявіць рукапісы невядомых беларускіх твораў Сыракомлі ў архіўных сховішчах Польшчы таксама не мелі поспеху. Аднак пошукавыя магчымасці ў гэтым напрамку далёка яшчэ не вычарпаны, і таму няма пакуль цвёрдых падстаў, каб рабіць песімістычныя вывады.

# «КНЯЗЬ ПАЭТАЎ» У БЕЛАРУСІ



Успрыманне творчасці Яна Каханоўскага ў Беларусі не было пакуль прадметам асобнай увагі. Так сталася, відочна, таму, што фарміраванне новай беларускай літаратуры, якое прыпадае ў асноўным на XIX стагоддзе, разглядалася па сутнасці без рэтраспектыўнага ўліку духоўнакультурных здабыткаў Рэнесансу і барока, з аднаго боку, а з другога — без пэўнага гісторыка-тэарэтычнага асэнсавання шматмоўнасці літаратуры Беларусі як з'явы з разнастайнымі мастацкімі традыцыямі. Між тым пачатак вядомасці вялікага польскага паэта на беларускіх землях быў пакладзены яшчэ пры яго жыцці. Так, гімн Яна Каханоўскага «Чаго хочаш ад нас...» быў змешчаны ў «Канцыянале», які выйшаў у 1563—1564 гадах у нясвіжскай друкарні [1]. Твор Каханоўскага мог трапіць у гэтае выданне рознымі шляхамі, але найбольш верагодна, што ён быў перададзены выдаўцам самім аўтарам пад час знаходжання пры двары Мікалая Радзівіла Чорнага ў Брэсце ці Нясвіжы. Аднак наведанне Каханоўскім радзівілаўскіх рэзідэнцый у Беларусі, гэтаксама, як яго знаёмства з беларускімі рэфармацыйнымі дзеячамі, і перш за ўсё з Сымонам Будным, застаецца гіпатэтычным [2].

Пры ўсім тым паэт пакінуў змястоўныя сведчанні сваёй увагі да Беларусі. Ён напісаў песню «Узяцце

---

[1] Pelc J. Jan Kochanowski: Szczyt Renesansu w literaturze polskiej. Warszawa, 1980. S. 52.

[2] Тамсама.

Полацка» і прысвяціў асобныя творы Мікалаю Радзівілу Чорнаму, яго жонцы Альжбеце і акраверш Крыштофу Радзівілу, а гэта, несумненна, спрыяла знаёмству чытацкай публікі беларускага краю з творчасцю Кахаidоўскага.

Тое, што кнігі паэта траплялі ў Беларусь і чыталіся тут у канцы XVI — першай чвэрці XVII стагоддзя, пацвярджаецца вопісам асабістай бібліятэкі першага збіральніка беларускіх прымавак, гуманіста Саламона Рысінскага, у якой побач з філасофскімі трактатамі старажытных аўтараў і мясцовай палемічнай літаратурай меліся «першыя лацінскія творы Я. Кахаиоўскага» [1]. Прыхільнае стаўленне да іх Рысінскі падмацаваў уключэннем трапных фразеалагізмаў польскага гуманіста ў сваю кнігу «Выслоўі» (1618), хоць у напісаных самім вершаваных прысвячэннях і эпітафіях арыентаваўся ўсё-такі не так на аналагічныя творы Кахаиоўскага, як на старажытнарымскія ўзоры.

Увогуле ж беларуская паэзія канца XVI — пачатку XVII стагоддзяў улічвала версіфікатарскія дасягненні польскага паэта. Прытрымліваючыся сілабічнай сістэмы вершаскладання, беларускія аўтары асвойвалі жанр «ляменту», які вытокамі сваімі часткова звязаны з трэнамі Каханоўскага, але адрозніваецца ад іх барочным спалучэннем панегірычных і элегічных элементаў, больш развітай канфесійнасцю зместу («Лямент... на жалосное преставленіе... Леонтія Карповича...» і інш.).

Адчувальны ўплыў польскага паэта зведаў Сімяон Полацкі, асабліва ў ранні, беларускі перыяд сваёй творчасці. У вершах на старабеларускай, польскай і лацінскай мовах, у тэатралізаваным двухмоў-

[1] Порецкий Я. И. Соломон Рысинский. Solomo Pantherus Leucorussus. Мн., 1983. С. 17.

ным (польска-беларускім) дыялогу «Вирши в Великий Пяток при выносе плащаницы» Полацкі творча дастасоўваў польскую сілабіку да ўсходнеславянскай паэзіі і разам з тым нерашуча, хоць і ўслед за прыкладам майстэрскага выкарыстання Кахаsucceeded ноўскім багацця гутарковай лексікі, ажыўляў інтанацыю сваіх твораў сродкамі народнай мовы. Сімяону Полацкаму, як і яго сучаснікам, найбольш прыдаўся версіфікатарскі вопыт польскага паэта [1].

Як самы прыкметны і значны прадстаўнік польскай рэнесанснай паэзіі, Ян КахаНоўскі пачаў усведамляцца ў сярэдзіне XVIII стагоддзя. Гэтаму спрыяла кніга паэта з Чарналесся «Вершы, сабраныя ў адно, акрамя тых, якія вальнейшымі жартамі ўразлівых чытачоў адштурхоўвалі» (1767), падрыхтаваная да выдання ўраджэнцам Беларусі Францішкам Багамольцам. У сваім імкненні ўзнавіць рацыяналістычныя традыцыі Адраджэння і стварыць рэгламентаваны ўзор паэта мінулага асветнік зрабіў неапраўданую рэвізію твораў Кахаsucceeded ноўскага, прыгладзіў іх старую мову, чым, вядома, збядніў вобраз знакамітага гуманіста і ў нейкай ступені прадвызначыў адносіны рамантыкаў да яго літаратурнай спадчыны. Праўда, пад час палемікі з псеўдакласіцыстамі рамантыкі не заўважылі, што ў перыяд Асветніцтва паэты не толькі наследавалі ў творчасці Каханоўскага сродкі адлюстравання гуманістычнай праграмы часу і інтэлектуальных магчымасцяў чалавека, але і адкрылі для сябе высокі ўзровень пачуццёвасці многіх вершаваных твораў паэта: пад уплывам трэнаў Каханоўскага была напісана «Туга Арфея» Францішка Князьніна. Розпабаковую сувязь з ідэа-

[1] Державина О. А. Симеон Полоцкий в работе над «Псалтырью рифмотворной» // Симеон Полоцкий и его книгоиздательская деятельность. М., 1982. С. 125.

лізаваным вобразам Каханоўскага, з яго вершаванай спадчынай выявіла польскамоўная творчасць ураджэнца Віцебшчыны, малавядомага ў пачатку XIX стагоддзя паэта Юзафа Маралёўскага. І ў псеўдакласіцыстычным «Трэне V», і ў паэме «Храналогія князёў і каралёў польскіх», і ў перадрамантычных песнях «Да Музы», «Да Лютні», «Праклянцце на гадзюк» — творах жанрава разнастайных і непадобных па стылі, мастацкі кантэкст уключаў асацыятыўнае ўяўленне аўтара аб музе Каханоўскага як натхняльным пачатку паэзіі. Агульная ідэйна-мастацкая залежнасць Маралёўскага ад вялікага рэнесанснага паэта выявілася не толькі ў неаднаразовым згадванні яго імя ці роднай мясціны (Чарналесся), але, напрыклад, і ў парафразаваным цытаванні афарыстычных выразаў (паэма «Лютня») або ў запазычанні галоўнага героя (жартоўная паэма «Фаунус»).

Непрыняцце класіцызму XVIII стагоддзя з яго асветніцкім культам розуму і разважлівасці, з яго напышлівай рыторыкай і жанравай іерархіяй нейкі час не дазваляла рамантыкам убачыць народную аснову паэзіі Яна Каханоўскага, у прыватнасці ў яго песнях. Зарыян Даленга-Хадакоўскі, які стаяў ля вытокаў беларускай археалогіі, этнаграфіі і фалькларыстыкі, зазначаў: «Моцна трэба шкадаваць, што... у час Жыгімонта, прыхільны да навук і айчыннай мовы, у час не такой дрэннай сядзібы селяніна не думалі пра збіранне песень. Дзіўна, што Ян Каханоўскі, шмат пераносячы прыгожай прастаты з-пад вясковай страхі ў свае вершы, не прыйшоў да такой думкі» [1].

З тых жа меркаванняў зыходзіў, як быццам, і заснавальнік польскага рамантызму, ураджэнец бе-

---

[1] Chodakowski-Dolęga Z. O słowiańszczyźnie przed chrześciańskiej. Kraków, 1835. S. 11.

ларускай зямлі Адам Міцкевіч, калі ў прадмове да пецярбургскага выдання сваёй кнігі «Паэзія» (1829) гаварыў пра вершаваную драму Каханоўскага «Выгнанне паслоў» як пра твор фармальна недасканалы, але больш папракаў класіцыстаў пазнейшых, якім, у адрозненне ад выдатнага рэнесанснага паэта, добра абазнанага з міфалогіяй і старажытнымі аўтарамі, не ўдаваліся грэчацкія вобразы [1]. Цікава, што пра гэта гаварыў аўтар верша «Шашкі», які пераклікаецца з «Шахматамі» Каханоўскага. Пазней, у 1841 годзе, вялікі навагрудчанін прысвяціў Каханоўскаму дзве лекцыі, у якіх не прамінуў адзначыць, што паэт з Чарналесся не трымаўся адной толькі антычнай традыцыі, а, звярнуўшыся да народных песень, здолеў узняць іх да класічнага ўзроўню. «З твораў яго,— падкрэсліў Адам Міцкевіч,— найбольш цікавай арыгінальнай працай ёсць несумненна цыкл «Трэнаў», складзеных пасля смерці дзіцяці. Нічога падобнага мы не знаходзім ні ў адной краіне» [2].

У першай палове XIX стагоддзя імя Яна Каханоўскага, можна сказаць, не сыходзіла са старонак польскай перыёдыкі. Яно суправаджала амаль усе больш-менш прыкметныя літаратурныя з'явы. «Дзеннік Віленьскі», напрыклад, змяшчаў у 1817 годзе фрашкі Ігната Шыдлоўскага, якія таленавіта пацвярджалі жыццядзейнасць распрацаванага Каханоўскім паэтычнага жанру, арыентаванага галоўным чынам на высмейванне і выкрыццё чалавечых заган. Пра тагачасную славу паэта на тэрыторыі Беларусі яскрава сведчаць некаторыя спісы ананімнай паэмы «Тарас на Парнасе». У тэксце гэтага папулярнага

---

[1] Mickiewicz A. Dzieła wszystkie / Zebrane i opracowane staraniem komitetu redakcyjnego. Warszawa, 1952. T. 5. S. 320.
[2] Тамсама. Т. 9. S. 134—135.

твора, што быў запісаны Вінцэнтам Дуніным-Марцінкевічам і выдадзены пасля яго смерці М. Доўнар-Запольскім, невядомы беларускі аўтар імя Каханоўскага называе побач з імёнамі Міцкевіча, Пушкіна і Гогаля ў сувязі з іх наведаннем Парнаса [1].

На меры сцвярджэння рамантызму як мастацкага метаду, народжанага новым тыпам адносін да рэчаіснасці, адбывалася адкрыццё рамантычных рыс (у прыватнасці, фалькларызму) у паэзіі Яна з Чарналесся і прызнанне класічных, узнятых і ацэненых спачатку класіцыстамі, асаблівасцяў яго творчасці. Гэта падштурхнула Яна Чачота апеляваць да аўтарытэту рэнесанснага паэта пры гаворцы аб паступовым удасканаленні арфаграфіі [2], а таксама наблізіла Рамуальда Падбярэскага да супастаўлення творчасці Тадэвуша Лады-Заблоцкага і Яна Каханоўскага, ад якога аўтар паэмы «Ваколіцы Віцебска» «навучыўся прыху прастаты» [3].

З пісьменнікаў сярэдзіны XIX стагоддзя найбольшую ўвагу Яну Каханоўскаму надаваў польскі і беларускі паэт-дэмакрат, прызнаны пясняр беларускай зямлі Уладзіслаў Сыракомля. Ёсць сведчанні, што яшчэ да выступлення ў друку, пад час працы ў канцылярыі кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі ў Нясвіжы ён асабліва любіў чытаць Каханоўскага [4]. У яго асабістай бібліятэцы, мы ведаем, меліся кнігі вершаў Яна Каханоўскага. Але знаёмства вясковага лірніка з творчасцю паэта-гуманіста не абмяжоўвалася толькі імі. Сыракомля пераклаў значную частку лацінскамоўных твораў Каханоўскага (пераважна элегіі і оды), якія склалі другі том яго

---

[1] Кісялёў Г. Пошукі імя. Мн., 1978. С. 30.

[2] Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст./Склад. Г. В. Кісялёў. Мн., 1977. С. 63.

[3] Тамсама. С. 92.

[4] Fornalczyk F. Hardy lirnik wioskowy. S. 53.

«Перакладаў польска-лацінскіх паэтаў». У прадмове да гэтых перакладаў Сыракомля раскрыў галоўную прычыну свайго захаплення творчасцю вялікага паэта. «Мы таму яго яшчэ вельмі любім,— прызнаваўся вясковы лірнік,— што ён раскрыўся нам у творах са сваімі вартасцямі і недахопамі» [1].

Аб'ёмісты нарыс Сыракомля прысвяціў Кахаshowскаму ў «Гісторыі літаратуры Польшчы», у якім назваў Яна з Чарналесся «вешчуном» і ўслед за іншымі «князем паэтаў». «Каханоўскі,— пісаў ён, — хоць і быў у аснове сваёй класікам, усё ж застаўся самым першым і любімым нацыянальным паэтам, бо быў перш за ўсё палякам і дзіцём свайго веку» [2].

У Сыракомлевым уяўленні муза Каханоўскага не выклікала супярэчлівых сумненняў: яна паяднала ў сабе два паэтычныя пачаткі — розум і пачуццё, злучыла класіцызм і рамантызм. Менавіта пад такім кутом гледжання і пракаменціраваў пераклады з Каханоўскага Вінцэсь Каратынскі, які выдаў 10-томны збор паэтычных твораў свайго літаратурнага настаўніка Уладзіслава Сыракомлі. Дарэчы, імя Каханоўскага Каратынскі згадваў неаднойчы і ў іншых выпадках — у нарысе «Саламон Рысінскі», у перапісцы.

І няхай іншыя пісьменнікі Беларусі дакументальна не засведчылі свайго стаўлення да выдатнага польскага паэта эпохі Адраджэння, тым не менш, зыходзячы з выказванняў Сыракомлі і Каратынскага, можна меркаваць, што тыя пісьменнікі, якія прычыніліся сваёй творчасцю да станаўлення новай беларускай літаратуры, г. зн. пісалі на дзвюх мовах, не прайшлі міма літаратурнай спадчыны Яна Каха-

[1] Kondratowicz L. Dzieje literatury w Polsce. Warszawa, 1875. T. 2. S. 11—12.

[2] Тамсама.

ноўскага. Ян Кахаavoўскі быў для іх не толькі ўзорам версіфікатарскай культуры, але і прыкладам дзвюхмоўнай творчасці, яскравым прыкладам пераходу з агульнаеўрапейскай лацінскай мовы на родную.

І Ян Баршчэўскі, і Ян Чачот, і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, і Францішак Багушэвіч, і Янка Лучына — амаль усе беларускія пісьменнікі XIX стагоддзя так ці інакш скіроўвалі свой погляд да вытокаў беларускіх літаратурных традыцый. З аднаго боку — гэта скарынінскія часы і народная творчасць, а з другога — польскія асветнікі, якія нанава адкрылі Яна Кахаnoўскага, і рамантыкі, якія паглыбілі разуменне яго фалькларызму. Успрыняццю літаратурнай спадчыны Каханоўскага беларускімі пісьменнікамі XIX стагоддзя спрыяла і барацьба асветнікаў супраць лацінскай мовы, і рэзкі паварот рамантыкаў да вусна-паэтычных крыніц свайго народа, да мясцовых тэм, калі і ў адным, і ў другім выпадку Каханоўскі характарызаваўся як прыклад, варты наследавання.

Вядомасць Каханоўскага ў Беларусі, дзе ён апублікаваў адзін з сваіх ранніх твораў, набывае сёння формы літаратуразнаўчага асэнсавання. Імя выдатнага польскага паэта эпохі Адраджэння ўсё часцей згадваецца ў працах беларускіх літаратараў, якія вывучаюць пераемнасць славянскіх традыцый.

# НА СТАРОНКАХ «КУР'ЕРА...»

Адсутнасць грунтоўных даведнікаў, у якіх давалася б апісанне змешчаных у розных перыядычных выданнях XIX стагоддзя матэрыялаў, звязаных з культурным жыццём Беларусі, вельмі ўскладняе ўвядзенне ва ўжытак разнастайных звестак і фактаў, што назапашаны перыёдыкай, але недастаткова асветлены або зусім не выкарыстаны ў тагачасных мемуарах, асобна выдадзеных працах, а таксама не захаваных архівамі. Унікальнасць жа некаторых матэрыялаў перыёдыкі, непаўторнасць публікацый, неўзнаўляльнасць газетных звестак нярэдка надаюць ім значэнне першакрыніц, і каштоўнасць вяртання іх з небыцця заўважная. Таму выпадковыя, спарадычныя, часта інтуітыўныя пошукі адпаведных матэрыялаў у перыядычных выданнях мінулага стагоддзя маюць значна меншую перспектыву, чым франтальны прагляд газет і часопісаў, якія выходзілі ў Мінску, Вільні, Пецярбургу, Варшаве і іншых гарадах, і ў першую чаргу тых, дзе, наводле папярэдніх назіранняў, друкаваліся ці маглі друкавацца ўраджэнцы Беларусі.

Улічваючы тое, што Вільня была агульнапрызнаным культурным цэнтрам усяго так званага Паўночна-Заходняга краю, а «Кур'ер Віленьскі», які выходзіў тут, уважаўся за галоўную краёвую газету, коратка спынюся на яго характарыстыцы і некаторых матэрыялах.

«Кур'ер Віленьскі» меў сваіх газет-роданачальніц. Імі лічацца «Газэта Віленьска», якая пачала выходзіць у 1760 годзе і пад такою назваю праіснавала

да 1794 года, і «Кур'ер Літэвскі» (1812—1840). Ён выдаваўся пры універсітэце. Яго рэдактарамі былі Калікст Даніловіч, Эўзэбіюш Слявацкі, Антон Марціноўскі [1]. З 1834 года паводле царскага загада газета была ператворана ў афіцыйны орган краю, падзелена на афіцыйную і неафіцыйную часткі і стала выходзіць па дзвюх мовах — рускай і польскай. «Пасля 1831 года,— піша Ян Кухажэўскі,— перыядычны друк на Літве заціх. Наступіла забарона друкавання ў Вільні польскіх выданняў, за выключэннем «Кур'ера Літэвскего» [2]. У 1840 годзе — па загаду міністра асветы графа Уварава газета перайшла ў распараджэнне Віленскага дваранскага Інстытута, атрымаўшы назву «Кур'ер Віленьскі» («Виленский вестник»). На працягу дваццаці гадоў рэдагаваў яе вядомы польскі паэт Беларусі Антон Адынец. Увесь гэты час, застаючыся афіцыйным органам краю, газета з'яўлялася па сутнасці бюлетэнем урадавых распараджэнняў. Літаратурныя матэрыялы на яе старонкі не траплялі, а хранікальныя паведамленні рэдка мелі якое-небудзь дачыненне да грамадска-культурных з'яў у краі. Карацей кажучы, газета не мяняла свайго характару нават пры некаторай лібералізацыі палітыкі самадзяржаўя ў «заходніх губернях» і паслабленні цэнзурнага ўціску. Таму, натуральна, ва ўмовах ажыўленага грамадскага руху ў 50-я гады XIX стагоддзя «Кур'ер Віленьскі» прыйшоў у заняпад. Ён не меў папулярнасці сярод чытачоў і ледзь-ледзь набіраў чатырыста падпісчыкаў. Такі стан газеты не задавальняў і мясцовыя ўлады. Гэта дапамагло Ада-

---

[1] Brensztejn M. Adam-Honory Kirkor wydawca, redaktor i właściciel drukarni w Wilnie od roku 1834 do 1867. Wilno, 1930. S. 35.

[2] Kucharzewski J. Czasopiśmiennictwo polskie wieku XIX w Królestwie, na Litwie i Rusi oraz na emigracji. Warszawa, 1911. S. 38.

му Кіркору паспяхова весці перагаворы з начальствам, каб узяць «Кур'ер Віленьскі» ў арэнду.

Новы рэдактар абавязаўся выдаваць газету на польскай і рускай мовах і захаваць афіцыйны аддзел для друкавання ўрадавых пастаноў і распараджэнняў. Толькі па-польску дазвалялася публікаваць артыкулы, якія «могуць пазнаёміць мясцовую грамадскасць з найбольш выдатнымі з'явамі ў Расіі, а таксама матэрыялы навуковыя і літаратурныя (у вершах і прозе), крытычныя і бібліяграфічныя агляды, карэспандэнцыі з розных месц, усякую сумесь і іншыя артыкулы, прадугледжаныя ў праграме 1833 года» [1]. Выданне газеты было прынята на даволі суровых умовах, у выпадку парушэння якіх А. Кіркор мог быць пазбаўлены рэдактарскіх правоў. Тым не менш абноўлены «Кур'ер Віленьскі» ў першым нумары абвясціў, што «мае намер сур'ёзна аднесціся да вывучэння свайго краю, бо да апошняга часу ўгодніцтва і чыноўніцкае жаданне выслужыцца ўтойвалі праўду...».

З першага студзеня 1860 года на старонках газеты, фармат якой значна павялічыўся, пачынаюць з'яўляцца матэрыялы па самых разнастайных пытаннях (гісторыі, этнаграфіі, літаратуры, культуры, археалогіі, краязнаўству, эканоміцы і інш.), друкуюцца карэспандэнцыі з розных месц Беларусі. Усё гэта не магло не выклікаць патрыятычнага рэзанансу сярод перадавой інтэлігенцыі краю. Вакол газеты згрупаваліся асноўныя грамадска-культурныя і літаратурныя сілы Беларусі і Літвы. Рэарганізаваны «Кур'ер Віленьскі» праз два месяцы налічваў ужо 1070 падпісчыкаў. Адзін з іх — пінскі жыхар Машыньскі ў лісце да Уладзіслава Сыракомлі паведаміў, што ў іх павеце «Кур'ер Віленьскі» здабыў агульную сімпа-

[1] Brensztejn M. Adam-Honory Kirkor... S. 36.

тыю... таму што віленскі, што свой» [1]. І хоць папулярнасць «Кур'ера...» расла з кожным нумарам, ён, абмежаваны самадзяржаўнай цэнзурай, не мог поўнасцю адпавядаць тагачаснаму ўзроўню грамадскай актыўнасці ў краі. Газету той-сёй папракнуў у вернападданніцтве. На гэта рэдакцыя адклікнулася зваротам да сваіх чытачоў, у якім гаварылася: «Мы стараліся выказаць нашы перакананні ўсёй дзейнасцю, а не толькі адной дэкларацыяй... На вялікім шляху грамадскага жыцця мы ўсе імкнёмся да адной святой мэты, адны шпарчэй, другія павольней. Мы не выказваем нашых перакананняў і імкненняў, бо яны ж адзіныя, агульныя для нас усіх» [2].

Ужо сам факт такога звароту гаворыць за тое, што газета не знаходзілася на згодніцкіх пазіцыях. А дэманстрацыя лаяльнасці ў адносінах да ўлад была, відаць, неабходна А. Кіркору дзеля таго, каб якім-небудзь чынам ўратаваць ад цэнзурных замахаў друкаваную трыбуну, з якой час ад часу можна было б сказаць патрыятычнае слова. Не дарма дзейнасць «Кур'ера...» ў 1860—1862 гадах не задавальняла ўлады, і пазнейшымі русіфікатарамі расцэньвалася як «тэндэнцыйная» [3]. У адной з прац апошняй чвэрці XIX стагоддзя сцвярджаецца, што «Виленский вестник» з'яўляўся органам выключна мясцовага патрыятызму; у ім бачылася адухаўленне летуценнымі надзеямі і жаданне накіраваць розумы да адной агульнай мэты, так што газета складала як бы палітычны польскі часопіс, які выдаваўся па-за межамі Расійскай імперыі» [4].

[1] ЦДАЛіМ ЛітССР. ф. 96. воп. 1, адз. зах. 91, арк. 2.

[2] Baczni i oględni... //Dodatek do «Kurjera Wileńskiego», 1860, 31 maja.

[3] Миловидов А. Н. Пятидесятилетие «Виленского вестника» русской редакции. Вильна, 1914. С. 14—15.

[4] Сборник статей, разъясняющих польское дело по отношению к Западной России /Составил и издал С. Шолкович. Вильна, 1887. Вып. 2. С. 446.

Адам Кіркор не быў прыхільнікам рэвалюцыйных змен існуючага парадку. Ён прытрымліваўся асветніцкіх поглядаў, і ўся яго дзейнасць насіла пераважна сепаратысцкі характар. Нягледзячы на некаторыя ліберальныя хістанні, Кіркор шмат зрабіў для адраджэння беларускай культуры як сваімі навуковымі працамі, так і грамадскай дзейнасцю, якая часткова праявілася і ў кіраванні газетай «Кур'ер Віленьскі». Кіркор прыцягнуў да пастаяннага супрацоўніцтва ў газеце вядомых тагачасных вучоных, публіцыстаў, літаратараў, якія жылі ў Вільні. Дзякуючы яго таленту арганізатара аўтарскі актыў «Кур'ера...» бесперапынна разрастаўся, а рэдакцыя імкліва набывала бясспрэчны аўтарытэт цэнтра культурнай думкі Беларусі і Літвы.

Змяшчаючы розныя матэрыялы, у якіх паведамлялася пра тыя ці іншыя падзеі ў краі, публікуючы краязнаўчыя нататкі, а таксама артыкулы, прысвечаныя літаратуры, народнай творчасці, газета не толькі адлюстроўвала тагачасны грамадска-культурны рух у краі, але і садзейнічала яго ажыўленню.

Амаль у кожным нумары мы можам знайсці матэрыял, звязаны з Беларуссю [1]. Часцей за ўсё гэта карэспандэнцыі, у якіх расказваецца пра мясцовыя культурныя з'явы. Прытым тыповым для большасці допісаў з'яўляецца тое, што кожны аўтар закранае не адно, а некалькі пытанняў роднага горада, мястэчка, павета і робіць экскурс у гісторыю сваёй мясцовасці. І гэта не проста журналісцкі прыём, а перш за ўсё — усеагульнае імкненне падкрэсліць адметнасць

---

[1] У процівагу афіцыйным уладам, якія з мікалаеўскіх часоў для назвы беларускіх зямель выкарыстоўвалі тэрмін Заходні ці Паўночна-Заходні край, у газеце «Кур'ер Віленьскі» па гістарычнай традыцыі Гродзенская, Віленская і нярэдка Мінская губерні называліся літоўскімі, а Віцебская і Магілёўская — Белай Руссю.

свайго краю, імкненне, выкліканае ўсведамленнем этнаграфічнай самабытнасці беларускага народа.

З карэспандэнцый 1860 года вылучаецца нататка, надрукаваная ў «Кур'еры...» за 26 студзеня (№ 8). Пад ёй стаіць подпіс «B. D-da». Гэта крыптанім беларуска-польскага пісьменніка Арцёма Вярыгі-Дарэўскага (1816—1884), утвораны ад псеўданіма Беларуская Дуда. Зазначыўшы, што і Віцебскі край (радзіма Вярыгі-Дарэўскага) не горшы за іншыя, што і тут тое-сёе робіцца, аўтар расказвае пра мясцовыя культурныя навіны і паведамляе пра намер грамадскасці выдаць «невялічкую кніжачку» на карысць дзяцей віцебскага сталяра Яна Матусевіча, якая будзе складацца з твораў тутэйшых літаратараў. Гэтае пачынанне, пішацца ў нататцы, «ахвотна падтрымаў» былы выдавец альманаха «Рубон» Казімір Буйніцкі.

Карэспандэнцыя ўводзіла чытача ў курс блізкіх Вярыгу літаратурных спраў Віцебшчыны. Сёння ж яна пралівае святло на публіцыстычную дзейнасць аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, на яго супрацоўніцтва ў старэйшай краёвай газеце. Генадзь Кісялёў, які выявіў нататку Вярыгі, лічыць «характэрным прыкладам журналісцкай работы» аўтара «Гутаркі аб сваяку». Яна дала гісторыку падставу «намацаць некаторыя... літаратурныя і грамадскія сувязі Вярыгі» [1].

Другая карэспандэнцыя беларуска-польскага паэта дазволіла Кісялёву атрымаць даволі істотную інфармацыю пра культурна-асветніцкую працу Сымона Вярыгі (брата Арцёма Вярыгі-Дарэўскага), які, «нягледзячы на ўсе матэрыяльныя цяжкасці, на працягу 6 год утрымліваў у Віцебску публічную чытальню» [2].

---

[1] Кісялёў Г. Загадка беларускай «Энеіды». Мн., 1971. С. 185.

[2] Тамсама. С. 164.

Тым самым былі пашыраны межы канкрэтнай гутаркі пра культурнае жыццё Віцебска ў 50-я гады XIX стагоддзя.

Несумненную цікавасць мае таксама матэрыял, надрукаваны ў «Кур'еры...» (№ 10) з выпадку ўзнікнення публічнай бібліятэкі ў Гродне. Знаёмства з ім дапамагае раскрыць прынцыпы і ўмовы арганізацыі гродзенскай бібліятэкі як культурна-асветнай грамадскай губеранскай установы. Мы даведваемся, напрыклад, што яна была створана на сродкі, сабраныя «з ахвяравання аднаго працэнту заробку, які атрымліваецца мясцовымі чыноўнікамі ўсіх ведамстваў», што напачатку яна камплектавалася з перыядычных выданняў і г. д.

Вартыя ўвагі і карэспандэнцыі з Мінска. 25 лютага (№ 25) «Кур'ер...» змясціў нататку «Пра мінскі тэатр» за подпісам Іван Пішыпрапала, пад якім, па ўсёй верагоднасці, хаваўся Іван Гольц-Мілер, бацька вядомага паэта-рэвалюцыянера, а праз два месяцы, 22 красавіка (№ 32), у газеце з'явілася карэспандэнцыя, падпісаная І. Г. (крыптанім таго ж І. Гольц-Мілера), пра арганізаваны мінскім настаўнікам музыкі Паўловічам канцэрт.

Карціну культурнага жыцця тагачаснага Мінска значна дапаўняе заметка Антона з Пагоста (№ 71). Перш за ўсё яна адрозніваецца ад папярэдніх дзвюх карэспандэнцый сваёй змястоўнасцю і тым, што выразна акрэслівае грамадзянскія пазіцыі аўтара, гарачага прыхільніка «краёвай» літаратуры, якая, «скінула з сябе плашч пераймання і апынулася ў сваім родным адзенні». Аглядаючы культурныя дасягненні роднага горада, Антон з Пагоста з гонарам падкрэслівае, што калі зусім нядаўна ў Мінску была толькі адна друкарня, якая «штампавала на папяроснай паперы ўрадавыя загады з бясконцымі памылкамі», і адна вандроўная кнігарня братоў Бейліных, то цяпер

тут налічваецца тры друкарні, дзве літаграфіі і чатыры кнігарні. Прытым аўтар не проста называе іх і ўладальнікаў, а, абапіраючыся на факты, дае агульную характарыстыку кожнай. Прыведзеныя ім звесткі каштоўныя ў тым сэнсе, што дазваляюць меркаваць пра выдавецкія інтарэсы і напрамак дзейнасці мінскіх друкарняў, а таксама пра падбор літаратуры ў кнігарнях братоў Бейліных, Аляксандра Валіцкага і інш.

Сярод іншых карэспандэнцый «Кур'ера...» 1860 года, у якіх закранаецца культурнае жыццё Беларусі, варта адзначыць ліст з Магілёва за подпісам Г. С., надрукаваны ў газеце 22 красавіка (№ 32). У ім паведамляецца пра сакавіцкія канцэрты ў Магілёве (адзін быў дадзены на карысць нядзельных школ), называюцца ўсе іх удзельнікі і асабліва адзначаюцца прыхільна сустрэтыя публікай выканаўцы.

У нататках, не прысвечаных культурным з'явам, таксама ёсць цікавыя звесткі і назіранні. Узяць хоць бы ліст Эдуарда Л-ко (1860, № 89). Карэспандэнт толькі мімаходзь упамінае пра будаўніцтва касцёла ў Пружанах паводле плана «вядомага варшаўскага архітэктара Марконі» (па ўсёй верагоднасці, Генрыка Марконі). А між тым факт гэты сам па сабе мае цікавасць, бо ў ліку прац Г. Марконі план Пружанскага касцёла даследчыкі не называюць [1]. Ліст Эдуарда Л-ко адносіцца да такіх карэспандэнцый, праз якія газета мела на мэце пазнаёміць сваіх чытачоў з рознымі мясцінамі краю, паказаць узровень іх грамадскага руху. Гэтаму прызначэнню адпавядае і карэспандэнцыя з Мінска, змешчаная ў 37 і 38 нумарах «Кур'ера...» за 1860 год.

У тым жа годзе «Кур'ер Віленьскі» (№№ 59—61)

---

[1] Łoza S. Architekci i budowniczowie w Polsce. Warszawa, 1954. S. 188—191.

апублікаваў вялікі матэрыял, які па характары зместу трэба разглядаць як артыкул, хоць рэдакцыяй газеты ён быў аднесены да разраду карэспандэнцый. Аўтар артыкула — Эдуард Паўловіч, ураджэнец Беларусі, мемуарыст і выдатны знаўца айчыннай і замежнай архітэктуры і жывапісу. Спасылаючыся на канкрэтныя прыклады, ён выкрывае прычыны заняпаду краёвай архітэктуры ў XIX стагоддзі і ўзнімае пытанне пра развіццё дойлідства і мастацкіх навук у краі. Калі ўлічыць, што вывучэнне гісторыі беларускай архітэктуры з-за адсутнасці шматлікіх неабходных матэрыялаў сутыкаецца з цяжкасцямі, вырашыць якія можна толькі пры самых ашчадных адносінах да ўсякай, у тым ліку і перыядычнай публікацыі па тэме, то залучэнне артыкула Э. Паўловіча ў актыўны фонд крыніц для даследавання архітэктурнай культуры і жывапісу Беларусі, відаць, нельга пазбягаць.

За межы звычайнай карэспандэнцыі выходзіць і публіцыстычнае выступленне Уладзіслава Сыракомлі, надрукаванае ў «Кур'еры...» (№ 72) у форме ліста да рэдактара пад загалоўкам «Справы вандалізму». Дбаючы пра лёс культурных набыткаў краю, паэт-дэмакрат з абурэннем гаворыць пра варварскія адносіны да помнікаў культуры ў сваіх «колішніх ваколіцах» (Стоўбцах і Міры) і прапануе завесці ў газеце спецыяльную рубрыку для выкрыцця «спраў вандалізму». Можа, тады, піша Сыракомля, страх перад публічнай агалоскай упыніць некаторых мясцовых «вандалаў» і змусіць іх шанаваць помнікі мінуўшчыны. Гэтае выступленне папулярнага польска-беларускага паэта, страснага патрыёта сваёй радзімы, зусім нязначная частка з таго, што было зроблена ім для зберажэння і развіцця беларускай культуры.

У шэрагу беларускіх матэрыялаў 1860 года асабліва месца займае краязнаўчы нарыс М. Дзмітрые-

ва «Возера Свіцязь», змешчаны ў № 41. У ім аўтар апісвае агульны выгляд, памеры, глыбіню і берагі «апаэтызаванага народнай фантазіяй... апетага Міцкевічам» возера і пераказвае тутэйшую легенду пра яго ўзнікненне. Дарэчы заўважыць, што ў кнігу М. А. Дзмітрыева, якая з'явілася вынікам больш чым дзесяцігадовай працы па збіранні беларускага фальклору, легенда аб паходжанні Свіцязі не трапіла[1].

Такім чынам, асвятленне грамадска-культурнага руху Беларусі на старонках «Кур'ера...» у 1860 годзе ажыццяўлялася пераважна праз карэспандэнцыі з месц. На аснове ўсіх апісаных публікацый можна гаварыць пра адносна шырокі тэматычны дыяпазон гэтага асвятлення.

Рост цікавасці да зямель так званага Паўночна-Заходняга краю, актывізацыя мясцовай інтэлігенцыі ў справе вывучэння гісторыі Беларусі, побыту і вуснай творчасці беларускага народа, якія праходзілі ў атмасферы абвастрэння сялянскага пытання і адмены прыгоннага права,— усё гэта не прамінула адбіцца на характары матэрыялаў, што дасылаліся ў «Кур'ер...» у 1861 годзе.

Побач са шматлікімі артыкуламі і нататкамі, прысвечанымі праблеме вызвалення сялян з-пад прыгоцу, «Кур'ер Віленьскі» друкуе ў гэты час працы этнаграфічнага і фальклорнага парадку. Адзін за адным, з невялікім перапынкам, у газеце былі змешчаны артыкулы М. Дзімітрыева «Паданне аб Лоўчыцах» (№ 13) і «Вясельны абрад у вёсках Наваградскага павета» (№ 20 і 26). У апошнім аўтар з сумленнай падрабязнасцю апісвае беларускі вясельны рытуал (сватанне, запоіны, каравай, пасад маладога, расплятанне касы і г. д.) і прыводзіць тэксты песень,

[1] Дмитриев М. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильна, 1869.

якімі суправаджаецца кожны абрадавы этап. Гэтае апісанне, як частку вясельных беларускіх абрадаў, М. Дзімітрыеў уключыў пазней у свой «Збор песень, казак, абрадаў і звычаяў сялян Паўночна-Заходняга краю», што, мне здаецца, дазваляе этнографам і фалькларыстам правесці цікавыя назіранні над тымі — няхай нязначнымі — змяненнямі, якія былі ўнесены ў кніжны варыянт.

Крыху часцей у «Кур'еры...» з'яўляліся матэрыялы, прысвечаныя беларускай этнаграфіі часткова. Характэрны ў гэтых адносінах артыкул Уладзіслава Друі «Беларускі селянін» (№ 62), дзе з ліберальна-асветніцкіх пазіцый аналізуюцца некаторыя асаблівасці побыту беларусаў. Да артыкула Друі прымыкае карэспандэнцыя з Наваградскага павета (№ 69). У ёй невядомы аўтар спрабуе растлумачыць паходжанне «дзядоў» і развіццё памінальнай абраднасці ў Беларусі.

Заўвагі пра побыт і культуру беларускага сялянства маюцца ў самых розных паводле сваёй тэматыкі публікацыях 1861 года. Гэта яскрава сведчыць пра тое, што культура і побыт беларусаў усё больш і больш прыцягвалі ўвагу не толькі вучоных і аматараў-даследчыкаў, але і той часткі інтэлігенцыі, якая ніколі не займалася фальклорна-этнаграфічнымі пытаннямі.

У шматлікіх артыкулах і карэспандэнцыях вядзецца гаворка пра неабходнасць палепшання становішча сялянства і адначасна закранаюцца (праўда, у самых агульных рысах) пытанні пашырэння асветы сярод простага люду. З матэрыялаў, спецыяльна прысвечаных культурна-асветніцкай справе ў вёсцы, вылучаецца артыкул Уладзіслава Сыракомлі «Вандроўныя гандляры ў Літве...», надрукаваны ў «Кур'еры...» (№ 94 і 95) пад рубрыкай «Мясцовы агляд». Тут Сыракомля выказвае думку, што каб далучыць

народ да асветы, важна пісаць творы «на зразумелай яму мове» і выдаваць большую колькасць танных кніжак, якія «прынясуць карысць, навуку і ўцеху». Лічачы галоўнымі агентамі асветы ў вёсцы вандроўных кнігагандляроў, аўтар артыкула адзначае, што іх у краі адзінкі (цёплыя словы адрасаваны прадаўцу-вандроўніку з Крэва), і выступае за пашырэнне вандроўнага кнігагандлю.

Выключную цікавасць мае артыкул Сыракомлі «Творы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча», змешчаны ў 19 і 20 нумарах «Кур'ера...». Ён доўгі час не трапляў на вочы даследчыкам творчасці Дуніна-Марцінкевіча і гісторыкам беларускай літаратуры. Упершыню на яго звярнуў увагу А. Мальдзіс [1].

Ухваляючы працу Марцінкевіча на беларускай ніве і заклікаючы яго пісаць для народа, Сыракомля прыкладаў нямала намаганняў і да таго, каб сваю паэзію таксама наблізіць да «братоў у капоце і братоў у сярмязе», імкнуўся надаваць вершам гутарковую прастату. Пра гэтую якасць яго твораў з вялікай прыхільнасцю гаворыць літаратурны аглядальнік «Кур'ера...» В. Пшыбыльскі ў сувязі з выхадам 6-га тома «Гутарак» Сыракомлі (1861, № 38).

Акрамя апісаных артыкулаў Сыракомля змясціў у 1861 годзе ў «Кур'еры...» яшчэ не менш за дзесяць розных прац. У іх ліку вялікае даследаванне «Жыццё і творчасць Ігната Ходзькі» (№ 75—80, 82—83, 89) і літаратурныя разважанні «Пару думак пра паэзію» (№ 14). Пэўную цікавасць уяўляе матэрыял «Валожын — мястэчка ў Ашмянскім павеце» (№ 93), пададзены ў форме падарожных нататак. У гэтым «Мясцовым аглядзе» Сыракомля расказвае пра геаграфічнае становішча і «фізіяномію» мястэчка, пра яго мінулае. Адсюль, між іншым, мы даведваемся,

---

[1] Мальдзіс А. Творчае пабрацімства. Мн., 1966. С. 115—117.

што ў сярэдзіне XIX стагоддзя ў Валожыне налічвалася 1535 жыхароў мужчынскага полу і што тут у 1815 годзе пажарам былі знішчаны стары драўляны касцёл і кляштар разам з архівам і бібліятэкай.

З публікацый 1861 года варта ўвагі карэспандэнцыя невядомага аўтара з Магілёўскай губерні пра Горы-Горацкі земляробчы Інстытут, якая была надрукавана ў 59 і 60 нумарах «Кур'ера...». Прыведзеныя ў ёй звесткі маюць значэнне для даследавання асветы і навукі Беларусі ў XIX стагоддзі. Карэспандэнцыя знаёміць з гісторыяй арганізацыі Інстытута, з яго навуковай базай і структурай. Імкнучыся ўсебакова асвятліць дзейнасць адзінай вышэйшай навучальнай установы на тэрыторыі тагачаснай Беларусі, аўтар допісу інфармуе чытачоў газеты пра сродкі, якія ідуць на ўтрыманне Інстытута, характарызуе яго факультэты і некалькі радкоў прысвячае выкладчыкам. Больш падрабязна пра выкладчыкаў Горы-Горацкага Інстытута гаворыцца ў матэрыяле, апублікаваным у нумарах 70 і 71 «Кур'ера...» за 1862 год.

Разгледжаныя матэрыялы дазваляюць думаць, што адлюстраванне культурнага жыцця Беларусі на старонках газеты «Кур'ер Віленьскі» ў 1861 годзе ў параўнанні з папярэднім годам набывала новую якасць: больш пэўна пачынала гучаць уласна беларуская тэма. Праўда, у публікацыях 1862 года належнага развіцця яна не атрымала.

У 1862 годзе ў газеце па-ранейшаму шырока абмяркоўвалася сялянскае пытанне. «Кур'ер...» настаянна інфармаваў сваіх чытачоў пра дзейнасць губернскіх і павятовых дваранскіх камітэтаў па правядзенні рэформы. Аўтары шматлікіх артыкулаў і карэспандэнцый, прытрымліваючыся пераважна ідэі класавага салідарызму, далей гаворкі пра палепшанне жыццёвых умоў сялянства ў межах існуючага ладу не ішлі, а тыя, хто думаў пра больш радыкаль-

ныя меры, наўрад ці маглі выказацца адкрыта ў падцэнзурных выступленнях. Прысвечаныя сялянскаму пытанню допісы, што дасылаліся з розных мясцін Беларусі, змяшчаюць у сабе яшчэ і этнаграфічныя звесткі.

Як і раней, «Кур'ер Віленьскі» друкаваў матэрыялы, звязаныя з вывучэннем краю. Найбольшую цікавасць уяўляюць «Лісты з падарожжа па краі» Эдуарда Хлапіцкага. Яны былі змешчаны ў трох майскіх і адным чэрвеньскім нумарах газеты. Прычым толькі ў апошнім прозвішча аўтара даецца поўнасцю, а да гэтага «Лісты...» з'яўляліся за подпісам «Edward Ch *». Пазней яны без якіх-небудзь змен былі ўключаны аўтарам у кнігу падарожных нататак і склалі ў ёй асобны раздзел «Літва» [1].

Маршрут Э. Хлапіцкага праходзіў у асноўным па тэрыторыі Беларусі. Ён наведаў Ліду, Навагрудак, Беліцу, Жалудок, Шчучын, Скідзель, Гродна. Асобнае месца ў сваіх нататках падарожнік адвёў Навагрудку. Прыгадаўшы мінулае гарадка, ён апісвае яго агульны выгляд і выдатныя архітэктурныя збудовы. З расказу пра сучасны стан Навагрудка прыцягваюць увагу звесткі аб яго культурным жыцці. Аўтар паведамляе, што да 1859 года тут была толькі павятовая школа, а цяпер працуе гімназія і пансіён, у якім займаецца трыццаць, а то і болей вучаніц, ёсць публічная чытальня, дзе «апрача кніжак навуковага і літаратурнага зместу» можна пачытаць перыёдыку (называюцца выданні).

Хлапіцкі апісвае міцкевічаўскія мясціны ў Навагрудку, Туганавічах, Завоссі, Цырыне і прыводзіць пісьмо Аляксандра Міцкевіча, роднага брата вялікага паэта, адрасаванае маршалку Брахоцкаму. У ім ідзе

---

[1] Chłopicki E. Notatki z różnoczasowych podróży po kraju (Inflanty, Żmudź, Litwa, Pobereże). Warszawa, 1863. S. 46—121.

гаворка пра пабудову ў Наваградку помніка Адаму Міцкевічу, удакладняюцца звесткі пра нараджэнне і дзіцячыя гады паэта.

Маюцца ў «Лістах з падарожжа па краі» і этнаграфічныя назіранні. Адзначыўшы ў некалькіх штрыхах тыповыя ўласцівасці характару, якія адрозніваюць сялян, што жывуць паміж Вільняй і Лідай, ад сялян з-пад Наваградка, аўтар гаворыць: «Адна цяпер толькі акалічнасць агульная для абодвух плямён літоўскага народа — гэта ўпартае нежаданне пераходзіць на чынш, а таксама нягаснучы ў глыбіні душы недавер да пана».

Неад'емнай часткай краязнаўчай абмалёўкі кожнага горада і мястэчка ў нататках Э. Хлапіцкага з'яўляюцца звесткі пра мясцовы стан асветы. «Ніжэй за ўсе іншыя суседскія павятовыя мястэчкі» аўтар ставіў Ліду, бо тут не было ні гімназіі, ні жаночага пансіёна, ні чытальні. З нататак становіцца вядома, што ў Беліцы таксама адсутнічалі школы. «Па суседству толькі,— піша падарожнік,— у пана Корсака, была ліквідавана карчма, і яе будынак пераабсталявалі для навучання сялянскіх дзяцей». У «Лістах з падарожжа па краі» сабрана значная інфармацыя пра культурна-асветныя справы ўсіх наведаных Хлапіцкім «павятовых сталіц» Беларусі.

Не павінны застацца па-за ўвагай беларускіх знаўцаў гісторыі асветы і «Лісты Самотніка». Першы ліст, напрыклад, які з'явіўся ў «Кур'еры...» за 26 студзеня (№ 8), прысвечаны пытанням развіцця адукацыі ў Слоніме і яго ваколіцах. У ім прыводзяцца звесткі пра розныя школы, дзе яшчэ ў 1829 годзе магла навучацца значная колькасць моладзі, і з горыччу гаворыцца, што адзінае трохкласнае вучылішча, якое засталося, «ніякай карысці нікому не прыносіць», бо Слонім варты таго, каб у ім пабудаваць гімназію, і г. д. Гэты допіс даволі яскрава перадае

тагачасную атмасферу зацікаўленасці розных саслоўяў слонімскага грамадства ва ўздыме асветы.

Не былі абыякавымі жыхары Слоніма і да музычных канцэртаў, якія даваліся прыезджымі музыкантамі. Пра гэта сведчыць карэспандэнцыя, апублікаваная без подпісу ў «Кур'еры...» за 18 мая (№ 39). У ёй паведамляецца пра выступленні ў Слоніме маладога польскага скрыпача Густава Фрыемана, які выконваў перад тутэйшымі прыхільнікамі музыкі творы Апалінара Концкага, Генры В'ётама і іншых кампазітараў.

Разглядаючы матэрыялы 1862 года, звязаныя з культурным жыццём Беларусі, нельга абмінуць нататку Бруна Завадскага «Слова пра кірмаш у Мінску», надрукаваную ў газеце за 14 жніўня (№ 63). Допіс знаёміць нас з тагачасным узроўнем мінскага кнігагандлю і паказвае, наколькі ўзрос за апошні перыяд у Мінску попыт на кнігі. Завадскі піша, што «твораў сур'ёзнага зместу ў гэтым годзе (гэта значыць у 1862) было прададзена болей, чым у папярэднія гады», а «што тычыцца нот, то кампазіцыі з народных і славянскіх тэм трымалі першынство перад іншымі...». Аўтар надае таксама ўвагу мінскім друкарням, сярод якіх вылучае друкарню Э. Адамовіча, называючы найбольш каштоўныя яе выданні. Некалькі радкоў у допісе прысвечана публічнай бібліятэцы, дзе на прыватныя сродкі набываліся творы рускіх, польскіх, нямецкіх і французскіх аўтараў.

Многа пісаў для «Кур'ера...» ў 1862 годзе Уладзіслаў Сыракомля. Стала супрацоўнічаючы ў газеце, ён вёў у ёй аддзел «Мясцовага агляду», неаднаразова змяшчаў таксама агляды твораў, выдадзеных у Вільні [1]. Красамоўным сведчаннем шчырых клопатаў пра развіццё адукацыі сярод простага люду з'яўляецца

[1] Kurjer Wileński. 1862. № 8, 17, 23, 24.

«Літаратурны агляд» (№ 56), у якім паэт разбірае краёвыя выданні для навучання элементарнай грамаце. «Самым неадкладным, самым значным, самым практычным падарункам для вясковых хат і школак» Сыракомля прызнае насценную «Азбуку», выдадзеную па задуме і на кошт Аляксандра Валіцкага ў друкарні Э. Адамовіча ў Мінску. Паэт сцвярджае, «што ў цяперашні час, такі важны для народа, нават аркуш паперы, задрукаваны азбукай, дае права на грамадзянскую заслугу». Цікава, што гэты «агляд» Сыракомлі быў водгукам на сяброўскую просьбу мінскага кнігара, выказаную ў лісце ад 9 чэрвеня 1862 года [1]. Дбаючы пра пашырэнне асветы ў краі, Аляксандр Валіцкі даслаў паэту два экземпляры «Азбукі» з упэўненасцю, што той не застанецца абыякавы да такога выдання і напіша пра яго ў «Кур'ер Віленьскі», «каб усюды пра гэта было вядома».

Апошні матэрыял Сыракомлі быў надрукаваны ў 66 нумары «Кур'ера...», а ў 69-м газета паведаміла пра яго смерць. Праз тры дні (№ 70) газета расказала сваім чытачам пра пахаванне паэта.

Страту выдатнага паэта, свайго земляка з глыбокім смуткам успрынялі ў Беларусі. У Мінску адбыліся жалобныя маніфестацыі, у якіх прынялі ўдзел некалькі тысяч жыхароў «сталіцы правінцыі» і звыш 600 гімназістаў. Пра гэта гаворыцца ў карэспандэнцыі Зыгмунта Заштаўта, змешчанай у «Кур'еры...» (№ 88) за подпісам Z. Z.

На старонках газеты, пачынаючы з 74 нумара, падрабязна асвятлялася дзейнасць Камітэта апекі над сям'ёй Сыракомлі, на чале якога стаяў Аляксандр Аскерка [2], ураджэнец Рэчыцкага павета, гра-

[1] ЦДАЛіМ ЛітССР, ф. 96, воп. 1, адз. зах. 119, арк. 1.

[2] Beynar L. Działalność Aleksandra Oskierki w Wilnie // Księga pamiątkowa koła historyków słuchaczy uniwiersytetu Stefana Batorego w Wilnie. 1923—1933. Wilno, 1933. S. 343.

мадскі дзеяч, удзельнік паўстання 1863 года. У адным з выступленняў Аскерка паведамляў, што Камітэт пастанавіў прыступіць да выдання поўнага збору твораў Сыракомлі ў пачатку 1863 года. Паводле падлікаў гэтае выданне павінна было складацца з дванаццаці тамоў (не меней за 30 друкаваных аркушаў кожны). У збор планавалася ўключыць яго апублікаваныя і неапублікаваныя творы, а таксама празаічныя рэчы, сярод якіх галоўнае месца адводзілася «Гісторыі літаратуры Польшчы». Але гэтаму выданню не суджана было ўбачыць свет. Наступілі рэвалюцыйныя падзеі, якія ўнеслі ў культурнае жыццё свае карэктывы.

Завяршаючы разгляд матэрыялаў «Кур'ера...», заначу, што беларускі нацыянальны рух на пачатку 60-х гадоў XIX стагоддзя цесна пераплятаўся з краёвым польскім грамадска-культурным рухам, пра інтэнсіўнае развіццё якога напярэдадні паўстання 1863 года можна меркаваць па такой акалічнасці: па меры таго як рух паглыбляўся і набываў большы размах, «Кур'ер Віленьскі» абмяжоўваў публікацыю матэрыялаў на рускай мове. Калі, напрыклад, колькасць разгледжаных мною як рускіх, так і польскіх тэкстаў за 1860 год аднолькавая, то ў 1862 годзе карціна была іншая: па-руску друкаваліся толькі афіцыйныя паведамленні (на першай старонцы), а ўсе астатнія матэрыялы — па-польску.

У 1860—1862 гадах на старонках галоўнай краёвай газеты знаходзілі адлюстраванне многія з'явы і пытанні тагачаснага культурнага жыцця Беларусі. Праўда, назапашаны ў газеце разнастайны матэрыял мае неаднолькавую інфармацыйную каштоўнасць. Тым не менш, кожная карэспандэнцыя, артыкул штосьці дае, у чымсьці дапаўняе тыя крыніцы, якія складаюць асноўную, традыцыйную базу для даследавання гісторыі беларускай культуры.

# РЭЗЕРВЫ ДАСЛЕДАВАННЯ



Вывучэнне літаратурнага мінулага як паўнакроўнага працэсу ў грамадска-культурным жыцці патрабуе выкарыстання шырокага комплексу матэрыялаў, незалежна ад іх характару, зместу і формы. Яны могуць быць асноўнымі ці дапаможнымі, але ніколі не бываюць другараднымі, бо ў асэнсаванні шляхоў літаратуры ўлічваецца па магчымасці ўсё. Вось чаму перад беларускім літаратуразнаўствам, якое хоць і шмат зрабіла для ўзбагачэння фактаграфічнай асновы прац, але пакуль (як вынік паскоранага развіцця) не выбавілася, мякка кажучы, ад эмпірычнага канструявання асобных гісторыка-літаратурных звёнаў, з асаблівай вастрынёй паўстаюць сёння праблемы літаратурнага крыніцазнаўства ўвогуле і бібліяграфічных росшукаў у прыватнасці.

Крыніцазнаўчы аналіз польскіх перыядычных выданняў мінулага стагоддзя, якія распаўсюджваліся на тэрыторыі Беларусі і так ці інакш мелі дачыненне да літаратурнага жыцця краю, абмінаўся даследчыкамі па некалькіх прычынах. Па-першае, станаўленне беларускай літаратуры Новага часу недастаткова выразна ўсведамлялася як гістарычна абумоўленая з'ява ў працэсе працяглага суіснавання і моў, і літаратурна-фальклорных традыцый. Па-другое, іншамоўная, не ўласна беларуская перыёдыка (а яе ў XIX стагоддзі па сутнасці не было) успрымалася ды і ўспрымаецца як з'ява другарадная. Між тым польскія часопісы і газеты, галоўным чынам тыя, што друкаваліся ў Вільні, не знаходзіліся на перыферыі

грамадска-культурнага руху Беларусі, і вызначэнне іх ролі ў літаратурным працэсе краю і фарміраванні беларускай літаратуры не можа не абапірацца на крыніцазнаўчую характарыстыку, якая зыходзіла б з аналізу канкрэтных публікацый, прынамсі найбольш прыкметных і значных. Гэта наблізіць да паглыбленага дыялектычнага разумення тэндэнцый адраджэння беларускай літаратуры і разам з тым пашырыць магчымасці супастаўлення фактаў на ўзроўні іх сунярэчнасці, узаемадапаўняльнага значэння і г. д.

Фарміраванню беларускай літаратуры Новага часу папярэднічала працяглае літаратурнае шматмоўе ў Беларусі і праз усё XIX стагоддзе спадарожнічала традыцыя аўтарскага білінгвізму, перш за ўсё на аснове пісьмова развітай польскай мовы, з аднаго боку, і на беларускім гутаркова-фальклорным грунце — з другога. Пісьменніцкая дзвюхмоўнасць, спароджаная гістарычнымі абставінамі, выяўляла не толькі магчымасці суіснавання разнамоўных твораў аўтара, які працаваў на беларуска-польскім літаратурным сумежжы, але і фарміравала свае асаблівасці ўнутранага мастацкага ўзаемадзеяння ці ўзаемапранікнення ў гэтых творах. Акрамя таго, творчасць беларуска-польскіх пісьменнікаў не адасаблялася, прынамсі ў у першай палове XIX стагоддзя, ад літаратурных пошукаў аднамоўных (пераважна польскамоўных) пісьменнікаў Беларусі. Гэта былі дзве ўзаемазвязаныя з'явы аднаго літаратурнага жыцця краю, і вывучэнне працэсу, з якога паступова вылучалася ўласна беларуская літаратура, не можа абмежавацца матэрыяламі, што тычацца толькі беларускай творчасці пісьменнікаў. Зразумела, не ў меншай ступені яно павінна абапірацца на польскамоўны даробак білінгвістычных аўтараў і абавязкова ўлічваць таксама мастацкія дасягненні тых пісьменнікаў Беларусі, якія па-беларуску не пісалі.

Фактаграфічна забяспечаны разгляд грамадска-культурных абставін і паглыбленне ў параўнальны аналіз, супастаўленне беларускага набытку з іншамоўнымі творамі пісьменнікаў Беларусі несумненна значна канкрэтызуе бачанне пісьменніцкага самавыяўлення на беларускай мове, раскрые грамадскі сэнс гэтага самавыяўлення, вытокі мастацкага выбару, эстэтычных пошукаў, уплываў, дасягненняў, а мабыць, і страт у беларускамоўнай творчасці асобных аўтараў, у станаўленні беларускай літаратуры зрэшты. Відочна, такім чынам, што шлях да поспеху ў гэтым кірунку ляжыць праз вывучэнне ўсіх магчымых крыніц, сярод якіх не апошняе месца займаюць артыкулы, нататкі, допісы, мастацкія творы, водзывы і рэцэнзіі на іх, хранікальныя і іншыя матэрыялы, якія былі змешчаны ў перыёдыцы мінулага стагоддзя.

Пад час прагляду часопіса «Атэнэум» за 1845 год (кніга 3) мне трапілася на вочы апавяданне-прытча «Штосьці тут сабакам смярдзіць» і нейкае нязвычнае імя аўтара — Асорыя. Бліжэйшае ж знаёмства з творам дало нечаканыя вынікі. Апавяданне напісана ў Варшаве, але заснавана яно на беларускім матэрыяле, прытым геаграфічна прывязана да Наваградчыны. Больш таго, мова галоўнага героя — былога ротмістра Саросіка — літаральна перасыпана беларускімі прымаўкамі і рознымі выслоўямі: навучыся кудзелю прасці, яйца пад куру класці, сыры рабіці, есці варыці; залажыўшы рукі, сядзець і глядзець; гатуе грошы; як пінскі ўюн; каб ён так быць на свеце ведаў; карова забыла, як цялушкаю была; але чыя кароўка, таго і цяля; безгалоўе на чалавека прыйшлося і інш.

Гаворка Саросіка макаранічная, польскія выразы звязваюцца з трапнымі беларускімі выслоўямі, уступам «як кажуць». Несумненна, апавяданне-прыт-

ча — двухмоўны твор. А гэтакіх твораў у першай палове XIX стагоддзя не так і шмат: вершы «Плач па--кінутага каханаю» і «За пекнаю паненкаю аж душа сумуе», змешчаныя ў кнізе Аляксандра Рыпінскага «Беларусь», вершаваная мініяцюра Ігната Легатовіча «Скажы, вяльможны пане...», «Ідылія» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча ды некаторыя раздзелы «Шляхціца Завальні» Яна Баршчэўскага. Вось і ўсё, здаецца.

Але хто ж такі Асорыя? Усеагульная польская энцыклапедыя тлумачыць, што гэта герб, і дае яго апісанне. Паводле «Гербоўніка» К. Нясецкага высветлілася, што да герба Асорыя мелі дачыненне паасобныя ажно пятнаццаці прозвішчаў. Нічога не дадаў да гэтых звестак і «Гербоўнік» А. Банецкага. Заставалася надзея на «Польскі слоўнік біяграфічны». Але праглядаць яго тамы на ўсе магчымыя прозвішчы не спатрэбілася. Выручыў «Тыгоднік Пэтэрсбурскі». У яго сакавіцкім нумары за 1842 год апублікаваны ўрывак з ліста А. Падбярэскага да рэдактара, у якім сказана наступнае: «Дасылаючы гэты матэрыял для твайго «Літаратурнага штогодніка», я не магу не ўспомніць, хоць коратка, пра літаратурныя працы Марціна Цяплінскага, вядомага паэтычнымі ўзорамі, змешчанымі ў даўнейшых віленскіх альманахах пад псеўданімам Марціна Асорыі. Гэты малады чалавек, не могучы дагэтуль вылечыцца ад ран, атрыманых на Каўказе, пасяліўся ў Цяшэйкаве пад Слонімам і цалкам паглыбіўся ў грамадскія справы, падзяляючы час між гістарычнымі і філалагічнымі працамі, пераплятаючы карпатлівыя даследаванні частым сяганнем у краіну ўяўлення і пачуцця. У выніку гэтага двайнога занятку былі падрыхтаваны да друку тры томікі «Паэзіі», у большай частцы арыгінальнай. Першы з іх уключае балады, аповесці, легенды-прыказкі і г. д., у большай частцы з

народных вясковых паданняў; у другім будуць песні, узоры якіх былі надрукаваны ў альманахах, а трэці пад назваю «Памінак» (што значыць народны абрад у нашых сялян, падобны на Дзяды) завершыць рыфмаваную гісторыю пачуццяў самотніка-паэта, гук сэрца, кранутага ўспамінамі мінулага. Але значна важнейшай працай з'яўляецца збор народных песень на ўсіх гаворках, якія гучалі калісьці ў межах даўнейшай Польшчы. У яго бачыў я да 300 песень, нідзе дагэтуль не апублікаваных, у большай частцы з арыгінальнымі мелодыямі. Праца гэтая заслугоўвае тым большай увагі, што Цяплінскі, лепш зразумеўшы мэту падобных збораў, пакідае іх у першаснай форме і постаці, без прыстасавання да пакаёвага ўжытку пры фартэп'яна, як зрабіў Чачот...» У некралогу, змешчаным у часопісе «Атэнэум» (1848. Кн. 6), сказана, што М. Цяплінскі «пакінуў пасля сябе літаратурныя працы ў зборы паэзіі і некалькіх аповесцях прозаю і слоўнік польскіх і ліцвінскіх прымавак, сабраных мазольна і цярпліва; ён не закончаны, але ўжо налічвае некалькі дзесяткаў тысяч прымавак». Цёпла пра творчасць Асорыі выказаўся Юзаф Ігнацы Крашэўскі (Тыгоднік Пэтэрсбурскі. 1844. № 91).

Знаёмства з публікацыямі Цяплінскага і іншымі матэрыяламі, не надта шчодрымі на патрэбныя звесткі, дае магчымасць зрабіць наступную даведку: Марцін Асорыя (сапраўднае прозвішча Марцін Цяплінскі). Год нараджэння прыблізна 1810. Памёр 3 жніўня 1847 года. Польска-беларускі пісьменнік, фалькларыст. У 1831—1833 гг. знаходзіўся ў ссылцы на Каўказе, дзе быў паранены. Затым жыў на радзіме — у вёсцы Крупава, а можа, і ў Цяшэйкаве, як гаварылі тады, пад Слонімам. З 1837 года выступаў у віленскім друку (альманах «Бірута», часопісах «Атэнэум», «Візэрункі і роспшонсаня науковэ»), друкаваўся ў «Ондыне друскеніцкіх зьрудэл». Пісаў

рамантычныя вершаваныя творы, перакладаў з французскай, нямецкай, чэшскай паэзіі, збіраў беларускія народныя песні і прымаўкі, намерваўся арганізаваць выданне альманаха «Надпёманскі снапок», ведучы ў сувязі з гэтым перапіску з віленскімі выдаўцамі Завадскімі. У сваёй творчасці шырока выкарыстоўваў беларускі фальклор (паданні, песні, прымаўкі). Тры тамы «Паэзіі» Асоры засталіся ў рукапісе і ці захаваліся — невядома.

Цяпер чарга за архіўнымі пошукамі, каб канчаткова пераканацца, што жыў у Беларусі сучаснік Яна Чачота, які таксама карпатліва збіраў беларускі фальклор, занатоўваў яго на мове арыгінала і меў за правіла не перакладаць народную песню на польскую мову.

Зусім нечакана, як і ў часопісе Юзафа Ігнацыя Крашэўскага «Атэнэум», надарылася адна публікацыя ў пецярбургскім «Краі». Яе выяўленне здаецца не чым іншым, як бібліяграфічнай эўрыстыкай. У літаратурным аглядзе «Спеў на ліры вясковай», змешчаным у «Краі» (1888, № 41) пад рубрыкай «Нарысы» падаецца ўрывак польскамоўнай перыфразы «Вясковага лірніка» Сыракомлі, ужо знаёмай паводле кнігі Яна Неслухоўскага «Паэзія» (1898). Урыўку папярэднічаюць такія словы: «Пазітывізм пераразіўся ў дэмакратызм і сацыялізм і не дажыў да рэалістычнага часу ў паэзіі. Цяпер не крытыкам, а ўхвалялыйікам можна быць той плеяды рэалістаў, дзе першынство трымае пані Канапніцкая (Аснык замоўк), а ўторацъ ёй Высоцкі, Расоўскі, Каспровіч. Іншым тонам і з іншага свету загаварыў новы талент — Ян Дамброва. У адной з замежных газет крануўся ён ліры Сыракомлі і здабыў з яе голас чысты і моцны. Паслухайце».

Увазе чытача прапанаваны трыццаць шэсць радкоў верша. У іх сустракаюцца (праўда, не так час-

та) нязначныя, але цікавыя ў тэксталагічных адносінах разыходжанні з «Лірнікам вясковым», змешчаным у польскай паэтычнай кнізе Неслухоўскага.

Ян Дамброва — невядомы, узяты ад назвы родавага герба псеўданім Яна Неслухоўскага, які ўвайшоў у беларускую літаратуру пад іншым псеўданімам — Янка Лучына.

У якой жа «адной з замежных газет» верш друкаваўся? Адказ на гэтае пытанне дае «Польская бібліяграфія» К. Эстрэйхера, дакладней, яе другое выданне. Аказваецца, «Лірнік вясковы» Яна Дамбровы друкаваўся ў двухтыднёвіку «Глос Польскі», які выходзіў у Парыжы. Пра час публікацыі верша ў Эстрэйхера звестак няма. Затое даведнік і даследчыкі прэсы сведчаць, што ініцыятыва выдання газеты «Глос Польскі» зыходзіла ад дэмакратычных эмігранцкіх колаў, што яна пачала выходзіць летам 1887 года і на 40-м нумары, у 1889 годзе, спыніла сваё існаванне. Што ж, па часе ўсё супадае: інфармацыю пра верш Яна Дамбровы «Лірнік вясковы» часопіс «Край» даваў у лістападзе 1888 года — і, напэўна, па свежых слядах. Верш хутчэй за ўсё быў апублікаваны ў газеце «Глос Польскі» ў адным з нумароў за 1888 год. Але ў якім менавіта нумары? Пра гэта ў даведніках звестак няма. Без непасрэднага знаёмства з газетай і прагляду яе камплектаў тут ніяк не абысціся, тым больш што Лучына, які, відаць, меў нейкія сувязі з польскай эміграцыяй, мог змясціць у парыжскім перыядычным выданні яшчэ не адзін твор. Была надзея, што пад час камандзіроўкі ў Інстытут славяназнаўства Польскай Акадэміі навук у кастрычніку 1986 года ўдасца пагартаць «Глос Польскі». У Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве захоўваюцца ўсяго два нумары газеты, а ў бібліятэцы Познаньскага універсітэта — тры. Публікацыі Яна Дамбровы на іх старонках не

траціліся. У Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве і ў Асалінэум у Вроцлаве, дзе, паводле «Бібліяграфіі» К. Эстрэйхера, таксама маецца «Глос Польскі», набываць не давялося. Пазней высветлілася, што ўсе нумары газеты ёсць у Львове, ва універсітэцкай бібліятэцы, і што з твораў, падпісаных псеўданімам Ян Дамброва, у ёй быў змешчаны адзін «Лірнік вясковы» (1888, № 30).

Пошук пакуль не даведзены да канца. Патрэбны будуць новыя і новыя спробы, каб нарэшце прасвятліць, якія каналы выкарыстоўваў Янка Лучына пры перасылцы свайго верша ў Парыж, хто ў гэтай справе быў пасрэднікам, ці не было тут якой сувязі з кракаўскім выданнем брашуры «З крывавых дзён».

У якім бы кірунку не пайшлі далейшыя пошукі, ля іх вытокаў застануцца бібліяграфічныя знаходкі ў часопісах «Атэнэум» і «Край». Яны адкрываюць вочы на тое, што нават калі старую перыёдыку шмат хто з літаратараў-даследчыкаў ці пісьменнікаў гартаў і матэрыялы на яе старонках, здавалася б, вывучаны, тут ёсць што шукаць.

Яшчэ раз у гэтым я пераканаўся, калі перагортваў газету «Кур'ер Віленьскі». У свой час мне даводзілася праглядаць камплекты «Кур'ера...» за 1860—1862 гады, але тады па-за ўвагаю засталіся розныя абвесткі і паведамленні. Знаёмства ж з імі прынесла нечаканыя вынікі. У раздзеле «Дзённік Віленьскі», дзе даваліся звесткі пра тое, хто, калі і адкуль прыязджаў у Вільню і ў якой гасцініцы спыняўся, мне колькі разоў сустрэліся прозвішчы беларускіх пісьменнікаў. Альгерд Абуховіч, напрыклад, у 1862 годзе наведаў Вільню тройчы. Быў ён тут і ў дзень пахавання Уладзіслава Сыракомлі (18 верасня) і, відаць, праводзіў любімага песняра роднага краю ў апошні шлях (Кур'ер Віленьскі. 1862. № 71).

Журналісцкія, а можа, калекцыянерскія справы

прыводзілі ў Вільню Аляксандра Ельскага. Сюды прыязджаў ён у сакавіку 1860 года (Кур'ер Віленьскі. 1860. № 20) і ў снежні 1862 года (Кур'ер Віленьскі. 1862. № 101) і заўсёды спыняўся ў гасцініцы Нішкоўскі.

У полі зроку апынулася і імя Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Пісьменнік згадваецца ў «Дзённіку» сярод тых, хто прыехаў у Вільню з 9 да 15 красавіка 1861 года і пасяліўся ў доме Мантвілы (Кур'ер Віленьскі. 1861. № 27). Але тут аўтар будучай «Пінскай шляхты», здаецца, не затрымаўся: трэба было спяшацца ў Коўну на сустрэчу з Сыракомлем, які меўся ехаць у Варшаву.

Відочна, гэтыя штрыхі да біяграфіі пісьменнікаў не надта буйныя. Не бяруся прадказваць, якое месца зоймуць яны ў стварэнні жыццяпісаў пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, але так ці інакш яны дапаўняюць скупы запас інфармацыі пра нашых пісьменнікаў мінулага стагоддзя.

Штосьці, вядома, дадае да жыццяпісу Дуніна-Марцінкевіча і карэспандэнцыя пра музычныя канцэрты яго дачкі і сына, якія адбыліся ў канцы лета 1849 года ў Гродне. «19 і 24 жніўня,— паведамляў гродзенскі карэспандэнт у «Тыгодніку Пэтэрсбурскім» (1849. № 69),— наша публіка з прыемнасцю правяла пару гадзін часу, слухаючы фартэп'янную ігру двух дзяцей-артыстаў — дванаццацігадовага Мірослава і трынаццацігадовай Каміллы Марцінкевічаў, якія прыехалі ў наш край з губеранскага горада Мінска. Мы нікольки не пераўвялічваем, называючы іх артыстамі. Хоць ігра на фартэп'яна вымагае цяпер шмат умоў, каб мець права выступаць з ёю публічна, аднак, паводле думкі знаўцаў, музычны талент Марцінкевічаў, бясспрэчна, упаўнаважвае іх на гэта».

Доніс, у якім выказваецца захапленне выканаўчымі здольнасцямі Камілы і Міраслава, каштоўны

сваёй інфармацыяй пра рэпертуар маладых музыкантаў (фінал з оперы Даніцэці «Лукрэцыя Борджа», мелодыі Ліста, варыяцыі Гензельта і самой Каміды Марцінкевіч). Акрамя таго, матэрыял невядомага гродзенскага карэспандэнта ў «Тыгодніку Пэтэрсбургскім» пашырае наша ўяўленне пра геаграфію выступленняў піяністаў-вундэркіндаў (не толькі ў Мінску, Вільні, Кіеве, Варшаве) і пацвярджае, што ў сям'і Дуніна-Марцінкевіча панаваў дух высокай музычнай культуры.

Пра музычнае жыццё ў Люцыне (назва, дзіўна блізкая да Люцынкі!), што на Віцебшчыне, расказаў у сваёй нататцы ў часопісе «Клосы» (1869. № 222) Вінцэнт Газдава-Рэут, які друкаваў раней свае рамантычныя вершы ў альманахах «Незабудка», «Рубон» і «Рочнік Літэрацкі». Ён адзначыў, у прыватнасці, добры ўзровень ігры пятнаццацігадовай дачкі мясцовага лекара Зосі Садкоўскай, якая выканала уверцюру з оперы «Эрнані» Вердзі, і асаблівую ўвагу звярнуў на галоп Пшыборы, напісаны на тэму «Беларуская дуда». «Мы, хто зжыўся з нашым людам,— пісаў Газдава-Рэут,— прызнаем, што патрэбны быў талент Пшыборы, каб на такой простай канве правясці праз разнастайныя пасажы надзвычай манатонны народны матыў і зрабіць з гэтага рэч сапраўды прыгожую, нават для выпрабаваных меламанаў».

Забытая карэспандэнцыя раскрывае журналісцкі бок літаратурнай працы Вінцэнта Рэута і яго цікавасць да выкарыстання беларускіх народных мелодый у прафесійнай музыцы.

Можна было б прывесці яшчэ не адзін матэрыял з перыёдыкі мінулага стагоддзя, абмінуты даследчыкамі. Але, думаецца, тут дарэчы будзе прыгадаць, што прагляд пецярбургскага «Краю» і вывучэнне апублікаванага ў ім некралогу, прысвечанага памя-

ці Францішка Багушэвіча, дазволілі ў свой час беларускаму даследчыку Сцяпану Александровічу атрымаць звесткі пра псеўданімы і крыптанімы аўтара «Дудкі беларускай» і дзякуючы гэтаму адкрыць невядомую старонку журналісцкай дзейнасці беларускага паэта — яго супрацоўніцтва ў польскім штотыднёвіку.

А вось на шматлікія матэрыялы Аляксандра Ельскага, раскіданыя па розных перыядычных выданнях, увага не звярталася. Недастаткова вывучаны нават яго допісы ў часопіс «Край». Сярод іх сустракаюцца такія, якія ўяўляюць каштоўнасць і як аўтарскія творы, і як адзіныя гісторыка-літаратурныя сведчанні часу і падзей.

Так, пасля публікацыі жыццяпісу вядомага гісторыка і этнографа Адама Кіркора, дзе выказвалася здагадка, што ён быў «сынам уніяцкага святара», Аляксандр Ельскі прыслаў праз нейкі час у «Край» удакладненне да сваёй ранейшай інфармацыі. «Цяпер у мяне ёсць дакументы,— пісаў Ельскі ў лісце да рэдакцыі,— якія дапаўняюць звесткі, а менавіта: хоць некаторыя Кіркоры са старой шляхты ў колішнім ваяводстве Мсціслаўскім належалі да уніяцкага абраду, але бацькі Адама — землеўладальнікі. Бацька Караль і маці Тэкля з Валадковічаў лічыліся католікамі. Адам нарадзіўся ў фальварку Слівін у 1812 [?] годзе, быў ахрышчаны 17 студзеня ксяндзом-кармелітам... пра што сведчыць аўтэнтычная метрыка Магілёўскага рымска-каталіцкага архібіскупства за № 3906, пацверджаная 19 чэрвеня 1857 г.» (Край. 1887. № 23).

Або вось яшчэ адна карэспандэнцыя. «Нядаўна,— паведамляў Ельскі ў часопісе «Край» (1895. № 44),— памёр у Мінску шанаваны чалавек, медык-філантроп Неслухоўскі, сын Люцыяна, калісьці ўсімі паважанага сакратара Мінскай цывільнай палаты.

Пасля сканчэння медыка-хірургічнай акадэміі ў Пецярбургу ён займаў пасаду лекара пры 18-й артылерыйскай брыгадзе ў Кіеўскай акрузе: яго надзвычай любілі салдаты і калегі за лагодны характар і бязмежную адданасць хворым і ахвярнасць, бо ён не толькі бясплатна лячыў бедных, але і грашыма дапамагаў ім са сваіх сціплых сродкаў... Лячыўся ён у Мікалаеўскім шпіталі ў Пецярбургу. Перавезены ў родны Мінск, скончыў тут жыццё 17 верасня».

Няма сумнення, што ў гэтым допісе Аляксандр Ельскі расказаў пра малодшага брата Янкі Лучыны — Антона і тым самым данёс да нас звесткі, здольныя паглыбіць уяўленне пра сям'ю Неслухоўскіх, якая дала новай беларускай літаратуры аднаго з самых тонкіх лірыкаў. У сувязі з гэтым хочацца сказаць, што матэрыялы, назапашаныя ў польскім штотыднёвіку «Край» (і не толькі ў ім) і збольшага вядомыя беларускім літаратарам, маюць гісторыка-літаратурную цікавасць і раней ці пазней будуць выкарыстаны як незаменныя крыніцы для вывучэння польскамоўнай публіцыстыкі беларускіх пісьменнікаў другой паловы XIX стагоддзя.

Перагортванне старой перыёдыкі і мэтанакіраваныя бібліяграфічныя росшукі на яе старонках не могуць быць марнымі: у часопісах і газетах мінулага стагоддзя тоіцца адзін з рэзерваў даследавання гісторыі фарміравання беларускай літаратуры Повага часу.

# ПРАДВЕСЦЕ РАМАНТЫЗМУ



Фарміраванне новай беларускай літаратуры было заканамернай з'явай у працэсе працяглага суіснавання і моў, і літаратурна-фальклорных традыцый, з'явай перш за ўсё ўнутрыкраёвага беларуска-польскага літаратурна-фальклорнага і моўнага ўзаемадзеяння.

Цікавасць да фальклору, нарастаючая на хвалі рамантычнай народнасці, непазбежна падводзіла ў першай палове XIX стагоддзя пісьменнікаў Беларусі (праўда, не ўсіх) да засваення вусна-паэтычнай творчасці народа, але пераважна на ўзроўні яе ўключэння ў мастацкую сферу польскамоўных твораў. Інтэнсіўнае ж развіццё традыцый узаемадзеяння пісьмовай і вуснай паэзіі адбывалася не само па сабе, а на аснове ўспрыняцця фальклору як першаснай формы выяўлення духоўных магчымасцяў беларускага народа, успрыняцця, падрыхтаванага папярэднім адмаўленнем класіцысцкага адмаўлення вуснай паэзіі, якое знайшло пэўнае адлюстраванне на старонках віленскай перыёдыкі.

У 1815 годзе часопіс «Дзеннік Віленьскі» апублікаваў матэрыял Яна Рыхтэра «Колькі слоў пра народныя забабоны з апісаннем злачынства аднае ўяўнае чарнакніжніцы», у якім ужо былі выразныя прыкметы цікавасці да народнага фальклору. Праўда, аўтар не прамінуў падкрэсліць, што ўвага да народнай культуры неабходна для таго, каб у «мностве казак і недарэчнасцяў» знайсці «карысныя і павучальныя звесткі». Выступленне Яна Рыхтэра так ці інакш было арыентавана на асветніцкае ўспры-

манне вусна-паэтычнай творчасці, пераклікалася з зыходнай ідэяй «Інструкцыі да складання па гімназіях і павятовых школах запісаў для розных навук», выдадзенай яшчэ ў 1812 годзе, а пасля перадрукаванай «Дзеннікам Віленьскім» [1].

Вернутая да жыцця Віленскім універсітэтам у 1816 годзе і разасланая ў навучальныя ўстановы краю «Інструкцыя...» набывала ў вачах аматараў краязнаўства значэнне афіцыйнага дакумента, які падахвочваў да збіральніцкай дзейнасці. За параўнальна кароткі час у камітэт па запісах Віленскага універсітэта паступіла такая колькасць матэрыялаў, якая дазволіла Ігнату Ляхніцкаму падрыхтаваць манаграфію «Статыстыка Літоўска-гродзенскай губерні». Адзін з дванаццаці яе раздзелаў быў прысвечаны апісанню звычаяў і асветы. Аднак фальклnetwork рыстычным запісам тут месца не знайшлося. І. Ляхніцкага больш прываблівалі вераванні, звычаі і нават забабоны, звязаныя з народнай медыцынай, ён імкнуўся абараняць іх на старонках часопіса «Паментнік Магнетычны». Але энтузіястычная праца Ляхніцкага ў гэтым кірунку не мела асаблівай падтрымкі ў асветніцкіх колах і, больш таго, была абсмеяна ў сатырычным штотыднёвіку «Вядомосьці Бруковэ».

У гэтай «акцыі» таварыства шубра́ўцаў (літаратурна-грамадскае таварыства, якое існавала ў Вільні ў 1816—1822 гадах і членамі якога былі пераважна выкладчыкі Віленскага універсітэта) ускосна выявілася асветніцкае разуменне маральна-бытавога вопыту народа. З аднаго боку, шубраўцы выкрывалі шляхецкія норавы і жорсткасць прыгоннікаў, прыхільна ставіліся да ніжэйшых слаёў і патрабавалі роўнасці ў грамадстве, а з другога — недастаткова

[1] Dziennik Wileński. 1817. № 34. S. 396—408.

цярпіма адносіліся да народных светаўяўленняў, ацэньвалі іх як з'яву ніжэйшага парадку. Зразумела, гэта не спрыяла з'яўленню фалькларыстычных ці фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў у віленскай перыёдыцы.

Тым не менш у 1817 годзе часопіс «Дзеннік Віленьскі» змясціў артыкул М. Чарноўскай «Перажыткі славянскай міфалогіі, захаваныя ў звычаях вясковага люду на Белай Русі»[1] — першае апісанне беларускіх вераванняў і звычаяў, звязаных з купаллем і радаўніцай, якое фалькларысты лічаць наватарскім для свайго часу.

Адкрываючы для сябе эстэтычныя вартасці беларускага фальклору і скіроўваючы на іх увагу чытача, М. Чарноўская распачынала ў віленскім друку, а гэта значыць на Беларусі і ў Літве, новае стаўленне да вусна-паэтычнай творчасці. І ў апісанні абрадаў, і ў падачы песень на мове арыгінала выяўлялася шчырае захапленне аўтара «Перажыткаў славянскай міфалогіі...» беларускім фальклорам і народнымі святкаваннямі. Разам з тым М. Чарноўская палічыла патрэбным падкрэсліць, што ў творчасці беларускага народа яе цікавяць толькі «сляды даўніны». Думаецца, такое тлумачэнне мэты фальклорна-этнаграфічнай працы было пэўнай данінай традыцыйна-асветніцкаму погляду на фальклор.

Частковая арыентацыя на асветніцкія традыцыі заўважна таксама і ў публікацыі К. Ляха-Ширмы, заснаванай на матэрыяле ўкраінска-беларускага моўна-фальклорнага сумежжа. У лісце да рэдактара часопіса «Дзеннік Віленьскі» Шырма, у прыватнасці, пісаў: «Надзвычай карысна было б..., калі б шчыра хацелі заняцца збіраннем народных казак, паданняў, прымхаў, чараў, замоў, варажбы і песень,

[1] Dziennik Wileński. 1817. № 34. S. 396—408.

калі б запісвалі розныя вясельныя і пахавальныя абрады, словам, калі б былі здабыты ўсе гэтыя памяткі старажытнай, невядомай нам асветы, гэтыя народныя вытокі дзіцячай мудрасці..., збіранне гэтае, хоць і здаецца нікчэмным і складаецца толькі з урыўкаў, шмат магло б паслужыць высвятленню гісторыі звычаяў, праліло б святло на гістарычныя падзеі, на рэлігійныя абрады і боствы, што папярэднічалі навуцы Хрыста; і што важна: можа б, ідучы за падабенствам, пацвердзіліся б пашыраныя ў вучоным свеце меркаванні, што калыска нашага дзяцінства і роду знаходзіцца над Гангам» [1].

Ставячы асветніцкія задачы ў справе назапашвання і вывучэння вусна-паэтычнай спадчыны, Лях-Шырма з захапленнем схіліўся да рамантычнага прадбачання вынікаў фалькларыстычнай дзейнасці шматлікіх аматараў і даследчыкаў.

Аднак уяўленні Ляха-Шырмы пра ролю фальклору ў культурным жыцці сучаснасці не абмяжоўваліся рэтраспектыўнымі супастаўленнямі дзеля гістарычных сенсацый. Вусна-паэтычную творчасць народа ён разглядаў яшчэ як крыніцу абнаўлення літаратуры, якая знаходзіцца ў палоне пераймальніцтва, запазычвае чужародныя мастацкія вобразы. «Акрамя таго,— зазначаў ён у лісце,— які гэта невычэрпны скарб быў бы для паэзіі нашай! Вось тады, міласцівы рэдактар, не закідвалі б «Дзенніку», «Паментніку», «Тыгодніку» і іншыя часопісы чужымі для нас фантазіямі, якія, будучы незразумелымі для многіх, холадна ўспрымаюцца, часам толькі гучаць у вушах, але не даходзяць да сэрца, не грэюць яго».

Несумненна, Лях-Шырма меў на ўвазе пераадоленне класіцысцкай інерцыі ў паэзіі, быў перакананы, што менавіта зварот да ўласных традыцый, і

---

[1] Dziennik Wileński. 1818. T. 1. № 5. S. 486—496.

перш за ўсё да фальклорнага набытку свайго народа, звяжа літаратуру з інтарэсамі роднага краю, пашырыць яе чытацкую аўдыторыю і г. д. Тое, што Лях-Шырма кіраваўся падобнымі меркаваннямі, выказанымі з рамантычнай эмацыянальнасцю ў 1818 г., пацвярджаецца яго пазнейшым прызнаннем у лісце да А. Рыпінскага, напісаным ужо ў эміграцыі ў сярэдзіне XIX стагоддзя. «Так званы класіцызм у нашым пісьменстве,— пісаў ён,— хаця ў свой час і быў патрэбны, нямала нам у больш новую эпоху зашкодзіў, бо не даваў паэзіі і нават прозе магчымасці карыстацца багатымі запісамі народнай мовы. Я вельмі ўпадабаў яе, хаця быў выхаваны на грэчацкіх і рымскіх класіках, даўно збіраў народныя песні. Вырпадковае знаёмства з Хадакоўскім тым болей мяне да гэтага заахвоціла, і ўжо ў 1817 г. (наколькі памятаю) на фоне народных песень склаў я баладу «Ясь і Галіна» і некалькі іншых, што друкаваліся ў «Дзенніку Віленьскім» [1].

На самай справе Лях-Шырма змясціў у часопісе «Дзеннік Віленьскі» думкі «Ясь і Зося» і «Зданак і Галіна». Тут жа ён прывёў на мове арыгінала таксама і тэксты дзвюх «вясковых» песень, паводле якіх былі створаны названыя думкі.

У гэтых думках, напісаных па-польску, аўтар з большай падрабязнасцю, пераважна за кошт канкрэтызацыі асобных дэталяў і разгортвання падзейнага зместу, узнавіў абодва навелістычныя сюжэты баладных песень і, акрамя таго, кожнае вершаванае апавяданне вывеў за межы аднаго фальклорнага першаўзору. У думе «Ясь і Зося», напрыклад, дадаецца надзвычай распаўсюджаны ў славянскім свеце матыў бяроз, што выраслі на магіле закаханых і хінуц-

[1] Цыц. па кн.: Мальдзіс А. З літаратуразнаўчых вандраванняў. Мн., 1987. С. 104.

ца адна да адной, і пары галубкоў, якія прылятаюць на гэтыя дрэвы пры святле месяца.

Шырма здзейсніў кантамінацыю фальклорных тэкстаў, адзін з якіх быў узяты за аснову мастацкага перастварэння, прытым не ўскладнёнага прыёмамі і стылем пісьмовай літаратуры. Зрэшты, сам аўтар пра гэта пісаў так: «Таму, маючы магчымасць засвоіць думкі шырокіх колаў і.., стараўся я пераліць іх у свае вершы, ніяк не дамешваючы ў іх чужынскіх, не пад нашым небам народжаных думак і не адступаючы нідзе ад даўнейшай прастаты... Што тычыцца дадаткаў... то яны здаваліся мне патрэбнымі для закруглення і надання ім выразнасці, асабліва таму, што ў падобных творах вольны палёт фантазіі больш прыдатны, чым рабскае наследаванне. І ўсё ж у тым, што дадавалася, я імкнуўся, каб усё супадала з даўнейшымі прымхамі, забабоннасцю і звычаямі або прынамсі не пярэчыла ім» [1].

Зыходзячы з усведамлення, што класіцызм як мастацкі метад ужо вычарпаў свае магчымасці, Лях-Шырма імкнуўся звярнуць увагу чытачоў віленскай перыёдыкі на тое, што жыццяздольнасць літаратуры будзе залежыць перш за ўсё ад яе ўзаемадзеяння з фальклорам. На змешчаныя ў «Дзенніку Віленьскім» думкі «Ясь і Зося» і «Зданак і Галіна», відаць, ускладалася функцыя практычнага прадстаўлення аднаго з перспектыўных, паводле аўтара, спосабаў асваення народна-песеннай творчасці, які ўмоўна можна аднесці да рамантычнай стылізацыі.

У публікацыі К. Ляха-Шырмы, як і ў артыкуле М. Чарноўскай, заўважны эмацыянальны пачатак падачы матэрыялу і ўспрыманне аўтарамі кожнага вусна-паэтычнага твора як эстэтычнай адзінкі з пэўнымі мастацкімі якасцямі. Артыкул жа «Вясельныя

[1] Dziennik Wileński. 1818. T. 1. № 5. S. 487.

абрады вясковага люду ў Мінскай губерні, Барысаўскім павеце, Гайнаўскай парафіі, назіраныя ў 1800, 1-шым і 2-гім гадах, з некаторымі песнямі і звычайнымі нотамі», змешчаны ў «Тыгодніку Віленьскім» [1], гэтымі рысамі не вызначаўся. Фальклорна-этнаграфічныя звесткі, што тычыліся розных этапаў заручын, невядомы аўтар артыкула прыводзіў з аб'ектыўнай дакладнасцю, без выказвання асабістых адносін да апісаных абрадаў і цытаваных на мове арыгінала і ў перакладзе на польскую мову адпаведных таму ці іншаму моманту беларускіх песень. Ананімнасць публікацыі і стрыманая падача матэрыялу сведчаць пра «далікатнае» становішча аўтара «Вясельных абрадаў...», які, з аднаго боку, праяўляў настойлівую цікавасць да беларускіх звычаяў і фальклору, а з другога — не мог ці не хацеў пераступіць прадвызначаную асветнікамі мяжу.

Працяг артыкула «Вясельныя абрады...», абяцаны рэдакцыяй «Тыгодніка...», так і не з'явіўся ў часопісе, а віленская перыёдыка перапыніла тады публікацыю фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў. Не апошнюю ролю тут адыграла, відавочна, палеміка Яна Снядэцкага з К. Брадзінскім, аўтарам працы «Пра класічнасць і рамантычнасць». Уплывовы ў віленскіх культурных колах Ян Снядэцкі папракаў прыхільнікаў рамантызму ў тым, што яны «выводзяць цяпер на сцэну спатканні знахарак, іх варожбаў і прароцтваў, зданяў і ваўкалакаў, гутаркі д'яблаў і анёлаў і г. д. Што ж ў гэтым новага і разумнага? — ставіў пытанне Снядэцкі і тут жа адказваў.— Усе бабы даўно ведаюць пра гэтыя пригоствы і гавораць пра іх з смехам пагарды. Гэтыя няўдальствы і глупствы, выклiканыя з вякоў грубіянства, легкавернасці і забабону, здольны забаўляць у

[1] Tygodnik Wileński. 1819. T. 7. S. 1—18, 81—104.

васемнаццатым і дзевятнаццатым стагоддзі не толькі добра выхаваных людзей, але нават неачэсанае простанароддзе... Чары, варожбы і ваўкалакі не існуюць у прыродзе, а з'яўляюцца плёнам спаганенага няведаннем і забабонам розуму, гэта не ўласцівасць нямецкаї нацыі, бо гэта не растлумачаныя чыстай рэлігіяй глупствы амаль ці не ўсіх народаў, агорнутых варварствам. Іх прыгадванне прыніжае чалавека [1].

Наколькі фарміраванне зместу віленскіх часопісаў накіроўвалася ў асноўным групай прафесараў, выкладчыкаў універсітэта, многія з якіх прытрымліваліся рацыяналістычна-асветніцкай ацэнкі фальклору і з'яўляліся членамі таварыства шубраўцаў — прыхільнікаў выкрыцця і высмейвання адсталай свядомасці ў грамадстве, то выступленне Снядэцкага не магло не знайсці падтрымкі, што, зразумела, адбілася на тым, каб перыядычныя выданні, якія выходзілі ў той час у Вільні, цалкам перакрылі дарогу фальклорным працам.

Такая сітуацыя не спрыяла здзяйсненню шырокіх задум З. Даленгі-Хадакоўскага, які ў разліку на матэрыяльную падтрымку і навуковае ўзаемаразуменне яшчэ ў кастрычніку 1818 года даслаў на адрас Віленскага універсітэта план даследавання славянскай даўніны, далучыўшы да яго рэкамендацыйны ліст князя А. Чартарыскага і сваю працу «Пра дахрысціянскую Славяншчыну», змешчаную ў часопісе «Цвічэне Науковэ» (1818. № 5). Прапанову вялікага падзвіжніка навукі рэктар універсітэта Малеўскі адхіліў, накіраваўшы Чартарыскаму рапарт наступнага зместу: «Што да Хадакоўскага, знаходжу шмат цяжкасцяў у яго выкарыстанні. Прысвячэнне гэтага чалавека цяжкаї і мазольнаї працы з'яўляецца рэдкім, і цяжка падобнае знайсці; але калі няма пэў-

[1] Dziennik Wileński. 1819. T. 1. S. 348.

най сістэмы, парадку і падрыхтоўкі да працы, ёсць сумненне, каб праца яго не была дарэмнай. Яго артыкул... успрыняты нядобра. Пан Ян Снядэцкі, Енджэй Снядэцкі і Юндзіл абураліся гэтым артыкулам» [1].

Непрынящце даследчыцкіх пачынанняў З. Даленгі-Хадакоўскага ў галінах археалогіі, этнаграфіі і фальклору, дзе паслядоўна праводзілася думка, што сапраўдным зберагальнікам культурных традыцый з'яўляецца просты народ, а не шляхта, і сцвярджалася ідэя славянскай супольнасці, выявіла супрацьўленне кіраўніцтва Віленскага універсітэта тэндэнцыям дэмакратызацыі навукі ў краі і элітарную амбітнасць тых вучоных, якія жылі ўчарашнімі ўяўленнямі. Абураны іх паводзінамі З. Даленга-Хадакоўскі ў адным з лістоў пісаў: «Тры педанты ў Віленскім універсітэце, ганарлівыя з гатовай і чужой навукі, да якой не ўсе яшчэ маглі што ўласнае дадаць, захопленыя толькі сваёй дасканаласцю, лічаць маю працу дарэмнай, не бачаць у ёй сістэмы і парадку і нават падрыхтоўкі да гэтай працы. Спрадвеку ў нас так вядзецца, што кожны хоча і з'яўляецца суддзёю рэчаў, нават ніколі раней нячутых. Адсюль два не гісторыкі, а трэці пробашч маю працу пра паганства, што згасла ў нас IX стагоддзяў таму, самавольна зганьбавалі» [2].

Зусім інакш успрымалася праца Хадакоўскага ў студэнцкім асяроддзі, асабліва ў філамацкіх згуртаваннях. Дастаткова прыгадаць, што да аднаго з пасяджэнняў філаматаў Ян Чачот падрыхтаваў спецыяльны рэферат [3], які прысвяціў артыкулу «Пра

---

[1] Biblioteka Warszawska. 1866. T. 2. S. 186.

[2] Rawita-Gawroński F. Zoryan Dołęga-Chodakowski: Jego życie i praca. Lwów. 1898. S. 42—43.

[3] ЦБ АН ЛітССР. Аддзел рукапісаў, ф. 60—22, арк. 32—33.

дахрысціянскую Славяншчыну», змешчанаму ў «Цвічэні Науковым». Акрамя таго, дзейнасць Хадакоўскага яшчэ да яго выступлення ў друку мела значны рэзананс у грамадстве. Непасрэднае знаёмства з Хадакоўскім і яго запісамі народных песень падштурхнула, у прыватнасці, Ляха-Шырму да выступлення ў «Дзенніку Віленьскім» з надзвычай цікавым фалькларыстычным матэрыялам. Таму ўплыў Я. Снядэцкага і блізкай да яго прафесарска-выкладчыцкай групы Віленскага універсітэта на стан фалькларыстыкі ў краі быў часовы і лакальны. Дапрацаваны варыянт артыкула «Пра дахрысціянскую Славяншчыну» Хадакоўскі апублікаваў яшчэ раз — у часопісе «Паментнік Львоўскі» [1], пашырыўшы тым самым распаўсюджанне свайго даследавання, якое стала, па сутнасці, прадвесцем рамантызму ў польскай паэзіі Беларусі.

[1] Pamiętnik Lwowski. 1819. T. 1. № 1. S. 17—48.

# ПАЭТ-ФАЛЬКЛАРЫСТ

Творчая спадчына Яна Чачота пакуль не сабрана і не выдадзена. Уяўленне пра маштабы яго пісьменніцкіх інтарэсаў і падзвіжніцкую працу на ніве фалькларыстыкі складваецца ў беларускіх чытачоў на аснове хрэстаматыйных публікацый яго вершаў і скупых, пераважна папулярна-краязнаўчых нарысаў аб ім. Зразумела, што свайго даследчыка чакаюць і шматлікія Чачотавы творы, раскіданыя па розных архівах, і біяграфія паэта, у якой сустракаюцца загадкі.

Гісторыкі літаратуры лічаць, у прыватнасці, што Чачот, асуджаны ў 1823 годзе на ссылку па справе тайнага таварыства філарэтаў (аматараў дабрачыннасці), першыя шэсць месяцаў адбываў у крэпасці Кізіл. Але «Успаміны» Міхала Кусцінскага, якія захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР[1], сведчаць, што ў крэпасць Чачот трапіў яшчэ і ў Цверы, куды быў пераведзены з Уфы, і то дзеля захавання жыцця. Пад час прыбыцця Чачота ў Цвер там усхадзілася эпідэмія халеры. Хтосьці (відаць, той, каму трэба было ці каму даручылі) пусціў чутку, што тут віна ссыльных: маўляў, яны атруцілі ваду. Таму губернатар, каб ўратаваць ссыльных ад раз'юшанага натоўпу, паўгода «хаваў» іх у крэпасці. Гэтыя звесткі Кусцінскі падаў паводле расказаў самога Чачота, калі той пасля дзесяцігадовай ссылкі вярнуўся ў

[1] ЦБ АН ЛітССР. Аддзел рукапісаў, ф. 151—1029, арк. 1—2.

Беларусь і працаваў у кіраўніцтве сістэмы Бярэзінскага канала ў Лепелі.

Доўгі час цягнулася блытаніна з датай і месцам нараджэння паэта. Сёння ж мы ведаем, што Ян Чачот нарадзіўся 17 ліпеня 1796 года ў вёсцы Малюшычы былога Наваградскага павета (цяпер гэта ў Карэліцкім раёне), дзе бацька яго, дробны шляхціц, арандаваў фальварак. Вучыўся Ян у дамініканскай школе ў Наваградку разам з Адамам Міцкевічам. Разам з ім у 1815 годзе паступіў у Віленскі універсітэт, але правучыўся там усяго адзін год. Пакінуўшы універсітэт, ён не парываў сувязі з сябрамі, наведваў пасяджэнні-вечарынкі тайнага студэнцкага таварыства філаматаў (аматараў ведаў), быў іх душою. У 1819 годзе ён напісаў беларускія вершаваныя вітанні да імянін старшыні таварыства Ю. Яжоўскага, на прыезд Адама Міцкевіча («Едзеш, міленькі Адам») і прысвячэнне Ф. Малеўскаму («Да накіньце ж горла драць»), вобразная сістэма якіх цалкам абапіралася на паэтыку беларускіх народных песень. Ян Чачот быў сярод філаматаў бадай ці не першы, хто ў сваім патрыятычным імкненні глыбей усвядоміў народныя інтарэсы, адкрыў важнейшую сферу выяўлення духоўных сіл народа і, адчуўшы ідэйна-мастацкую каштоўнасць вусна-паэтычнай творчасці, пачаў наследаваць беларускім фальклорна-песенным узорам.

Але маладыя патрыёты неўзабаве былі арыштаваны, і іх жыццёвыя шляхі разышліся. На долю Яна Чачота выпалі цяжкія выпрабаванні выгнанца. У Беларусь ён вярнуўся толькі ў 1833 годзе, а ў родную Наваградчыну, здаецца, толькі на пачатку саракавых гадоў...

У 1823 годзе, пад час арышту, Чачот ужо сабраў значную колькасць беларускіх народных песень і меў даволі акрэсленую праграму фалькларыстычнай

дзейнасці. У «Дадатку» да рукапіснага зборніка «Песенькі і іншыя вершы», перададзенага на захаванне Зосі Малеўскай і праз стагоддзе расшуканага ў Лодзі сярод матэрыялаў так званага «Малога архіву філарэтаў», Чачот, кіруючыся патрыятычнымі памкненнямі, зазначыў, што важнейшы яго намер — «выклікаць увагу да сялянскіх песень і абудзіць жаданне збіраць іх», бо «ў іншых краях такія зборы ўжо старанна выкананы» [1].

Літаратурна-фальклярыстычную дзейнасць Ян Чачот змог разгарнуць толькі ў канцы 30-х — сярэдзіне 40-х гадоў. Але асновы яе закладваліся ў філаматкі перыяд. Заўвагі паэта-фальклярыста да рукапіснага зборніка сведчаць, што кола яго творчых інтарэсаў вызначылася ўжо тады і што ў адносінах да песні як да крыніцы, дзе можна адшукаць гістарычнае паданне, ён быў даволі стрыманы. Чачота прываблівала ў фальклоры адлюстраванне народнага быту, вераванняў, маралі, этыкі. Характарызуючы вусна-паэтычныя творы родных мясцін, ён пісаў: «Вясковыя рускія песні ў Наваградскім краі, прынамсі знаёмыя мне, заўсёды пачынаюцца з параўнанняў. Заўсёды іх ажыўляе пачуццё любасці, часта ёсць мараль... Маці там ці цётка выпраўляе свайго сына ў сваты і гаворыць, што ўбачыш там тры дзяўчыны, адна ў золаце, другая ў аксаміце, трэцяя ў розуме; не бяры ж той, што ў золаце, ні той, што ў аксаміце, а якая ў розуме; золата і аксаміт мінуцца, розум — самае трывалае багацце. Такія цвярозыя і цудоўныя думкі сустракаюцца надзвычай часта. Словам, вельмі варта заняцца збіраннем гэтых помнікаў сапраўднай краёвай літаратуры» [2].

---

[1] Czeczot J. Piosnki i inne wiersze. 1823. (Мікрафільм копіі зборніка, зроблены праф. В. Кліпгерам, знаходзіцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ АН БССР.)

[2] Тамсама.

У свой рукапісны зборнік Чачот уключыў не толькі песні, але і элегіі (трэны), і любоўныя вершы (эротыкі). Акрамя таго, ён быў аўтарам балад «Калдычэўскі шчупак», «Мышанка», «Узногі», «Наваградскі замак», «Свіцязь-возера», заснаваных на мясцовых паданнях. Яны паўплывалі на ўзнікненне рамантычных балад Адама Міцкевіча і, можна сказаць, стаяць ля вытокаў рамантызму польскай літаратуры Беларусі.

Па прызванні Ян Чачот быў паэтам, па творчых жа інтарэсах у ім браў верх фалькларыст.

Ссылка на дзесяць гадоў адарвала Чачота ад роднай песеннай стыхіі, перапыніла яго фалькларыстычныя заняткі, але не прыцьміла ўсведамлення аб патрэбнасці збіральніцкай працы, не пахіснула жадання працягваць яе. «У Чачоце мы маем справу не з чалавекам якой-небудзь хітрай тэндэнцыі,— пісаў рускі этнограф А. Пыпін,— а са шчырым аматарам, які ведаў беларускую мову і народ з дзяцінства і, успрыняўшы ў сваёй школе народны рамантызм і чалавечыя адносіны да народа, ажыццяўляў цяпер гэты даўні настрой» [1].

Што ж было стымулам працы Чачота? Якую мэту ён ставіў перад сабою?

У прадмове да першага зборніка «Сялянскіх песенек з-над Нёмана», выдадзенага ў 1837 годзе, ён прагаварыў: «Сяляне нашы, люд добры, лагодны, працавіты, справядлівы, павінны абуджаць у нас самыя прыхільныя да сябе пачуцці. З імі можам быць шчаслівыя. За працу іх рук аддаючы ім працу розуму і нашай асветы, можам памножыць агульнае дабро. Не думайма, каб і ад іх мы не маглі чаму навучыцца. Многаму навучымся, вывучаючы іх стано-

---

[1] Пыпин А. Н. История русской этнографии. СПб., 1882. Т. 4. С. 55.

вішча і нораў; знойдзем у іх паданні, казкі, легенды, і найбагацейшае будзе жніво песенек, якія дазваляюць спазнаць іх пяшчотныя, прыгожыя, тонкія нават і глыбокія пачуцці...» Тут Чачот вызначыў асветніцкую задачу сваіх выданняў: выклікаць у пануючых класаў і адукаванай публікі свайго краю цікавасць да духоўнага жыцця сялянства, адкрыць ім вочы на маральна-этычную змястоўнасць і эстэтычную каштоўнасць сялянскай песнятворчасці, прышчапіць ім павагу да здабыткаў народнай культуры. Гэтую накіраванасць уласнай працы паэт-фальклорыст падкрэсліваў і ў вершаваных зваротах-прысвячэннях «Дабрачынным панам і ўпраўляючым іх маёнткаў, што клапоцяцца аб дабрабыце сялян», «Добрым і набожным паненкам і панічам», якімі адкрываліся зборнікі.

Адначасна Чачот разлічваў і на тое, што сабраныя і перакладзеныя ім на польскую мову беларускія народныя песні будуць накладзены кампазітарамі на музыку і ў такой абноўленай форме праз нейкі час зноў вернуцца ў асяроддзе іх першастваральніка і будуць служыць маральнаму ўдасканаленню грамадства. Адкрываючы зборнік «Сялянскіх песенек з-над Дзвіны», які выйшаў з друку ў 1840 годзе, вершам пад назвай «Любым мужычкам з-над Нёмана і Дзвіны», Чачот усклікаў: «Калі ж вы, браты, будзеце чытаць, калі будзеце ведаць, што мы вам неслі каласы і кветкі, якія ўзялі з вашай нівы?»

Думаецца, што якраз асветніцкай мэтаю, арыентаванасцю працы на кола чытачоў, выхаваных на кніжнай культуры, абумоўлівалася тое, што Ян Чачот у першых чатырох зборніках фальклорныя творы не падаваў на мове арыгінала, а змяшчаў толькі пераклады беларускіх народных песень на польскую мову і стылізаваныя пад іх уласныя польскамоўныя вершы. У прадмове да першага зборніка «Сялянскіх

песенек...» (1837) паэт абяцаў выдаць з часам, «калі збор павялічыцца», пераклады беларускіх песень «з тэкстам арыгінала». Зрабіў ён гэта ў 1844 годзе, калі змясціў у чарговым зборніку дзевятнаццаць арыгінальных беларускіх песень, польскія пераклады якіх публікаваў у сваіх папярэдніх кнігах, а таксама дваццаць сем «уласных сялянскіх песенек», напісаных па-беларуску і перакладзеных на польскую мову. Такое ўкладанне зборніка, як прызнаваўся сам аўтар, было здзейснена як у адпаведнасці з пажаданнем «аматараў славяншчыны», так і дзеля «сапраўдных прыхільнікаў чалавечнасці і дабрачынцаў сваіх сялян». Гэты зборнік сведчыў пра некаторы зрух у творчасці Чачота: паралельна з запісамі беларускіх народных песень на мове арыгінала і польскімі перакладамі вусна-паэтычных твораў з'яўляюцца ўласныя беларускамоўныя вершы паэта і іх адпаведнікі — пераклады на польскую мову. Зрух, несумненна, адбываўся ў бок дэмакратычнага чытача, у бок папулярызацыі народнай песні ў арыгінальным гучанні і беларускамоўнай «літаратурнай» песнятворчасці. Яшчэ больш у гэтым пераконвае апошні зборнік «Сялянскіх песенек...», выдадзены ў 1846 годзе. У яго ўвайшлі арыгінальныя валачобныя, вясеннія, купальскія, калядныя, дажынкавыя, ці летнія, вясельныя, хрэсьбінныя і іншыя беларускія народныя песні. Тут жа быў змешчаны ўласны аўтарскі верш «Да мілых мужычкоў», напісаны пабеларуску.

Зацікавіўшыся беларускім фальклорам і заняўшыся збіраннем народнага меласу, Чачот напачатку імкнуўся ўключыць яго, па ўсёй верагоднасці, у агульнапольскае рэчышча, прынамсі зрабіць вуснапаэтычную творчасць беларусаў здабыткам польскамоўнага чытача. У працэсе ж перакладчыцкага паглыблення ў народную творчасць паэт прыйшоў да

перагляду сваіх зыходных пазіцый і ў рэшце рэшт вострa ўсвядоміў неабходнасць таго, каб адрасаваць фалькларыстычную працу і ўласную песенную творчасць не толькі польскамоўнаму, але і беларускамоўнаму чытачу.

На эвалюцыю Чачота ўплывала яго спачуванне прыгнечанаму селяніну, імкненне працягнуць руку маральнай падтрымкі і, вядома ж, бязмежнае захапленне вусна-паэтычнай творчасцю беларускага народа. Яшчэ ў 1834 годзе, пад час падрыхтоўкі прадмовы да першага зборніка «Сялянскіх песенек...», паэт, характарызуючы песні беларусаў, выказаў захапленне беларускім меласам: «Які гэта скарб для ўмелага спевака і назіральніка! Колькі ж там нязмушанай і свежай паэзіі». Падобнае ўражанне не пакідала Чачота і пазней. «Што тычыцца саміх песень,— пісаў ён у 1844 годзе,— то, будучы іх перакладчыкам, я не змагу быць суддзёю, аднак адчуваю ў іх асаблівую прывабнасць, навізну формы і лаканізм у перадачы пачуццяў».

Успрыманне вуснай паэзіі як непадробнага і немнагаслоўнага выяўлення народнай душы дазволіла Чачоту зрабіць наступнае заключэнне: «Няма ў нашых салонных пісьменнікаў гэтай сцісласці; там найчасцей бывае ўсё ў вялікіх памерах, а калі-нікалі ажно да стомы велізарных. Памяць — не кніжка, не магла б іх утрымаць на стагоддзі; працоўнае і дзейснае жыццё не здабылося б на агромністыя паэмы. Адсюль паходзіць і гэтая сцісласць і разам з тым выразнасць народнай паэзіі. Мы прывыклі да разумовай празмернасці і не дзіва, што не надта разбіраемся ў сялянскіх песеньках; дзеткі яе толькі любяць, хоць не зусім разумеюць; аднак гэтая любоў дае надзею, што, як падрастуць, болей за нас палюбяць сялянскую паэзію, сапраўды народную і маладую, хоць і адвечную».

Паэт з надзеяй глядзеў на падрастаючае пакаленне, у будучыню. Новае пакаленне хутка падрасло. Яно вылучыла пісьменнікаў, для якіх шэсць кніг «Сялянскіх песенек...» Яна Чачота былі мастацкім першаадкрыццём беларускага народа і прыкладам адданага служэння роднаму краю.

* * *

Гэты артыкул быў напісаны задоўга да выхаду ў 1989 г. у выдавецтве «Мастацкая літаратура» кнігі Яна Чачота «Наваградскі замак» (укладанне і пераклад польскамоўных твораў Кастуся Цвіркі). Цудоўна аформленая, яна прыцягне ўвагу ўсіх аматараў беларускай мінуўшчыны і, трэба спадзявацца, будзе прачытана з цікавасцю і карысцю, бо дасць першае ўяўленне пра асноўны творчы набытак аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры.

# «НІЧОГА ТАКОГА Я НЕ ПІСАЎ...»



Высвятленне літаратурна-гістарычных пытанняў звязана з бесперапынным абнаўленнем, назапашваннем звестак і фактаў літаратурнага мінулага, няхай сабе, на першы погляд, нязначных. Так званыя дробязі здольныя павярнуць ужо вядомую, стабілізаваную ў нашым уяўленні з'яву іншай гранню, а ў недастаткова акрэсленую карціну ўнесці той неабходны штрых, які надасць яе абрысам большую выразнасць. Зразумела, што архіўны ці бібліяграфічны пошук не заўсёды прыводзіць да тых менавіта вынікаў, якіх чакаеш. Ды і знаходзіш, здараецца, не там, дзе шукаеш.

Калі, прыязджаючы ў Вільнюс, я адбіраў для прагляду ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР матэрыялы, якія тычацца польска-беларускага літаратурнага сумежжа і ўзаемадзеяння ў сярэдзіне XIX стагоддзя, то кожны раз адкладваў на потым знаёмства з карэспандэнцыяй віленскіх кнігавыдаўцоў Завадскіх. Неяк не верылася, што тут можна яшчэ што-небудзь адшукаць: калісьці пра гэты збор даволі падрабязна пісалі польскія даследчыкі, сярод яго папер Адам Мальдзіс выявіў лісты Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Гераніма Марцінкевіча. Аднак абмежавацца вывучэннем адной толькі картатэкі па карэспандэнцыі Завадскіх, проста на ўсякі выпадак, як гэта планавалася напачатку, мне не давялося. Увагу прыцягнулі лісты Ігната Легатовіча, паэта і педагога, які нарадзіўся ў вёсцы Малая Капліца каля Гродна, жыў і працаваў настаўнікам у Лепелі, Мінску.

Як вядома, вершаваныя мініяцюры Ігната Легатовіча, напісаныя па-польску, карысталіся ў свой час папулярнасцю на Міншчыне. Эпіграмы паэта, скіраваныя звычайна ў адрас кагосьці з мясцовых жыхароў, заўсёды знаходзілі тут сваіх прыхільнікаў. Выстаўляючы на асмейванне прыватныя чалавечыя слабасці, Легатовіч адважна закранаў і грамадскія заганы, каб вынесці прысуд прыгонніцтву. У адной з эпіграм ён гаварыў, што пасля смерці мінскага губернскага маршалка шляхты Оштарпа «паны піць перастануць, а мужыкі есці пачнуць». Больш таго, паэт напісаў на беларускай мове адкрыта антыпрыгонніцкі верш «Скажы, вяльможны пане», напісаў ад імя мужыка, які добра ўсведамляе сваю чалавечую годнасць і ўжо не хоча прымаць сацыяльнай няроўнасці.

— Скажы, вяльможны пане,
Што ў нашым будзе стане?
Бо мне нешта казалі,
Што вы няслушна давалі
У марцы подушнэго?
— А тобе, хлопе, цо до тэго?
— Праўда, што вы панамі
Пакуль жывіцё над намі...
Але што з таго будзе,
Калі станем на судзе?
Не скажаш, пане, тэго:
«Цо тобе, хлопе, до тэго?..»

За публікацыю гэтага макаранічнага верша быў канфіскаваны — неўзабаве пасля выхаду — амаль увесь тыраж альманаха «Боян» (Вільня, 1838).

Адзін з нямногіх, выпадкова заашчаджаных тады, дзякуючы чыноўніцкаму недагляду, экземпляр альманаха прыдбаў для ўласнай бібліятэкі ў Патужыцы, што непадалёк ад Львова, граф Юзаф Дзедушыцкі, вядомы ў свой час апекай над навучэнцкай моладдзю і цягай да збірання рэдкіх выданняў,

рукапісаў і гравюр. Мепавіта гэты экземпляр зберагаецца цяпер ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Беларускай акадэміі.

Усё гэта якраз і падштурхнула мяне прагледзець лісты Ігната Легатовіча да Адама Завадскага. Найбольш цікавым уяўляецца ліст ад 8 сакавіка 1851 года, адпраўлены Легатовічам з Мінска[1]. Ён выклікапы клопатам паэта наконт выдання кнігі «Падарунак для моладзі», рукапіс якой быў адасланы Завадскаму ў першыя дні лістапада 1850 года. Імкнучыся высветліць, чаму затрымліваецца выданне яго кнігі, аўтар заўважае: «Нічога такога я не пісаў, чаго нельга было б друкаваць; непадобна таксама, каб пішчуплую кніжачку за столькі месяцаў цэнзура прачытаць была не ў стане». Але сумненні Легатовіча былі развеяны: канфлікту з цэнзурай на гэты раз не ўзнікла, і яго праца неўзабаве ўбачыла свет.

Скажу, што паэта цікавілі не толькі яго аўтарскія інтарэсы. Ён звяртаўся да віленскага выдаўца і за канкрэтнай інфармацыяй пра літаратурныя навіны. Легатовіч піша, што «рады быў бы даведацца, ці выйшлі наступныя тамы навуковага часопіса, выдаванага Падбярэскім». Пытаючыся пра гэта ў А. Завадскага, аўтар ліста, відаць, і не падазраваў, што яшчэ ў снежні 1850 года Рамуальд Падбярэскі разам з іншымі перадавымі латаратарамі быў арыштаваны і знаходзіўся пад следствам, а выданне яго альманаха «Паментнік Науково-Літэрацкі», на старонках якога шырока публікаваліся беларускія матэрыялы, забаронена. Дзве апошнія кнігі штогодніка, падрыхтаваныя да друку, трапілі ў жандарскае аддзяленне. А тое, што Легатовіч цікавіўся самым дэмакратычным пад той час выданнем на беларуска-літоўскіх землях, гаворыць ужо само за сябе.

---

[1] ЦБ АН ЛітССР. Аддзел рукапісаў, ф. 158—719, арк. 3.

У тым жа лісце ёсць яшчэ адно сведчанне пільнай увагі Легатовіча да культурна-грамадскага жыцця роднага краю, да сейбітаў дэмакратызму ў гэтым жыцці. Ён піша: «Прашу прыслаць мне як-небудзь пры зручным выпадку адзін экземпляр (здаецца, тры томікі) твораў Сыракомлі: адразу ж, як атрымаю іх, патрэбныя грошы з удзячнасцю адашлю... Дзе прымаецца падпіска на «Літаратуру» Сыракомлі і колькі гэта каштуе?»

Несумненна, Легатовіч бачыў ва Уладзіславе Сыракомлі свайго аднадумца, угадваў у ім песняра сумлення сучаснікаў, будучага аўтара антыпрыгонніцкага верша «Вызваленне сялян», у якім прагучыць гнеўнае асуджэнне вяльможных прыгнятальнікаў народа:

...Мой край няшчасны!
Карону годнасці ў цябе сарвалі,
Твае айцы сваёй рукою ўласнай
Кайданы люду самі ўмацавалі.
*(Пераклад М. Лужаніна)*

# «ЧЫМ ХАТА БАГАТА...»

Вінцэсь Каратынскі пачынаў тады, калі беларускае слова ў мастацкай літаратуры яшчэ не дабрала такой моцы, каб супернічаць з развітай у Беларусі іншамоўнай пісьмовай традыцыяй. Выціснутае з кніжнага ўжытку стагоддзямі паланізацыі народа, афіцыйна пазбаўленае царызмам правоў грамадзянства, яно суіснавала з польскім і рускім словам нібы ў надзеі на іх падтрымку ці абарону. Ніводзін твор, напісаны ў той час па-беларуску, не выйшаў асобнай кнігай. І таму, што не было сваёй, беларускамоўнай друкаванай трыбуны, на якую патрабаваліся значныя выдаткі, а галоўнае — дазвол незацікаўленага ў гэтым урада, і таму, што цэнзура, старанная ахоўніца спакою ўрада, у сярэдзіне мінулага стагоддзя параўнальна паблажліва ставілася нейкі час да публікацыі пад аднымі вокладкамі з іншамоўнымі мастацкімі ці этнаграфічнымі матэрыяламі твораў на беларускай «гаворцы», бо ў гэтым нібыта яшчэ не выяўлялася іх самастойнасць. Свае вершаваныя аповесці на беларускай мове Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч інакш і не выдаваў, як пад «прыкрыццём» уласнай польскамоўнай творчасці. Чатыры яго зборнікі, выдадзеныя адзін за адным у Мінску ў 1855—1857 гадах, так сказаць, змешаныя, двухмоўныя.

З польскіх і беларускіх вершаў наважваўся скласці сваю першую паэтычную кнігу і Вінцэсь Каратынскі. Аднак Уладзіслаў Сыракомля, пазнаёміўшыся з вершамі, выбранымі аўтарам у зборнік «Чым хата багата, тым рада», прапанаваў выдаць беларус-

кую паэзію асобна, у сумеснай кнізе: сярод ягоных твораў таксама набіралася «трошкі беларускіх». Задуму, выспеленую клопатам пра незалежнасць існавання беларускага мастацкага слова, ажыццявіць не ўдалося. Ці не таму, што цэнзуру насцярожвалі прыкметы яго самастойнасці? Пра гэта архівы маўчаць. Маўчаць таксама і тыя беларускія творы Каратынскага, якія разам з Сыракомлевымі вершамі павінны былі скласці першую ў XIX стагоддзі выключна беларускамоўную кнігу паэзіі. Маўчаць выказаныя ўслых па-беларуску — і не пачутыя сучаснікамі, даверапыя пяру — і не данесеныя наступным пакаленням думкі аднаго з вельмі нямногіх сялянскіх сыноў, які ў згубна абразлівы і жорсткі для простага чалавека час змог узняцца да інтэлектуальных вышыняў...

Вінцэсь Каратынскі нарадзіўся 15 жніўня 1831 года ў вёсцы Селішчы Навагрудскага павета. Ён быў першынцам у маладой сям'і Аляксандра Каратынскага, раней — Каратая, які незадоўга перад жаніцьбай з селішчанскай шляхцянкай-аднадворкай Юзафатай з Далідовічаў, выхаванкай Марка Татароўскага, нейкім чынам здабыў вольную і перастаў быць прыгонным мясцовага памешчыка. Ды не зведаў як належыць Аляксандр Каратынскі хлеб «вольнага земляроба», не паставіў сам сваіх дзяцей на ногі, не вывеў у людзі — утапіўся ў Нёмане ў часе вялікай паводкі.

У школу Вінцэсь не хадзіў. Яго настаўнікам быў арганіст, якога маці наняла за даступную плату. Ён навучыў хлопчыка чытаць і пісаць па-польску і па-руску, даў асновы арыфметыкі. Астатняе дабіралася самавукам. Потым, калі падраслі малодшыя браты — Міхал і Ян, Вінцэсь ужо сам вучыў іх, каб ашчадзіць няспорную ў хаце капейку. За гэтым рэпетытарствам пайшлі іншыя: у суседзяў, у шляхечых

дварах на Наваградчыне[1]. За Вінцэсем паступова замацоўвалася ў ваколіцы слава юнака вялікай вучонасці. А веды здабываліся з-за сямі замкоў, па пазычаных кнігах. Прагу да святла Вінцэсь спатольваў напачатку перапісваннем кніг. Цалкам ён перапісаў сабе «Гісторыю Польшчы» Іаахіма Лялевеля і «Дэмана» Міхаіла Лермантава. Яны заставаліся ў Каратынскага і тады, калі ў яго сабралася неблагая ўласная бібліятэка друкаваных кніг.

Апошнім прыпынкам у вандроўках хатняга настаўніка Вінцэся Каратынскага быў дом Шастакоўскіх у вёсцы Сенная, размешчанай уздоўж левага прытока Нёмана Валоўка. Тут малады настаўнік, можна сказаць, выпадкова пазнаёміўся з такім жа, як і сам, вандроўнікам, колішнім уніяцкім парохам Давідовічам, які, не маючы свайго прыходу, ездзіў па маёнтках і перакладаў старыя шляхецкія дакументы на рускую мову. Вінцэсь адкрыўся яму, што складае вершы,— і Давідовіч, які асабіста ведаў Уладзіслава Сыракомлю, узяў на сябе ініцыятыву пазнаёміць пачынаючага літаратара з прызнаным ужо паэтам[2].

Летам 1850 года Вінцэсь Каратынскі адважыўся пераступіць парог у неакрэсленую будучыню, пакліканы краёвым літаратурным жыццём, якое рэхам даносілася ў ціхі прынёманскі фальварак Залуча, арандаваны Сыракомлем: ён пагадзіўся быць памочнікам-сакратаром паэта. Каратынскі перапісваў начыста гатовыя творы свайго апекуна, здаралася, браўся адказваць на лісты, якіх дасылалася Сыракомлю ўсё болей і болей, бо імкліва расла яго папулярнасць.

---

[1] Архіў горада Варшавы і ваяводства Варшаўскага, рук. 181, арк. 10.

[2] Korotyński W. Obrazy z pobrzeży Niemna // Tygodnik Powszechny. 1884. № 14. S. 212.

Непасрэднае далучэнне да такой з'явы, як творчасць таленавітага сучасніка, асвятляла самаадукацыю сялянскага сына мэтанакіраванасцю. Быў ён тытанічна працавіты і меў выключную памяць. Праўда, у Залучы таксама адчуваўся недахоп літаратуры. Сыракомлеў кнігазбор пад той час не дасягаў і 400 экземпляраў. Тым не менш тут адкрылася мажлівасць часцей знаёміцца з мастацкімі навінкамі, змешчанымі ў перыядычных выданнях, віленскіх, пецярбургскіх, варшаўскіх, шырэй уведаць творы паэтаў-лаціністаў і вывучыць старыя хронікі якія Сыракомля нястомна перакладаў тады на польскую мову. Яго арыгінальная паэзія (гутаркі, заснаваныя на мясцовых паданнях, і вершы, сугучныя тутэйшым песням і светаўспрыманню сялян, прасякнутыя празрыста-балючай любасцю да радзімы і адмаўленнем прыгонніцтва), захапленне апрацоўкай гісторыка-краязнаўчых матэрыялаў, звязаных з акаляючымі мясцінамі, надзвычай уражвалі здольнага юнака, як і ўсю дэмакратычна настроеную моладзь Беларусі і Літвы, абуджалі і выкрышталізоўвалі яго асабістыя творчыя інтарэсы і задумы. Двухгадовы залучанскі перыяд жыцця быў для Вінцэся Каратынскага сыракомлеўскім універсітэтам.

Калі ў канцы 1852 года Сыракомля разам з сям'ёй пераехаў у Вільню, Каратынскі на нейкі час застаўся ў Залучы, каб давесці да канца незавершаныя ў фальварку гаспадарчыя справы. З вясны 1853 года жыў ва ўзятай у арэнду Сыракомлем Барэйкаўшчыне, пасяліўшыся ў афіцыне, што стаяла побач з арандатарскім домам. Памочнікам свайго літаратурнага настаўніка Каратынскі заставаўся і тады, калі, ажаніўшыся з Станіславай Цалінай Якубовіч, жыў сваім домам і меў шмат журналісцкіх і грамадска-культурных абавязкаў. Ён супрацоўнічаў у часопісе «Тэка Віленьска», быў членам рэдкалегіі газеты «Кур'ер

Віленьскі» і карэспандэнтам «Газэты Варшавскей», уваходзіў у склад Віленскай археалагічнай камісіі, з'яўляўся членам Статыстычнага камітэта ў Вільні, рыхтаваў матэрыялы ў «Слоўнік польскай мовы» і рэдагаваў яго.

Паэтычны дэбют Вінцэся Каратынскага — публікацыя верша «Над калыскай» у аўтарытэтным польскім часопісе «Бібліотэка Варшавска» (1856. Т. 2) — суправаджаўся апякунскім выступленнем Сыракомлі ў «Газэце Варшавскей» (1856. № 149). Дбаючы пра чытацкае суперажыванне і пра зычлівае стаўленне крытыкі да маладога паэта, вясковы лірнік пісаў: «У майскім нумары «Бібліотэкі Варшавскей» грамадскасць сустракае над хвалюючым вершам «Над калыскай» невядомае ёй дагэтуль імя Вінцэнта Каратынскага. Мы ведаем многа твораў гэтага аўтара, з якіх малы зборнік «Чым хата багата, тым рада» ідзе ў гэтую хвілю ў друк. Аўтар абуджае ў нас занадта моцнае спачуванне, каб мы віталі новую з'яву дачаснымі пахваламі. Цярністую дарогу пісьменніка ён выбраў сам — сам сабе няхай будзе абавязаны сваім поспехам,— а ці можам яго прадказваць, мяркуйце самі па гэтым малым ўрыўку з прадмовы «Пастрыжыны» да зборніка яго паэзіі:

...Святочную праўлю бяседу, равеснік,
За чынаї святой, за абрадам.
Вось хлеб мой з мякінай, нясвежыя песні:
Чым хата багата, тым рада.
Літвін я — ах, людцы, вялікі мне сорам,
За свої перад вамі дабытак:
Прысмакаў не мае сялянскі мой хорам,—
Ласункам не ўсцешыць спажытак...

*(Пераклад Г. Тумаша)*

Хто так спявае, той не ўбогі ў хаце сваёй душы — ён складзе вам калі-небудзь пачастунак з пажыўных калачоў, з птушынага малака і мёду;

толькі вы павінны будзеце часам прабачыць яму перцавую горыч, якая незаўважна з цяжкай атмасферы жыцця трапіла ў ежу, прыгатаваную братняй рукою»[1].

Горыч жыццёвай атмасферы... Ці не таму, каб яе, гэтай горычы, у кнізе было меней, па-за зборнікам Каратынскага, які з'явіўся на паліцах кнігарань пад канец 1856 года, засталося шмат вершаваных твораў — і ў рукапісу, і надрукаваных у перыёдыцы? Верш «Пасля сватання» — гэта маналог сялянскага хлопца, які, вяртаючыся дахаты, нанава перажывае вельмі істотны ў сваім лёсе ўрачысты момант. Усё як быццам ідзе ладам: ён пасватаўся да каханай дзяўчыны, і яна, у адпаведнасці са звычаем, падарыла пляшку з жытам — адзнаку бацькоўскага багаслаўлення і яе згоды на шлюб. Але як ні парываюцца хлопцавы думкі ў свет, здавалася б, блізкага шчасця, іх перапыняе прадыктаванае рэчаіснасцю пытанне: «Ой, ці толькі пан дазволіць?» Няпэўнасць прымушае хлопца мроіць пра заступнікаў — караля і бога, але і ад гэтага не лягчэй, бо зноў наплывае пытанне: «Ох, ці толькі пан дазволіць?» Ён — і кароль, і бог. Ад яго залежыць, ці быць каханым разам. І не толькі гэта. Ужо ў другім вершы Каратынскага — «Бярозка» — персаніфікаваная бяроза, якая і ўзрасла шчаслівай, і спазнала радасць кахання, і ўсвядоміла, што гэта і ёсць жыццё, нечакана выкажа:

Совы, дзеці цёмнай ночы,
Тут, у нас, не маюць спрату...
Чалавек мяне азмрочыў:
Ломіць розгі, б'е ён брата!

*(Пераклад У. Мархеля)*

---

[1] Syrokomla W. Hebdomadalia // Gazeta Warszawska. 1856. № 149.

У творах, уключаных у кнігу «Чым хата багата, тым рада», «перцавая горыч» прыгонніцкай рэчаіснасці выяўляецца не так кантрастна, як у вершах «Бярозка» і «Пасля сватання», але «прысмак» яе на старонках зборніка адчувальны, яна неад'емная «прыправа» бадай кожнага верша: «паншчына гэтак скавала мне рукі і ногі»; «ўся зямліца — камяніца, дзе ж цяпло-спагада?»; «збожжа ў нас было многа — вераб'і падзяўбалі»; «і ў гуменцы, і ў каморы сум ды гора»; «світа шэрая», «спахмурнелі нябёсы», «бядача». Паэзія Каратынскага жывілася не аддаленымі ўяўленнямі пра беларускае сялянства, а любасцю да яго, прыніжанага і зганьбаванага вышэйшымі класамі, любасцю, неадлучнай ад роздуму пра родны край. Таму зусім натуральна, што змрочныя малюнкі ці з'явы быцця, знаёмыя паэту з дзяцінства, змяняюцца ў яго творчасці натхнёнымі радкамі спадзявання на лепшыя, сонечныя дні («Першы дзень вясны»), веры ў непазбежны надыход вялікай справядлівасці на зямлі, калі ў людзях сальюцца тры любові — да сям'і, чалавецтва і радзімы («Любасць»).

Тагачасныя крытыкі схільны былі бачыць у паэце перш за ўсё наследавальніка Сыракомлі, хоць больш правільна было б гаварыць пра творчы ўплыў вясковага лірніка, што найбольш адчувальна адбіўся на вершаваных апрацоўках паданняў і некалькіх гутарках Каратынскага. У астатнім жа гэта, хутчэй, падабенства роднасці, блізкасць своеасаблівасцяў, пра што якраз і сказаў Сыракомля ў сваім «Слоўцы да чытача», якім адкрываў зборнік Каратынскага. «Колькі гадоў жывучы ў маім доме, з тых жа вясковых крыніц, любові да народа, прыроды, кнігі, долі і нядолі чэрпаў ён натхненне, што і мы самі,— пісаў папулярны паэт пра свайго малодшага паплечніка.— Надзелены ад нараджэння здольнасцю, ад

нас, можа, пераняў ён ахвоту да песні, пры нас, можа, развіў яе, але развіў самабытна»[1].

Усведамленне непаўнаты першага зборніка і аўтарскай недавыказанасці пачуцця аб родных прынаваградскіх мясцінах, аб працавітых і тым не менш гарапашных насельніках гэтага маляўнічага кута Беларусі, аб нялюдскіх стасунках панскага двара і падданай вёскі, аб пачварнасці грамадства, якое здрабніла, знікчэміла чалавечыя інтарэсы, падштурхнула Каратынскага да стварэння паэмы «Таміла». Выдадзеная ў 1858 годзе, яна працягвала з чытачом гутарку, напоўненую тым жа клопатам, што і папярэдняя кніга, аднак з большым абсягам жыццёвых рэалій, канкрэтызаваных і выпукла матэрыялізаваных у мастацкіх вобразах. Зацятае змаганне старога Тамілы з неўраджаем і сялянскай нядоляю завяршаецца яго паражэннем: ён пазычыў насенне ў пана, а вярнуць, хоць і настала восень — пара прыбраных палёў, не было з чаго, бо «гумно як падмецена, пуста ў каморы і хлеба апошні ўжо бохан пачаты». Каб разлічыцца з панам, Таміла прадае пярэстага коніка — і траціць апошнюю надзею на які-небудзь апаратунак ад галечы... Спачувальнае аўтарскае апавяданне перакрыжоўваецца ў паэме з думкамі галоўнага героя, якія, трымаючы яго ў замкнутым коле замацаваных беспрасветным існаваннем забабонаў і паглыбляючы разгубленасць перад несправядлівасцю лёсу, усё-такі не даюць адказу, хто ў гэтым вінаваты («Ох, долечка ж наша, адкуль ты наслана?»). Ідучы ад рэчаіснасці, Каратынскі, паводле яго слоў, «вывеў на сцэну народ такім, які ёсць, і прымусіў яго прамаўляць пра самога сябе ўласнымі песенькамі, прымаўкамі і выслоўямі». Адсюль, па-

---

[1] Korotyński W. Czem chata bogata, tem rada. Wilno, 1857. S. 1—2.

пэўна, і частыя беларусізмы ў гэтым «абразку з народнага жыцця» (сёрбаць, нядобры, статак, пакалець, вымысліць і інш.).

Паэма «Таміла» пісалася ў час палемікі пра тэндэнцыйнасць літаратурных твораў, якая, пачаўшыся ў польскай перыёдыцы з абмеркавання вострасацыяльнай аповесці Ю.-І. Крашэўскага «Два светы», выявіла розныя погляды пісьменнікаў на мэты і задачы літаратуры, паказала, што прыхільнікам чыстага мастацтва процістаяць сілы, здольныя адлюстроўваць жыццё па новых прынцыпах — рэалістычных. Менавіта імі кіраваўся Каратынскі ў сваёй працы над буйным творам. Трагічны вобраз Тамілы выпісаны з любоўю, але без той ідэалізацыі, якая была ўласціва, напрыклад, сыракомлеўскім гутаркам, звернутым да «братоў у капоце і братоў у сярмязе». Увасобіўшы ў паэтычнай практыцы сваё разуменне тэндэнцыйнасці літаратурных твораў, Каратынскі не прамінуў падмацаваць яго тэарэтычна ў каментарыях да паэмы. «Што такое тэндэнцыя? — ставіць пытанне Каратынскі і сцісла тлумачыць: — Увогуле, гэта імкненне да праўды, у тым ці іншым кірунку, гэта цэнтр, асноўная думка, душа твора». Як і рэвалюцыйныя дэмакраты, паэт супраць эстэцтва, ён за мастацтва, звязанае з жыццём, праўдалюбнае і дзейснае.

Клопат Каратынскага пра ідэйны змест напісанага, выказаны ў афарыстычных заўвагах да «Тамілы», ні ў якім разе не засланяў сабою працу над удасканаленнем мастацкай формы твораў. Яго лірыка багатая на разнастайную строфіку. Паэт амаль не карыстаецца лёгкай дзеяслоўнай рыфмаю. Ён вельмі чуйны да рытмічнай арганізацыі радка, пераважна сілаба-танічнай, але і з яркімі ўзорамі народнага танічнага верша («Сірата»). Натуральна і абноўлена ўліваюцца ў паэзію Каратынскага пераплаўленыя ёю

матывы і рэмінісцэнцыі беларускага фальклору. Паэт умела сінтэзуе элегічную інтанацыю і алегарычны стыль, каб праз канкрэтна-пачуццёвае ўяўленне і яго сэнсавую інтэрпрэтацыю данесці да чытача невясёлую праўду рэчаіснасці і свае дэмакратычныя ідэі.

Публіцыстыка, гісторыка-краязнаўчыя нарысы Каратынскага таксама сведчаць, што іх аўтар дбаў, як паўстануць перад публікай ягоныя думкі і тыя ці іншыя звесткі. Каратынскі надрукаваў два цікавыя нарысы пра свайго вялікага земляка Адама Міцкевіча, у якіх, апіраючыся на невядомыя тагачасным літаратуразнаўцам дакументы, удакладніў некаторыя дэталі ў біяграфіі паэта. Яго пяру належыць даследаванне «Саламон Рысінскі», здаецца, самае поўнае з усяго, што калі-небудзь публікавалася пра гэтага збіральніка беларускіх прымавак XVII стагоддзя. Публіцыст напісаў творчыя партрэты Яўстафа і Канстанціна Тышкевічаў, заснавальнікаў навуковай археалогіі ў Беларусі, фалькларыста Рамуальда Зянькевіча і інш., мноства артыкулаў пра беларускія гарады (Віцебск, Слуцк, Валожын, Стоўбцы і інш.) ва ўсеагульную польскую энцыклапедыю. Урэшце, Каратынскі — аўтар аб'ёмістага нарыса «Карціны з берагоў Нёмана», які не страціў краязнаўчай цікавасці да нашых дзён.

Пасля выдання ў 1859 годзе кнігі «Выпіў Куба да Якуба» Каратынскі надзвычай рэдка выступаў у друку з вершамі. Шасцідзесятыя гады складваліся для беларуска-польскага паэта і публіцыста нешчаслівa. Восенню 1862 года памёр Уладзіслаў Сыракомля. Пазней удзячны вучань складзе свайму настаўніку і паплечніку найлепшы помнік — дзесяцітомны збор ягонай паэзіі.

Надзеі, звязаныя з паўстаннем 1863 года, не спраўдзіліся. Жандарскія вобыскі, падазрэнні ў напісанні нелегальных агітацыйных брашур, абмежа-

ваныя магчымасці друкавацца на радзіме, спустошанай мураўёўскай рэакцыяй, і матэрыяльная нястача вымусілі Каратынскага на пачатку 1866 года пакінуць Вільню. У Варшаве ён цалкам прысвяціў сябе польскай журналістыцы. Уваходзячы ў склад рэдакцыі «Газэты Варшавскей», рэдагаваў папулярны «Календаж Явароўскага», быў членам рэдкалегіі часопіса «Венец», «Тыгоднік Повшэхны» і «Тыгоднік Ілюстрованы» і толькі калі-нікалі вяртаўся, як у памяць, у хату сваёй паэзіі. 7 лютага 1891 года Вінцэсь Каратынскі памёр на працы ў рэдакцыі за пісьмовым сталом.

З усёй беларускамоўнай спадчыны паэта-дэмакрата да нас дайшлі тры вершы — «Уставайма, братцы, да дзела, да дзела!», прысвячэнне А. Вярыгу-Дарэўскаму і «Туга на чужой старане». Гісторыкі літаратуры неаднаразова выказвалі меркаванне, што Каратынскі напісаў беларускую вершаваную пракламацыю «Гутарка старога дзеда», якая выдавалася ў падпольнай беластоцкай друкарні напярэдадні студзеньскага паўстання. Ёсць таксама здагадкі, што аўтар «Тамілы» прычыніўся да стварэння агітацыйнай антыцарскай «Гутаркі двух суседаў», прынамсі да яе трэцяга і чацвёртага выпускаў. Гэтыя думкі, на першы погляд, выключаюць адна адну. Але толькі на першы погляд. Абедзве гутаркі зыходзяць з адной ідэі і ўяўляюць сабой стылізацыю пад народнае, прытым вельмі блізкую па свайму характару і нават лексічных сродках. Магчыма, яны выйшлі з-пад пяра аднаго аўтара, хутчэй за ўсё Вінцэся Каратынскага. Нездарма сын паэта Бруна згадвае ў сваіх мемуарах пра напісаны бацькам па-беларуску цыкл агітацыйных антыўрадавых вершаў [1].

---

[1] Архіў горада Варшавы і ваяводства Варшаўскага, рук. 181, арк. 22.

Калі ў гутарках гнеўныя словы ў адрас царызму былі кінуты ананімна, ці, так сказаць, завочна, то ў вершы «Уставайма, братцы...» аўтар, звяртаючыся да цара, гаварыў пра «ноч» над роднай старонкай, пра «чорную святліцу», дзе не прымеш высокага госця, пра «матку-зямліцу», яе неўрадлівы «жаўценькі» пясок, што прамакае расою слёз, гаварыў адкрыта, у вочы: твор быў укладзены ў альбом-адрас, які падрыхтавалі віленскія літаратары і паднеслі Аляксандру II над час яго прыезду ў сталіцу так званага Паўночна-Заходняга краю ў верасні 1858 года. Каб не ўносіцца ў пахвалах «яго вялікасці», а нагадаць яму пра народную цемру і пакуты, ды яшчэ на забароненай мове — трэба было мець грамадзянскую мужнасць. Зусім іншае — прысвяціць верш паэту-аднадумцу. Каратынскі ўпісаў яго ў альбом беларуска-польскага паэта Арцёма Вярыгі-Дарэўскага праз месяц пасля свайго «вітання» цара. Запіс сагрэты аўтарскім адчуваннем братняга пляча на абранай дарозе і аднаўленнем веры ў здольнасць паэзіі актывізаваць у людзях памкненні да лепшай будучыні, да патрыятычнай дзейнасці. Ці не Вярыгу-Дарэўскага, сасланага ў Сібір за ўдзел у студзеньскім паўстанні, ці не тых сяброў, якія, пазбягаючы царскага праследу, пакінулі радзіму, меў на ўвазе паэт у элегіі «Туга на чужой старане»?

Адарвалі сіраціну
Ад сваёй зямлі,
Даўшы розум, хараміну,
Шчасця не далі...

Было тут і асабістае. У 1864 годзе перад Каратынскім ужо стаяла суровая неабходнасць ад'езду з Вільні, расстання з радзімай — хатай свайго натхнення. Але дзверы ў гэтую хату ён не замыкаў...

# РУПЛІВЫ ЗБІРАЛЬНІК



Старадаўняя, амаль ці не з XVIII стагоддзя брама, не новы, але дагледжаны і ўтульны надраўляны дом з малымі шыбамі ў вокнах надоўга заставаліся ў памяці прыезджых. А прыязджалі сюды ў другой палове XIX стагоддзя нярэдка, прыязджалі адусюль і з пэўнай мэтаю. На пачатку верасня 1891 года падарожнік Ян Ілгоўскі ў сваім нарысе «З экскурсіі на Беларусь» пісаў: «З Гомельшчыны я прыехаў неўзабаве ў бок Ігумена, да нашага заслужанага знаўцы Міншчыны і публіцыста Аляксандра Ельскага. У маёнтку Замосце, пад гасціннай страхою гаспадара, які адчувае ўсё высакароднае і прыгожае, спачувае кожнай добрай справе або пошуку праўды, я атрымаў вялікую магчымасць заняцца сваімі навуковымі росшукамі» [1]. Так, менавіта дапытлівасць — часцей, вядома, пазнаваўча-даследчыцкая — скіроўвала да сядзібы вядомага беларусіста Аляксандра Каралевіча Ельскага шляхі людзей розных, далёкіх і блізкіх. Іх прывабліваў багаты краязнаўчы музей, заснаваны ў 1864 годзе. Тут з часам назапасілася звыш шасцідзесяці карцін і двух тысяч гравюр, шмат малюнкаў і эскізаў заходнееўрапейскіх (Веранезе, Ляммі, Бачарэлі) і мясцовых (Гараўскі, Смуглевіч, Чаховіч, Аляшкевіч, Дамель, Ванькові) мастакоў, зберагаліся асобныя прадметы і лісты Адама Міцкевіча і Тадэвуша Касцюшкі, калекцыі фарфору, шкла, слуцкіх паясоў, каля дваццa-

---

1 Ilgowski J. Z wycieczki na Białoruś // Kraj. 1891. № 37. S. 7.

ці тысяч аўтографаў і дакументаў (у тым ліку Пятра І. Напалеона, Лютэра, Вашынгтона, Міцкевіча і інш.), матэрыялы, што тычыліся паўстанняў Касцюшкі, 1830—1831 і 1863 гадоў, Айчыннай вайны 1812 года, шмат разнастайных памятак гісторыі палітычнага і культурнага жыцця Беларусі.

Беспераныпным клопатам Аляксандра Ельскага была таксама яго замосцінская бібліятэка. Колькасць сабраных у ёй кніг перавышала дзесяць тысяч адзінак, сярод якіх былі старадрукі, выданні XVII стагоддзя, амаль усе польскія і літоўска-беларускія хронікі, дыярыушы, розныя бібліяграфічныя даведнікі, энцыклапедыі, атласы, вопісы архіваў і г. д., матэрыялы па беларусістыцы.

Рупліва сабраныя і ашчаджаныя Ельскім матэрыялы былі патрэбны гісторыкам, этнографам, фалькларыстам, літаратуразнаўцам, пісьменнікам, краязнаўцам. У зборах музея, паводле сведчання Ельскага, некаторыя звесткі чэрпалі такія прызнаныя ў навуцы аўтарытэты, як Корзан, Роле, Болаз-Антаневіч, Пачкоўскі, Бэлза, Растафінскі, Спасовіч, а таксама Кракаўская акадэмія, Музей Румянцава ў Маскве, Маскоўскае этнаграфічнае таварыства, Асалінэум. У кнізе наведнікаў музея меліся запісы па рускай, французскай, нямецкай, дацкай, беларускай мовах.

Асабліва шчодра выкарыстоўваліся матэрыялы музея самім Ельскім. На іх аснове ён напісаў звыш дзесяці тысяч гісторыка-краязнаўчых артыкулаў пра Беларусь для «Польскай ілюстраванай энцыклапедыі» і «Геаграфічнага слоўніка зямель польскіх і іншых краёў славянскіх».

Падзвіжніцкая культурная праца, плённыя навуковыя намаганні Аляксандра Ельскага мелі шырокі розгалас у славянскім свеце, а яго імя з пашанай згадвалася ў навуковым асяроддзі і ў грамадска-

культурных колах. У 1885 годзе яму было нададзена званне члена-супрацоўніка Вольна-эканамічнага таварыства ў Пецярбургу, а ў 1892 годзе ён стаў правадзейным членам Камісіі гісторыі мастацтва філалагічнага аддзялення Акадэміі навук у Кракаве. Аднак прызнанне навукова-публіцыстычнай дзейнасці Ельскага сярод вучоных не пазбавіла яго адчування рэальнасці. Заснавальнік музея ў Замосці добра ўсведамляў недахоп сістэматычнай адукацыі. «Я зусім не прэтэндую на якісьці навуковы аўтарытэт,— пісаў Ельскі ў адным з лістоў,— бо не маю ніякай ступені, хоць на ніве айчыннага пісьменства працаваў старанна. Была гэта праца з божай ласкі, дзякуючы пэўнай здольнасці, імкненню да ведаў у грамадска-гістарычным і літаратурным кірунку; сціплая ж, але незалежная пазіцыя давала мне магчымасць займацца самаадукацыяй ад маладосці да схілу гадоў».

Аляксандр Каролевіч Ельскі нарадзіўся 16 чэрвеня 1834 года непадалёку ад таго самага Замосця, дзе пазней ён заснаваў знакаміты музей,— у маёнтку, што месціўся ў вёсцы Дудзічы. Пачатковую адукацыю атрымаў у Лясдэнене (цяпер Калінінградская вобласць), дзе, відаць, жылі родзічы яго маці Людвікі Штайнберг. Скончыў у 1852 годзе Мінскую гімназію. Затым адбываў вайсковую службу, удзельнічаў у крымскай вайне і ў чыне паручніка выйшаў у 1856 годзе ў адстаўку. Пасяліўся ў Замосці, дзе пасля смерці бацькі атрымаў у спадчыну фальварак.

Літаратурна-публіцыстычную дзейнасць Ельскі пачаў у 1860 годзе з допісаў у газету «Кур'ер Віленьскі». Свае карэспандэнцыі, прысвечаныя пытанню вызвалення сялян з-пад прыгону, ён падпісваў тады псеўданімамі Бацян з-над Пцічы або Ліцвін-абываталь. Пазней, пад час паўстання 1863 года, быў пад наглядам паліцыі, цярпеў матэрыяльную нястачу, нават спрабаваў збыць калекцыю карцін, шукаючы

падтрымкі і пасрэдніцтва ў масцітага польскага пісьменніка Юзафа Ігнацыя Крашэўскага, які жыў тады ў Дрэздэне.

Літаратурна-журналісцкая дзейнасць Ельскага была надзвычай актыўнай у 80—90-я гады. Свае артыкулы і карэспандэнцыі ён публікаваў у многіх перыядычных выданнях, і асабліва часта — у польскім часопісе «Край», які выходзіў у Пецярбургу з 1882 года. Большасць карэспандэнцый публіцыста, змешчаных тут, была прысвечана жыццю тагачаснай вёскі і тычылася Міншчыны, а дакладней мясцін, якія не вельмі аддалены ад Замосця. Бадай усе нататкі Ельскага напоўнены клопатам аб маральнасці грамадскіх узаемаадносін, незалежна ад таго, ці расказваецца ў іх пра пашырэнне п'янства сярод вясковага люду, ці паведамляецца пра знішчальны пажар, нападзенне сялян на ўрадніка, пра міграцыю насельніцтва, кірмашы, надвор'е, ураджаі. Адчуваецца, што лісты з Замосця пісаў аўтар памяркоўных поглядаў, ліберал-асветнік. «Ці не час ужо,— зазначаў ён, маючы на ўвазе беларускае сялянства, у адной з карэспандэнцый (Край. 1884. № 41),— гэты бедны цёмны і няшчасны народ асвячаць рацыянальна? Бо няма сумнення, што навучанне паводле спецыяльных кніжак на беларускай гаворцы прынесла б дабратворныя вынікі. У мяне ёсць у беларускім перакладзе «Сем вечароў» Супінскага, і ахвотна я ахвяраваў бы гэтую працу на спажытак народу, калі б знайшоўся зычлівы і бескарыслівы выдаўца... Запрашаю людзей добрай волі паразумецца з падпісаным, а тады мы пачнем на легальнай дарозе рабіць захады да народных выданняў, прыстасаваных да нашай мясцовасці». Гэта быў першы зварот Ельскага да грамадскасці падтрымаць выданне перакладзенай ім яшчэ ў 1876 годзе на беларускую мову кнігі польскага эканаміста Ю. Супінскага. Наступны зварот

наконт выдання «Сямі вечароў» па-беларуску перакладчык змясціў у «Краі» ў 1885 годзе (№ 8), аднак намаганні, паводле яго сведчання, «не прынеслі жаданага выніку».

Выступленне ж Ельскага ў пецярбургскім каталіцкім календары на 1898 год з артыкулам «Наша мажнаўладства і тытуламанія» прывяло ўжо да нежаданых вынікаў. Абураны за «тытуламанаў» А. Равіч пісаў: «Тытулы, відаць, уплываюць на Ельскага, як чырвоны ашматак тканіны на быка...» (Край. 1889. № 3). Увогуле карэспандэнту «Краю» з Замосця даводзілася даволі часта ўступаць у палеміку ці даваць тлумачэнні. Так, у лісце да рэдактара ён высвятляў акалічнасці ўзнікнення папрокаў, якія кінуў яму журналіст Чэслаў Янкоўскі (Край. 1897. № 51). Папрокі гэтыя тычыліся таго, што Ельскі, маючы багатыя архіўныя матэрыялы і цудоўную бібліятэку, мог бы напісаць значную па памерах і грунтоўнасці працу, а не раскідваць невялікія нататкі па газетах і г. д.

Ельскі паведамляў чытачам «Краю» пра гастролі ўкраінскай трупы Старыцкага ў Мінску, расказваў пра бібліятэку Храптовічаў у Шчорсах, інфармаваў пра збіранне беларускага фальклору ў Мінскай губерні, якое праводзіў М. Доўнар-Запольскі, раскрываў змест «Северо-Западного календаря», які выходзіў пад рэдакцыяй А. Слупскага, напісаў матэрыял пра А. Валіцкага пасля яго смерці.

Ельскі ведаў і цаніў творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, захоўваў у замосцінскім музеі аўтографы яго твораў. У наш час сярод той часткі папер Ельскага, якія трапілі ў аддзел рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве, была адшукана паэма В. Дуніна-Марцінкевіча «З-над Іслачы». У чэрвені 1872 года нястомны збіральнік беларускіх матэрыялаў прысвяціў аўтару «Гапона» верш, у якім заклікаў яго

перапыніць маўчанне і зноў несці сваю песню беларускаму народу,

Бо ўжо вельмі сумна стала,
Як твая песня замаўчала.

Гаворачы пра беларускую мову як роўную сярод іншых у мастацкай творчасці, Ельскі не прамінуў зазначыць: «Мае яна свае песні і думы, сімвалічныя гутаркі, мае і такіх, напрыклад, пісьменнікаў, як Вінцэнт Марцінкевіч з Люцыны на Міншчыне, цікавы аўтар «Гапона», «Дудара», «Вечарніц», перакладчык «Пана Тадэвуша» (Край. 1893. № 50).

Быў знаёмы Аляксандр Ельскі і з творчасцю Янкі Лучыны, прынамсі з яго беларускімі перакладамі твораў Уладзіслава Сыракомлі. У разгорнутай інфармацыі часопіса «Край» (1892. № 9) пра выданне «Северо-Западного календаря» ён падкрэсліў: «Жамчужынай выдання з'яўляецца беларускі верш, наследаванне з Сыракомлі «Горсць пшаніцы». Высокая тут мараль для нашага народа, цудоўная перадача зместу на беларускай гаворцы сведчаць, што гэта не толькі простая гаворка, але што на ёй можна і выказвацца і пісаць гэтак жа добра, як і на іншых мовах. Дзякаваць за гэтую каштоўнасць належыць «Янку Лучыну» (напэўна, псеўданім). Такіх рэчаў беларускаму народу патрэбна чым пабольш».

Вядома, што Ельскі наладжваў кантакты з Францішкам Багушэвічам, прасіў яго прыслаць у Замосце аўтографы твораў.

Менавіта цікавасцю Ельскага да літаратурна-грамадскіх з'яў у Беларусі, іх разуменнем (а пра гэта можна гаварыць шырэй) было выклікана яго змястоўнае прызнанне ў лісце да Яна Карловіча: «Свет знаходзіцца напярэдадні катаклізмаў, насля якіх павінны прыйсці новыя грамадскія групоўкі. Ад гэтага паваротнага пункту пачнецца свабодны нацыянальны рух, дык і некалькімільённы беларускі народ

разаўе свой дух у натуральным кірунку... Беларусь дачакаецца яшчэ свайго Шаўчэнкі» [1].

Без аптымістычнага погляду ў будучыню наўрад ці быў бы створаны музей беларусістыкі ў Замосці і напісаны вершаваныя і празаічныя брашуры на беларускай мове — «Сынок!» (1895), «Выбіраймася ў прочкі!» (1896), «Слова аб праклятай гарэліцы» (1900) і іншыя. Не было б, відаць, таксама беларускага перакладу першай часткі паэмы А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (1892), шматлікіх беларусазнаўчых артыкулаў.

І няхай працы Ельскага напісаны з ліберальна-асветніцкіх пазіцый, вельмі супярэчлівыя ў ідэйных адносінах, часта з дыдактычнай мэтай, яны тым не менш прычыніліся да станаўлення беларускай літаратуры, этнаграфіі, мовы і, застаючыся сваім зместам у гісторыі культурнага жыцця Беларусі, захоўваюць у сабе інфармацыйную каштоўнасць.

Максім Гарэцкі сказаў пра Ельскага, што ён «астатні тыповы прадстаўнік шляхоцкага кірунку ў нашай літаратуры» [2]. І сапраўды. Аляксандр Ельскі працягваў выступаць у друку і пасля рэвалюцыі 1905 года (памёр ён 26 жніўня 1916 года), але яго публікацыі не былі ўжо на вастрыні таго бурлівага часу, яны як быццам заставаліся ў мінулым.

---

[1] Пачынальнікі. С. 355.

[2] Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня, 1920. С. 101.

# «ПІСАЛАСЯ Ў ДОБРАЙ ВЕРЫ...»

Янка Лучына, Ян Неслухоўскі, Іван Неслухоўскі. Тры імёны аднаго аўтара. Кожнае з сваім прызначэннем, як неад'емны спадарожнік творчасці на трох мовах — беларускай, польскаї, рускай. Адметным Янка Лучына, пераасэнсавана запазычаным псеўданім ад страчанай часткі прозвішча сваіх продкаў, паэт падпісваў пераважна беларускамоўныя творы — і арыгінальныя, і перакладныя. Псеўданім, утвораны ад прыдомка Лучыўка, павінен быў сімвалізаваць крыніцу святла, натуральную і звычную для старой сялянскай хаты беларуса, і разам з тым адпаўляць, аберагаць гістарычную памяць. Псеўданім выразна акрэсліваў няпростае вяртанне да моўнай стыхіі свайго народа, вяртанне праз іншамоўныя пісьмовыя традыцыі, замацаваныя ў родным краі. І перш чым адштурхоўвацца ад гэтых традыцый, іх трэба было зведаць. Не абмінуць, не забыцца, а менавіта зведаць. Каб знайсці сябе. Каб не толькі пробаваць, а ўжо набываць, мацаваць свой голас, зроднены з моваю народа...

Адзін з літаратурных папярэднікаў Янкі Лучыны Ян Баршчэўскі першыя вершы пісаў па-беларуску, а пазней звярнуўся да творчасці на польскай мове, тлумачачы гэта ў прадмове да «Шляхціца Завальні» тым, што калі б ён выдаў сваю кнігу па-беларуску, то яго мала хто зразумеў бы. Яму, напэўна, думалася пра чытачоў, якія не былі яшчэ падрыхтаваны да беларускага чытання. Ці не тым кіраваліся і паэтыфіламаты, у асяроддзі якіх вырас вялікі Адам Міцкевіч? На сваіх сходках-вечарынках яны мелі за

правіла выконваць драматургічныя сцэнкі або чытаць імяніппыя вітанні, напісаныя імі па-беларуску, а ў друку, пачынаючы з 1819 года, выступалі з польскамоўнымі творамі. Праўда, для сваіх рамантычных балад, насычаных фальклорнымі вобразамі, яны, здаралася, бралі за эпіграф урывак з беларускай народнай песні. Баршчэўскі ж свабодна ўвёў у «Шляхціца Завальню» беларускія выразы (яны ўкладзены ў вусны сялян), і ягоны твор — з'ява дзвюхмоўная, як і макаранічныя вершы ў кнізе Аляксандра Рыпінскага «Беларусь», як «Ідылія» Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Словам, польская і беларуская мовы суіснавалі побач.

Аднак у першай палове XIX стагоддзя асноўнай мовай кніжнай творчасці ў Беларусі заставалася польская мова. Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Уладзіслаў Сыракомля, Вінцэсь Каратынскі пісалі пераважна па-польску. І толькі В. Дунін-Марцінкевіч быў пісьменнікам, які паслядоўна арыентаваўся на беларускую мову. У другой палове XIX стагоддзя такой арыентацыі прытрымліваўся Францішак Багушэвіч. Але і ён, аддаючы перавагу мастацкай творчасці на роднай беларускай мове, дасылаў у пецярбургскі часопіс «Край» нататкі, напісаныя па-польску.

Іншамоўныя пісьмовыя традыцыі ў Беларусі працяглы час абапіраліся на шырокі друк. Беларускае слова такой магчымасці не мела. З сярэдзіны XIX стагоддзя яно зрэдку знаходзіла выйсце на старонках польскай і рускай перыёдыкі або ў дзвюхмоўных кнігах, напружана спрабавала адкрыць шлях да самастойнасці і бесперапынна сутыкалася з цэнзурнымі перашкодамі. Патрэба ў наладжванні друкавання беларускіх твораў асобнымі кнігамі яскрава паўстала ў 50-я гады. Гэта адчувалі многія пісьменнікі Беларусі і найбольш востра Уладзіслаў Сыракомля, ды намеры, задумы, нават пачынанні не

здзяйсняліся. Выключэннем былі хіба агітацыйныя антыцарысцкія выданні («Мужыцкая праўда», «Гутарка старога дзеда», «Гутарка двух суседаў»), што выходзілі нелегальна напярэдадні і пад час паўстання 1863 года.

Крыніца беларускага мастацкага слова, якая напава прабілася ў пачатку XIX стагоддзя побач з шырокай плынню шматмоўнай літаратуры Беларусі, не змагла адолець хітра ўзведзенай самадзяржаўна-цэнзурнай загаты, але і не перасохла пад спёкаю рэакцыі пасля паражэння студзеньскага паўстання, а найшла ў «зямлю», каб зліцца з глыбіннай плынню народнай творчасці, набрацца сілы і праз нейкі час усё-такі вырвацца на свет. У 1891 годзе ў Кракаве выйшла кніга паэзіі Францішка Багушэвіча «Дудка беларуская», там жа праз год было выдадзена яго апавяданне «Тралялёначка», крыху пазней, у 1894 годзе, ужо ў Познані (ёсць, праўда, сумненні, што не там) з'явіўся другі вершаваны зборнік паэта — «Смык беларускі», затым, у 1896 годзе, паўтарылася ў Кракаве выданне яго «Дудкі беларускай».

І Кракаў, і Познань былі за межамі царскай Расіі. За мяжою знаходзіўся тады і Львоў, дзе ў 1892 годзе выйшла перакладзеная на беларускую мову Аляксандрам Ельскім першая кніга паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэвуш», выйшла як позні адказ на канфіскацыю беларускага перакладу той жа часткі «Пана Тадэвуша», ажыццёўленага В. Дунінымі-Марцінкевічам і аддрукаванага ў 1859 годзе ў Вільні. А вось вершаваныя і празаічныя брашуры Ельскага «Сынок!», «Выбіраймася ў прочкі!», «Слова аб праклятай гарэліцы», якія, у адрозненне ад рэвалюцыйна зараджаных твораў Багушэвіча, згладжвалі вастрыню сацыяльных праблем тагачаснай вёскі і прытрымліваліся дыдактычнай мэты, былі выпушчаны ў Пецярбургу. Аказваецца, пад канец XIX стагоддзя

царская цэнзура магла пры выпадку паблажліва паставіцца да беларускай мовы кніжак, абы толькі змест іх не выклікаў сумніцельных асацыяцый.

Увогуле ж беларускае слова з'яўлялася тады ў друку пры неверагодным намаганні аўтараў, і яго мастацкае жыццё вельмі часта абмяжоўвалася вуснай ці рукапіснай формай. Ніводнага беларускага твора не апублікавалі пры жыцці ні Альгерд Абуховіч, ні Адам Гурыновіч, ні Фелікс Тапчэўскі, ні многія іншыя пісьменнікі. Іх літаратурны даробак, не замацаваны ў свой час друкам, зазнаў незваротныя страты.

Далёка не ўсё пашчасціла апублікаваць нават вынаходліваму ў такіх справах Дуніну-Марцінкевічу. Да сённяшняга дня даследчыкі гадаюць, куды маглі трапіць паперы, якія аўтар «Пінскай шляхты» складваў у знакаміты куфар. Не здолеў давесці да выдання сваю кнігу празаічных твораў і Багушэвіч. Яе рукапіс, здадзены ў 1899 годзе ў цэнзурны камітэт у Пецярбургу, не вярнуўся да аўтара і быў, відаць, знішчаны якімсьці чыноўным наўмыснікам.

А як маглі заашчадзіцца рукапісы беларускіх паэм Янкі Лучыны «Пятруся», «Віялета», «Гануся», «Андрэй», калі нават іх польскамоўныя варыянты («Мая Віялета» і «Андрый») аўтар, здаецца, так і не атрымаў назад з варшаўскага часопіса «Жыцproperties», дзе спадзяваўся іх надрукаваць. Водгулле гэтых твораў данесла да нас газета «Минский листок», якая ў 1889 годзе змясціла ўрывак з паэмы «Гануся» — «Заходзіць сонца за горы».

Тут, у мясцовай рускай газеце, прагрэсіўнай паводле грамадскага накірунку, Лучына апублікаваў яшчэ акрамя рускамоўных твораў два свае беларускія вершы і пераклад Сыракомлевага «Ямшчыка». Не ўпусціў паэт магчымасці колькі разоў выступіць з беларускімі творамі і ў альманаху «Северо-Запад-

ный календарь», які таксама выходзіў у губеранскім Мінску. Не ўсё з напісанага па-беларуску трапіла на старонкі гэтых выданняў. Штосьці, вядома, засталося ў асабістым архіве паэта. Яно магло б увайсці ў кнігу, якую ў 1894 годзе прапаноўваў выдаць вядомы гісторык М. В. Доўнар-Запольскі. Але да друку не дайшло. Ці то ініцыятыва Доўнар-Запольскага не была падмацавана прадпрымальнасцю, ці то ўсе спробы натыкаліся на чыноўніцкае «неразуменне». У Лучынавым лісце, адрасаваным гісторыку, чутны водгалас сумнення ў мажлівасці падцэнзурнага выдання беларускай кнігі. Гэтае сумненне не магло не ўзнікнуць, бо за друкаванае жыццё сваіх твораў паэт вымушаны быў змагацца ў складанейшай атмасферы буржуазнай адчужанасці, афіцыйнай варожасці да беларускага слова, асабліва да незалежнага і праўдзівага, і вельмі часта змагацца безвынікова. Хто ведае, ці ўдалося б Лучыну змясціць колькі вершаў у «Минском листке» і «Северо-Западном календаре», калі б не падтрымка зацікаўленых у беларускім культурным руху грамадскіх сіл, якія групаваліся вакол гэтых выданняў.

Адзінкавыя публікацыі ў польскай перыёдыцы таксама здабываліся не проста. Варшаўскі часопіс «Жыцце», які зычліва ставіўся да Лучыны і на працягу 1887—1888 гадоў змясціў параўнальна нямала яго твораў (тры раздзелы з «Паляўнічых акварэлек» і пяць вершаў), і той у рэдакцыйных адказах аўтарам, здаралася, называў вершы паэта сярод твораў, якія не будуць надрукаваны. У снежні 1888 года ў іх лік трапіла Лучынава перыфраза «Лірніка вясковага» Сыракомлі, дасланая ў часопіс пад назвай «Сённяшні лірнік вясковы» [1]. Між тым яна была цалкам падрыхтавана да друку, але, відаць, насцярожыла

[1] Życie. 1888. № 50. S. 747.

нядрэмную цэнзуру празрыстым падтэкстам — і не прабілася да чытачоў, засталася ў карэктуры.

Крыху пазней, у верасні наступнага года, Лучына прызнаўся былому рэдактару часопіса Зянону Пшасмыцкаму, што колькі часу ўжо нічога не піша, «бо сапраўды цяжкія ўмовы цяпер для рыфмаплётаў, а пісаць і хаваць у папку — гэта значыць працаваць як малпа, якая цягала на поле каменне». Несумненна, паэт зведаў хвіліны душэўнай дэпрэсіі, калі здавалася, што страчаны ўсякі сэнс памкненняў і працы, але ён зведаў і ўзлёты высокага натхнення, якое, нягледзячы ні на што, вяртала яго да творчасці. Лучына быў сапраўдным паэтам і пражыў нялёгкае, але высакароднае, мужнае жыццё.

Нарадзіўся ён 24 чэрвеня, а як па новым стылі, то 6 ліпеня 1851 года. Імя Іван (і яго варыянты Ясь, Ян, Янка) атрымаў будучы паэт у сувязі з тым, што з'явіўся на свет пад час купалля. Радавод яго старадаўні. Адзін з далёкіх продкаў Івана Неслухоўскага — Пшэбыслаў Дамброва яшчэ ў сярэдзіне XIII стагоддзя вызначыўся ў бітвах з татара-манголамі і атрымаў ад князя Конрада Мазавецкага Цеханавецкае графства ў Драгічынскай зямлі, дзе быў маёнтак Неслухі. Адсюль, відаць, і пайшло прозвішча Неслухоўскія, а яго носьбіты свой родавы герб назвалі Дамброва [1].

У XVII стагоддзі Неслухоўскія мелі ўладанні ў Пінскім павеце — спачатку маёнткі Моладава, Косава, Сакаловая Воля, а затым Марочнае і Завідчыцы, што належалі раней продкам Ф. М. Дастаеўскага (зараз гэта ў межах Іванаўскага і Івацэвіцкага раёнаў). Вайсковую службу яны адбывалі ў Вялікім княстве Літоўскім, хто ротмістрам, хто харунжым, а

[1] Бравер Я. Архівы расказваюць: Новыя матэрыялы да біяграфіі Янкі Лучыны // Полымя. 1971. № 7. С. 225.

хто стражнікам Брэсцкага ваяводства. Прадзед паэта, Іван Неслухоўскі, з'яўляўся ротмістрам Наваградскага ваяводства, а дзед, Юры Іванавіч, быў межавым суддзёю Слуцкага павета [1]. Гэта, здавалася б, павінна было спрыяць паскарэнню афіцыйнага прызнания шляхетнасці Неслухоўскіх. Аднак справа чамусьці зацягвалася, бо, хоць прадзед паэта яшчэ ў 1802 годзе быў прызнаны мінскай дэпутацкай зборняй шляхты «ў старажытнай шляхецкай годнасці», да гэтага пытання вярталіся паўторна (у 1832 і ў 1837 гадах), і толькі ў 1838 годзе пастанова зборні была зацверджана сенатам [2].

Бацька паэта, Люцыян Юр'евіч Неслухоўскі, які пачынаў службовую кар'еру канцылярыстам у Мінскім губеранскім праўленні, быў пад час нараджэння першынца Івана сталаначальнікам у Мінскай палаце цывільнага суда. Пазней, узняўшыся да чына калежскага асэсара, ён займаў пасаду сакратара гэтай палаты. Люцыян Юр'евіч быў, відаць, асобай неардынарнай, бо, не маючы асаблівых сродкаў і адпаведнай адукацыі, параўнальна паспяхова прасоўваўся па службе. З ім, напэўна, лічыліся і яму давяралі: у 1871—1880 гадах ён прадстаўляў Слуцкі павет у Мінскай шляхецкай дэпутацыі, быў паверанім князёў Радзівілаў у атрыманні выкупных пазык за маёнткі.

Маці, Антаніна Мікалаеўна з Лукашэвічаў, вяла хатнія справы, выхоўвала дзяцей. Пасля Івана нарадзіліся яшчэ Антон, Антаніна-Аліна, Юліян, Генрых, Вікторыя. Усіх трэба было паставіць на ногі, даць адукацыю: Антон скончыў Медыка-хірургічную акадэмію ў Пецярбургу, служыў лекарам пры 18-й ар-

---

[1] Бравер Я. Архівы расказваюць. С. 225—226.

[2] Бэндэ Л. Новыя матэрыялы аб Янку Лучыне // Полымя. 1945. № 9. С. 154.

тылерыйскай брыгадзе ў Кіеўскай акрузе [1]; Юліян пасля заканчэння Новаалександрыйскага інстытута сельскай гаспадаркі і лесаводства стаў аграномам-лесаводам, быў паверапым сваёй маці па арэндзе фальварка Мархачоўшчына (а яго арандавалі Неслухоўскія з 1863 года), затым працаваў тэхнікам экспедыцыі ў Томскай губерні, у землеўпарадчых партыях у Курску [2]; Генрых жа скончыў Пецярбургскі універсітэт і служыў прысяжным павераным у Мінскім акруговым судзе.

Сям'я Неслухоўскіх жыла ў Мінску ва ўласным доме, які стаяў на вуліцы Юр'еўскай пад нумарам 23 [3]. У кнізе Зоф'і Кавалеўскай «Мінскія абразкі» адзначалася, дарэчы, што належаў ён «да вельмі вядомых, неадлучных ад горада» дамоў [4]. Тут збіралася інтэлігенцыя, абмяркоўваліся мясцовыя грамадскія і культурныя падзеі. Люцыян Юр'евіч сачыў за навінкамі краёвай літаратуры, выпісваў часопіс «Тэка Віленьска» [5] і, відаць, не надта стрымліваў сябе ў выказваннях пра існуючыя парадкі. У ліпені 1864 года паліцыя ўстанавіла за ім строгі бестэрміновы нагляд, ад якога ён быў вызвалены толькі ў кастрычніку 1868 года. Магчыма, гэтае становішча Люцыяна Юр'евіча паўплывала на тое, што не ён, калі надышоў час вучобы Івана і Антона, хадайнічаў наконт выдачы пасведчання аб далучэнні сыноў да шляхецкага роду, а Антаніна Мікалаеўна [6]. Перасцярога зусім няпішняя ва ўмовах усеагульнай падазро-

---

[1] Al. Jel. Listy z prowincji. Z gub. mińskiej // Kraj. 1895. 29, 31—35. 52.

[2] ЦДГА БССР (г. Мінск), ф. 694, воп. 3, с. 2835, арк. 4, 29. 31—35, 52.

[3] Тамсама, ф. 319, воп. 2, с. 2221, арк. 203, 207, 209.
Kowalewska Z. Obrazki mińskie. Wilno, 1912. S. 35.

[5] Teka Wileńska. 1858. № 5.

[6] Бравер Я. Архівы расказваюць. С. 226,

насці, выклікапай урадавай рэакцыяй, што лютавала пасля паражэння студзеньскага паўстання.

Маленства Івана прыпала на час, калі ўсе жылі ў прадчуванні значных палітычных падзей, у чаканні скасавання прыгону і ўвогуле пейкіх грамадскіх зрухаў і перамен. Атмасфера сям'і Неслухоўскіх, дзе госці і гаспадары беспераіпкодна выказвалі свае думкі і нават патаемныя надзеі, спрыяла абуджэнню грамадзянскай свядомасці хлопчыка, сутыкала яго з пакутлівым пошукам адказу на пытанні, якія хвалявалі дарослых. Многія з гэтых пытанняў будуць прасветлены пазней зарывам паўстання 1863 года і ўвойдуць у падтэкст твораў паэта як спадарожнікі пякучай памяці аб няспраўджаных памкненнях бацькоў.

Ясь (так клікалі Івана дома) рос жвавым і непаслухмяным хлопчыкам. Таму, мусіць, і аддалі яго ў прыватны пансіён настаўніка Ціля. Пазбаўлены бацькавай увагі і мацерынай ласкі, адарвапы ад роднай хаты, дзе мог бываць толькі ў нядзелю і на святы, ён вельмі нудзіўся ў пансіёне. Кожны раз, калі адведваў бацькоў, ён балюча перажываў развітанне з імі, а аднойчы склаў верш. Было яму тады дзевяць гадоў [1].

Дасягнуўшы чатырнаццацігадовага ўзросту, Ясь паступіў у Мінскую гімназію, адразу ў трэці клас. Вучыўся ён добра і на пачатку наступнага навучальнага года быў узнагароджаны пахвальным лістом.

У першыя дні чэрвеня 1866 года, калі Ясь канчаў чацвёрты клас, гімназію наведаў куратар Віленскай вучэбнай акругі Карнілаў. Зацятаму цемрашалу і неадступнаму праваднiку палітыкі Мураўёва-вешальніка ў сістэме асветы на тэрыторыі так званага Паўночна-Заходняга краю падалося, што ў Мінскай гімназіі пануе празмерна вальналюбны дух ды і мараль

[1] Niesłuchowski J. Poezje. Warszawa, 1898.

не вернападданіцкая ў вучняў, а іх тут зашмат — ажно 325, можна б таго-сяго і выключыць, бо «дзіцячыя свавольствы маюць асаблівы мясцовы характар і вызначаюцца езуіцтвам, асцярожнасцю, фальшывасцю, злапамятнасцю». У выніку чатыры настаўнікі былі звольнены са службы, а сем гімназістаў трапілі пад следства за падкінутыя лісты...[1] Сведка гэтых падзей Іван Неслухоўскі шчасліва дайшоў да апошняга класа і скончыў гімназію ў 1870 годзе.

Працягваць адукацыю Іван Неслухоўскі наважыўся ў Пецярбургу, ва універсітэце. Паспяхова здаўшы ўступныя экзамены па матэматычны факультэт, ён хадзіў на універсітэцкія лекцыі да мая месяца 1871 года, а пасля чамусьці папрасіў у начальства дазволу на адпачынак і, не дачакаўшыся сесіі, выехаў у Мінск[2]. Адмаўленне ад здачы экзаменаў за першы курс было, відаць, вынікам працяглага роздуму і так ці інакш сведчыла пра эвалюцыю ў свядомасці студэнта Івана Неслухоўскага: прасвятлілася, што матэматыка — не яго поле дзейнасці. Канчатковы выбар спыніўся на прафесіі інжынера. У гэтым выбары была пэўная даніна модзе: у асяроддзі інтэлігенцыі ў той час распаўсюджвалася думка, што тэхнічны прагрэс можа шмат змяніць у грамадстве, і яна не магла не імпанаваць юнаку, сумленне якога не мірылася з сацыяльнай несправядлівасцю.

Восенню 1871 года Іван Неслухоўскі аформіў звальненне з універсітэта і паступіў у Пецярбургскі тэхналагічны інстытут, на механічнае аддзяленне. Спачатку ён наведваў заняткі як вольнаслухач, а праз год быў унесены ў спіс пастаянных студэнтаў[3].

---

[1] Корнилов И. Русское дело в Северо-Западном крае: Материалы для истории Виленского учебного округа преимущественно в муравьевскую эпоху. СПб., 1908. С. 208.

[2] Бэндэ Л. Новыя матэрыялы аб Янку Лучыне. С. 156.

[3] Тамсама. С. 157.

Як давалася будучаму паэту вучоба ў інстытуце, якія былі ў яго поспехі, з кім ён сябраваў? — гэтыя пытанні застаюцца адкрытымі. З часам, магчыма, адказы на іх будуць знойдзены. Пакуль жа можна меркаваць, што да вучобы ён ставіўся сур'ёзна і што на канікулы заўсёды прыязджаў да бацькоў — у Мінск ці Мархачоўшчыну (пад Стоўбцы), тую самую, якую раней, яшчэ ў трыццатыя гады, арандаваў Аляксандр Кандратовіч, бацька славутага вясковага лірніка Уладзіслава Сыракомлі, вельмі шанаванага ў сям'і Неслухоўскіх. Застаецца высветліць яшчэ, чаму Іван Неслухоўскі перапыняў вучобу ў тэхналагічным інстытуце на цэлы год і чым вымагалася пад час гэтага перапынку яго служба па Варонежскай чыгунцы?

10 верасня 1877 года вучэбны камітэт Тэхналагічнага інстытута прысвоіў Івану Люцыянавічу Неслухоўскаму ступень інжынера-тэхнолага. Рашэнне камітэта зацвердзіў таварыш міністра фінансаў, але дыплом яшчэ не быў выпісаны. Таму 15 верасня Іван звярнуўся да дырэктара інстытута з просьбай выслаць дыплом у Мінск на імя бацькі і неўзабаве пакінуў Пецярбург [1]. Складваецца ўражанне, што малады інжынер імкнуўся як мага хутчэй трапіць на месца сваёй працы і, магчыма, нядоўга гасцяваў у бацькоў.

У канцы верасня — пачатку кастрычніка Іван Неслухоўскі, найбольш верагодна, быў ужо ў Тыфлісе. Там ён пачаў служыць на чыгуначных складах. Пошукі звестак пра службу Івана Люцыянавіча на поўдні нічога, па сутнасці, не дадалі да яго жыццяпісу, акрамя таго, што была абвергнута беспадстаўная версія даследчыкаў пра яго працу начальнікам чыгуначных майстэрань. Між тым сучаснік паэта, які, трэба думаць, быў дасведчаны, даволі выразна, хоць

[1] Бэндэ Л. Новыя матэрыялы аб Янку Лучыне. С. 158.

і скупа паведамляў, што Неслухоўскі «як інжынер-тэхнолаг паступова прасоўваўся ў кар'еры, якую шукаў ажно на Каўказе, і праз два гады дасягнуў ступені начальніка чыгуначных складоў». Цяжка сказаць, колькі часу Іван Люцыянавіч знаходзіўся ў Тыфлісе — два гады ці крыху болей? Аднак сведчанне таго ж сучасніка («Ён нават не дапускаў думкі, што надта рана будзе вымушаны пакінуць абраную дарогу» [1]) схіляе да таго, што Неслухоўскі калі і служыў на чыгуначных складах Тыфліса даўжэй за два гады, то не на шмат, прынамсі не да 1886 года і тым болей не да дзевяностых гадоў, як «здагадваюцца» гісторыкі літаратуры.

Пад час апошняга прыезду ў родны Мінск (было гэта ў 1879 ці 1880 годзе) Івана Люцыянавіча спасцігла няшчасце: на выхадзе з канцэрта яго нечакана разбіў параліч [2]. У Тыфліс ён, вядома, не вярнуўся, а працяглае лячэнне не вельмі дапамагло: ён мог хадзіць толькі на мыліцах. Бяда, аднак, не пахіснула жыццялюбства Неслухоўскага, не адняла ў яго прагі дзейнасці. Ён уладкаваўся на службу ў мінскае тэхнічнае бюро Лібава-Роменскай чыгункі, дзе прыдалася яго інжынерная адукацыя, і нават не адступіўся ад свайго маладога захаплення — рыбалкі і палявання.

Актыўная жыццёвая пазіцыя абудзіла ў Неслухоўскім патрэбу выявіць свой мастакоўскі голас, які спрабаваў прарэзацца яшчэ ў маленстве. Бытавыя ж нягоды і ўласная фізічная немач абвастрылі ў ім і ўспрыняцце свету, і ўсведамленне свайго літаратурнага прызвання. Думаецца, што менавіта ў пачатку 80-х гадоў Неслухоўскі ўжо стала і беспаваротна

---

[1] У прадмове да кн.: Niesłuchowcki J. Poezje. Warszawa, 1898.

[2] Тамсама.

займаўся паэтычнай творчасцю. У гэтым пераконваюць яго лісты да Аляксандра Валіцкага, напісаныя ў 1882 годзе. Былому мінчуку, які жыў у Кракаве, паэт пасылаў з Мінска раздзелы «Паляўнічых акварэлек з Палесся» — «На ласёў на прынаду» і «На цецерукоў у час такавання». Ён не спяшаўся прапанаваць свае творы часопісам і газетам, а разлічваў перш за ўсё на разуменне і зычлівасць земляка, чакаў яго аўтарытэтнага прысуду. Пазней, 17 лютага 1884 года, у вершаваным пасланні Валіцкаму, якому давершыў нейкі новы свой твор, ён так і пісаў:

А як згледзіш, пане, што нуду напуста
Наганяць не варта, можа, гэткім глупствам,
То прашу пакорліва я у тым выпадку
Вынесі прысуд свой, знішч яго нагладка.

*(Пераклад У. Мархеля)*

У друку Іван Неслухоўскі дэбютаваў вершам «Не ради славы иль расчета», які быў змешчаны ў першым нумары «Минского листка» ў 1886 годзе. Гэта дэбют своеасаблівы: верш адкрываў газету, якая ўпершыню ішла да чытача, і аўтар, прадстаўляючы яе падпісчыкам, гаварыў не так ад сябе, як ад імя рэдакцыі, якая ўзялася за выданне газеты «не дзеля славы ці разліку», а з тым, каб «служыць краіне, глухой, забітай, дзе цемрадзь невуцтва пануе». Дэмакратычна-асветніцкія задачы «Минского листка», адрасаванага жыхарам Беларусі, Неслухоўскі, несумненна, падзяляў, і яго выступленне ў газеце з вершам, у якім выкладаліся найбольш прагрэсіўныя рысы яе грамадскага накірунку, пацвярджае тое, што ў мясцовым культурным асяроддзі ён ужо быў прызнаным паэтам. Першае выступленне Неслухоўскага ў тым жа 1886 годзе ў польскім друку,— публікацыя верша «Раскоша натхнення» ў часопісе «Клосы», дзе, між іншым, стала супрацоўнічаў ураджэнец Беларусі Адам Плуг,— таксама сведчыла, што за плячыма

аўтара ёсць творчы вопыт, што ім ужо аблюбавана пэўнае кола тэм і акрэслены асабістыя творчыя схільнасці і інтарэсы.

У вершы паэт звяртаўся да сваёй песні, паяднанай з роднай вёскаю з-над Нёмана, як да крыніцы радасці і натхнення. Перадаўшы прыўзнятасць свайго душэўнага стану пад час стварэння простай песні, непадуладнай чужому сіверу, аўтар натуральна працягваў лірычную споведзь прызнаннем у любасці да ўсяго людскога, да родных пагоркаў, да ціхіх, пахмурых людзей свайго краю і жадаў аднаго, каб песня яго заўсёды напаўнялася добрым пачуццём і ніколі не была пустою.

«Раскошай натхнення» Ян Неслухоўскі заявіў пра сябе як паэт-дэмакрат, як лірык рамантычнага складу.

З публікацыяй вершаў «Не ради славы иль расчета» і «Раскоша натхнення» распачыналася друкаванае, грамадска-гістарычнае жыццё твораў Яна Неслухоўскага. Пазней імя паэта стала часцей трапляць на старонкі перыёдыкі, але гэта не адпавядала ні яго намаганням, якія затрачваліся на пошукі друкаванай трыбуны, ні колькасці напісанага ім. А пісаў Неслухоўскі шмат, пісаў пераважна па-польску і калі-нікалі па-руску.

Патрэба выказацца на беларускай мове з'явілася нечакана, як выбух, пад уражаннем выступленняў украінскіх артыстаў, якія гастралявалі ў Мінску ў 1887 годзе. Знаёмства з таленавітым мастацтвам братняга народа ўскалыхнула паэта: украінскі тэатр падаваў прыклад паспяховай нацыянальнай самавыявы. Таму пытанне, на якой мове сказаць вітальнае слова гасцям з Украіны, перад мінскім паэтам наўрад ці паўставала. Логіка абставін падказала: на мове свайго народа. Аднак тут патрэбна была яшчэ і творчая адвага, бо ў пісьмовай літаратуры Беларусі

парэформеннага часу беларускамоўныя творы пакуль не з'яўляліся. Прынамсі, ствараючы вершаваныя вітанні «Усёй трупе дабрадзея Старыцкага беларускае слова» і «Дабрадзею артысту Манько», Неслухоўскі не быў упэўнены, што хтосьці з сучаснікаў, акрамя яго, таксама піша па-беларуску. Было толькі ўсведамленне, што ўкраінскіх сяброў ён вітае ад імя беларусаў. Вершы літаральна свецяцца радасцю адкрыцця мажлівасці загаварыць на мове свайго народа. Аўтар дзякуе ўкраінскім артыстам за іх мастацтва, за «хвацкія песні народныя», за «гутарку... вясковую», за тое, што сваім мастацтвам нясуць яны «праўду светлую», «праўду новую», якой мала на свеце. Менавіта вера ў гэтую праўду, заклікаsuccessfullyную абуджаць сацыяльную і нацыянальную свядомасць людзей, дае паэту падставы ўсклікнуць: «Ой! не забыта роднага слова святая сіла!..» — і закончыць верш «Усёй трупе дабрадзея Старыцкага...» на высокай аптымістычнай ноце:

Ае ж паслышыць наша старонка!
Спявайце ж, Братцы, смела і звонка:
Не згіне песня і Украіна!
Будзьце здаровы!
Янка Лучына.

Паставіўшы ў вершаваны радок і зарыфмаваўшы подпіс-псеўданім Янка Лучына, паэт нібы засведчыў, што з гэтага часу яго новае імя назаўсёды з той паэзіяй, якая лучыць яго з сваім народам.

Свае першыя беларускія творы «Усёй трупе дабрадзея Старыцкага...» і «Дабрадзею артысту Манько» Янка Лучына не публікаваў. Як беларускі паэт, ён дэбютаваў у друку ў 1889 годзе, калі змясціў у газеце «Минский листок» верш «Вясновай парой», паклаўшы тым самым пачатак вяртанню беларускай літаратуры да друкаванага жыцця, перарванага пасля

паражэння паўстання 1863 года царскімі рэпрэсіямі на чвэрць стагоддзя.

Беларускае мастацкае слова, напава выведзенае на людзі Янкам Лучынам, выяўляла народнае светаразуменне і жыццеадчуванне. Стрымана-ідылічны малюнак світання ў вершы «Вясновай парой» змяняецца гутаркай сватоў Піліпа Окуня і Япкі Бычка, якія праз гукапераймальную «разгадку» птушыных галасоў не толькі паказваюць сваё разуменне грамадскіх узаемаадносін, але і ганяць драпежніцкую мараль пануючых класаў. Гэтае разуменне і ганьбаванне зыходзіла, вядома, ад аўтара, але зыходзіла пераўвасоблена, з вуснаў лірычных герояў-сялян, прытым у адпаведнасці з сялянскім уяўленнем пра свет, дзе, як гавораць яны, а разам з імі і паэт, «не прыкраўшы, не прылгаўшы, тай не будзеш панам». У вачах лірычных герояў Лучыны вобраз пана атаясамліваўся перш за ўсё з чалавекам несумленным. Гэта было стаўленне беларускага працоўнага сялянства да носьбітаў буржуазнай амаральнасці, стаўленне, якое давала паэту веру ў духоўную моц народа і натхняла на выкрыццё утылітарна-грабежніцкіх адносін у капіталістычным грамадстве.

Беларускія творы Янкі Лучыны не маюць прыкмет пераадолення сацыяльна-псіхалагічнага бар'еру, які, здавалася б, павінен быў паўстаць пры набліжэнні інтэлігента-гараджаніна, патомнага шляхціца да «мужыцкага» тыпу мыслення. Такое ўражанне, што ў беларускамоўных вершах паэта, арыентаваных, як правіла, на чытача з народа, на селяніна, няма ніякай стылізацыі: настолькі яны шчырыя, непасрэдныя і натуральныя. Але без пэўнага аўтарскага пераўвасаблення ўсё-такі не абышлося, бо трэба было ўжыцца ў сялянскую свядомасць і разам з тым перайсці ад уласнага вопыту польскамоўнай версіфікацыі да эстэтычнага асваення выяўленчых магчымасцяў бе-

ларускай гутарковай мовы. Янка Лучына справіўся з гэтым бліскуча. Выдатны творчы вынік стаў магчымы таму, што мастакоўскае пераўтварэнне жыццёвага матэрыялу на новым узроўні вымагалася высокім грамадзянскім сумленнем паэта, якому пад час пераўвасаблення не здраджваў ні густ, ні талент увогуле.

У Лучынавым вершаваным радку беларускія словы знаходзяцца ў такім пязмушана-простым сінтаксічным узаемадачыненні, што ў чытача ўзнікае адчуванне, быццам ён слухае маўленне — даверлівую гутарку аўтара. Апавядальная інтанацыя большасці паэтычных твораў Янкі Лучыны, напісаных па-беларуску,— гэта рух насустрач селяніну, дзеля каго задумваўся і ад чыйго імя ствараўся верш. Менавіта праз гутарковы стыль, які адпавядаў духу часу і абумоўліваўся дэмакратычнай настроенасцю паэта, выражалася зліццё яго асобы з памкненнямі і ладам думак сялянства, адбывалася мастацкае адкрыццё эпічнай постаці беларускага мужыка.

Гэтае адкрыццё мела сваю адметнасць. Будучы паэтам лірычнага таленту, Янка Лучына засяроджваў увагу не так па знешне-бытавых з'явах сучаснасці, як на ўнутраным свеце свайго героя, на яго перажываннях, пазначаных гісторыка-канкрэтнымі рысамі парэформеннага часу. У вершы «Што думае Янка, везучы дровы ў горад» паэт перадае ход думак лірычнага героя такім чынам, што невясёла-спакойнае Янкава ўспрыманне ўласных жыццёвых нягод нібы прадугледжвае зараджэнне ў чытача працягу роздуму над сялянскай нядоляй.

Яшчэ большага паглыблення ў псіхалогію селяніна дасягнуў Лучына ў вершы «Стары ляснік» — беларускім варыянце ўрыўка са сваёй польскамоўнай паэмы «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся». Ускосна закранаючы пытанні няроўнасці ўзаемаадносін у буржуазным грамадстве, паэт скіроўвае галоўную

ўвагу на душэўны стан старога Грышкі, які, нягледзячы на сваю старэчую нямогласць, наважыўся высачыць і забіць шкадлівага мядзведзя. Ніхто і нішто не можа спыніць яго ў намеры. І гэта не ўпартасць, як здаецца іншым людзям, а справа яго гонару і абавязку, гэта, зрэшты, яшчэ адна, напэўна, апошняя магчымасць сцвердзіць сябе. Уражанне духоўнай моцы і якойсьці першароднай праваты Грышкі пакідае яго гутарка з панам, якая і складае асноўны змест дыялагаванага верша «Стары ляснік».

Падаючы першыя звесткі пра Грышку, Лучына ва ўступе да «Паляўнічых акварэлек...» пісаў:

Аблічча, постаць, світкі крой казалі ўсім,
Што з продкамі Палесся ён лучба жывая
І, як дзіця прыроды, з ім не парывае;
Выхоўвалі яго імшарыны, чарот,
Разліваў далі, душагубкі, што з калод.
Спрачацца з Грышкам цяжка, ў галаве закутай
І дыспут не асветліць векавых закуткаў.

*(Пераклад Г. Тумаша)*

Гэтыя словы — частка суправаджальнага тэксту дыялога паміж панічом і старым леснікам, натура якога не хоча мірыцца з несправядлівасцю і хвалёным ладам, пратэстуе супраць правядзення чыгункі праз роднае Палессе, супраць вынішчэння прыроды і звязаных з гэтым перамен ва ўзаемаадносінах людзей.

Спусцее Паграбішча, пойдзе ўсё на звод,
І ў Муты схоча ліпкі на прыбыткі зброд,
Пакуль не высcуць сокаў, бы кляшчы, з зямелькі,
І шчырасць сэрца высмее прыблуда нейкі.
Да ніткі абскубуць... Як рады дасць тады
Жыхар, якога жывяць Чорныя Ляды,
Калі за венік нават, што цяпер дармовы,
Плаціць павінны грошы!..

Вуснамі Грышкі паэт асуджаў тыя негатыўныя з'явы, якія нясе з сабой навукова-тэхнічны прагрэс

капіталістычнага грамадства. У радках жа ад аўтара ён пераконваў чытача ў непазбежнасці гэтага праграэсу, гаварыў пра яго відочныя дасягненні і заклікаў паверыць у тое, што «шчасце заквітнее на зямлі». Супярэчнасць тут, вядома, была, але яна мела апраўданне. Паэт-дэмакрат, як і стары Грышка, бачучы ўсведамляў няўхільнае разбурэнне адвечных традыцый палешукоў, абездухоўліванне чалавека буржуазнымі ўзаемаадносінамі, аднак жыццёвыя змены, выкліканыя наступам цывілізацыі, ён звязваў з больш аддаленай будучыняй, чым яго герой. Вера Лучыны, што надыдзе час, калі і палешукі «нарэшце скажуць: «Шчасце і да нас прыйшло!» — была выспелена асветніцка-дэмакратычным разуменнем даброт навукова-тэхнічнага прагрэсу і жаданнем палепшыць лёс працавітых насельнікаў роднага краю. Яна моцная сваім гуманістычным пафасам і жыццесцвярджальнасцю, сваёй скіраванасцю ў будучыню, выведзеную за межы буржуазнага меркантылізму. Лучынава прадбачанне шчаслівага быцця палешукоў сягала ў «Паляўнічых акварэльках...» за далягляды рэчаіснасці, якая акаляла лесніка Грышку, а гэта значыць, што рамантычна-абстрактнае ўяўленне аптымістычнай перспектывы Палесся паэт не звязваў з сучасным яму ладам сацыяльнай несправядлівасці.

Вера Янкі Лучыны ў будучыню падмацоўвалася яго верай у стваральныя сілы і духоўны патэнцыял народа. Гэта істотна адрознівала аўтара «Паляўнічых акварэлек...» ад польскіх пісьменнікаў-пазітывістаў, якія выступалі, па сутнасці, за буржуазны прагрэс і на літаратуру ўскладалі выкананне самых блізкіх грамадскіх функцый.

«Паляўнічыя акварэлькі з Палесся» — гэта Лучынава адкрыццё беларускага народа, мужнага, цярплівага, сціплага. Менавіта гэтыя рысы ўласцівыя старому лесніку Грышку, вобраз якога выпісаны ў

паэме з любасцю і пераканаўчым псіхалагізмам. Порстаць Грышкі — самая прыкметная і значная ў творчасці Лучыны, а «Паляўнічыя акварэлькі...» — выдатная з'ява ў літаратурным жыцці Беларусі на зыходзе XIX стагоддзя. Магчыма, аўтар да канца не ўсведамляў гэтага, але ў тым, што тут яго напаткала творчая ўдача, ён не сумняваўся. Гэта відаць з лістоў паэта да Зянона Пшасмыцкага. У адным з іх ён піcаў: «Чым жа прываблiваюць мае «Паляўнічыя акварэлькі...»? Не ведаю. Мабыць тым, што яны арыгінальныя і праўдзівыя, як фатаграфія, бо спісаны яны з сапраўдных факцікаў». І крыху ніжэй у тым жа лісце: «Паляўнічых акварэлек...» я мог бы напісаць з капу, бо і цяпер, хаця і без ног, трываю ў заўзятасці да шаракоў і бакасаў, за ложкам у мяне ёсць самапал і езджу, калі здарыцца, паляваць на ўражанні, бо звярыну нячаста пазбаўляю жыцця. Ці павінен я тады фабрыкаваць «Акварэлькі»? Дзве ўжо абдумаў, адну напісаў слова ў слова з жыцця». Вельмі важнае прызнанне аўтара, што паэма ўзята з яго ўласнай жыццёвай практыкі. Значыць, існавалі прататыпы старога Грышкі і паніча. Думаецца, што паніч, ад імя якога вядзецца вершаванае апавяданне,— гэта сам паэт у час маладосці. Што тычыцца лесніка, то яго Лучына мог сустрэць у арандаванай бацькамі Мархачоўшчыне, куды яшчэ студэнтам прыязджаў на канікулы, або ў якім іншым кутку беларускага краю.

Разам з тым заўвага, што «Паляўнічыя акварэлькі...» такія ж «праўдзівыя, як фатаграфія», ні ў якім разе не азначала, быццам паэма стваралася метадам капіравання рэчаіснасці. Гэта было несумяшчальна з дараваннем паэта, схільнага да пранікнення ў псіхалогію чалавека і да філасофскіх абагульненняў. Лучына проста хацеў падкрэсліць, што яго «Акварэлькі» не былі плёнам нястрымнай фантазіі, што

пісаліся яны ў адпаведнасці з жыццёвай праўдаю. І паслядоўная плынь апавядання, і разгорнутыя пейзажныя замалёўкі з філасофскай алегорыяй, і этнаграфічная дэталізацыя ў апісанні побыту простых людзей і паказ галоўнага героя ў разнастайных абставінах пацвярджаюць, што ў адлюстраванні жыццёвых з'яў Лучына не адрываўся ад рэальнай глебы і што ў самім характары выбару матэрыялу з рэчаіснасці, самой манеры падачы вобразных малюнкаў ён прытрымліваўся ў «Паляўнічых акварэльках...» рэалістычнага спосабу ўзнаўлення пазнаных ім бакоў жыцця Беларусі.

Аднак у асобных лірычных адступленнях, дакладней, у іх мінорна-задуменнай інтанацыі, чутны водгалас рамантычнага настрою аўтара, ды і ў раскрыцці вобраза Грышкі ёсць моманты рамантызацыі, што ідзе ад аўтарскай улюбёнасці ў свайго героя. Так ці інакш гэта спрыяла ўзвелічэнню эпічнай постаці беларускага лесніка. Па маштабу і ўзроўню мастацкага абагульнення роўнага яму вобраза ні ў беларускай літаратуры, ні ў іншамоўнай літаратуры Беларусі другой паловы XIX стагоддзя няма. Таму «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся» можна паставіць у такі гістарычна перспектыўны рад выдатных твораў, як «Песня пра зубра» Міколы Гусоўскага і «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча, якія прадвызначалі з'яўленне «энцыклапедыі беларускага жыцця» — «Новай зямлі» Якуба Коласа.

Рамантычны пачатак у творчасці Янкі Лучыны як на беларускай, так і на польскай мове ў большай ступені ўласцівы малым паэтычным формам. Праўда, у вершах апавядальна-гутарковага характару, такіх, да прыкладу, як «Пакуль новы год настане на свеце...» ці «Plus quam perfectum» («Даўно мінулы час»), ён амаль адсутнічае. Менавіта ў іх выяўлялася стылёвае падабенства да твораў выдатнага сучас-

ніка Янкі Лучыны Францішка Багушэвіча. Інакш кажучы, шляхі таленавітых паэтаў, якія арыентаваліся на дэмакратычнага чытача і незалежна адзін ад аднаго шукалі эстэтычна блізкія народу формы паэтычнай мовы, на нейкіх этапах, здараласся, сходзіліся, хоць больш, вядома, пралягалі паралельна.

І сапраўды, абодва паэты не прымалі самадзяржаўна-буржуазную арганізацыю жыцця ў парэформенны час і ў цэнтр увагі сваіх твораў ставілі селяніна. Але рабілі яны гэта па-рознаму. Калі Багушэвіч сацыяльныя пытанні вёскі раскрываў у супрацьпастаўленнях і кантрастах, то Лучына закранаў іх ускосна ці апасродкавана, праз унутраныя перажыванні лірычнага героя. У Лучынавых вершах штодзённая рэальнасць прысутнічае дзесьці на другім плане. Яна аб'ектыўна не адлюстраваная ў бытавізаваных дэталях, але надзвычай адчувальная і нават названая, бо ў рэшце рэшт вызначае характар унутранага стану аўтара, яго сістэму выказвання пра свет ці ўзровень самараскрыцця. Лучынаўскі лірызм прынёсіў у літаратуру непаўторнае эмацыянальнае гучанне.

Лірычны голас Лучыны заўсёды спакойны і стрыманы, з нявыведзенай на паверхню энергіяй страсці — ці то ў польскіх творах інтымнага зместу («Мерці не хачу я...», «Развітанне», «Змрочныя думкі» і інш.), ці то ў алегарычных прыродаапісальных вершах на беларускай мове («Сівер», «Вясна»).

З вобразам мужыка, прыгнечанага жыццёвымі абставінамі, паэт лучыў і вобраз радзімы. Сацыяльная няўтульнасць селяніна выказвалася ў беларускай паэзіі Лучыны і праз перажыванне за родную старонку, за яе лёс, праз мінорнае апяванне яе краявідаў.

Ты параскінулась лесам, балотамі,
Выдмай пясчанай, неураджайнаю,

Маці-зямліца, і умалотамі
Хлеба нам мерку не даш звычайную.

А сын твой, беднаю адзет сярмягаю,
З лыка пляцёныя лапці абуўшы,
Едзе з драбінамі ці калымагаю,
Конем, што цягне, як бы заснуўшы...

У прыведзеных радках верша «Роднай старонцы» паўстае зрокавы малюнак радзімы паэта, заснаваны на выбраных *ім* паводле *яго* светабачання канкрэтных вобразах-прыкметах роднага краю і падсвечаны шчымлівым пачуццём *яго* любасці да айчыны. Гэтае пачуццё паэта і ў шчырай спагадзе сацыяльна прыніжаным насельнікам сучаснай яму Беларусі, і ў непахіснай веры ў будучыню роднай старонкі, у будучыню яе народа:

Сонца навукі скрозь хмары цёмныя
Прагляне ясна над нашай ніваю,
І будуць жыці дзеткі патомныя
Добраю доляй — доляй шчасліваю!..

Патрыятычны матыў, так хараша і па-лучынаўску сардэчна прыўзняты ў вершы «Роднай старонцы», вельмі прыкметна і шматстайна пульсаваў у польскамоўных творах паэта («Дзве зоркі», «Пышны малюнак», «Развітанне», «Як мора, хвалюючца з ветрам прыгожа...» і інш.), у якіх уяўленне лірычнага суб'екта пра радзіму складвалася не толькі з канкрэтнажыццёвых рэалій, але і з мастацкіх сімвалаў (яснае неба, вецер немановы, вецер свой, улонне айчыннае). У «Пышным малюнку» паэт усхваляваны не падзейнасцю жыццёвых сітуацый, а ўнутраным рухам асацыятыўнай думкі, паўтонамі пачуцця, наплывам успамінаў:

Бачу горны шчыт, цясніны,
Ды чаму ў край іншы, мілы
Думка мчыцца да хаціны
Той замшэлай і пахілай?

Там над сцежкаю ігліца,
Вее вецер немановы,
Што калыша дрэў галовы
І даносіць пах жывіцы.
Там шумяць і крачуць дрэвы,
Звонка хор спявае пташшы.
Там якіясь свае спевы,
Свае спевы, думкі нашы...
*(Пераклад М. Арочкі)*

Увогуле ж, лірызм у польскіх вершах Янкі Лучыны больш суб'ектыўны, больш інтымны, чым у яго беларускіх творах.

Лучына пісаў па трох мовах — беларускай, польскай, рускай. У яго творчасці ўзаемадзейнічалі дэмакратычныя традыцыі трох літаратур. Але вядучая роля ў гэтым узаемадзеянні належала паэзіі прызнанага песняра беларускага краю Уладзіслава Сыракомлі, гутаркі якога дапамаглі аўтару «Паляўнічых акварэлек...» уважлівей прыгледзецца да навакольнай рэчаіснасці, зрабілі значны ўплыў на фарміраванне яго грамадзянскіх ідэалаў і літаратурна-эстэтычных поглядаў. Вернасць сыракомлеўскім традыцыям утрымала Лучыну ад захаплення як польскім пазітывізмам, так і праявамі мадэрнізму. Таму ў польскай крытыцы канца XIX стагоддзя замацавалася думка, быццам «Неслухоўскі быў сапраўды паэтам несучасным: новыя кірункі паэзіі на яго зусім не ўплывалі; яго настаўнікамі былі Міцкевіч і перш за ўсё Сыракомля» [1].

Генетычная сувязь польскамоўнай паэзіі Лучыны з творчасцю Сыракомлі выяўлялася перш за ўсё ў павышанай увазе да вясковых вобразаў, да простых краявідаў роднага краю, у здольнасці настроіцца на хвалю народнага светаразумення.

[1] Chrzanowski I. Z poezyj pośmiertnych // Słowo. 1899. № 107. S. 1.

Памяці Сыракомлі Лучына прысвяціў польскую перыфразу яго праграмнага верша «Лірнік вясковы». Ідучы за строфікай і рытмічным ладам гэтага твора, чаргуючы чатырохстопныя з цэзурай і двухстопныя анапестычныя радкі з унутранай рыфмаю, Лучына запазычыў з яго вобраз лірніка — народнага носьбіта песні, стварыў вершаванае наследаванне, у якім герой Сыракомлі суадносіўся з сучаснай Лучыну рэчаіснасцю. Узрушаныя словы паэта пра няздольнасць грамадства ўспрымаць чуллівую родную песню выкліканы не так шкадаваннем аб мінулым часе, як тымі маральнымі стратамі, якія непазбежна ўзнікаюць у буржуазным свеце. Зыходзячы з сыракомлеўскага ідэала песняра, Лучына асуджаў меркантыльнасць сваіх сучаснікаў, якія не адчувалі повязі з айчыннымі традыцыямі. Нягледзячы на сумненні, выказаныя ў вершы эмацыянальнымі запытаннямі, аўтар перыфразы ўсведамляў часовасць абыякавага стаўлення людзей да сапраўднага мастацтва, верыў у ажыўляльную моц паэзіі, паяднанай з народам.

Пытанні ўзаемаадносін паэта і грамадства Лучына ўзнімаў і ў сваіх беларускіх творах. Дзелячыся з чытачамі сумненнямі і падкрэсліваючы «няхітрасць» свайго мастацкага набытку, Лучына ў вершы «Пагудка», як і Сыракомля ў «Прысвячэнні літвінам народных гутарак», зыходзіў з народнага разумення сціпласці ўласнай працы. Гэтым разуменнем была абумоўлена, зрэшты, стрыманасць у апісанні абодвума паэтамі беларускіх краявідаў, бедных на яркія малюнкі, але дарагіх сэрцу («Роднай старонцы» Лучыны і «Уражанні палескага падарожжа» Сыракомлі). Лучына зближаецца з Сыракомлем у выкарыстанні беларускіх народна-паэтычных вобразаў і матываў (халодны вецер, непагадзь як увасабленне суровай рэчаіснасці ў вершы «Сівер»; чаканне вясны як выражэнне надзеі на лепшую долю ў вершы «Вяс-

на»). Больш таго, Сыракомлева народная гутарка «Жменя пшаніцы» падштурхнула Лучыну да напісання драматургічнага абразка «Старасць не радасць», у якім, па аналогіі з завязкай польскага твора, узнаўлялася задума бацькі выпрабаваць годнасць сваіх сыноў як пераемнікаў яго справы, як прэтэндэнтаў на бацькаўшчыну.

Сыракомлева паэзія была для Лучыны ідэйна-мастацкім арыенцірам. Можа, таму аўтар «Паляўнічых акварэлек...» перакладаў на беларускую мову толькі творы Сыракомлі. Узноўленая Лучынам пад назвай «Ямшчык» народная гутарка вясковага лірніка «Паштальён» дзякуючы публікацыі ў газеце «Минский листок» (1890. № 19) стала першым творам беларускай перакладной паэзіі, які прабіўся да масавага чытача ў парэформенны перыяд.

Услед за «Ямшчыком» з'явілася «вольнае наследаванне» Сыракомлевай гутаркі «Горсць пшаніцы». Напісаная ў 1856 годзе, яна не страчвала сваёй вастрыні і ў дзевяностыя гады, ва ўмовах далейшага выспявання нацыянальнай свядомасці беларусаў. Узнаўляючы «Горсць пшаніцы» па-беларуску, Лучына пайшоў па шляху пераказу галоўнай думкі польскага твора. Такая форма засваення іншамоўнай паэзіі была выклікана хутчэй за ўсё жаданнем зрабіць гэтую народную гутарку ў нейкай ступені самастойнай з'явай беларускай літаратуры і тым самым узмацніць яе надзённасць. У адрозненне ад Сыракомлі апавядальнік у Лучыны не пабочны, аб'ектывізаваны назіральнік, а непасрэдны ўдзельнік падзей.

Каб надаць «Горсці пшаніцы» большую дынамічнасць, Лучына не падзяліў твор на часткі і, скарацішы яго памер з 206 да 136 радкоў, сцісла перадаў змест арыгінала. Старшына Піліп у Лучыны, як і ў Сыракомлі стары войт Шчэпан, пасылае сваіх сыноў у чужыя краі на выпрабаванне, каб пасля, калі яны

вернуцца дамоў, цвёрда ведаць, хто з іх зможа замяніць яго на пасадзе. Андрэй і Янка (у Сыракомлі — Васілі і Грэгоры) не апраўдалі надзеі бацькі, бо пачалі пагарджаць звычаямі і культурай свайго народа. З гэтага выпрабавання ўзмужнелым патрыётам выходзіць Грыгор (у Сыракомлі — Шыман). Дбаючы пра лепшыя ўраджаі ў родным краі, ён прывозіць з Украіны мяшок пшаніцы, каб раздаць яе «па горсці» аднавяскоўцам...

Узнавіўшы сыракомлеўскую гутарку на беларускай мове, Лучына паставіў «Горсць пшаніцы» на службу развіццю не толькі роднай літаратуры, але і нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. Гэтым творам Лучына ўслед за Сыракомлем сцвердзіў, што сапраўдны патрыёт заўсёды імкнецца прынесці карысць свайму народу.

Патрыятычная тэма, глыбока распрацаваная Сыракомлем, знайшла працяг яшчэ ў адным перакладзе Лучыны — у вершы «Бусел». Не прытрымліваючыся літары арыгінала, перакладчык паэтычна дакладна перадаў задуму, настрой і дынаміку гэтага алегарычнага верша Сыракомлі. Тужлівасць ростані з родным улоннем, дзе былі спазнаны радасныя хвіліны, і няўпэўненасць у шчаслівым вяртанні з чужыны — словам, мінорны настрой ачалавечанага паэтам бусла, што збіраецца ў вырай, ашчадна перанесены з польскамоўнага тэксту ў пераклад.

У цэлым перакладчыку Янку Лучыну ўласцівы свабодны падыход да арыгінала, адметны ў кожным асобным выпадку. Калі ў «Горсці пшаніцы», вызначанай беларускім паэтам як «вольнае наследаванне», змест Сыракомлевага твора перададзены скарочана, то ў вершы «Надта салодкія думкі» межы тэксту, наадварот, пашыраны. Тут Лучына значна аддаліўся ад лексікі арыгінала, хоць і захаваў форму верша ў будове страфы. «Надта салодкія думкі» — гэта верш,

напісаны па матывах польскага твора: думка Сыракомлі пра няплённасць сентыментальнай мары, яе адарванасць ад рэчаіснасці перададзена не толькі ў пашыраным памеры, але і ў іншай паслядоўнасці некаторых вобразаў, якія служаць яе раскрыццю; шаснаццаць дадатковых радкоў уяўляюць сабой асацыятыўнае прачытанне падтэксту арыгінала; асобныя Сыракомлевы параўнанні, захаваныя Лучынам, пастаўлены ў іншы кантэкст або суаднесены з іншымі рэаліямі, якія зыходзяць пераважна ад наследавальніка.

Перакладам у поўным сэнсе нельга лічыць і своеасаблівую інтэрпрэтацыю другой часткі верша Сыракомлі «Не я пяю», у якой гаворыцца пра сувязь паэзіі з народам. Узнаўляючы радкі сыракомлеўскага разумення народнасці паэзіі, Лучына імкнуўся надаць перакладу больш выразнае грамадзянскае гучанне. Узмацнення думкі пра непарыўную еднасць паэта з народам Лучына дасягнуў тут праз вобразныя запазычанні з фальклору («як асіна, грудзь трасецца») і праз лексічныя адхіленні ад арыгінала (лірычны герой Лучыны не толькі чуе народную радасць ці гора, а зліўся з простым людам па добрай волі і заўсёды дзеліць з ім і долю, і нядолю).

З Сыракомлі Лучына пераклаў яшчэ і паэму «Нядзеля» — праўда, не на беларускую мову, а на рускую. Але моўны выбар тут меў свае прычыны. Лучыну, відаць, чымсьці (мажа, адвольнасцю) не вельмі задавальняў пераклад «Нядзелі», зроблены наўгародскай паэтэсай Вольгай Чумінай, якой ён, дарэчы, калі яна перастварала гэтую паэму па-руску, дапамагаў парадамі [1]. Узнікла, такім чынам, творчае суперніцтва, якое нікому не прынесла паражэння, але пазначыла індывідуальныя эстэтычныя густы, зда-

[1] Вестник Европы. 1888. № 8. С. 553.

валася б, блізкіх паводле дэмакратычнага светаразумення і мастацкіх прынцыпаў аўтараў.

Янка Лучына, напэўна, перапісваўся з Вольгай Чумінай, калі наладжваў кантакты з «Вестником Европы», дзе наважваўся знаёміць рускую публіку з польскай паэзіяй, у прыватнасці з перакладзенымі ім на рускую мову вершамі Адама Асныка. Аднак супрацоўніцтва з рускім часопісам не атрымалася. Якая тут паўстала перашкода, невядома. Невядома таксама, ці быў аўтар «Паляўнічых акварэлек...» асабіста знаёмы з Чумінай? Гэтая старонка біяграфіі Лучыны пакуль не адгорнута.

Цікава, што Янка Лучына ўскладаў на сябе ролю пасрэдніка паміж польскай і рускай літаратурамі. Дзеля паглыблення польска-рускага літаратурнага ўзаемазнаёмства і збліжэння беларускі паэт перакладаў на рускую мову творы польскіх аўтараў (захаваліся толькі пераклады з Адама Асныка), а па-польску ўзнаўляў рускіх паэтаў: вершы Вольгі Чумінай, сярод якіх перыфраза «Лірніка вясковага» Сыракомлі «Оглянусь ли кругом», верш Мікалая Някрасава «Забытая деревня», байкі Івана Крылова, асобныя творы Уладзіміра Салаўёва і Аляксея Хамякова.

Калі да гэтага дадаць, што ў актыве Лучыны былі яшчэ і польскамоўнае наследаванне Генрыху Гейнэ, і пераклад уступнай часткі гамераўскай «Іліяды», які з выключным майстэрствам перадаваў на польскай мове антычны гекзаметр, што паэт працаваў і ў празаічных жанрах (запіс успамінаў удзельніка паўстання 1863 года на Міншчыне, нарыс «С праздничной поездки»), то можна пераканацца, наколькі шматгранны быў талент Янкі Лучыны, наколькі шырокі быў дыяпазон яго творчых інтарэсаў і як напружана, самаахвярна працаваў ён, не заўсёды маючы пэўную надзею хоць калі ўбачыць напісанае ў друку.

Пры жыцці паэт убачыў толькі адну сваю кнігу — «З крывавых дзён». Але і тая была выдадзена, па сутнасці, ананімна. Уласнага ж зборніка польскіх твораў «Паэзія» Лучына ўжо не дачакаўся. 16 ліпеня 1897 года ён памёр, так і не давёўшы ў адпаведнасці з сваімі высокімі эстэтычнымі патрабаваннямі да канчатковай рэдакцыі варыянты беларускіх твораў, аб'яднаных пазней удзячнымі нашчадкамі ў кнігу «Вязанка».

* * *

Вось і ўбачыла свет кніга твораў Янкі Лучыны. Густоўна аздобленая мастаком А. Александровічам, яна прыйшла на сустрэчу з чытачом, як на свята вяртання спадчыны...

Выданне гэтай кнігі наспела даўно, бо з Лучынавай творчасцю, жанрава разнастайнай, былі слаба знаёмыя сучасныя беларускія чытачы і нават прафесійныя літаратары. Так сталася, відочна, таму, што намаганні гісторыкаў літаратуры не адзін год скіроўваліся пераважна на выяўленне дакументальна-архіўных матэрыялаў, на забеспячэнне фактаграфічнай асновы даследчыцкіх прац. Прыкметныя ж поспехі ў апісанні гісторыка-літаратурных з'яў і пісьменніцкіх лёсаў заставаліся і застаюцца пакуль здабыткам даволі вузкага кола спецыялістаў, а да чытача — і гэта ў лепшым выпадку — даходзіла і даходзіць не сама творчасць пісьменнікаў папярэдніх стагоддзяў, а толькі яе пачатковая, не заўсёды глыбокая літаратуразнаўчая інтэрпрэтацыя. Зразумела, гэта і абмяжоўвае ўспрыманне літаратурнага мінулага, і пазбаўляе чытача актыўнага пазнання мастацкай спадчыны сваіх пісьменнікаў, спадчыны свайго народа.

«Выбраныя творы» Лучыны выдаваліся трыццаць

пяць гадоў назад. Апошняя кніга перавышае памерам той зборнік у шэсць разоў. Яна дае шырокае, амаль поўнае ўяўленне пра творчую спадчыну аднаго з самых лірычных беларускіх паэтаў канца XIX стагоддзя. У кнігу ўвайшлі, па сутнасці, усе вядомыя і адшуканыя творы Лучыны. Беларускаму чытачу ўпершыню прапануюцца поўны тэкст паэмы «Паляўнічыя акварэлькі», запіс успамінаў удзельніка паўстання 1863 года на Міншчыне «З крывавых дзён», усе арыгінальныя вершы паэта з яго польскамоўнай кнігі «Паэзія», а таксама вершаваныя творы і фрагменты, якія зберагаюцца ў Нацыянальнай біблііятэцы ў Варшаве.

Да хрэстаматыйна вядомых беларускамоўных вершаў паэта дадаліся яшчэ два — «Каршун», які друкаваўся да гэтага толькі ў зборніку «Вязанка» (1903), і «Дзень за днём», змешчаны ў 1923 годзе ў гродзенскай газеце «Сялянская гутарка» (№ 1), якая непрыкметна спыніла сваё існаванне на пятым нумары і захоўваецца сёння ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літоўскай ССР. Пра «Каршуна» даследчыкі шмат не гаварылі, але, здаралася, згадвалі. Публікацыя ж верша «Дзень за днём» надоўга была забытая. Таму правамерна паставіць пытанне: ці не згубіліся ў старой перыёдыцы яшчэ якія творы Янкі Лучыны?

На жаль, за межамі выдання асталіся польскамоўныя пераклады і наследаванні Лучыны, якія раскрываюць шырыню творчых інтарэсаў паэта і яго значныя версіфікатарскія магчымасці.

Гэта змешчаныя ў кнізе «Паэзія» пераклады баек Івана Крылова «Асёл і Салавей» і «Сабачая дружба», твораў Вольгі Чумінай-Міхайлавай «У сеці» і «Маракі», наследаванне Аляксею Хамякову «Псалм», верш «На дварэ завея...», напісаны паводле матываў, якія сустракаюцца ў такіх паэтычных цыклах

Генрыха Гейнэ, як «Вяртанне на радзіму» (верш 29), «Зноў на радзіме» (верш 5) і ў вершы «Нані турбота» з кнігі «Ламентацыі», апублікаваны ў польскім альманаху «Эхо музычнэ, тэатральнэ і артыстычнэ» (1898) пераклад камедыі Т. Банвіля «Сакрат і яго жонка», а таксама захаваныя ў рукапісах пераклады з Мікалая Някрасава («Забытая вёска»), Уладзіміра Салаўёва («З усходу — святло»), Вольгі Чумінай («Цішыня») і з Гамеравай «Іліяды». У тым, што гэтая частка спадчыны аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры ўсё-такі не трапіла пад вокладкі кнігі, выявілася жывучасць (нават у асяроддзі літаратараў) інертных адносін да іншамоўнай творчасці аўтараў, якія пісалі не толькі па-беларуску.

Будучы паэтам беларускім, Лучына ўскладаў на сябе ролю пасрэдніка паміж польскай і рускай літаратурамі, пісаў на трох мовах, і не лічыцца з гэтым нельга, тым болей што ў шматмоўнасці літаратурнага працэсу найбольш яскрава выявіўся феномен фарміравання ўласна беларускай літаратуры. Не будзе дзіўна, калі ў хуткім часе паўстане патрэба ў перавыданні твораў Лучыны (магчыма, на мове арыгінала і ў перакладзе).

Паколькі навука не можа задавольвацца дасягнутым, а ў нашай краіне адбываюцца сёння працэсы дэмакратызацыі, якія стымулююць і пераадоленне стэрэатыпных уяўленняў, і гістарычнае мысленне людзей, то паглыбленае асэнсаванне шляху, пройдзенага нашымі продкамі, проста-такі непазбежна. Уяўленне ж пра літаратуру Беларусі дакастрычніцкага часу будзе датуль заставацца павярхоўным, пакуль не будуць вернуты да жыцця з папярэдніх стагоддзяў калі не ўсе, то прынамсі самыя значныя ў ідэйна-мастацкіх адносінах творы. Яны не толькі ліквідуюць культурныя прагалы ў нашай памяці, але

і далучаць да больш глыбокага разумення тых сацыяльных, бытавых і інтэлектуальных праблем, якія трывожылі продкаў, былі адной з формаў іх духоўнага жыцця і разам з гэтым узбагацяць нашу гістарычную свядомасць, напоўняць канкрэтным зместам адчуванне непарыўнасці грамадскага прагрэсу, скіраванага ў сённяшні дзень.

Гаворачы пра кнігу, нельга не закрануць пытанне гісторыка-літаратурных памылак, пытанне прыпісвання Лучыну твораў іншых аўтараў. Працяглы час сентыментальную, ідэйна пасіўную аповесць «Верочка», выдадзеную ў 1901 годзе ў Маскве, літаратуразнаўцы разглядалі ў кантэксце творчасці беларускага паэта. Не так даўно Уладзімір Казбярук пераканаўча давёў, што да гэтай аповесці наш Янка Лучына не меў ніякага дачынення і што аўтарам яе, найверагодней, быў якісьці Васіль Іванавіч Лучына (Лучынскі).

Прывяду другі прыклад. Пад час выдання «Выбраных твораў» Лучыны гісторыкі літаратуры былі амаль пераканаты, што пяру беларускага паэта належыць таксама і верш «Родной Белоруссии», які без подпісу друкаваўся ў 1892 годзе ў альманаху «Северо-Западный календарь». Між тым у першапублікацыі гэтага верша (Минский листок. 1888. № 11) яскрава пазначаны зусім іншы аўтар: М. З-ч (Міхаіл Зельдовіч).

І яшчэ. У «Выбраныя творы» Лучыны быў уключаны верш «Вось за мной, прада мною...» у беларускім перакладзе Піліпа Пестрака. Аднак гэта не арыгінальны твор паэта, напісаны па-польску, а яго пераклад на польскую мову верша наўгародскай паэтэсы Вольгі Чумінай «Оглянусь ли кругом», напісанага, дарэчы, пад уплывам папулярнага «Лірніка вясковага» Уладзіслава Сыракомлі (Вестник Европы. 1888. № 1; Чумина О. Н. Стихотворения. Спб., 1889). Гэ-

ты пераклад Лучыны ўвайшоў бы ў апошнюю кнігу ў тым выпадку, калі б ў ёй было адведзена месца польскамоўным перакладам і наследаванням беларускага паэта-дэмакрата. Калі ж пры гэтым прыгадаць, што да арыгінальнай спадчыны Лучыны адносілі раней і яго беларускае пераструарэнне другой часткі Сыракомлевага верша «Не я пяю...», якім адкрываўся падрыхтаваны пецярбургскімі студэнтамі-беларусамі зборнік «Вязанка», і што застаецца пакуль без адказу пытанне, ці сапраўды Лучына — аўтар верша «Дзень за днём», то становіцца відочна, як няўважліва мы ставіліся да спадчыны заспавальніка лірычна-філасофскай плыні ў беларускай паэзіі Новага часу.

# ПА СЛЯДАХ МІНУЛАГА



«Таямніцы старажытных сховішчаў» Адама Мальдзіса (1974) — гэта кніга сустрэч з мінулым. У судакрананні з гісторыяй тут паўстаюць надзённыя пытанні культурнага жыцця Беларусі,— і Адам Мальдзіс расказвае чытачам пра сённяшнія трывогі за лёс літаратурна-мастацкага набытку нашых продкаў, пра няпростыя, часам нечаканыя шляхі росшуку твораў беларускага пісьменства XVII—XIX стагоддзяў. Часткова апублікаваныя і пракаменціраваныя ў кнізе, яны пераступаюць мяжу працяглага маўчання, вяртаюцца ў сваю эпоху, дамалёўваючы стракатую карціну тагачаснага развіцця культуры Беларусі, і, як мастацкія дакументы мінулага, упершыню становяцца прадметам увагі беларускага літаратуразнаўства, набываючы тым самым сваё эстэтычна-жыццёвае завяршэнне ў сучаснасці. Сапраўды, «гістарычнае дзеянне заканчваецца не тады» (паводле слоў Стэфана Цвэйга), «калі яно адбылося, а толькі пасля таго, як яно становіцца здабыткам нашчадкаў».

Колькі твораў, якія ўзніклі сто, а то і дзвесце ці болей гадоў назад і якія не трапілі на друкарскі станок, ніколі ўжо не стане нашым здабыткам? Колькі іх было знішчана ваеннымі ліхалеццямі, страчана неахайнымі хавальнікамі, згублена ў вандроўках тых рукапісна-кніжных збораў і калекцый, зберажэнню якіх не спрыялі ні абставіны, ні час? Гэтыя пытанні ўсплываюць у чытача міжволі, з першых жа старонак кнігі. Бо тое, што адшукана аўтарам у архіўных сховішчах, не вычэрпвае, вядома, усяго,

што было калісьці створана, выдадзена, запісана ці перапісана як літаратурны твор. Бо адна знаходка, якая стала магчымай на «пустым месцы» (а літаратурнае жыццё на Беларусі ў XVIII стагоддзі такім і здавалася нейкі час), абавязкова дапускае існаванне таго, што яшчэ не адшукана, што можа стаць або не стаць наступнай знаходкай.

Жыровіцкія арацыі. Яны ўяўлялі сабой своеасаблівыя вучнёўскія прамовы, якія рыхтаваліся па заданні настаўніка і пад час экзаменаў ператвараліся ў штосьці накшталт тэатральнага прадстаўлення. Некаторыя звесткі пра гэтыя творы сярэдзіны XVIII стагоддзя былі прыведзены польскім прафесарам Пігонем у навуковай публікацыі, заснаванай на скупых выпісках, якія зрабіў да вайны ў львоўскім мітрапаліцкім архіве са старога рукапісу дыялектолаг Ян Янаў. Як быццам бы рэальны след. І Адам Мальдзіс едзе ў старадаўні, ашчаджаны ад ваенных разбурэнняў Львоў. Высвятляецца, што паперы колішняй мітрапаліцкай грэка-лацінскай кансісторыі знаходзяцца цяпер у Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве УССР. Тут даследчык пачынае непасрэдны пошук, перабірае мноства матэрыялаў беларускага паходжання, пераважна з XIX стагоддзя, але жыровіцкія арацыі не трапляюцца. Затрачаны час быў кампенсаваны знаходкай двух песень у вершаваным зборніку XVIII стагоддзя, складзеным у мястэчку Антопаль Кобрынскага павета. Пошукі пераносяцца ў львоўскую бібліятэку АН УССР. Арацый тут таксама не было. Затое ў фондзе Асалінскіх натрапіўся рукапіс «Дыялогаў і інтэрмедый школ у Жыровіцах і Бучачы» 1751 года, а ў ім — інтэрмедыя пад лацінскай назвай «Сляпы, кульгавы, пазней — пан і мужык», тыповы для тагачаснай беларускай літаратуры твор, у якім паны карыстаюцца польскай мовай, а мужык (цівун) гаворыць па-беларуску.

У інтэрмедыі ставіцца пытанне аб людской роўнасці, высмейваецца шляхечая пыха.

Поўны тэкст жыровіцкіх арацый не ўдалося знайсці і ў Вільнюсе. Праўда, у літоўскай сталіцы, як і ў Львове, пошукі гэтых твораў навялі на след рукапісу пад назвай «Казанне руске сызматыцке» — яшчэ аднаго невядомага помніка беларускай літаратуры XVIII стагоддзя. Ён, на думку Мальдзіса, па духу, па сатырычнай накіраванасці блізкі жыровіцкім арацыям, у якіх крытыкавалася шляхечая рэчаіснасць.

Што ж, таямніца арацый засталася не разгаданай: іх маглі вывезці за мяжу (як гэта рабілася з многімі беларускімі рукапісамі і кніжнымі зборамі), а маглі спаліць у Жыровіцах разам з кнігамі, гравюрамі, абразамі, калі ў канцы 30-х гадоў XIX стагоддзя ліквідавалася унія. Але ж гэтыя творы існавалі не ў адным экземпляры. Значыць, надзея ўсё-такі ёсць. І хоць жыровіцкія арацыі пакуль не знойдзены, яны тым не менш ужо саслужылі нейкую службу: на іх шляхах адбыліся першыя сустрэчы пісьменніка-даследчыка, а разам з ім і дапытлівага чытача з іншымі творамі таго часу.

Узнавіўшы — толькі збольшага — геаграфію тых пошукаў, якія вялі аўтара па слядах жыровіцкіх арацый, заўважу, што яна, гэтая геаграфія, не ўключае ні рукапісных, ні кніжных сховішчаў нашай рэспублікі. Дзіўная рэч: беларускія творы мінулых стагоддзяў даводзіцца шукаць за межамі Беларусі. Прытым не толькі ў суседніх рэспубліках, як у выпадку з арацыямі. «Колькі каштоўных беларускіх рукапісаў, вартых таго, каб іх шукаць, мікрафільміраваць ці ўвогуле вяртаць назад,— зазначае Мальдзіс,— трапіла ў Польшчу і Чэхію, Германію і Швецыю, Францыю і Італію». І гэтага нельга не прызнаць. А паколькі часам не так проста ўстанавіць месца апошняга прыстанішча асобных калекцый ці

дакументаў, то паўстае неабходнасць прасачыць за іх папярэдняй, даволі інтэнсіўнай міграцыяй, якая, стварыўшы перашкоды ў вывучэнні гісторыі беларускай літаратуры, так ці інакш уплывала на складванне спрошчанага ўяўлення пра культурнае мінулае Беларусі.

У поле зроку аўтара трапляюць самыя разнастайныя з'явы літаратурна-культурнага жыцця Беларусі ў XVIII — XIX стагоддзях. І гэта зразумела. Творы беларускага пісьменства XVIII стагоддзя ўзнікалі ў складаных абставінах літаратурнага шматмоўя на Беларусі і, існуючы ў рукапісах, не маглі пры ўзмоцненай паланізацыі грамадства прэтэндаваць на такое ж распаўсюджванне, як, скажам, кнігі, друкаваныя тут па-руску, па-польску, па-латыні. (У XIX стагоддзі сітуацыя крыху змянілася: некаторыя беларускамоўныя творы трапілі ў друк.) Аднак усе прагрэсіўныя для свайго часу творы — і беларускія і іншамоўныя — суіснавалі ў непасрэдным суседстве, а нярэдка пісаліся аднымі і тымі ж аўтарамі і былі звязаны між сабой агульнымі асяродкамі культуры. Таму зусім натуральна, што ўвагу пісьменніка-даследчыка прыцягваў таксама і той (даволі значны) іншамоўны літаратурны даробак, які меў хоць якое-небудзь дачыненне да Беларусі.

Ведучы росшукі забытых, а то і ўвогуле не зафіксаваных славутай бібліяграфіяй Эстрэйхера выданняў, якія тэматычна ці па сваім паходжанні неадлучныя ад старадаўняй культуры Беларусі, Мальдзіс непазбежна сутыкаўся яшчэ з адной праблемай: з высвятленнем лёсу кнігазбораў, дзе гэтыя выданні былі ці, прынамсі, маглі быць. Невыпадкова аўтара зацікавіла, напрыклад, колішняя бібліятэка Ю. Бергеля ў Слуцку. Пасля вывучэння некаторых архіўных матэрыялаў і перыядычных публікацый мінулага стагоддзя даследчыку стала відочна, што ў кніга-

зборы слуцкага пастара меліся старадаўнія брэсцкія, любчанскія, нясвіжскія, слуцкія і іншыя друкі, рэдкія ўсходнеславянскія кнігі, невядомыя нават тагачасным бібліёграфам. Каб пазнаёміцца з асобнымі экземплярамі гэтай калекцыі (у прыватнасці, з цікавай антыфеадальнай брашурай 1788 года выдання «Аб польскіх прыгонных»), аўтар правёў карпатлівую работу, высвятляючы сённяшняе месцазнаходжанне бергелеўскага кнігазбору. Аказалася, што па завяшчанні ўладальніка бібліятэка павінна была зрабіцца ўласнасцю горада Слуцка. Аднак удава Бергеля абышлася са спадчынай па-свойму, прадаўшы 1500 кніг кракаўскаму антыквару Ігелю. Той найбольш каштоўнае ўступіў за грошы львоўскаму мецэнату графу Бавароўскаму, зборы якога пазней былі падзелены між дзвюма бібліятэкамі Львова — універсітэцкай і акадэмічнай (тады бібліятэкай Асалінскіх).

Нарыс, прысвечаны кніжнай калекцыі Бергеля, ператвараецца ў гаворку аб лёсе шматлікіх беларускіх кнігазбораў. Каштоўныя, сабраныя па крупінках з розных крыніц звесткі і факты Мальдзіс прыводзіць з мэтай аблягчэння пошуку іншым і, вядома ж, з надзеяй, што шмат чаго будзе ўдакладнена і дапоўнена тымі, хто звернецца да вывучэння гісторыі кніжнай культуры Беларусі.

Аўтар паведамляе, што старую бібліятэку Радзівілаў, якая ў сярэдзіне XVIII стагоддзя налічвала каля 20 тысяч тамоў, «у 1772 годзе перавезлі ў Пецярбург, дзе... яна была падзелена паміж бібліятэкамі Акадэміі навук і праваслаўнай акадэміі; хронікі ж былі перададзены ў бібліятэку Маскоўскага універсітэта». Да гэтага хочацца дадаць, што ў XIX стагоддзі нясвіжскі кнігазбор выкарыстоўваўся таксама для папаўнення фондаў іншых бібліятэк. Так, у Маскоўскі універсітэт, які пацярпеў ад напалеонаўскага

нашэсця, было перавезена з Нясвіжа 1545 тамоў. Нейкая частка радзівілаўскай бібліятэкі была адпраўлена ў Гельсінгфорскі універсітэт у 1828 годзе. 2000 тамоў дублетаў у 1862 годзе паступіла з нясвіжскага кнігазбору ў Віленскі археалагічны музей. Пра гэта можна даведацца з «Гісторыі бібліятэкі АН СССР» (Ленінград, 1964). І яшчэ. Звесткі, прыведзеныя ў той жа «Гісторыі бібліятэкі АН СССР», вымагаюць дадатковай праверкі, ці сапраўды «рукапіс аднаго з першых беларускіх славістаў прафесара Віленскага універсітэта Міхала Баброўскага, сярод якіх былі працы па беларускаму пісьменству», загінулі, як дапускае Мальдзіс, і ці сапраўды кнігі прафесара, набытыя ў 1847 годзе У. Трамбіцкім, апынуліся пазней у ардынацкай бібліятэцы ў Варшаве. Бо «Гісторыя...» сведчыць, што зборы Баброўскага, яго працы па старажытнаславянскаму пісьменству, урыўкі са старадаўніх славянскіх рукапісаў паступілі ў 90-я гады XIX стагоддзя ў бібліятэку Акадэміі навук у Пецярбургу. А можа, гэта нейкая частка, якая не трапіла да Трамбіцкага? Не адно яшчэ пытанне чакае адказу, не адна таямніца — разгадкі.

Шматлікія бібліятэкі, якія існавалі калісьці на Беларусі, вартыя таго, каб іх лёсам зацікавіцца. І не толькі таму, што гэта дапаможа высветліць стан беларускай кніжнай культуры мінулых стагоддзяў, але і дзеля паспяховых пошукаў розных унікальных выданняў. Шмат карыснай інфармацыі пра колішнія прыватныя бібліятэкі Беларусі аматары кнігі знойдуць у «Таямніцах старажытных сховішчаў» А. Мальдзіса. Я ж паспрабую падзяліцца некаторымі звесткамі пра два-тры кнігазборы, якія не ўпамінаюцца аўтарам і якія, на маю думку, таксама вартыя ўвагі. Бібліятэка Юзафа Жабы ў маёнтку Шо пад Віцебскам складалася з бібліяграфічных рэдкасцяў, старых рукапісаў і аўтографаў твораў. Недарма

«Кур'ер Віленьскі» ў 1860 годзе (1 лістапада) пісаў, што яе трэба прызнаць за маці сярод прыватных бібліятэк Віцебшчыны. Значны падбор друкаў XVIII стагоддзя меў у Гарадку ля Віцебска А. Ігнатовіч. У сакавіку 1862 года ён нават прапаноўваў частку сваіх кніг на абмен Уладзіславу Сыракомлю.

Унікальную бібліятэку і багатую калекцыю археалагічных старажытнасцяў Беларусі сабраў у Мінску Генрых Татур. Апантаны калекцыяніраваннем і не заўсёды чысты на руку, ён сцягваў у свой музей матэрыялы адусюль, ухітраўся прадаваць недасведчаным снобам такія «старадаўнія» рэчы, як галёшы (!). Зборы Татура вядомы мовазнавец А. А. Шахматаў ацэньваў у сем тысяч рублёў. Аднак пасля смерці ўладальніка ў 1907 годзе такіх грошай не знайшлося ні ў Мінску, ні ў Акадэміі навук у Маскве — і зборы былі куплены Уладзіславам Тышкевічам з-пад Вільні, а потым (ёсць такія звесткі) яны трапілі ў Германію [1].

Ведае кніжная культура Беларусі і больш загадкавыя гісторыі. 12 сакавіка 1925 года «Звязда» змясціла матэрыял Максіма Гарэцкага пад інтрыгуючай назвай «Бібліятэка пад зямлёю». Беларускі пісьменнік і вучоны паведамляў, што пад час рамонту ў 1898 годзе Клімавіцкага астрога, перарobленага з дамініканскага кляштара, у адной камеры праваліласяпадлога, пад якой былі кнігі. Іх засыпалі зямлёй і зацэментавалі. С. Яраслаўцаў наладжваў тут пошукі, але давесці да канца іх не ўдалося: пачалася першая сусветная вайна. Ці рабіліся пасля выступлення Гарэцкага ў «Звяздзе» якія-небудзь захады, каб адшукаць колішнюю бібліятэку дамініканскага кляштара, невядома.

---

[1] Алексеев Л. В. Белорусская археология и историческое краеведение во второй половине XIX — начале XX в. // Сов. археология. 1968. № 3. С. 88—89.

Аднак прадоўжым знаёмства з кнігай Мальдзіса. Цікавую і змястоўную гаворку вядзе аўтар пра сучасны стан музейнай справы на Беларусі, дзеліцца сваімі ўражаннямі ад сустрэч з клапатлівымі збіральнікамі народных скарбаў — з музейнымі работнікамі і краязнаўцамі, з тымі, хто не па службовым абавязку шукае і здабывае гістарычна-культурныя каштоўнасці. Праўда, збіральніцкая дзейнасць энтузіястаў не ў сіле папоўніць тых страт, якія былі нанесены беларускім музеям войнамі. Шмат загінула, відаць, незваротна, шмат было зрабавана. Даследчык налічвае болей за дваццаць буйных прыватных і грамадскіх калекцый, якія зніклі ў невядомым кірунку. Спусташальная віхура пранеслася па нашых музеях у час фашысцкай акупацыі. З Дзяржаўнага музея БССР у Мінску была вывезена ў Германію унікальная калекцыя слуцкіх паясоў, з Магілёва — рукапісныя і старадаўнія евангеллі, старажытныя (залаты і сярэбраны) ключы ад горада, кубкі з партрэтамі рускіх цароў і... крыж Ефрасінні Полацкай, каштоўнасць якога цяжка вызначыць. Паводле звестак, здабытых даследчыкам, крыж Ефрасінні Полацкай знаходзіцца сёння не то ў прыватнай калекцыі амерыканскага мільянера Моргана, не то ў Ракфелера. Але гэта наўрад ці адпавядае праўдзе. У замежным друку неяк прамільгнула паведамленне, што ўладальнікам крыжа з'яўляецца сям'я Р. Астроўскага, які, як вядома, актыўна супрацоўнічаў з фашысцкімі акупантамі. Ён, напэўна, і прыхапіў каштоўную рэліквію, калі, ратуючыся ад расплаты, уцякаў за мяжу.

Сёе-тое з беларускіх помнікаў культуры аб'яўляецца сёння ў розных краінах. А ці не былыя гэта экспанаты музеяў Беларусі? Не шкодзіла б высветліць. Каб мець важкія падставы для іх вяртання.

Небагатыя музеі БССР аўтар прапануе папаўняць яшчэ і шляхам «абмену з іншымі рэспублікамі і са-

цыялістычнымі краінамі». Несумненна, гэта знойдзе падтрымку і ўзаемаразуменне ў нашых суседзяў.

У сувязі з праблемай абмену, звароту, пошуку беларускіх літаратурна-мастацкіх помнікаў, думаецца, паўстае неабходнасць не толькі выявіць па магчымасці ўсе — і страчаныя і захаваныя — пісьмова-кніжныя, рэчавыя каштоўнасці, якія звязаны з культурным мінулым Беларусі, але і выдаць прысвечаны ім каталог. Гэта будзе дакумент шчодрай таленавітасці нашых продкаў, іх турбот і памкненняў, зафіксаваных на паперы, увасобленых у мастацкіх выррабах з дрэва, палатна, золата,— дакумент, які, раскрыўшы трагічны лёс многіх унікатаў, дапаможа нам глыбей усвядоміць каштоўнасць створанага рукамі і розумам сучаснікаў, напоўніць нас трывогай за лёс сённяшняга культурнага набытку.

Нарыс «Тры месяцы пошукаў і сустрэч» — гэта расказ даследчыка пра напружаную працу ў польскіх архівах і бібліятэках, пра дні, насычаныя адкрыццямі і расчараваннямі. Пабудаваны ў форме дзённікавых запісаў, нарыс дазваляе аўтару свабодна пераходзіць ад сучаснасці да мінулага, супастаўляць іх, рабіць адступленні, весці гутарку з чытачом непасрэдна, з даверам. Таму зусім натуральна ў расказе суседнічаюць, напрыклад, штрыхі да «партрэтаў» Варшавы і Кракава і звесткі пра беларускі рукапіс XVIII стагоддзя, уражанні ад польскай кухні і дыялог між вучонымі аб рэдкай кнізе.

Падрабязна, па-андронікаўску аўтар узнаўляе працэс пошуку твораў беларускага пісьменства мінулых стагоддзяў. І вядома ж, не толькі дзеля таго, каб лёгка чыталася. Жывая падача матэрыялу, асвятленне ўсіх дэталяў «механізму», які наблізіў шукальніка да адкрыцця або аддаліў, адвёў убок, прынясе карысць іншым: ім не трэба будзе паўтарацца.

Пошукі Мальдзіса ў Польшчы былі надзвычай

ураджайныя на знаходкі беларускіх твораў XVIII стагоддзя. Дзесяткі невядомых дагэтуль вершаў, песень, дум, віншаванняў, напісаных невядомымі аўтарамі па-беларуску ў канцы XVII і на працягу XVIII стагоддзяў былі вернуты да жыцця. Яны засведчылі, што беларускамоўнае пісьменства не было канчаткова задушана каталіцкай рэакцыяй, што ў абставінах непрызнання за беларускай мовай права грамадзянства наша літаратура здолела зрабіць рывок, адарваўшыся ад старабеларускай мовы і звярнуўшыся да народнай, гутарковай.

Велізарную працу правёў Мальдзіс у старажытных сховішчах Польскай Народнай Рэспублікі, выяўляючы кнігі, выдадзеныя на тэрыторыі Беларусі ў XVIII стагоддзі. Праўда, колькаснага падліку тагачасных выданняў, адшуканых даследчыкам, у нарысе няма. Аўтар дзеліцца «прыгодамі», якія здараліся пры пошуках бібліяграфічных рэдкасцяў. Спіс кніг (ён налічвае 352 пазіцыі), якія ўбачылі свет у дванаццаці беларускіх друкарнях XVIII стагоддзя, даследчык апублікаваў у зборніку «Кніга, бібліятэчная справа і бібліяграфія ў Беларусі» (1974).

Не менш паспяховымі былі пошукі, звязаныя з беларускай літаратурай XIX стагоддзя. У Ягелонскай бібліятэцы ў Кракаве, сярод папер Аляксандра Ельскага, за рукапіснай калекцыяй якога Мальдзіс «ганяецца» даўно, была знойдзена паэма «Мачаха» Адэлі з Устроні. Немалаважнае адкрыццё для беларускай літаратуры першай паловы XIX стагоддзя. «Нават пры першым чытанні заўважаецца,— гаворыць аўтар,— што «Мачаха» напісана на даволі высокім для свайго часу мастацкім узроўні. Асабліва прывабныя апісанні прыроды. Адчуваецца ўплыў рамантызму. Паэма выйшла з-пад пяра здольнага чалавека, які па свайму таленту не ўступае В. Дуніну-Марцінкевічу».

Навукова-папулярныя нарысы Мальдзіса, у полі зроку якога знаходзіцца значны гістарычны прамежак беларускага літаратурна-культурнага жыцця, прыдадуцца многім даследчыкам. Аднак вялікая колькасць фактаў і калейдаскоп імён, за якімі, несумненна, стаіць свежая і каштоўная інфармацыя, здольны, на нашу думку, некалькі знізіць арыентацыю ў тэксце. Таму зусім не лішні быў бы ў кнізе паказальнік імён.

Адно пытанне: калі пісаліся «Записки старика» віцебляніна Максіміліяна Маркса, рукапіс якіх захоўваецца ў Львоўскай бібліятэцы АН УССР? Паводле сцверджання Мальдзіса — у 1887 годзе. Даследчык жа Т. Ф. Фядосава, публікуючы ўрыўкі «Записок...» у навуковым зборніку Інстытута славяназнаўства і балканістыкі АН СССР, паведамляе, што наш зямляк пісаў іх у Енісейску з 1886 да снежня 1888 года [1].

І адно ўдакладненне: рукапіс Фёдара Студзіты ўзнік не ў 1176 годзе, а на трыста гадоў пазней.

Але гэта прыватнасці, бо галоўная мэта кнігі дасягнута. Яна дапамагае чытачу судакрануцца з гісторыяй і, перафразуючы словы аўтара, абагачае ў нас адчуванне гістарычнасці быцця чалавека.

---

[1] Исследования по истории польского общественного движения. М., 1971. С. 152.

# АД СПАДЧЫНЫ СЫРАКОМЛІ

Цікавасць чытачоў і даследчыкаў да творчасці Уладзіслава Сыракомлі (1823—1862) мела свае ўздымы і спады. У сярэдзіне мінулага стагоддзя імя паэта не сыходзіла са старонак польскай перыёдыкі. Выказваючы настроі дэмакратычных колаў так званага Паўночна-Заходняга краю, сыракомлеўская паэзія скіроўвалася да сацыяльнай свядомасці і патрыятычных пачуццяў суайчыннікаў. Напярэдадні паўстання 1863 года творы паэта выклікалі шырокі грамадскі водгук: чуйныя да трывог свайго часу, яны ўспрымаліся чытацкай публікай як мастацкі адбітак яе ўласных дум і памкненняў. Сярод папер, канфіскаваных царскай паліцыяй у паўстанцаў, даволі часта сустракаліся перапісаныя ад рукі вершы Сыракомлі.

У апошняй трэці XIX стагоддзя слава Сыракомлі, якая станавілася ўжо гісторыяй для новага пакалення, знайшла свой водгук у мемуарах сучаснікаў паэта і ў літаратуразнаўчых працах польскіх даследчыкаў, а найбольш — у перакладах ягоных твораў. Пад канец мінулага стагоддзя Сыракомля быў адным з самых чытаных «замежных» аўтараў у Расіі. Асобныя вершы і гутаркі паэта ўзнаўляліся і на французскай, нямецкай, чэшскай, украінскай, літоўскай, беларускай мовах.

Працяглая пасмяротная папулярнасць Сыракомлі ішла «знізу», ад чытача, яна не суправаджалася надзвычайнай увагай крытыкі і гісторыі літаратуры да спадчыны паэта. Вельмі доўга сыракомлезнаўства складалася з «малых» крытычных формаў — ар-

тыкулаў, нарысаў, некаторыя з якіх выдаваліся брашурамі.

Сённяшняя цікавасць да Сыракомлі ў Польскай Народнай Рэспубліцы так ці інакш звязана з ростам увагі польскіх даследчыкаў да беларускай літаратуры, яе гісторыі. І гэта зразумела. Постаць паэта, яго месца ў польскай літаратуры акрэсліваюцца больш выразна, калі ўлічыць, што ён неадлучны ад беларускага літаратурнага развіцця ў мінулым стагоддзі — і як непасрэдны ўдзельнік гэтага развіцця, і як аўтар, творчасць якога мела багаты вопыт мастацкага асваення беларускай рэчаіснасці, беларускага матэрыялу.

Пра тое, наколькі шырока Сыракомля карыстаўся ў сваёй творчай практыцы беларускім матэрыялам, даючы яму новае жыццё ў польскай моўнай форме, можна даведацца з кнігі Кастуся Цвіркі «Слова пра Сыракомлю» (1975). Побыт і культура беларусаў у творчасці вясковага лірніка так поўна яшчэ не разглядаліся сыракомлезнаўствам.

Аднак далейшую гаворку пра кнігу, думаецца, лепш будзе весці пасля высвятлення адной акалічнасці. Аўтарскія вызначэнні «этнаграфічная спадчына Сыракомлі», «Сыракомля як этнограф», па-мойму, трохі штучныя. Пры раскрыцці беларускай першаасновы, а вузей — фальклорна-этнаграфічнага элемента ў творчасці вясковага лірніка, відаць, лішне было засланяць Сыракомлю-паэта Сыракомлем-этнографам. Яго сучаснік, рэцэнзуючы аб'ёмісты нарыс «Мінск», адзначаў, што Сыракомля і ў прозе перш за ўсё паэт. Дарэчы ўспомніць таксама і Сыракомлева разуменне ролі пачуцця меры для мастака слова пры звароце да фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў. У аглядзе беларускіх твораў В. Дуніна-Марцінкевіча (Кур'ер Віленьскі. 1861. № 19, 20) Сыракомля раіў аўтару быліц «Вечарніцы» і «Купа-

ла» не захапляцца паказам «дробязяў паўсядзённага побыту ў занадта дакладных фарбах», бо, на яго думку, «не ў іх заключаецца стыхія паэзіі, асабліва той, якая ставіць сваёй мэтай уздым свайго народа».

Што ж тычыцца паэзіі самога Сыракомлі, то нават у самых, здавалася б, «фальклярызаваных» творах (верш «Доля», «Груган», кантата «Год у песні») ён захоўваў сваю мастакоўскую аўтаномію. Беларускую фальклорную стыхію сыракомлеўская лірыка выяўляла па-рознаму, але заўсёды з адной арыентацыяй — на народную свядомасць. Увядзенне ў творы ці апрацоўка беларускіх вусна-паэтычных вобразаў, сюжэтаў, выслоўяў — гэта для вясковага лірніка не толькі магчымасць выказаць сваю прыхільнасць, але яшчэ і спосаб папулярызацыі сваёй паэзіі, яе ідэй сярод самых шырокіх мас, духоўнае жыццё якіх на працягу стагоддзяў знаходзіла выйсце пераважна ў фальклоры. Арыентацыя Сыракомлі на народнае светабачанне была звязана з тым, што, выводзячы вобразы «братоў у капоце і братоў у сярмязе» і апісваючы іх побыт і ваколіцы ў вершаваных і празаічных творах, ён імкнуўся дапамагчы беларускаму селяніну і дробнаму шляхціцу глянуць на сябе збоку, адчуць сваю роўнасць з іншымі і духоўную перавагу над яснавяльможнымі прыгоннікамі, глыбей зразумець сваё становішча, гісторыю, радзіму. Скіраваная да ўнутраных патрэб так званага Паўночна-Заходняга краю сваёй абаронай інтарэсаў ніжэйшых слаёў грамадства, раскрыццём высокіх маральных якасцяў простага чалавека і яго вечнай цягі да справядлівасці, Сыракомлева творчасць рабіла жыццё беларуса з'явай літаратуры і тым самым паказвала яго болей шырокаму свету, чым на тое была здольная тагачасная этнаграфія.

Старанна вылушчыўшы этнаграфічны элемент са спадчыны вясковага лірніка і паракапаўча раскрыў-

шы беларускую аснову літаратурнага даробку паэта-дэмакрата, Кастусь Цвірка не пазбегнуў, аднак, даследчыцкага максімалізму. Захапленне «этнаграфічнасцю» прац Сыракомлі адбілася на тым, што ніводзін празаічны твор аўтар не назваў краязнаўчым, хоць бы мімаходзь. Між тым галоўныя з іх — і «Вандроўкі», і «Манаграфія ракі Нёман», і «Мінск» — гэта гісторыка-краязнаўчыя нарысы, у якіх побач са звесткамі з гісторыі Беларусі, паэтызацыяй яе краявідаў, апісаннямі помнікаў архітэктуры і мастацтва маюцца, зразумела, цікавыя назіранні над культурай і побытам беларускага народа.

У самастойную галіну ведаў этнаграфія тады яшчэ толькі пачынала складвацца. Яна выступала пераважна як састаўная частка краязнаўства, якое ўзнікла на хвалі патрыятызму і рамантычнай народнасці. На гэтай самай хвалі праявіўся і талент Сыракомлі. Да таго ж, краязнаўства дэмакратызавала навуку і, выводзячы яе на шлях шырокага ўжытку, адкрывала дарогу для аматараў-даследчыкаў. Нарысы, артыкулы, нататкі Сыракомлі, паэта-дэмакрата, давалі featureрознабаковае (не толькі этнаграфічнае) уяўленне аб Міншчыне, прынёманскіх і іншых мясцінах, выконвалі ролю папулярызатараў ведаў аб родным краі сярод жыхароў Беларусі. Таму, здаецца, куды больш правамерна было б характарызаваць Сыракомлю як краязнаўца.

У першым раздзеле кнігі Цвірка прасочвае жыццёвы шлях вясковага лірніка ў яго сувязі з Беларуссю, паказвае вытокі творчых інтарэсаў паэта, іх еднасць з жыццём роднага краю. І, трэба сказаць, робіцца ўсё гэта проста, даходліва, паслядоўна, з добраю доляю апавядальнасці, як і належыць у папулярных працах.

Маленства, вучоба, юначыя гады, выбар самастойнага жыццёвага шляху, пачатак і росквіт літа-

ратурнай творчасці — усё гэта для Сыракомлі звязана з канкрэтнымі мясцінамі Беларусі: Палессем, Капыльшчынай, Нясвіжам, Стаўбцоўшчынай, Мірам. Тут, арандуючы фальварак, ён сутыкнуўся з жорсткай сацыяльнай праявай — прыгонніцтвам, тут яму адкрылася багатая душа беднага вясковага люду, адгэтуль ён чэрпаў натхненне, сюды, на радзіму, скіроўваў ён думку ў апошняе дзесяцігоддзе свайго кароткага веку, калі з восені 1852 года жыў то ў Вільні, то ў падвіленскай Барэйкаўшчыне. Прыкладна такое сінтэзаванае ўражанне пакідае жыццяпіс вясковага лірніка, накрэслены ў кнізе. І вельмі добра зрабіў аўтар, што да біяграфічнага нарыса пра паэта далучыў матэрыял «Уладзіслаў Сыракомля — пясняр Беларусі», які лагічна завяршае папярэднюю гаворку, дапаўняючы яе новай істотнай інфармацыяй. Перш за ўсё — гэта высвятленне, чаму Сыракомля лічыў сябе ліцвінам, чаму яго і ў польскім, і ў рускім друку называлі «літоўскім лірнікам», «літоўскім паэтам», «песняром Літвы». Адказ схаваны ў гістарычнай традыцыі. Паняцце «Літва» ў XIX стагоддзі асацыіравалася з колішнім Вялікім княствам Літоўскім, г. зн. і з этнаграфічнай Літвой, і з Беларуссю. «Літоўскім» называліся Віленская, Гродзенская і нярэдка Мінская губерні, а Віцебская і Магілёўская — «Белай Руссю». Менавіта так і разумеўся тэрмін «Літва» Сыракомлем. «Калі ж разгледзець канкрэтна выпадкі ўжывання гэтага тэрміна,— слушна заначае даследчык,— то можна пераканацца, што ў пераважнай большасці Сыракомля, гаворачы пра Літву як сваю радзіму, меў на ўвазе якраз беларускія землі. Літва Сыракомлі — гэта перш за ўсё беларускае Палессе з вёскай Смольгаў, дзе нарадзіўся паэт, і Яськавічамі, дзе прайшло яго маленства, гэта Капыльшчына, Нясвіжчына, Стаўбцоўшчына, дзе прайшла асноўная частка жыцця паэта, гэта, нарэш-

це, «падвіленскія» мясціны, дзе ён пражыў свае апошнія 10 год, мясціны, населеныя народам, які «гаварыў па-русінску», г. зн. па-беларуску».

Другі раздзел кнігі — «Адлюстраванне быту і культуры беларусаў» — упэўніць чытача ў тым, што Сыракомля як паэт, як пісьменнік-краязнаўца пакінуў нам надзвычай каштоўную спадчыну, у якой шчодра адлюстраваны бадай ці не ўсе бакі жыцця Беларусі часу прыгопу, жыцця, поўнага класавых супярэчнасцяў і матэрыяльных кантрастаў. Спыніўшы ўвагу на этнаграфічным элеменце ў творах Сыракомлі, аўтар правёў значную працу, каб выбраць і сістэматызаваць неабходны матэрыял, і на яго аснове ахарактарызаваць сыракомлеўскі паказ гаспадаркі, жылля, адзення, ежы, грамадскага і сямейнага побыту беларусаў, іх духоўнай культуры.

Вось як, напрыклад, апісвае вясковы лірнік сялянскую сядзібу ў гісторыка-краязнаўчай кнізе «Вандроўкі па маіх колішніх ваколіцах»: «Насупраць хаты — маляўнічы свіронак, які называюць у некаторых мясцовасцях «клеццю», далей — паднавес з саламяным дахам, дзе складзены сохі, бароны, калёсы і іншыя гаспадарчыя прылады. Невялічкая стайня ці абора дапаўняюць вясковы падворак, агароджаны сплотам з жэрдак. Часам падворак пераходзіць у садок, дзе расце старая расахатая груша, дзе, бывае, стаіць адзін-другі вулей з пчоламі, дзе на градах вырастае шырокае лісце тытуню, дзе свеціцца жаўцізною буйны сланечнік, дзе расце зялёная вясельная рута, пасаджаная рукамі дзяўчыны — дачкі гаспадара, або прыгожае дрэўца таямнічай і ў песнях народных апетай каліны». Цяжка ўтрымацца, каб не прывесці таксама цікавыя назіранні паэта над вынікамі тагачаснага сялянскага выхавання. «Воўк, дзед і пан,— піша Сыракомля,— гэта самыя страшныя прывіды, якія лётаюць над калыскай нашага се-

ляніна, дапамагаючы яго дзіцячаму сну. І ў больш позні час не хутка пазбавіцца дзіця гэтых страхаў; паглядзіце, як з крыкам кідаецца наўцёкі чародка апранутай у брудныя кашулі дзяцей, калі паказваецца ў вёсцы жабрак або пан, як хаваецца ў хатах, зачыняючы вокны, ці ў суседніх канаплях».

Цвірка шырока цытуе ўрыўкі з краязнаўчых прац і вершаваных твораў Сыракомлі. Таму не будзем засяроджваць увагу чытача на скупых вытрымках, а параім яму звярнуцца да кнігі «Слова пра Сыракомлю», дзе выказванні і назіранні вясковага лірніка падаюцца ва ўзаемасувязях, са змястоўнымі даследчыцкімі каментарыямі. На сённяшні дзень яна ўяўляе сабой адзіную працу, пабудаваную галоўным чынам на разглядзе матэрыялаў, пачэрпнутых з празаічных твораў Сыракомлі, якія — не ў прыклад выданням вершаў і гутарак паэта — даўно ўжо зрабіліся бібліяграфічнай рэдкасцю (яны ніколі не перавыдаваліся, і няма іх перакладаў на беларускую мову). Акрамя таго, аўтар абапіраецца на невядомыя дагэтуль архіўныя матэрыялы. Ім былі адшуканы, напрыклад, чарнавыя накіды Сыракомлі да артыкула пра Маладзечна, рукапісныя нататкі паэта пра Нясвіж, карэктарскі экземпляр кнігі «Вандроўкі па маіх колішніх ваколіцах» з цэнзурнымі выкрэсліваннямі. Апошняя знаходка паказала, што царская цэнзура намагалася ўсялякім чынам «паправіць» паэта-дэмакрата, змякчыць яго радыкалізм перад чытачамі. Адным словам, папулярна-навуковая праца Цвіркі — цікавы здабытак беларускага сыракомлезнаўства.

Тыя заўвагі, якія лічу неабходным выказаць аўтару, завяршаючы гаворку пра яго кнігу, маюць прыватны характар і, вядома ж, не зніжаюць агульнай каштоўнасці працы.

Пры разглядзе нарыса Сыракомлі «Мінск» даследчык даволі падрабязна спыніўся на разважаннях паэ-

та пра «Слова аб палку Ігаравым», зазначыўшы, што вясковы лірнік выказаў меркаванне, нібыта аўтарам «Слова...» быў Баян. Між тым Сыракомля выразна гаворыць пра Баяна як папярэдніка невядомага аўтара «Слова...» (Тэка Віленьска. 1857. № 1. С. 208). Аўтара «Слова аб палку Ігаравым» з мінчуком Баянам, «вялікім песняром славяншчыны», паэт ніколі не блытаў.

Відаць, дарэмна Цвірка абмінуў некаторыя працы польскіх даследчыкаў: цікавую манаграфію Фелікса Фарнальчыка «Горды вясковы лірнік» (1972) і артыкул Дароты Сіманідас «З рэцэнцыі «Польскага казачніка» А. І. Глінскага» (Народнасць ранней і сёння. 1973), у якім ёсць характарыстыка поглядаў Сыракомлі на збіранне і апрацоўку фальклору. Але падбор і выкарыстанне крыніц — гэта справа самога аўтара і яго права. Таму апошняя заўвага — хутчэй за ўсё пажаданне: хочацца, каб у добрай кнізе ўсё было добра.

# ДАКУМЕНТ ДАСЯГНЕННЯЎ

Праз усё XIX стагоддзе беларускае слова прабівалася ў свет літаратуры, прабівалася няроўна, але настойліва. Вельмі рэдка, радзей, чым пісьменнікі звярталіся да яго, станавілася яно друкаваным. Той, хто браўся за пяро, каб выказацца па-беларуску, не меў асаблівай надзеі на выданне свайго твора: сцвярджэнне беларускай мовы як мовы прыгожага пісьменства аніяк не супадала з вялікадзяржаўнымі інтарэсамі царызму, і беларуская творчасць расцэньвалася ўладай не інакш, як праява нядобранадзейнасці.

Зараджаючыся, новая беларуская літаратура цэлае стагоддзе білася аб плаціну непрызнання, шукала выйсця, каб зрэдку вырвацца на свет, а часцей — зведаць страту. Дзе падзелася творчая спадчына Арцёма Вярыгі-Дарэўскага? Якія творы хаваў В. Дунін-Марцінкевіч у сваім куфры? Што Альгерд Абуховіч пераклаў з Дантэ, Байрана, Пушкіна, Лермантава, Міцкевіча, Сыракомлі? Які лёс Багушэвічавай «Скрыпачкі»? Кім пісаліся ананімныя творы? Хто тыя аўтары, чые творы падпісаны псеўданімамі і крыптанімамі? Пытанні, пытанні, мноства пытанняў без пэўнага адказу. Спадчына страт. Але ці толькі незваротных? Былі ж за апошняе дваццацігоддзе ўзняты з небыцця некаторыя забытыя імёны і невядомыя творы, раскрыты новыя факты, без якіх беларускае літаратурна-грамадскае жыццё мінулага стагоддзя ўяўлялася б менш выразна, а асобныя пытанні не паўсталі б увогуле. Іншымі словамі, знаходкі і адкрыцці — гэта бесперапыннае папаўненне нашых ве-

даў аб шляхах станаўлення беларускай літаратуры, якому абавязкова спадарожнічае як частковае зняцце з парадку дня або канкрэтызацыя ранейшых пытанняў, так і пастаноўка новых. Іх высвятленне вымагае перш за ўсё абноўленага асэнсавання назапашаных гісторыяй літаратуры звестак і фактаў. Гэтаму ў значнай ступені будзе спрыяць зборнік гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX стагоддзя «Пачынальнікі» (1977), падрыхтаваны Генадзем Кісялёвым.

Думаецца, кніга ўяўляе сабой этапнае выданне: па-першае, яна падсумоўвае папярэднія архіўна-бібліяграфічныя пошукі матэрыялаў і дакументаў (пераважна біяграфічных, а таксама цэнзурных, следчых, мемуарных, крытычных, эпісталярных і інш.), якія звязаны з пачынальнікамі новай беларускай літаратуры, і яскрава паказвае сённяшнюю ступень аснашчанасці нашага літаратуразнаўства гістарычнымі звесткамі; па-другое, яна прадвызначае неабходнасць пашырэння сферы выяўлення гісторыка-літаратурных фактаў і, па сутнасці, распачынае іх сістэматызаванае засваенне. Так, упершыню ў навуковы ўжытак уводзяцца дакументы пра службу і арышт Фелікса Тапчэўскага, матэрыялы, што тычацца жыццёвых перыпетый «чырвонага графа» Войслава Савіча-Заблоцкага, ліст Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча да Адама Кіркора — адно са сведчанняў трывалых сувязяў беларускага пісьменніка з віленскім літаратурным асяроддзем, а таксама васемнаццаць лістоў Аляксандра Ельскага да польскага лінгвіста і этнографа Яна Карловіча, якія не толькі ўтрымліваюць інфармацыю аб разнастайнасці культурных інтарэсаў беларускага энцыклапедыста-падзвіжніка, бібліёграфа і пісьменніка, але і паказваюць на яго грамадзянскую мэтанакіраванасць у справе адраджэння беларускай літаратуры, што, зразумела, не можа не ўліч-

ваяца цяпер пры характарыстыцы вытокаў ідэйных супярэчнасцяў у творчай практыцы А. Ельскага.

Большасць архіўных матэрыялаў, уключаных у зборнік, былі вядомы даследчыкам раней. Адны з іх публікаваліся цалкам (напрыклад, вершаваныя пасланні Дуніна-Марцінкевіча да Уладзіслава Сыракомлі), другія абміналі гэтую стадыю і выкарыстоўваліся галоўным чынам для выбарачнага залучэння асобных фактаў і звестак да жыццяпісу таго ці іншага пісьменніка XIX стагоддзя, да разгляду тагачасных літаратурных і грамадскіх з'яў у Беларусі. Пададзеныя ў поўным аб'ёме і аб'яднаныя ў кожным асобным выпадку імем літаратара, сваім дачыненнем да яго жыцця і творчасці, матэрыялы гэтыя адкрываюцца неасвечанымі гранямі, прымушаюць больш пільна прыгледзецца да так званых інфармацыйна другарадных дэталяў.

Некалькі слоў пра адну з іх.

Паводле выпіскі, зробленай у Віленскім палявым аўдытарыяце ў кастрычніку 1865 года са следчай справы пра Дуніна-Марцінкевіча, дом пісьменніка ў фальварку Люцынка, дзе адбываліся «зборышчы» і спяваліся «забароненыя гімны», наведвалі Трасцянка, Камянецкі, Шышка і іншыя. У каментарыях да гэтага дакумента паведамляецца, што фельчар У. Трасцянка і пяршайскі ксёндз У. Камянецкі прымалі ўдзел у паўстанні 1863 года, а пра Ц. І. Шышку і іншых наведнікаў Люцынкі ніякіх звестак не падаецца. Дунін-Марцінкевіч, відаць, невыпадкова на следстве назваў Шышку сярод сваіх частых гасцей: у час, калі пісьменнік трапіў пад арышт (кастрычнік 1864 г.), надворнага саветніка Шышкі ўжо не было ў жывых. Аднак аўтару «Ідыліі» і «Гапона» наўрад ці было вядома, што на мінскай кватэры ўдавы яго прыяцеля Людвігі Людвігаўны Шышка, народжанай Мантэграндзі, яшчэ ў студзені 1864 года быў

праведзены вобыск. Акт аб канфіскаваных тут паперах і самі паперы захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР [1]. У іх ліку — перапісаныя рознымі почыркамі патрыятычныя гімны і адозвы з часу паўстання, верш Сыракомлі «Груган» і беларускі агітацыйны твор антыцарскага зместу «Гутарка старога дзеда». Мае цікавасць і пісьмо якойсьці Зосі да дачкі Шышкаў Антаніны. У ім адрасантка распытвае пра мінскія падзеі і ўрадавыя рэпрэсіі, у сувязі з якімі называе імя дачкі Дуніна-Марцінкевіча Камілы. Нагадаю, што Каміла Марцінкевіч нейкі час выкладала музыку ў прыватным жаночым пансіёне Л. Мантэграндзі, цесця Ц. І. Шышкі. І яшчэ. Дзеля запрашэння наведаць гэты пансіён у Мінску Дунін-Марцінкевіч напісаў да Сыракомлі спецыяльнае пасланне (яно, дарэчы, змешчана ў зборніку на мове арыгінала).

Ці разумееш, Людвік, з дарогі,
Як нам з табою блогасна, братка?
Ты йдзеш на сціплыя тыя парогі
Шчасцем напоўніць бедную хатку.

Глянь, дарагі наш, дзіцячыя сэрцы
З іншымі радасць злілі ў шматгалоссі,
І за цябе ўсе малітвы, паэце,
Усемагутнаму горача ўзносяць.

Што ж для цябе прынясу я ў ахвяру?
Чым пачастую? Цяжка надумаць:
Пуста ў кішэні. Выпі мо гары,
А на закуску — сэрца Навума!

*(Пераклад У. Мархеля)*

Можна не сумнявацца, што і з гаспадаром пансіёна, і з сям'ёй Шышкаў, якая не стаяла воддаль ад рэвалюцыйных падзей у сваім краі, беларускі пісьменнік падтрымліваў цесныя адносіны. Гэта, трэ-

[1] ЦДГА БССР, ф. 1418, воп. 1, с. 13, арк. 1—65.

ба думаць, асяроддзе, у якім абарачаўся Дунін-Марцінкевіч. Яно пакуль не даследавана і ніколі не падключалася да ўзнаўлення біяграфіі пачынальніка новай беларускай літаратуры. Належнай увагі не надавалася таксама і вывучэнню тагачаснага літаратурнага Мінска. Між тым без уяўлення аб таварыскім, грамадска-культурным і літаратурным асяроддзях пісьменніка немагчыма стварыць ні яго навуковы, ні белетрызаваны жыццяпіс.

Зыходным пунктам, пачатковай падмогай пры раскрыцці акружэння пісьменніка і той атмасферы, у якой яму даводзілася жыць і тварыць, несумненна будуць служыць каментарыі Генадзя Кісялёва да апублікаваных у зборніку дакументаў. За іх лаканізмам і змястоўнасцю стаіць велізарная праца, пошукі інфармацыі ў разнастайных даведніках і перыядычных выданнях мінулага стагоддзя, у архівах Мінска, Вільнюса, Ленінграда, апрацоўка і сістэматызацыя звестак, іх удакладненне. Праўда, некаторыя асобы, прозвішчы якіх сустракаюцца ў матэрыялах зборніка, засталіся не раскрытымі. Ёсць тут і нерасшыфраваныя крыптанімы. Яны чакаюць свайго часу, і іх разгадка так ці інакш яшчэ раз пацвердзіць адну старую ісціну, што ў гісторыі літаратуры дробязей не бывае.

Менавіта ў сувязі з гэтым хацелася б звярнуць увагу чытача на перадрукаваны (у перакладзе на беларускую мову) з польскага часопіса «Край» некралог «Беларускі пясняр», прысвечаны памяці Дуніна-Марцінкевіча. Ёсць у некралогу месца, дзе гаворыцца, што беларускія аповесці пісьменніка «Гапон» і «Вечарніцы» не былі даспадобы памешчыкам, і аўтара падтрымалі зычлівымі рэцэнзіямі Сыракомля і «нейкі Р. М.». У каментарыі гэты крыптанім не расшыфроўваецца. Генадзь Кісялёў толькі ўдакладняе, дзе публікаваўся згаданы артыкул за подпісам Р. М.

(не ў «Газэце Варшавскей», як сказана ў некралогу, а ў «Дзенніку Варшавскім»), і адсылае нас да кнігі С. Х. Александровіча «Старонкі братняй дружбы», у якой быў разгледжаны гэты артыкул аднаго з прыхільнікаў творчасці Дуніна-Марцінкевіча. Дык хто ж ён — Р. М.? Не ўдаючыся ў падрабязнасці, скажу, што імя яго — Павел Малышэвіч — усплыло для мяне напачатку безадносна да крыптаніма, пры архіўным пошуку пісем, дасланых Сыракомлю з розных куткоў Беларусі. Пасля ўдалося высветліць, што мінчук Малышэвіч меў дачыненне да літаратуры не толькі сваім знаёмствам з папулярным у Беларусі і Літве паэтам, але і тым, што пісаў сам. Яму належыць рамантычная паэма на польскай мове «Спеў зорцы», а таксама некалькі артыкулаў, апублікаваных у варшаўскіх газетах. Дарэчы, Сыракомля падтрымліваў працу Малышэвіча ў гэтым кірунку і, відочна, спрыяў іх з'яўленню ў друку[1]. Што тычыцца біяграфічных звестак пра Малышэвіча, то яны не надта багатыя[2]. У 1837 годзе ён скончыў Слонімскае павятовае вучылішча. Тады яму было шаснаццаць гадоў. Служыў у Мінскім губеранскім праўленні з 1855 года, нейкі час быў рэдактарам «Минских губернских ведомостей», дзе, між іншым, змясціў цікавы зварот да чытачоў аб вывучэнні мясцовай гісторыі і побыту. Пасля Малышэвіч займаў пасаду міравога пасрэдніка ў Наваградскім павеце, ад якой у лістападзе 1863 года за «супрацьзаконныя дзеянні» быў адхілены, трапіўшы пад «строгі і неаслабны» кантроль паліцыі... Да сказанага пра Малышэвіча застаецца дадаць, што на мінскім Парнасе ён быў сваім чалавекам і, напэўна ж, прысутнічаў на тым літаратурным вечары, які

---

[1] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 3, с. 28, арк. 36.

[2] ЦДГА БССР, ф. 299, воп. 4, с. 812, арк. 81—83; с. 880, арк. 85—87; ф. 299, воп. 5, с. 140, арк. 80—89; ф. 295, воп. 1, с. 1640, арк. 1—2.

апісаў ва ўступнай частцы свайго водзыву на «Гапона» і «Вечарніцы», паставіўшы пад ім подпіс Р. М.

Дакументы і матэрыялы пра Дуніна-Марцінкевіча займаюць у зборніку цэнтральнае месца. Да іх прымыкаюць крытычныя разборы Уладзіслава Сыракомлі, прысвечаныя беларускім творам пісьменніка. Не зразумела толькі, чаму іх тут тры. Больш лагічна было б уключыць у дакументальную кнігу або ўсе чатыры артыкулы паэта пра Дуніна-Марцінкевіча, або адзін абагульняючы, што друкаваўся ў 1861 годзе ў газеце «Кур'ер Віленьскі».

Шырока прадстаўлены таксама матэрыялы, звязаныя з Арцёмам Вярыгам-Дарэўскім, жыццё і дзейнасць якога доўгі час не мелі належнага дакументаванага асвятлення. Гэтае імя было нанава адкрыта дзякуючы даследаванням самога ўкладальніка, вопытнага літаратара-архівіста, які ўвёў у навуковы ўжытак журналісцкія працы А. Вярыгі, яго лісты да А. Кіркора і іншыя матэрыялы. У кнізе, пра якую вядзецца гаворка, змешчаны карэспандэнцыі беларускага пісьменніка ў польскі часопіс «Рух Музычны» з 1859 і 1860 гадоў, яго лісты да Кіркора і Сыракомлі, следчыя і судовыя матэрыялы па абвінавачванні А. Вярыгі-Дарэўскага ва ўдзеле ў паўстанні 1863 года, а таксама славуты альбом, дакладней — запісы ў ім, прытым бадай усе (у адрозненне ад папярэдніх урыўкавых публікацый), што, паводле слушнага заўвагі ўкладальніка, «будзе садзейнічаць далейшаму вывучэнню крыніцы» і — дадам — біяграфіі пісьменніка.

Яшчэ больш у гэтым пераконвае раздзел, прысвечаны Францішку Багушэвічу. Сабраны тут матэрыял можа служыць нядрэннай асновай для мастацкага ўзнаўлення прывабнай постаці песняра-адваката беларускага народа. Шкада, што сюды не ўвайшлі лісты паэта да Я. Карловіча, выяўленыя Кісялёвым у

Вільнюсе. Даволі поўна яны публікаваліся ў 1967 годзе ў аднатомніку Багушэвічавых твораў. Гэта, магчыма, і было прычынай, каб не перадрукоўваць лісты ў зборнік. Бо, як падкрэслена ў прадмове, з-за памеру ён не ўвабраў «навуковыя публікацыі, змешчаныя раней у выданнях Інстытута літаратуры АН БССР» (архіўныя матэрыялы пра Адама Гурыновіча, лісты Я. Лучыны да З. Пшасмыцкага) і іншыя дакументы XIX стагоддзя.

Іх адсутнасць кампенсуецца як падтэкставымі каментарыямі, дзе пры неабходнасці прыводзяцца звесткі пра ўказаны матэрыял, так і той інфармацыяй, якую нясе змешчаная ў канцы кнігі бібліяграфія дакументальных публікацый і паведамленняў. Яна ўяўляе сабой, па сутнасці, першую спробу адлюстраваць крыніцазнаўчыя працы па беларускай літаратуры XIX стагоддзя, якія з'явіліся ў друку на працягу 1923—1976 гадоў. Словам, увесь дапаможны навуковы апарат зроблены ў кнізе «Пачынальнікі» кампетэнтна і грунтоўна. Тое ж, зразумела, можна сказаць пра апрацоўку і форму падачы саміх тэкстаў, праўда, з адной толькі агаворкай. У навуковым выданні такога характару больш мэтазгодна было б падаць на мове арыгінала калі не ўсе, то хоць бы архіўныя матэрыялы. Тым больш што пераклады, нават добрыя, не застрахаваны ад асобных недакладнасцяў.

Увогуле ж кнігу Г. В. Кісялёва «Пачынальнікі» трэба лічыць высокакваліфікаванай працай. Гэта не толькі зборнік гісторыка-літаратурных дакументаў XIX стагоддзя, але і своеасаблівы дакумент дасягненняў сучаснага беларускага літаратуразнаўства.

# У ПРАСТОРЫ І ЧАСЕ



Гісторыя не ведае літаратур ізаляваных. Усе яны так ці інакш сузалежныя. Іх узаемадзеянне жыватворнае. Нацыянальная адметнасць, своеасаблівасць кожнай літаратуры высвечваецца новымі гранямі пры засвойванні мастацкага вопыту іншых літаратур. У гэтым выяўляецца яе жыццяздольнасць, з гэтым звязаны ступені яе росту. Таму даследаванне творчых сувязяў і ўплываў — адзін з самых істотных момантаў у вывучэнні ідэйна-мастацкага развіцця асобнай літаратуры, ва ўстанаўленні яе сапраўдных дасягненняў.

Вывучэнне міжславянскага літаратурнага ўзаемадзеяння, што складвалася на працягу доўгіх стагоддзяў і выпрацавала свае традыцыі, мае для гісторыі літаратуры прынцыповае значэнне. Па-першае, славянскія літаратуры складаюць сёння значную частку тоі садружнасці, якую ўтвараюць у свеце літаратуры сацыялістычных краін. Па-другое, у параўнальна-літаратуразнаўчых ці, інакш кажучы, кампаратывісцкіх працах заходніх аўтараў, якія гісторыка-літаратурны аналіз падмяняюць разглядам або канстатацыяй не звязаных між сабою і вылушчаных з канкрэтна-грамадскіх абставін літаратурных фактаў і з'яў, тэндэнцыйна тлумачацца, напрыклад, руска-польскія культурныя сувязі і ўвогуле адмаўляецца славянская супольнасць. Памылковыя палажэнні кампаратывістаў абвяргаюцца многімі даследаваннямі, дзе асобныя пытанні славянскага літаратурнага ўзаемадзеяння атрымліваюць навукова абгрунтаваную распрацоўку. Гісторыка-параўнальныя славі-

стычныя працы — у адрозненне ад кампаратывісцкіх публікацый — служаць справе ўмацавання дружбы між народамі. У гэтым іх актуальнасць.

Прыкметнай з'явай славяназнаўства стаў выдадзены ў 1974 годзе ў Польскай Народнай Рэспубліцы першы том літаратуразнаўчага штогодніка «Польска-ўсходнеславянскія даследаванні: Літаратурныя матэрыялы». Патрэба ў такім выданні вынікае з росту даследчыцкай увагі да гісторыі рускай, украінскай, беларускай літаратур у іх сувязі з літаратурай польскай. Без вывучэння ўзаемапранікненняў і кантактаў гэтых літаратур наўрад ці можна ўявіць з належнай паўнатой шляхі развіцця заходне- і ўсходнеславянскага пісьменства. «Сёння няма ўжо ніякага сумнення,— зазначае ва ўступным артыкуле да штогодніка Базыль Бялаказовіч,— што гісторыка-параўнальныя даследаванні даюць магчымасць разглядаць літаратурныя з'явы ў далёкай перспектыве разнастайных культурных уплываў і ў шырокім разуменні літаратурнага працэсу як сукупнасці».

Выяўляючы глыбокую дасведчанасць у мастацкай і спецыяльнай навуковай літаратуры, Бялаказовіч абгрунтавана, на канкрэтных абагульненнях фармулюе тэарэтычныя асновы гісторыка-параўнальнага літаратуразнаўства і пераканаўча даводзіць, што заняпад кампаратывістыкі, заўважны ў працах заходнееўрапейскіх і амерыканскіх літаратараў, «у значнай ступені быў выкліканы распаўсюджаннем структуралізму», метадалагічная загана якога ў яго антыгістарычнасці. У сувязі з гэтым даследчык слушна падкрэслівае, што літаратурныя кантакты і ўплывы не адбываюцца па-за культурным жыццём грамадства, па-за яго гісторыяй, і разглядаць іх трэба менавіта ў гістарычным кантэксце, каб не толькі вызначыць, што ўзята асобнымі пісьменнікамі з іншамоўнай літаратуры, але і чаму, для чаго неабходна

было запазычанне, наколькі яно прыжылося ў роднай літаратуры, якім чынам яе ўзбагачала і г. д.

Аналіз у прасторы і часе даследчыцкай праблемы польска-ўсходнеславянскіх культурных сувязяў дазваляе Бялаказовічу раскрыць перад літаратуразнаўствам (у першую чаргу — польскім) не адну наспелую навуковую задачу. Шмат цікавага матэрыялу, на яго думку, прынеслі б поўнае выяўленне і дакладная дакументацыя публікацый, што тычацца Польшчы, на старонках украінскай і беларускай перыёдыкі, а таксама беларосікі і ўкраінікі ў польскіх часопісах. І гэта несумненна. Бо, як вядома, напрыклад, з вопыту беларускіх даследчыкаў, увядзенне ва ўжытак тых ці іншых звестак па гісторыі культуры Беларусі, назапашаных у польскай і рускай дакастрычніцкай перыёдыцы, намнога ўскладняецца з-за адсутнасці даведнікаў па беларосіцы. Нельга не пагадзіцца з аўтарам уступнага артыкула і ў тым, што многа істотнага для паглыбленага разумення ўзаемнасці братніх літаратур дададуць працы пра месца і значэнне польскай культуры — побач з рускай — у станаўленні і паскораным развіцці ўкраінскага і беларускага пісьменства, пра пранікненне рускіх, украінскіх, беларускіх элементаў у польскую літаратуру, «пра трансфармацыю вобразаў і матываў усходнеславянскага фальклору ў польскай паэзіі, пра стылістычную функцыю русізмаў, украінізмаў і беларусізмаў у польскай літаратуры, а паланізмаў — у літаратурах усходнеславянскіх».

Да слаба вывучаных з'яў Бялаказовіч адносіць білінгвізм у літаратуры: польскую творчасць украінскіх і беларускіх пісьменнікаў і рускую, украінскую, беларускую творчасць польскіх пісьменнікаў. Думаецца, што значных вынікаў у асвятленні пісьменніцкай двухмоўнасці, а разам з гэтым і ў раскрыцці некаторых заканамернасцяў гісторыка-літа-

ратурнага працэсу можна было б дасягнуць пры сумесным намаганні польскіх і савецкіх даследчыкаў. Карысць прынесла б таксама супрацоўніцтва беларускіх і польскіх літаратуразнаўцаў у вывучэнні пісьменнікаў — ураджэнцаў Беларусі, творчасць якіх мела польскую моўную абалонку, але была звязана — у большай ці меншай ступені — з беларускай рэчаіснасцю. Вельмі дарэчы было б выдаць адзін-два супольныя зборнікі, у якіх прасочваўся б працэс сужыцця і адначасна самавылучэння ўласна беларускай літаратуры з польскага пісьменства на тэрыторыі Беларусі ў XVIII і XIX стагоддзях.

Шырокі аналіз узаемазалежнасці і падабенства найбольш характэрных з'яў у польскай і беларускай літаратурах ад старадаўнасці і да нашых дзён, па сутнасці, толькі распачынаецца, у той час як адносна рускіх і польскіх літаратурных кантактаў назапашаны досыць багаты даследчы матэрыял, які, паводле сцвярджэння Бялаказовіча, ужо ўшчыльную наблізіў навуку да сінтэзаванай гісторыка-літаратурнай інтэрпрэтацыі польска-рускага ўзаемадзеяння.

Пастаноўку і рэалізацыю гэтых задач у польскай навуцы якраз і бярэ на сябе штогоднік Камітэта славяназнаўства Акадэміі навук Польшчы. Першы том яго, які выйшаў у 1974 годзе, сведчыць пра тое, што ўвагу даследчыкаў ПНР прыцягваюць самыя разнастайныя пытанні літаратурнага ўзаемадзеяння чатырох народаў: рускага, украінскага, беларускага і польскага.

Тэматычны дыяпазон зборніка даволі шырокі. Артыкул Ф. Сяліцкага прысвечаны крыніцазнаўчай характарыстыцы пісьмовых помнікаў XIII стагоддзя («Галіцка-валынскага летапісу», «Вялікапольскай хронікі», «Кіева-пячэрскага пацярыка» і іншых), у якіх зафіксаваны факты добрасуседскіх польска-рускіх адносін. Праца Э. Гараніна ўяўляе сабой гіста-

рыяграфічны агляд польскіх даследаванняў «Кіеўскага летапісу» (XII ст.), што явіліся на працягу сямідзесяці гадоў нашага стагоддзя. Прадметам жа вывучэння А. Кміты з'явіліся пераклады і выданні твораў Максіма Горкага «для дзяцей і пра дзяцей» у Народнай Польшчы. Е. Базэля дзеліцца арыгінальнымі назіраннямі над тыпалагічным падабенствам і над своеасаблівасцю аб'ектыўнага, абумоўленага грамадскім укладам адлюстравання лёсу жанчыны ў творчасці Льва Талстога і Стэфана Жаромскага. Да мастацкай спадчыны Мікалая Ляскова, дзе выведзены вобразы палякаў, у прыватнасці — да апавядання «Непадкупны», звяртаецца Т. Шыпіка. Крытычны аналіз польскай літаратурнай думкі ў 1904—1914 гадах пра драматычныя творы Леаніда Андрэева даецца ў артыкуле А. Левандоўскай. І. Аўляк, супастаўляючы рускі і польскі варыянты этнаграфічнай працы Вацлава Серашэўскага «Якуты» і раскрываючы вартасці яго аўтаперакладу (з рускай мовы на польскую), даследуе асаблівасці творчага білінгвізму пісьменніка. Артыкул Е. Віснеўскай «Васіль Стафанік і Станіслаў Пшыбышэўскі», у якім выкарыстаны новы фактычны матэрыял, пашырае ўяўленне пра непасрэдныя і творчыя сувязі ўкраінскага навеліста з польскім пісьменнікам. Аднаму з аспектаў польска-руска-ўкраінскіх літаратурных сувязяў прысвяціў сваю працу «Сон» Шаўчэнкі і «Пецярбург ва ўяўленні Міцкевіча і Пушкіна» У. Пачынайла. Ён высвятляе прыроду супадзення асобных паэтычных вобразаў і характарыстык Пецярбурга і Пятра І, а таксама адрозненняў у паказе аналагічных з'яў рэчаіснасці ва ўступе і трэцяй частцы «Дзядаў» Міцкевіча, у «Медным конніку» Пушкіна і ў паэме Шаўчэнкі «Сон».

Нераскрытай старонкай польска-рускага культурнага збліжэння на пачатку XIX стагоддзя доўгі час заставалася журналісцкая дзейнасць Фердынанда

Орля-Ашменца, які на працягу 1813—1817 гадоў працаваў настаўнікам гімназіі ў Арле і з мэтай распаўсюджання думкі пра польска-рускае пабрацімства выдаваў часопісы «Друг россиян» і «Отечественный памятник». Цяпер жа, дзякуючы артыкулу ў штогодніку А. Дворскага «Палоніка ў рускіх выданнях Ф. Орля-Ашменца» і дзякуючы публікацыі ў 1973 годзе працы савецкага гісторыка літаратуры В. Громава «Руска-польскія часопісы «Друг россиян» і «Отечественный памятник» у ленінградскім славістычным зборніку, гэтая старонка, можна сказаць, прачытана.

Фердынанд Францавіч Орля-Ашменец нарадзіўся ў 1775 годзе на Гродзеншчыне. Пасля сканчэння ў 1796 годзе філасофскага аддзялення полацкай Галоўнай школы пры ваеннай акадэміі ён настаўнічаў у Дынабургу (цяпер Даўгаўпілс), Віцебску, Оршы, Полацку, Рагачове, Вяліка-Раманаўскім Інстытуце для глуханямых, займаў пасаду дырэктара Курскай губеранскай гімназіі, а з 1813 года выкладаў гісторыю, статыстыку, старажытнасць і міфалогію ў Арле. Тут падрыхтаваў да друку часопісы «Друг россиян» (шэсць нумароў) і «Отечественный памятник» (два нумары), якія былі выдадзены ў 1816 і 1817 гадах у Маскве. Матэрыялы для трэцяй, апошняй кнігі «Отечественного памятника» Орля-Ашменец апрацоўваў ужо не ў Арле, а ў Магілёве, куды пераехаў настаўнічаць у 1818 годзе.

Змест часопісаў Орля-Ашменца складалі разнастайныя звесткі з гісторыі Польшчы і яе літаратуры, яго ўласныя разважанні аб агульнасці лёсаў рускага і польскага народаў. Значную плошчу «Друга россиян» і «Отечественного памятника» займалі перадрукі з перыядычных выданняў, пераважна з «Газэты Варшавскей». А. Дворскі, ацэньваючы якасны бок выданняў Орля-Ашменца, заўважае, што па яго

часопісах ляжыць адбітак правінцыяльнасці. Між тым іх невысокі прафесійны ўзровень не надта браўся пад увагу дзеячамі рускай культуры. Пётр Вяземскі, напрыклад, пад уплывам журналісцкай дзейнасці Орля-Ашменца наважваўся арганізаваць у Польшчы выданне руска-польскага часопіса «Российский наблюдатель в Варшаве». Аднак гэты план ажыццявіць не ўдалося: жандарская палітыка царызму не прадугледжвала працяглага заігрывання з нацыянальнымі ўскраінамі імперыі.

Публікацыя ў штогодніку трох артыкулаў, звязаных з творчасцю польскага і беларускага паэта-дэмакрата сярэдзіны XIX стагоддзя Уладзіслава Сыракомлі, сведчыць пра тое, што польскай русістыкай і беларусістыкай распачата шырокае вывучэнне нашага земляка ў святле славянскіх літаратур і фальклору.

Ян Арлоўскі ў сваёй працы «Уладзіслаў Сыракомля і руская літаратура» слушна сцвярджае, што антыцарскі настрой не перашкаджаў аўтару гутарак захапляцца рускай паэзіяй, асабліва тымі творамі, якія адпавядалі яго дэмакратычным памкненням, не адбіваўся на прыяцельскіх стасунках паэта з прадстаўнікамі рускай культуры. Шырока вядомыя яго пераклады з Пушкіна, Лермантава, Някрасава, Нікіціна, Рылеева. Дарэчы, Сыракомлеў пераклад паэмы Рылеева «Вайнароўскі», выдадзены асобнай кнігай у 1861 годзе ў Познані, звязаны з цікавым фактам польска-рускіх кантактаў у першай палове XIX стагоддзя. Польскі даследчык Л. Гамаліцкі, супаставіўшы ўсе вядомыя рускія публікацыі гэтай паэмы з яе польскім варыянтам, прыйшоў да вываду, што паэт карыстаўся невядомым, больш поўным спісам «Вайнароўскага». Адкуль жа ён мог трапіць да Сыракомлі? Верагодней за ўсё, ад кагосьці з агульных нясвіжскіх знаёмых паэта-дзекабрыста і вясковага лірніка.

Як вядома, у біяграфіі абодвух паэтаў Нясвіж займаў сваё месца: тут у 1840—1844 гадах Сыракомля працаваў у радзівілаўскай канцылярыі па кіраўніцтву панскімі маёнткамі; яшчэ раней, у 1815 годзе, тут і ў блізкіх адсюль Сталавічах служыў у вучэбнай камандзе верхавой язды Рылееў.

Гэтых пытанняў Я. Арлоўскі не закранае: у яго задачу, відаць, не ўваходзіла ўстанаўленне асобы ўладальніка невядомага нам спісу паэмы Рылеева, з якога быў зроблены Сыракомлеў пераклад. Даследчык падрабязна спыняецца на непасрэдных кантактах Сыракомлі з рускімі літаратарамі, а таксама звяртаецца да яго сувязяў з Мацвеем Гусевым, рускім астраномам, які вывучаў фізічныя з'явы на Месяцы і Сонцы спачатку ў Пулкаўскай, а з 1852 года ў Віленскай абсерваторыі. Грунтуючыся на тым, што Сыракомля ў сваіх прыяцельскіх адносінах заўсёды вызначаў мяжу між афіцыйнымі праваднікамі палітыкі царызму накшталт Навасільцава і прадстаўнікамі прагрэсіўнай інтэлігенцыі, аўтар артыкула піша, што хоць невядома, якіх грамадскіх поглядаў прытрымліваўся Гусеў, аднак цёплыя словы Сыракомлевага вершаванага запісу ў яго альбоме дазваляюць меркаваць аб прыязных узаемаадносінах паэта і вучонага, аб прыхільным стаўленні рускага астранома да польскай культуры. Вершаванае пасланне Гусева Сыракомлю, якое трапілася мне ў архіве літаратуры і мастацтва ў Вільнюсе, сведчыць, што рускі вучоны надзяляў дэмакратычныя перакананні нашага славутага земляка [1]. У ім аўтар называе Сыракомлю «абаронцам селяніна, тлумачальнікам высакародных думак у простых, але цудоўных вершах», і заклікае яго працягваць спяваць, як жаўранак, над роднымі палеткамі, «скінуць вянок лаўровы», бо просты люд,

---

[1] ЦДАЛіМ ЛітССР, ф. 96, воп. 1, адз. зах. 57, арк. 1.

слухаючы сардэчны голас паэта, саўе яму «леппы вянок жытнёвы». Са зместу наслання відаць, што ўзнікла яно як адказ на вершаваны экспромт паэта, прысвечаны Гусеву. Цікава, што свае прысвячэнні аўтары напісалі на мове адрасата: Сыракомля — па-руску, Гусеў — на-польску.

Значнае месца ў працы Арлоўскага займае разгляд тыпалагічных з'яў у творчасці Сыракомлі і Някрасава, якія надзвычай яскрава выявілі агульныя тэндэнцыі ў дэмакратызацыі польскай і рускай літаратур. Дарэчы, менавіта гэтая дэмакратызацыя прадвызначыла ў сямідзесятых — васьмідзесятых гадах мінулага стагоддзя вялікую цікавасць да паэзіі вясковага лірніка з боку рускіх паэтаў «някрасаўскай школы», праз пераклады якіх яго творы набылі шырокую папулярнасць у Расіі.

Асабліва часта перакладалася на рускую мову Сыракомлева гутарка «Паштальён». У поле зроку У. Вільчынскага, аўтара артыкула «Паштальён» Уладзіслава Сыракомлі ва ўсходнеславянскіх перакладах, трапляюць усе рускія перастварэнні гэтай гутаркі (не згадваецца толькі, што над перакладамі твораў Сыракомлі, у тым ліку і «Паштальёна», працаваў прафесар Віленскага шляхецкага інстытута М. Міхайлоўскі).

Даволі высокую ацэнку Вільчынскі дае перакладу Лучыны. Ён піша, што беларускі паэт ва ўзнаўленні «Паштальёна» дасягнуў «агульнай настраёвасці твора, захаваў яго эмацыянальную танальнасць, узмацніў апавядальны стыль». Шкада, што даследчык не зрабіў хоць бы асобных супастаўленняў рускага, украінскага і беларускага перакладаў. Гэта было б не лішне, асабліва ў працы, дзе аналізуецца засваенне аднаго і таго ж іншамоўнага твора адразу ў трох літаратурах.

«Паштальён» — гэта, па сутнасці, вершаванае ўва-

сабленне вядомай вясковаму лірніку гісторыі з ваколіц Міра. Твор невыпадкова мае падзагаловак «народная гутарка». Ідэйная аснова яго зыходзіць з народнага ўяўлення пра непазбежнасць расплаты за нядобрыя ўчынкі — характэрны матыў вусна-паэтычных твораў. Гэта якраз і спрыяла таму, што песенны варыянт трэфалеўскага перакладу «Паштальёна» лёгка прыжыўся ў рускім меласе.

Прыкладаў выкарыстання паэтам розных здарэнняў і гісторый з жыцця беларускага сялянства, а таксама легенд і паданняў можна знайсці ў творчай спадчыне Сыракомлі шмат. Пры гэтым свет адчуванняў у яго вершах вельмі часта мае народны характар. Як заўважае аўтар артыкула «Беларускі фальклор у лірыцы Уладзіслава Сыракомлі» У. Монах, народныя матывы выступаюць пераважна ў лірычных творах паэта, які быў добра знаёмы з беларускімі звычаямі, культурай і мовай і звяртаўся перш за ўсё да вусна-паэтычнай творчасці беларусаў. Адзначаючы, што «многія творы Сыракомлі выяўляюць сваё народнае паходжанне», даследчык спыняе ўвагу на своеасаблівасцях падыходу вясковага лірніка да зместу і паэтыкі народнага аўтэнтыка. «У адным выпадку,— робіць вывад польскі фальклярыст,— паэт трымаецца блізка да народнага арыгінала (напрыклад, «Народная песня з ваколіцы Вільні»), захоўваючы галоўную сюжэтную лінію і ідэнтычную зместу схему. У некалькіх лірычных вершах, якія ідуць ад народнага першаўзору, ён пераказвае тэкст, змяняе героя і вершабудаванне, але захоўвае спецыфічную танальнасць маналога і сродкаў выявы: паралелізм, антрапамарфізм, анімізацыю («Варыянт народнай песні», песня Ганны ў кантаце «Год у песні»). Самую вялікую групу ўтвараюць тыя вершы,— працягвае Монах, якія ўзнікалі ў выніку «захаплення» мелодыяй народнай песні і «фальклярыстычнага ўхвалення».

Ведаючы асаблівасці народнай лірыкі, паэт не паўтараў літаральна матывы і сюжэты, а змяняў або пераймачваў (так рабілі ананімныя аўтары), хоць захоўваў тыповыя для яе сродкі выявы: антрапамарфізм, анімізацыю, паралелізм, а часам характэрную рытміку народнай песенькі («Сасна», «Павуціна», «Аблава», «Дзявочы вечар», «Год у песні», «Гуляй, душа», «Нядзеля» і іншыя).

Пэўную цікавасць для беларускіх гісторыкаў літаратуры ўяўляе таксама крыніцазнаўчая праца У. Стохэля, у якой разглядаюцца апублікаваныя на старонках «Нашай нівы» матэрыялы, звязаныя з рускай, польскай і ўкраінскай літаратурамі. Думаю, гэты артыкул польскага беларусіста асабліва прыдасца пры вывучэнні ролі рускай, польскай і ўкраінскай літаратур у фарміраванні і развіцці беларускай літаратуры ўвогуле і яе асобных жанраў — у прыватнасці.

Будзем чакаць новых выпускаў польскага славістычнага штогодніка...

# НОВЫЯ ДАЛЯГЛЯДЫ



Абедзве гэтыя кнігі — «Становление белорусской художественной традиции» Алеся Яскевіча і «Спасцігаючы Дуніна-Марцінкевіча» Генадзя Кісялёва — выйшлі з друку амаль адначасна: першая ў самым канцы 1987 года, другая — на пачатку 1988 года. Падпісаныя аўтарамі, яны даўжэй, як звычайна, ляжалі на маім пісьмовым стале. Іх я не спяшаўся ставіць на кніжную паліцу не толькі таму, што яны выклікалі прафесійную цікавасць. Проста была патрэба нагартаць іх, перачытаць асобныя мясціны, парадавацца поспеху калег, якія здолелі зрабіць прарыў да якасна новага ўзроўню ў вывучэнні нашай літаратуры XIX стагоддзя. Зразумела, гэты прарыў павінен быў выспець; без папярэдніх намаганняў многіх даследчыкаў, якія ў апошнія дзесяцігоддзі папаўнялі арсенал ведаў пра мінулае жыццё літаратуры Беларусі, ён быў бы немагчымы.

Крыніцазнаўчая кніга Генадзя Кісялёва і гісторыка-тэарэтычная кніга Алеся Яскевіча — абедзве разам вызначаюць вяршынныя дасягненні культуры гістарычнага апісання і культуры тэарэтычнага асэнсавання фактаў у сённяшнім беларускім літаратуразнаўстве і адкрываюць новыя далягляды на шляху спасціжэння феномена адраджэння беларускай літаратуры. Пытанне, на якое хацелася б звярнуць увагу, у названых кнігах не было пастаўлена, але ўсім сваім матэрыялам гэтыя працы, асабліва «Становление белорусской художественной традиции», падводзіць да яго.

Літаратурны працэс, які адбываўся ў Беларусі ў

першай палове XIX стагоддзя і так ці інакш абумоўліваў тэндэнцыі фарміравання новай беларускай літаратуры, складаўся з разнамоўных плыняў. Паколькі кожная з іх не магла не выяўляць пэўнай сувязі з адзінамоўнай іншанацыянальнай літаратурай, то характар тагачаснага літаратурнага працэсу Беларусі ў значнай ступені вызначаўся прамым ці апасродкаваным узаемадзеяннем літаратур. Таму вывучэнне асаблівасцяў літаратурнага ўзаемадзеяння, перш за ўсё беларуска-польскага, як найбольш развітога, мае прынцыповае значэнне для даследавання гісторыі фарміравання ўласна беларускай літаратуры.

Аднак без папярэдняга (магчыма, крыху ўмоўнага) высвятлення пытання, якую з'яву трэба аднесці да ўнутранага міжмоўна-літаратурнага ўзаемадзеяння, а якую неабходна лічыць вынікам узаемадзеяння дзвюх літаратур, абысціся немагчыма. Зразумела, што ў асобных выпадках вельмі няпроста зрабіць дакладны падзел, бо некаторыя польскамоўныя творы ўраджэнцаў Беларусі выступалі ў ролі пасрэднікаў беларуска-польскага літаратурнага ўзаемадзеяння. Разам з тым нельга выпускаць з поля зроку і тое, што польскамоўныя творы пісьменнікаў Беларусі, хоць і былі рэгіянальнай з'явай, але суісnавалі з творамі пісьменнікаў Польшчы, далучаючыся тым самым да развіцця польскай літаратуры. Гэта з аднаго боку, а з другога — польскамоўныя творы «беларускага» паходжання, уліваючыся ў польскую літаратуру і становячыся польскім нацыянальным здабыткам, выяўлялі ў сабе не так правінцыяльныя рысы, як прыкметы самастойнага мастацкага асэнсавання рэгіянальнай (беларускай) рэчаіснасці. Праўда, тут ёсць свае нюансы. Паэзія Ігната Кулакоўскага і Антона Адынца, напрыклад, у дачыненні да польскай літаратуры — з'ява правінцыяльная, хоць у іх творах амаль незаўважна пераклічка з беларускімі рэа-

ліямі. Першы быў аўтарам верша «Русалкі», заснаванага на беларускіх вераваннях пра русалак, што жывуць у жыце, і «Песні свата на сялянскім вяселлі». Другі напісаў творы, здавалася б, паяднаныя з беларускімі вусна-паэтычнымі матывамі («Страхі», «Русалкі», «Свет духаў»), але гэта была, па сутнасці, антуражная сувязь з фальклорам, пазначаная ў назвах вершаў, але не замацаваная ў іх змесце.

А вось творчасць яго універсітэцкага сябра Адама Міцкевіча, хоць і была звязана пераважна з гісторыяй Беларусі і з беларускім фальклорам, не ўспрымалася як правінцыяльная з'ява ў польскай літаратуры (адначасна Міцкевіч больш «беларускі» паэт). І справа, вядома, не толькі ў розных маштабах іх таленту. Ян Чачот, будучы паэтам сціплых мастацкіх магчымасцяў, пакінуў у польскай літаратуры больш прыкметны след, чым Адынец, бо адзін з першых адкрыў невычэрпныя фальклорныя багацці беларусаў і на практыцы паспяхова ажыццяўляў польскамоўнае асваенне беларускага меласу. Відочна, што аўтара зборнікаў «Сялянскія песенькі з-над Нёмана і Дзвіны», канкрэтызаваных геаграфічнымі назвамі пэўнай мясцовасці, над правінцыяльнасцю ўздымалі і высокая грамадзянская свядомасць, і самааддапае, бескарыслівае служэнне музам, і тонкае адчуванне патрэб часу.

Падзвіжніцкая фалькларыстычная дзейнасць і паэтычная практыка Яна Чачота ішлі насустрач зараджэнню ў краі новага погляду на мінулае і акаляючую рэчаіснасць. Гэты погляд адрозніваўся ад асветніцкага большай свабодай і ўважлівасцю да з'яў і прадметаў, да ўнутранай логікі падзей, хоць і затуманьваўся невыразнасцю гістарычнай перспектывы. Здзяйсняючы гістарычна неабходную працу па асваенні рэчаіснасці ў яе новым выглядзе, паэт-фальклярыст імкнуўся данесці чытачам пачутую беларускую

народную песню, у прастаце якой ён чуйна ўлоўліваў схаваную глыбіню.

Несумненна, галоўнай жыццёвай мэтай Яна Чачота было адкрыццё песеннай творчасці беларусаў. Яго пераклады з народнай паэзіі і напісаныя пад уплывам беларускага фальклору арыгінальныя вершы як з'ява беларуска-польскага літаратурнага сумежжа, якая злучала польскую мову і запазычанні з беларускай, нетрадыцыйна польскі рытм і беларускую народную тоніку з тыпова рэгіянальным (беларускім) зместам, да апошняга часу не была прадметам асобнай увагі ні з боку польскіх, ні з боку беларускіх літаратуразнаўцаў. Між тым раскрыццё менавіта гэтага аспекту ў беларуска-польскім літаратурным узаемадзеянні набліжае да асэнсавання суадносін беларускіх і польскіх мастацкіх элементаў у творчасці пісьменнікаў Беларусі, да аб'ектыўнага разумення прыроды нацыянальнага ў паэтычнай практыцы такіх аўтараў, як Адам Міцкевіч, Ян Баршчэўскі, Ян Чачот, Уладзіслаў Сыракомля, у складванні мастацкіх традыцый увогуле.

Пісьменнікі, што прычыніліся да станаўлення беларускай літаратуры ў XIX стагоддзі, амаль не паэтызавалі гераічнае ў тых творах, якія пісаліся пабеларуску. Тлумачыць гэта перарванасцю традыцый, нераспрацаванасцю стылёвых пластоў і моўна-выяўленчых сродкаў, якія сталіся вынікам палітыка-асіміляцыйных плыняў і тэндэнцый, што сыходзіліся, сутыкаліся ў Беларусі на працягу стагоддзяў, думаецца, недастаткова. Тут дзейнічаў яшчэ, і даволі адчувальна, фактар унутранага стрымлівання. Ён не мог не ўзнікнуць у атмасферы літаратурнага плюралінгвізму.

Цікавасць да мясцовага фальклору непазбежна ставіла пісьменнікаў Беларусі перад дылемай: здзейсніць літаратурнае засваенне вусна-паэтычнай твор-

часці народа на яго мове ці ўключыць яе ў мастацкую тканіну іншамоўнага твора. На працягу першай паловы мінулага стагоддзя большасць пісьменнікаў Беларусі гэтую дылему так і не вырашыла. Між тым лінгвістычныя хістанні мелі сваю ўнутраную логіку, заканамернасць, якія выяўлялі залежнасць моўнага выбару ад грамадскіх і эстэтычных задач аўтараў у кожным канкрэтным выпадку.

Менавіта гэтае дыялектычнае ўзаемапераплятенне, узаемадзеянне стымулявання і стрымлівання беларускамоўнай творчасці білінгвістычных аўтараў прыводзіла як да нэўных заваёў і паступовага назапашвання мастацкага патэнцыялу ўласна беларускай літаратуры, так і да пераносу ў іншамоўныя творы асобных тэндэнцый, якія дыктаваліся патрэбаю мясцовага грамадска-культурнага і духоўнага жыцця.

Межы нацыянальнага і правінцыяльнага ў польскамоўнай творчасці ўраджэнцаў беларускага краю надзвычай рухомыя, а часта і сцёртыя. Таму перад даследчыкамі паўстае яшчэ адна задача: навучыцца адрозніваць польскамоўную літаратуру Беларусі ад уласна польскай літаратуры і разам з тым знайсці адказ на пытанне, ці гэта дзве самастойныя літаратуры, што суіснавалі на адной і той жа мове, ці адна літаратура, якая ўбірала ў сябе творы, напісаныя на адной і той жа мове, ці што іншае...

Але колькі б задач мы ні ставілі, колькі б пытанняў ні ўзнімалі, адказ на іх трэба шукаць у канкрэтна-гістарычных умовах існавання літаратуры і дзейнасці саміх пісьменнікаў, якія, незалежна ад таго, на якой мове яны пісалі, сваю нацыянальную прыналежнасць выяўлялі як праз праблемна-тэматычную сувязь твораў з акаляючай рэчаіснасцю, так і праз стылёвыя пошукі, блізкія ці далёкія ад мастацкага вопыту свайго народа. Без паглыбленага вывучэння

гэтых пытанняў наўрад ці магчыма будзе вызначыць беларускія нацыянальныя рысы ў польскамоўнай літаратуры Беларусі.

Паралельна з высвятленнем нацыянальнай прыналежнасці таго ці іншага твора, напісанага па-польску, але прысвечанага праблемам Беларусі, удакладняецца пытанне, што ў гэтым творы пераважае — мастацкае адлюстраванне беларускага народнага жыцця ці, можа, штучнае, спрошчанае выяўленне беларускага каларыту. Даючы ў свой час характарыстыку літаратурнаму этнаграфізму як выяўленню нацыянальнай адметнасці, А. С. Пушкін зазначыў: «Народнасць у пісьменніку ёсць вартасць, якая цалкам можа быць ацэнена аднымі суайчыннікамі,— для іншых яна або не існуе, або можа падацца нават заганаю» [1].

Выказванне Пушкіна падводзіць да ацэнкі нацыянальнага этнаграфізму пісьменнікаў у кантэксце ўспрымання і разумення яго сучаснікамі. Гэта, безумоўна, у значнай ступені ўтрымае ад пераносу сённяшніх уяўленняў на мінулае стагоддзе, напоўніць аналіз тадышніх літаратурных з'яў адчуваннем канкрэтнасці гістарычнага моманту і ўрэшце дапаможа вызначыць узроўні мастацкага перастварэння і вузкаутылітарнага асваення фальклорна-этнаграфічнага матэрыялу літаратурай, яскравей убачыць кодавыя вытокі і шматаблічнасць гэтага працэсу ў Беларусі.

---

[1] Пушкин-критик. М., 1950. С. 113.

# ЗМЕСТ

## I



## II



## III

**Мархель У.**

М25 Крыніцы памяці: Старонкі беларус.-польскага літ. сумежжа.— Мн.: Маст. літ., 1990.— 222 с.

ISBN 5-340-00491-0.

Мархель В. Источники памяти: Страницы белорус.-польского лит. пограничья.

У поле зроку чытача трапляюць маладаследаваныя старонкі жыцця і творчасці найпапулярнейшага ў беларускім краі паэта сярэдзіны мінулага стагоддзя У. Сыракомлі. Расказваецца аб пошуках беларускіх матэрыялаў у старой перыёдыцы, аб падзвіжніцкай дзейнасці пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Я. Чачота, В. Каратынскага, А. Ельскага, Я. Лучыны. Адбудзецца таксама новая сустрэча са старымі знаёмымі — гісторыка-літаратуразнаўчымі кнігамі Г. Кісялёва, А. Мальдзіса і інш., уважліва прачытанымі аўтарам.

М $\frac{4603020102-040}{М 302(03)-90}$ 82—90 **ББК 83.3Бел 7**

Литературно-художественное издание

**МАРХЕЛЬ Владимир Иосифович**
**ИСТОЧНИКИ ПАМЯТИ**
*Страницы белорусско-польского литературного пограничья*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне

**МАРХЕЛЬ Уладзімір Іосіфавіч**
**КРЫНІЦЫ ПАМЯЦІ**
*Старонкі беларуска-польскага літаратурнага сумежжа*

Рэдактар Н. А. Давыдзенка. Мастак М. У. Чуднікаў. Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Панкова. Карэктар Л. П. Бялова.

ІБ № 3286

Здадзена ў набор 18.04.89. Падп. да друку 21.11.89. АТ 06394. Фармат 70×100[1]/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Ум. друк. арк. 9,10. Ум. фарб.-адб. 9,43. Ул.-выд. арк. 9,04. Тыраж 1900 экз. Зак. 2449. Цана 65 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600. Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.